Пераклад Васіля Раманава (2017 год)

Віктар Сувораў (Рэзун Уладзімір Багданавіч)

# Апошняя рэспубліка

## (Ледакол-3)

Прысьвячаю: Веры Спірыдонаўне Гарэлавай, перавязачнай сястры 3329-га палявога эвакуацыйнага шпіталя Першага Прыбалтыйскага фронту.

## Змест



# Глава I

## Чаму Сталін адмовіўся прынімаць парад перамогі?

“Усё сышліся на адным. Вайна ў Яўропе закончылася, але капіталістычнае асяроддзе засталося”.
Маршал авіяцыі Аляксандр Пакрышкін, тройчы Герай Савецкага Звязу. «Савецкі Ваяр». 1985. N9. З. 32

24 чэрвеня 1945 года. Чырвоны пляц.

Аркестр – тысяча трыста труб і сто барабанаў. Гром і грукат. Самы вялікі вайсковы парад у гісторыі чалавецтва.

На апошнім этапе вайны ў складзе Чырвонага Войска было дзесяць дзейнічаючых франтоў. Кожны фронт – гэта згуртаванне армій. Некаторыя франты былі невялікімі – усяго чатыры-пяць армій, але былі і гіганцкія, як 1-ы Беларускі, у складзе якога было дванаццаць армій, уключаючы адну паветраную і дзьве гвардэйскія танкавыя арміі.

І вось кожны із дзесяці франтоў выправіў на парад па аднаму зборнаму палку – па тысячы лепшых жаўнераў, сяржантаў і афіцэраў. Дзесяць франтоў – дзесяць зборных палкоў. На чале кожнага зборнага палка – асабіста камандуючы фронтам і ўсе камандуючыя арміямі дадзенага фронту, за імі – сьцяганосцы са сьцягамі найбольш праславіўшыхся ў баях палкоў, брыгад, дывізій і карпусоў.

За дзесяццю палкамі – зборны полк ад Войска Польскага, палкі ад савецкага Вайскова-Марскога Флоту, ад Наркамата абароны, па два-тры батальёны ад кожнай вайсковай акадэміі, а акрамя таго – вайсковыя вучэльні, войска НКУС, сувораўцы і нахімаўцы, танкі, артылерыя, гвардэйскія мінамёты, мотапяхота, кавалерыя, сапёры, сувязісты, дэсантнікі.

Аглушаючы марш узнёс душы на зорную вышыню і раптам заціх, пакінуўшы пляц у магільнай, трывожнай цішыні. Шчымлівая паўза пакутлівая. І вось цішыню распароў барабанны грукат і на Чырвоны пляц уступіў асобны батальён з фашысцкімі сьцягамі. Каля маўзалея Леніна батальён энергічным рыўком павярнуў направа, і дзьве сотні фашысцкіх сьцягоў паляцелі на мокры граніт.

Гэта быў апафеоз перамогі. Вялікі трыумф савецкага народа ў найвялікшай із войн. Гэтага моманту чакалі сотні мільёнаў людзей. Чакалі яго як самы радасны момант жыцця, пасьля якога можна памерці без шкадавання. Дзясяткі мільёнаў людзей загінулі, не дачакаўшыся вялікага імгнення, але веручы ў яго непазбежнасць. Да гэтага імгнення вялікую краіну прывёў Сталін. Прывёў праз паразы і катастрофы, праз памылкі і пралікі, праз шматмільённыя ахвяры і незаменныя страты. Сталін вёў краіну ад параз да бліскучых перамог, вяршыняй якіх быў Сьцяг Перамогі, узнесены над Рэйхстагам, потым дастаўлены на Маскоўскі цэнтральны аэрадром і сустрэты ганаровай вартай. Вось зараз чырвоны Сьцяг Перамогі лунае над пляцам, а падковы рускага жаўнерскага бота топчуць мокры шоўк чырвоных фашысцкіх сьцягоў.

Гэта быў момант, калі плакалі жаўнеры і не саромеліся сваіх слёз. Плакалі тыя самыя жаўнеры, якія прайшлі Бярэсьце і Смаленск, Вязьму і Харкаў, Сталінград і зноў Харкаў, Арол і Курск, Харкаў – у трэцці раз, Севастопаль і Новарасійск, мясасечку Дзям’янаўскага катла і блакадны голад, яны прайшлі Менск, Вільнюс, Рыгу, Талін, Кіеў, Варшаву, Вену, Кёнігсберг, Бухарэст і Будапешт і, нарэшце, – Берлін. Гэта быў момант радасьці, якая даецца раз на жыццё і далёка не кожнаму.

Здавалася б, у такі момант тысячы людзей на пляцы, мільёны на вуліцах Масквы і дзясяткі мільёнаў па ўсёй краіне і за яе межамі могуць быць аб’яднаны толькі адзіным пачуццём палёгкі, радасьці і весялосьці. Здавалася б, цёртая вайной пяхота і страціўшыя слых у баях артылерысты, танкісты, не раз гарэўшыя на танкавай брані, і лётчыкі, дзівам застаўшыяся жывым, мільёны іхных суграмадзян, акрамя весялосьці, не могуць адчуваць ніякіх іншых пачуццяў.

Але не.

Было і яшчэ адно невыразнае, але агульнае для ўсіх пачуццё глыбокага расчаравання. Існавала яшчэ нешта такое, што памяншала ўрачыстасць і рабіла яе

няпоўнай. Існаваў нейкі невыразны дух гаркаты і неразумення, вісеўшы і над пляцам, і над Масквой, і над усёй краінай.

Над радасным натоўпам, над стройнымі скрынкамі батальёнаў, над маўзалеем і крамлёўскімі зоркамі як грозная здань стаяла нікім не зададзенае пытанне: а чаму Вярхоўны Галоўнакамандуючы не прымае Парад Перамогі?

Ніхто не задаў гэтае пытанне голасна, але ў душы кожны яго задаваў. І вось гэтае нікім не зададзенае пытанне горкім прысмакам псавала трыумф пераможцаў.

Жаўнеры там, на пляцы, задаць пытанне не маглі: жаўнера дысцыпліна абавязвае лішніх пытанняў не задаваць. Маскоўскія жыхары пытанне задаць не маглі: таварыш Сталін савецкаму народу цалкам зразумела патлумачыў, што за лішняе пытанне можна загрымець у не вельмі прывабныя месцы. Савецкі народ вельмі добра зразумеў свайго вялікага правадыра і таму нязручных пытанняў не задаваў. Але прайшло пяцьдзясят гадоў і няма больш таварыша Сталіна і за лішняе пытанне ў не вельмі прывабныя месцы больш не адсылаюць. Дык чаму ж нашы афіцыйныя гісторыкі на гэтае пытанне не адказалі? Чаму крамлёўскія гісторыкі яго нават не паставілі? Чаму нашу ўвагу на праблему не звярнулі? Чаму абыходзяць пытанне сарамлівым маўчаннем?

Магчыма, адказаць на пытанне вельмі складана, але хто перашкаджае яго задаць?

А перад намі ж загадка гісторыі: ідзе Парад Перамогі, а Вярхоўны Галоўнакамандуючы Маршал Савецкага Звязу Ёсіф Сталін на гэтым парадзе прысутнічае проста ў якасьці гледача і назіральніка. Замест Вярхоўнага Галоўнакамандуючага парад прымае яго замяшчальнік Маршал Савецкага Звязу Р. К. Жукаў.

Што ж здарылася? Як такое разумець?

Вярхоўны Галоўнакамандуючы і Перамога – разуменні чыстыя, сьвятыя, непадзельныя. Гэта як маладая з маладым. Гэта як Імператар і Пасад. Гэта менавіта тая сітуацыя, у якой намесьнік недапушчальны.

Ці ў стане нехта із нас сказаць хай нават і лепшаму сябру: вось табе мая маладая, вядзі яе пад вянок, а я пры гэтым буду прысутнічаць? Ці можа цар, кароль, імператар свайму галоўнаму дарадцу сказаць: вось табе карона, скіпетр і дзяржава, сядзі замест мяне на пасадзе, а я тут побач?..

А на Чырвоным жа пляцы 24 чэрвеня 1945 года – не вяселле і не пасадная зала. Тут Парад Перамогі ў самай крывавай із усіх войнаў у гісторыі чалавецтва. Бліскучая перамога ў самай жахлівай із вайнаў. Такое бывае адзін раз на працягу ўсёй сусьветнай гісторыі. Прымаць Парад Перамогі – гэта не толькі права Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, гэта – прамы абавязак.

Звернем увагу на Гітлера. На грандыёзных зборышчах фашыстаў у Нюрнбергу перад бясконцымі калонамі штурмавікоў і эсэсаўцаў з'яўляўся фюрэр Ці можам мы ўявіць, што замест Гітлера з'яўляецца нехта іншы, а сам фюрар стаіць збоку? Такога быць не магло і ўявіць такое немагчыма. Але там, у Нюрнбергу, ім не было чаго святкаваць, а тут ПЕРАМОГА! І было б так лагічна: ад кожнага із існуючых франтоў – па адным палку. Дзесяць франтоў – дзесяць палкоў. На чале кожнага палка – камандуючы фронтам асабіста. Усім парадам кіруе замяшчальнік Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Маршал Савецкага Звязу Г.К.Жукаў, а прымае парад – САМ.

Нюанс: на апошнім этапе вайны Жукаў быў не толькі намесьнікам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, першым намесьнікам Наркама абароны, але

яшчэ і камандуючым адным із франтоў – Першым Беларускім. Але тут няма праблем: ён павінен быў выконваць функцыі сваёй больш высокай пасады – намесьніка Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, а весьці калону Першага Беларускага фронту мог яго намесьнік. Тут намесьнік на чале палка дапушчальны і зразумелы. Гэтае невялікае выключэнне ніяк не парушала агульную сістэму.

Так павінна было быць.

Але было не так: Сталін парад не прымаў, замест Сталіна парад прымаў Жукаў.

У гэтым выпадку: каго ж прызначыць на месца Жукава парадам кіраваць? Сталін вырашыў: кіраваць будзе К.К.Ракасоўскі.

Добры маршал, нічога не скажаш. Але ж ён проста адзін із кіраўнікоў франта. Іншым кіраўнікам крыўдна. Коневу, напрыклад. І Маліноўскаму крыўдна. І Васілеўскаму. А прызначыць Конева замест Ракасоўскага, тады Ракасоўскаму будзе крыўдна.

Адным словам, парушылі на парадзе ўсю логіку. І дзеля чаго?

Ва ўсёй сусьветнай навуковай літаратуры я знайшоў толькі два тлумачэнні.

Больш дакладна – дзьве няўдалыя спробы тлумачэння.

Першае «тлумачэнне»: Сталін не быў здольным ездзіць на кані.

Вельмі пераканаўча.

Але і Гітлер на кані не ездзіў. Парады ён паважаў, але парадаў на кані не прымаў. У яго для гэтага быў «мэрсэдэс». Сам Гітлер лічыў, што з'явіцца яму на кані перад войскам – азначае паставіць сябе ў смешнае становішча (Генры Пікер. Застольныя гутаркі Гітлера. Запіс ад 4 ліпеня 1942 г.).

Каб не патрапіць у смешнае становішча, Гітлер скасаваў старую традыцыю і заснаваў новую. Дваццатае стагоддзе тым і знакаміта, што на працягу ўсіх папярэднічаўшых стагоддзяў і нават тысячагоддзяў людзі ваявалі на конях, а ў дваццатым пераселі на машыны. Таму і парады пачалі прымаць не на белых жарабцах, а на машынах.

Чэрчыля на скакуне я таксама ўявіць не магу.

Прагледзеў тысячы метраў кінахронікі, але і дэ Голя на скакуне не выявіў.

А Рузвельт быў паралізаваны. Дык вось, Рузвельт аб'язджаў войска на вайсковым джыпе, і дэ Голь таксама, і ў Чэрчыля было нешта падобнае.

У нас у тыя часы адпаведна з традыцыяй камандуючы парадам выязджаў на кані. Для Парада Перамогі вырашылі: камандуючы парадам – на вараным жарабцы, прымаючы парад – на белым. Але дзеля асобнага выпадку традыцыю можна было парушыць, больш дакладна – пачаць новую традыцыю і дадаць да яе ганаровы змест: пачалі вайну на конях, завяршылі на машынах.

А было, што паказаць. Сталін мог бы з'явіцца на Чырвоным пляцы не на белым скакуне, а на танку ІС-2, г.зн. на танку «Ёсіф Сталін», на танку, якому не было роўных у сьвеце. На танку, які падчас выпрабаванняў із дыстанцыі роўнай тысячу пяцьсот метраў праламаў сваім бранябойным снарадам лабавую браню «Пантэры», далей снарад, маючы лішак энергіі, прашыў трансмісію, бранявую заслонку баявога аддзялення, рухавік, але і пасьля таго яго энергія была такой вялізнай, што ён сарваў заднюю бранявую заслону корпуса па лініі зварнога шва і адкінуў яе на некалькі метраў. Хаця яны з «Пантэрай» із адной ваговай катэгорыі (ІС-2 – 46 тон, «Пантэра» – 45), але снарад «Пантэры» з такой дыстанцыі лабавую браню танка ІС-2 не браў. І снарады «Тыгра» (вага 56 тон) і «Тыгра-Б» (вага 67 тон) з такой дыстанцыі прабіць ІС-2 не маглі, а ІС-2 іх браў з паўтары тысяч

метраў. Дык чамуж бы Сталіну не з'явіцца на Парадзе Перамогі на такім танку? Якая сімволіка: Ёсіф Сталін на лепшым у сьвеце танку «Ёсіф Сталін»!

А акрамя IС-2 на ўзбраенні савецкага войска ўжо быў прыгажун IС-3. Яго паказалі хаўруснікам на парадзе ў Берліне. IС-3 на працягу доўгіх гадоў служыў узорам для шматлікіх замежных перайманняў. Ён быў не толькі самым магутным танкам свайго часу, ён быў эстэтычна прыгожы. Праз пяцьдзясят гадоў ніводнаму танку ў сьвеце з ім не параўнацца ў вытанчанасьці формаў. Вось бы на чым з'явіцца на Чырвоным пляцу! А ўжо паэты і журналісты знайшлі б метафары і апелі б…

А можна было і на трафейным «мэрсэдэсе» выехаць. Так ва ўсім сьвеце здаўна заведзена: узяў у бою каняку із-пад супастата – і красуйся. А тут із-пад самога Гітлера «мэрсэдэс» выдралі. Чаму б не красавацца?

Зноў жа тыя, што з рыпучымі пёрамі: у газетах патлумачылі б сімвалічнае значэнне сталінскага ўчынку. А можна было савецкім канструктарам заказаць лімузін. Для Патсдамскай канферэнцыі, напрыклад, запатрабаваўся незвычайных памераў круглы стол. Яго на працягу 24 гадзін лепшыя канструктары сканструявалі, залатыя рукі нашых майстроў спрацавалі, адшліфавалі, паклалі грунт, высушылі, папаліравалі, пафарбавалі, высушылі, яшчэ раз папаліравалі, разабралі, не прайшло сутак – а столік ужо ў самалёце ляціць прама ў Патсдам. І лімузін не праблема. Калі для таварыша Сталіна.

А можна было б і ў простым вайсковым газіку з'явіцца. Проста і сьціпла, як сталінскі жаўнерскі шынель. Сціпласць Сталіна ўпрыгожвала.

І не толькі Сталіна.

Але не. Не з'явіўся таварыш Сталін ні на танку, ні на джыпе, ні на лімузіне. А з'явіўся замест яго Маршал Савецкага Звязу Г.К.Жукаў на пышным белым жарабцы па мянушцы Кумір.

Другое «тлумачэнне»: народ так паважаў Жукава, ну ўжо так паважаў, што Сталін саступіў Жукаву ганаровае права.

Гэтая версія мае варыяцыю: Жукаў быў такім вялікім вайскаводам, ну ўжо такім вялікім, што Сталін прызнаў яго перавагу над сабой і…

Нехта Карым Раш на старонках «Вайскова-гістарычнага часопіса» гэта выказаў так: «..Але Сталін адчуў яго першародную жыццёвую моц і саступіў яму Парад 1945 года» (1989, N 8. с. 7).

Зноў жа – годнае тлумачэнне.

Праўда, у таварышу Фрунзе таварыш Сталін таксама адчуў першародную жыццёвую моц. І загадаў таварыша Фрунзе зарэзаць.

Лішак першароднай моцы відавочна адчуваўся і ў таварышу Тухачэўскім. Вядома, што з Тухачэўскім здарылася.

А ў таварышу Троцкім першародная жыццёвая моц булькатала. Што ж, месца яму сваё саступаць? Не выйдзе: ледасекам па чэрапе таварышу Троцкаму дасталася…

На вайне Жукаў Сталіну быў патрэбен, а пасьля вайны – навошта?

І з народнай павагай праблем не магло ўзнікнуць. Наш народ паважае таго, каго загадаюць. Вось, напрыклад, таварыш Берыя таксама быў глыбока шануемы нашым народам. Ці асьмеліцца нехта сказаць, што Лаўрына Паўлавіча мы менш паважалі? А да яго наш народ да поўнай утрапёнасьці паважаў таварыша Яжова. І Кірава ж як паважалі. А Тухачэўскага паважалі двойчы. Першы раз паважалі адпаведна з загадам. Потым таварыша Тухачэўскага забілі і загадалі нешанаваць. Разшанавалі. А потым зноў паступіў загад паважаць. І паважаюць. І нікому не

патлумачыш, што быў Тухачэўскі катам і забойцай, а ў пытаннях стратэгіі разбіраўся слаба, больш дакладна – наогул не разбіраўся. Каб гэта зразумець, патрэбна проста прачытаць два тамы «твораў» гэтага самага Стукачэўскага. Але тамоў не чытаюць. Паважаюць не чытаючы. Паспрабуй каму скажы, што Тухачэўскі быў авантурыстам, кар'ерыстам, баязліўцам, што яго «геніяльныя» тварэнні былі прыдатнымі толькі ў якасьці дапаможніка на ўроках палітпісьмовасьці, а на большае не цягнуць і не цягнулі, што яго прапановы па пераўзбраенню войска – чыстае вар'яцтва. Скажы такое – горла падзяруць, таму што паважаюць.

Так што паважаем таго, каго загадаюць, і магутнасць нашай павагі задаецца цэнтралізавана – валадарачая рука ў кожны момант можа моц народнай павагі паменшыць ці павялічыць.

Не ведаю, як народ паважаў Жукава, але на наступны пасьля парада год Сталін загнаў народнага ўлюбёнца кіраваць правінцыйнай акругай у Адэсу, а потым яшчэ далей – на Урал, і трымаў там таварыш Сталін таварыша Жукава без намеру выпускаць. І пакуль была ў Сталіна ўлада, Жукаў сядзеў ва ўральскай спасылцы, як цвыркун за печкай. І народ не паўстаў. Нагодай няміласьці Жукава было якраз нежаданне Сталіна дзяліцца славай з найбольш блізкімі сваімі памагатымі па вайне. І апынуўся ў катавальні камандуючы ВПС Галоўны маршал авіяцыі А.А.Новікаў. Патрапіў пад несправядлівы «суд гонару», быў разжалаваны і паніжаны на пасадзе Наркам ВМФ адмірал флота Н.Г.Кузняцоў, паляцелі са сваіх пасад камандуючы артылерыяй Чырвонага Войска Галоўны маршал артылерыі Н.Н.Воранаў і яшчэ шмат хто. Не толькі пагоны з плячэй генеральскіх ляцелі, але і галовы… Пасьля вайны пайшлі пад сякеру С.А.Худзякоў, Г.І.Кулік, В.Н.Гордаў, Ф.Т.Рыбальчанка і іншыя.

Самога Жукава пазбавілі пасады з фармулёўкай: «…згубіўшы якую б то ні было сціпласць… прыпісваў сабе распрацоўку і правядзенне ўсіх асноўных аперацый, уключаючы і тыя аперацыі, да якіх ён не меў ніякага дачынення». Сам Сталін гэта і падпісаў (загад Міністра Ўзброенага Войска Звязу ССР N 009 ад 9 чэрвеня 1946 г. ВГЖ. 1993. N 5. с. 27).

І гэтым справа зусім не завяршылася. Таварыш Сталін пазначаў далей. Вось сведчанне генерал-лейтэнанта К.С.Цялегіна, прайшоўшага з Жукавым амаль усю вайну: «Я быў арыштаваны без ордэра і дастаўлены ў Маскву, ва ўнутраную турму МДБ. Тут з мяне садралі маё адзенне, гадзіннік і інш., апранулі ў парванае, смярдзючае жаўнерскае абмундзіраванне, выдралі залатыя каронкі разам з зубамі… Абражалі і здзекаваліся, следчыя і кіраўніцтва МДБ патрабавалі ад мяне сведчанняў пра „змову“, нібы-та ўзначальваемую Жукавым Г.К., Сяровым І.А. і мной, даўшы зразумець, што яны таксама арыштаваны… у мяне былі выдраны кавалкі мяса (сведчанні гэтаму ў мяне на целе)… мяне білі галавой аб сьцяну… сядзець я не мог, на працягу паловы года я мог толькі стаяць на каленах каля сьцяны, прытуліўшыся да яе галавой… Я нават забыўся пра тое, што ў мяне ёсць сям'я, забыўся імёны дзяцей і жонкі…». І г.д.

Гэтыя сведчанні нядаўна пабачылі сьвет і неаднаразова друкаваліся, напрыклад у «Агеньчыку». Дарэчы, гэта не ўспаміны, а сведчанні пракурору пасьля сьмерці Сталіна і вызвалення із турмы. Гэта дакумент. Але гаворка не пра Цялегіна і іншых генералаў, а пра Жукава, які да такога павароту быў вельмі блізкі. Проста Жукава выратавала салідарнасць іншых маршалаў, якія былі навучаны досьведам папярэднікаў і разумелі: сёння Цялегін, заўтра Жукаў, а пасьля?..

Так што варыянт з «першароднай жыццёвай магутнасьцю» нават у ляфортаўскія вароты не лезе.

І наконт народнай павагі – не вельмі складна. Франтавікі іншай думкі пра Жукава. Я не тых франтавікоў маю на ўвазе, якія па заградатрадах ордэны атрымлівалі, а тых калек, якія пасьля вайны бавілі жыццё на выспе Валаам. Іх, бязрукіх-бязногіх, трымалі ў аддаленні, каб сваім гідкім выглядам сталічных вакзалаў не паганілі. Дык вось, тыя франтавікі пра Жукава мелі сваё меркаванне: з'явіўся Жукаў, азначае – наступленне, і застанецца жывым толькі той, каму адарве рукі-ногі.

А астатнія лягуць.

Але нават калі б народ і сапраўды паважаў Жукава да стану самазабыцця, то Сталін павінен быў бы не сваё месца яму саступаць, а паклапаціцца пра тое, каб пад час апошніх дзён Берлінскай бітвы Жукаў загінуў гераічнай сьмерцю, прыціснуты сьцяной падаючага будынка, ці б «застрэліўся», як Арджанікідзэ. Ад launch ператомленасьці. Ці Жукаў мог проста знікнуць, як знік улюбёнец народа Мікалай Янавіч Яжоў пасьля таго, як завяршыў сваю місію. І ніхто пытання не задаў: а дзе Яжоў? Дзе ён, наш паважаемы усенародны? Няма яго, і ўсё тут. Ніхто і не хапіўся.

Згадаем: Сталін быў раўнівы. З тымі, хто быў папулярным, здараліся розныя непрыемнасьці: адны трапляліі пад аўтамабіль, іншыя – пад падаючую з даху цэгліну, трэццяя ненарокам правальваліся прама ў лубянскі склеп.

Дзіўна выглядае гэтае тлумачэнне – пра ўсенародную павагу. Рускі цар Пятро Аляксеевіч перамог свайго галоўнага ворага Карла XII пад Палтавай і наладзіў агляд войска, накшталт парада. Ці можна ўявіць Пятра, прамаўляючым: «Слухай, Аляксашка Меншыкаў, так цябе ўжо паважаюць, ну так паважаюць, ужо такая ў табе моц першародная гуляе, ідзі парад прымай замест мяне, пакрасуйся, а я збоку пастаю».

Ці магло такое быць?

Не магло быць такога. НЕ МАГЛО.

І яшчэ адзін довад супраць народнай павагі: сам Жукаў усё жыццё праслужыў у войску і вайсковую этыку адчуваў нутром – не можа дзяжурны па роце рапартаваць намесьніку камандыра роты, калі побач сам ротны стаіць. НЕ МОЖА. І таму сам Жукаў не прэтэндаваў на вялікі гонар прымаць Парад Перамогі. І таму сам Жукаў Сталіну ў вочы сказаў, што кіраваць парадам павінен Сталін як Вярхоўны Галоўнакамандуючы – гэта не толькі яго права, але і абавязак, ухіляцца ад выканання якога Сталіну не можа. І ўвесь народ чакаў Сталіна пераможцам. Не Жукава. Гэта ўжо дакладна.

А можа Сталін не шанаваў славу і пашану?

Якраз наадварот. Вельмі нават шанаваў. І медалі пераможныя кляпаліся са сталінскім профілем: не Жукава ж на медалях штампаваць?

Адным словам, абодва «тлумачэнні» нічога не тлумачаць. І таму мне давялося шукаць трэццяе. Вы можаце са мной згаджацца, а можаце і не згаджацца. Але я выкажу сваю думку.

Парад Перамогі быў для Сталіна парадам піравай перамогі, г.зн. перамогі, якая прыраўноўваецца да паразы. Мы ўжо прызвычаіліся святкаваць так званы «дзень перамогі», але давайце згадаем, што пры Сталіне такога сьвята не існавала. 1 Траўня – так. Гэта мы святкавалі. 1 Траўня – дзень агляду моцы сусьветнага пралетарыяту, дзень праверкі гатоўнасьці да Сусьветнай рэвалюцыі. 1 Траўня быў дзень святочны, у гэты дзень народ не працаваў, у гэты дзень на Чырвоным пляцы

грукаталі вайсковыя парады і дэманстранты радасным лямантам абвяшчалі пляцы і вуліцы. Дакладна як у гітлераўскай Германіі: Гітлер быў сацыялістам, такім жа, як Ленін і Сталін, сьвяткаваў 1 Траўня, і германскі народ пры Гітлеру валіў на дэманстрацыі з тымі ж чырвонымі сьцягамі, што і наш народ.

Пікантная дэталь: самыя ўрачыстыя сьвяты ў Савецкім Звязе прыпадалі на 7 і 8 лістапада, у гітлераўскай Германіі – 8 і 9 лістапада. Асноўныя фашысцкія сьвяты мелі той жа корань, і іхнае паходжанне прама злучана з угодкамі нашай так званай «вялікай кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі». Але пра гэта – пазьней.

А зараз мы – пра тое, што ніякага «дня перамогі» пры Сталіне ўсталявана не было. Першыя ўгодкі разгрому Германіі – 9 траўня 1946 года – звычайны дзень, як усе. І 9 траўня 1947 года – звычайны дзень. І ўсе астатнія юбілеі. Калі прыпадала нядзеля на гэты дзень, не працавалі, а не прыпадала – працавалі.

Не было чаго сьвяткаваць.

Першы пасьля Сталіна Першамай 1953 года сьвяткавалі як прынята, з грукатам танкавых калон і радасным лямантам, а 9 траўня – звычайны дзень. Без танкаў, без грукату, без аркестраў і дэманстрацый. Сталінскім патужнікам таварышам Молатаву, Малянкову, Берыя, Кагановічу, Булганіну ў галаву не прыходзіла штосьці ў гэты дзень сьвяткаваць.

І вось 9 траўня 1955 года. Дзесяць гадоў! Сталіна няма, але былі жывымі легендарныя маршалы: Жукаў, Конеў, Ракасоўскі, Васілеўскі, Маліноўскі… Ды не проста жывыя – на баявых пастах! Вось бы адзначыць! Вось бы танкі на пляц выкаціць і неба самалётамі загаціць…

Дык не ж. Не сьвяткавалі. Не сьвяткавалі. Танкамі супастата не страшылі. Медалёў юбілейных не кляпалі.

І 15-ыя ўгодкі таксама сціпла прайшлі. Без урачыстасьцяў.

І вось толькі пасьля таго, як нашага дарагога Мікіту Сяргеевіча Хрушчова, апошняга магіканіна са сталінскага Палітбюро, ад улады восеньню 1964 года адхілілі, і было вырашана ўсталяваць «дзень перамогі» ў якасьці дзяржаўнага сьвята. Вось толькі з гэтага моманту дзень 9 траўня стаў непрацоўным. Гэта было ўведзена пры Брэжневе.

Леанід Ілліч ласы быў на ордэны, званні, тытулы і ўрачыстасьці. Сталін меў адну зорачку Героя Савецкага Звязу. Атрымаў ён яе за вайну, ды і то не насіў. А Брэжнеў павесіў сам сабе – у чатыры разы больш. І ўсё – у мірны час. Брэжнеў прысвоіў сабе маршальскае званне і, насуперак статуту, узнагародзіў сябе самым вышэйшым вайсковым ордэнам «Перамога». Вось гэтаму, мякка кажучы, безсаромнаму чалавеку былі патрэбны перамогі і ўрачыстасьці. Вось ён і ўсталяваў «дзень перамогі» ў якасьці дзяржаўнага сьвята і зрабіў дзень непрацоўным. Усталяваў толькі пасьля таго, як усе сябры сталінскага Палітбюро і амаль усе маршалы ваеннай пары былі ў іншым сьвеце ці адхіленымі ад справаў.

А пакуль быў Сталін, пакуль кіравалі яго патужнікі і яго маршалы, ні пра якое сьвята перамогі не было і гаворкі.

Наладзілі адзін раз «парад перамогі» ў 1945 годзе – і хопіць.

Але і той парад 1945 года быў незвычайным. Хутчэй – дзіўным.

Шмат іх было, дзівацтваў.

Зразумела, гэта – супадзенне, але здавалася, што само неба паўстала супраць «парада перамогі» 1945 года. Пад час таго дня ў Маскве ліў вельмі рэдкі для гэтай пары дождж. Парад неяк правялі, але дэманстрацыю працоўных давялося адмяніць.

Я прагледзеў метэаралагічныя зводкі за ўсе дні, калі на Чырвоным пляцы праходзілі вайсковыя парады. Дык вось: такога праліўнога дажджу, як 24 чэрвеня 1945 года, не было ніколі. Не было нічога нават аддалена яго нагадваючага. Генерал войска А.Т.Стучэнка згадвае ў мемуарах: спецыяльна для парада пашылі яму мундзір, і знік той мундзір – пакаробілася, набракла залатое шыццё, няма чаго нашчадкам паказаць (Зайздросны наш лёс. М., 1968. с. 265).

Дык жа не ў аднаго генерала арміі Стучэнка мундзір сапсаваўся. Усе атэлье і швейныя фабрыкі Масквы і Падмаскоўя былі мабілізаваны на выкананне адказнага ўрадавага даручэння: усе шматлікія тысячы ўдзельнікаў параду апрануць у новую, адмыслова для гэтага выпадку ўведзеную форму. Апранулі. І ўсё сапсавалася. Няма чаго ў музеях выстаўляць.

Але зусім не дождж сапсаваў сьвята, і зусім не дзякуючы дрэннаму надвор'ю ўрачысты марш гучаў для Сталіна пахавальным маршам. Было нешта іншае, што вымусіла Сталіна паводзіць сябе так, як паводзяць сябе ўсе дыктатары пасьля знішчаючай паразы.

Дачка Сталіна Сьвятлана Ёсіфаўна сведчыць, што пасьля вайны Сталін неаднаразова «меў намер пайсьці на пакой». Зразумела, гэта былі толькі словы. Сталін да самых апошніх дзён свайго жыцця чапляўся за ўладу, «справа лекараў» – гэта толькі далёкія грымоты той вялікай бітвы, якая грукатала пад крамлёўскімі зоркамі на прыканцы 1952 года. Сталін змагаўся да канца. І нават апошні яго жэст на божым ложку, згодна са сведчаннем той жа Сьвятланы Ёсіфаўны, «быў пагражаючым». І пры апошнім уздыханні Сталін пагражаў сваім патужнікам. Чаму ж у такім выпадку ён яшчэ ў 1945 годзе заяўляў пра жаданне «пайсьці на пакой»? Пайсьці ад улады? Самаахвотна? Некаму яе аддаць?

Такога ў нас не бывала. Гэта на нашых правадыроў ніяк не падобна. Асабліва на таварыша Сталіна. «Збіраўся пайсьці на пакой», а сам на Жукава, Берыя, Сярова, Молатава, Варашылава расстрэльны матэрыял рыхтаваў…

Як усё гэта абагульніць: сваіх самых блізкіх патужнікаў вінаваціць у змовах і шпіянажы, рыхтуе новы разгром вярхоў і тут жа заяўляе пра жаданне адыйсьці ад улады?

Дык вось, у адстаўку просяцца зведаўшыя паразу. Заяўляюць пра адстаўку не для таго, каб пайсьці, а дзеля таго, каб застацца. Яны заяўляюць пра жаданне сысьці, каб набліжаныя ўпрошвалі іх не сыходзіць. Менавіта так маленькі хлопчык б'ецца ў істэрыках, называе сябе дрэнным.

Каб яму запярэчылі.

Адмірал флота Савецкага Звязу Н.Г.Кузняцоў сведчыць, што Сталін паводзіў сябе менавіта так і менавіта адразу пасьля парада (ВГЖ. 1993. N 7. с. 54). Адмірал распавядае, што ў маленькім пакоі каля крамлёўскай сьцяны непасрэдна пасьля параду сабраліся толькі тыя, хто быў дапушчаны ў самае цеснае кола: сябры Палітбюро і маршалы. Вось тут Сталін абвясьціў пра «свой намер сысьці».

Зразумела, усе пачалі пераконваць таварыша Сталіна не сыходзіць.

Каб супакоіць Сталіна, праз два дні, 26 чэрвеня, быў падпісаны ўказ пра заснаванне вышэйшага вайсковага звання – Генералісімус Савецкага Звязу, а 27 чэрвеня гэтае званне было Сталіну прысвоена. Тут жа яму прысвоілі званне Героя Савецкага Звязу і ўзнагародзілі другім ордэнам «Перамога».

Толькі дзіўна таварыш Сталін паставіўся да ўсіх гэтых званняў і ўзнагарод.

Перад вайной Сталін атрымаў Залатую зорку Героя Сацпрацы. Гэту Залатую зорку ён насіў.

Падчас вайны, у 1943 годзе пасьля Сталінградскага пералому, Вярхоўны Галоўнакамандуючы таварыш Сталін атрымаў ваярскае званне Маршала Савецкага Звязу. У 1944-м пасьля пераможнага завяршэння Беларускай наступальнай аперацыі Сталін атрымаў вышэйшы вайсковы ордэн «Перамога» (было за што).

І вось пасьля «парада перамогі» вышэйшае кіраўніцтва краіны прынімае рашэнне прысвоіць яму званне Генералісімуса Савецкага Звязу, званне Героя Савецкага Звязу і ўзнагародзіць другім ордэнам «Перамога». І тут пачаліся дзівацтвы. Сталін прыняў званне Генералісімуса, часам з'яўляўся ў вайсковай форме, але насіў пагоны Маршала Савецкага Звязу, адмовіўшыся насіць адмыслова для яго прыдуманыя пагоны Генералісімуса.

Сталін дэманстратыўна насіў Залатую зорку Героя Сацпрацы, а Залатую зорку Героя Савецкага Звязу не толькі не насіў, але і адмаўляўся атрымліваць. І другі ордэн «Перамога» таксама адмаўляўся атрымліваць. Даваенныя ўзнагароды – насіў. Атрыманае падчас вайны – часам насіў. А тое, што атрымаў за вялікую перамогу, – тое не насіў.

Цэнтральны орган Міністэрства абароны РФ «Чырвоная зорка»: «Ён пагадзіўся прыняць другі ордэн „Перамога“ толькі 28 красавіка 1950 года. Н.М.Швернік у той жа дзень уручыў Сталіну яшчэ і Залатую зорку Героя, два ордэны Леніна, якім таксама доўга давялося чакаць свайго часу» (27 кастрычніка 1994 г.).

У гэтым выказванні патрэбна звярнуць увагу на слова «пагадзіўся».

Такім чынам, пераможныя сталінскія ўзнагароды чакалі ўладальніка амаль пяць гадоў.

У снежні 1949 года «ўсё прагрэсіўнае чалавецтва» святкавала сталінскае сямідзесяцігоддзе. Колькі было грукату і шуму! Колькі ўрачыстасьцей, колькі прамоваў. Колькі сотняў мільёнаў тамоў сталінскіх прац на ўсіх мовах сьвету разышлося па сьвету. Ён і зараз па тыражах – у Кнізе рэкордаў Гінэса. Не пабіты.

Паважаў шанаванне таварыш Сталін.

А колькі было падарункаў. Ах, колькі іх было. Выставу наладзілі, так і звалася – «Падарункі Сталіну». І не было нічога больш шыкоўнага той выставы на працягу ўсёй чалавечай гісторыі. Прынімаў таварыш Сталін віншаванні і падарункі.

А пераможных узнагарод не прынімаў.

Гэта ўжо пасьля сямідзесяцігоддзя пагадзіўся прыняць.

Пагадзіўся прыняць. Але ці насіў?

Існуе партрэт Сталіна ў «Савецкай вайсковай энцыклапедыі» пры ўсіх ордэнах. Але гэта агульны парадак: кожны афіцэр абавязаны мець фотапартрэт пры ўсіх узнагародах. Гэты партрэт захоўваецца ў кадравых органах Узброенага Войска. Пры прысваенні новага ваярскага звання і атрыманні новых узнагарод партрэт абнаўляецца. Сталін ад правілаў не адыходзіў. Ён і вайсковую прысягу прынімаў, як кожны чырвонаармеец, і адпаведны дакумент падпісаў, і гэты дакумент, як і належала, захоўваўся ў кадравых органах. Так што фотапартрэт пры ўсіх рэгаліях быў зроблены.

Але няма сведчанняў пра тое, што пры ўсіх ордэнах Сталін з'яўляўся прынародна.

Так яго і малявалі на плакатах – з адной, з працоўнай, зорачкай. Рэкамендую плакаты галоўнага прыдворнага партрэтыста В.Янава: «Прыйдзем да багацця» (1949), «Ёсіф Вісарыёнавіч Сталін» (1952) і іншыя.

Апошняя афіцыйная фатаграфія Сталіна («Агеньчык». 1953. N 8): проста на ўсю вокладку – таварыш Сталін з адной зорачкай, з працоўнай.

Кароткая выснова: «парад перамогі» не прымае, пераможных узнагарод не жадае і не носіць, сьвята перамогі не святкуе, маркоціцца, капрызіць, у адстаўку просіцца, ды не сыходзіць…

x x x

А ўсё таму, што святкаваць таварышу Сталіну не было чаго і цешыцца не было нагоды. Другая сусьветная вайна была прайграна. Сталін гэта ведаў. І ўсе яго самыя блізкія патужнікі гэта ведалі і разумелі.

І ўсім камуністам не было нагоды скакаць і смяяцца.

Каб зразумець гэта, мы павінны вярнуцца ў часы нараджэння камуністычнай дыктатуры, у часы стварэння Звязу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Мы павінны згадаць той самы момант, калі галаву Леніна вырашылі зрабіць вялікай.

Вельмі вялікай…

# Глава II

## Навошта ім сусьветная рэвалюцыя?

«Усю нашу надзею мы ўскладаем на тое, што наша рэвалюцыя развяжа еўрапейскую рэвалюцыю. Калі паўстаўшыя народы Яўропы не раздушаць імперыялізм, – мы будзем раздушаны, – гэта, без сумневаў. Або руская рэвалюцыя падыме віхур змагання на Захадзе, або капіталісты ўсіх краін задушаць наш».

Л.Троцкі. Прамова на Другім з'ездзе Рад. 26 кастрычніка 1917г.

Маркс лічыў, што камуністычная рэвалюцыя павінна быць сусьветнай. Для Маркса гэта было настолькі відавочна, што ён нават не спрабаваў гэтую думку нічым абгрунтаваць. Зразумела без абгрунтавання.

Ленін таксама лічыў, што камуністычная рэвалюцыя павінна быць сусьветнай. Я проста із прынцыпу не буду цытаваць Леніна. Усе ленінскія працы прасякнуты адной думкай: «або адно, або іншае пераможа».

Гэта менавіта той рэдкі выпадак, калі Ленін выявіўся маючым рацыю: ці камуністы захопяць увесь сьвет, ці камуністычная ўлада абваліцца паўсюдна.

Так і здарылася. Яны не змаглі захапіць увесь сьвет. І таму іхная ўлада абвалілася.

Троцкі стаяў на тым жа падмурку: на адной планеце камунізм не ў стане існаваць побач з нармальным чалавечым грамадствам.

Дамовімся адразу – мы не спрачаемся пра тэрміны. Назву можна прыдумаць якую заўгодна: фашысцкі сацыялізм, камуністычны фашызм, марксізм-гітлерызм, гітлерызм-ленінізм, трацкізм-сталінізм… Мы зараз разважаем пра сутнасць. А сутнасць у тым, што дзяржава мае толькі дзьве функцыі:

а) абарона сваіх грамадзян;

б) так наладзіць жыццё, каб людзі ахвотна і добра працавалі.

Усе астатнія праблемы людзі вырашаць самі. Толькі не патрэбна лезьці ў іхнае жыццё, толькі не патрэбна ім паказваць, што, як і калі рабіць. У дзяржаве мільёны, дзясяткі, а магчыма, і сотні мільёнаў людзей. У кожнага галава, дык хай жа кожная галава і думае.

Калі дзяржава пачынае залазіць у жыццё людзей, у іхную дзейнасць, то нічога добрага із гэтага не атрымаецца. Калі дзяржава пачынае людзям даваць указанні, што і як рабіць, калі людзі працуюць пад прымусам, то доўга такая дзяржава не працягне. Яе адатруць. Яна змарнее.

Калі дзяржава (хай нават з самымі лепшымі намерамі) пачынае браць удзел у эканамічнай дзейнасьці сваіх грамадзянаў, наступствы заўсёды і ўсюды атрымліваюцца аднолькавымі: насельніцтва бяднее і разбягаецца.

У тэорыі гучыць прывабна: усё будзе належаць усяму грамадству, усяму народу! На справе, калі багацце не належыць нікому асабіста, яно належыць дзяржаве – таксама прыгожа. Аднак што ёсць дзяржава? Як яе памацаць? Дзяржава – гэта дзяржаўныя структуры і ўстановы, іншымі словамі – прадстаўнікі народа, ці, карацей, бюракратыя.

Калі б сацыялісты сказалі адкрыта: мы створым татальную бюракратызацыю, то хто б іх падтрымаў? Таму яны ўжываюць прывабныя тэрміны: нацыяналізацыя, сацыялізацыя, дзяржаўны кантроль і г.д. Але ад ужывання прыгожых слоў сутнасць справы не перамяняецца: дзяржава, г.зн. бюракратыя, не ў стане эфектыўна кіраваць эканомікай. Няма ў бюракрата зацікаўленасьці рызыкаваць, эканоміць, пашыраць новае. Сацыялістычнае грамадства хутка бяднее, і самыя лепшыя грамадзяне бягуць туды, дзе над імі не будзе бюракрата, дзе існуе магчымасць працаваць самастойна, не падначальваючыся параграфам інструкцый.

Закон без выключэнняўняткаў: АД САЦЫЯЛІЗМУ ЛЮДЗІ БЯГУЦЬ.

Ад якога заўгодна.

Чым больш нацыяналізацыі, тым больш патрэбна ўрадаўцаў для кіравання абагульненай гаспадаркай, тым горш працуе эканоміка, тым бядней краіна, тым больш людзей галасуюць нагамі.

Савецкі сацыялізм нікому не падабаўся, і чалавек Захаду з пагардай казаў: у вас не сацыялізм, у вас таталітарызм, у вас панаванне бюракратыі.

Слушна. Але калі, напрыклад, у амерыканцаў забраць зямлю, забраць крамы і заводы, забраць караблі і чыгункі і аддаць усё ў грамадскае карыстанне, то хто ж усёй гэтай гаспадаркай будзе кіраваць? Адказ адзін: грамадзкая ўласнасць з'яўляецца ўласнасьцю дзяржаўнай, г.зн. кантралюецца дзяржаўнымі структурамі, г.зн. бюракратыяй. Гіганцкая гаспадарка патрабуе гіганцкага войска бюракратаў для кіравання. І калі нехта скажа, што амерыканская бюракратыя зможа кіраваць гаспадаркай лепш, чым гэта рабіла руская бюракратыя, то мы спрачацца не будзем. Пажывём - пабачым.

А зараз наладзім эксперымент. Я яго праводзіў шматразова. Спыніце на вуліцы чалавека, пажадана замежніка із самай што ні на ёсць заможнай дэмакратычнай краіны, і ашаламіце яго ўступнай: асабіста вы кіраўнік самай заможнай, самай развітай дзяржавы, учора вы перадалі ў грамадзкую ўласнасць усё, што ёсць у вашай краіне, а раніцай людзі із вашай краіны пабеглі… Што вы будзеце рабіць?

Магчымых адказаў толькі два:

а) неадкладна адмоўлюся ад бюракратыі, г.зн. ад сацыялізму; б) выкарыстаю ўсе захады, каб збягаючых спыніць.

Дастаткова цікава, што першы адказ вы пачуеце вельмі рэдка. Вельмі мала на сьвеце людзей, якія задаюць сустрэчнае пытанне: а чаму бягуць? Рэдка хто

спрабуе знайсьці падставу массавага збягання. Значна часьцей, атрымаўшы ўступную «бягуць», ваш незнаёмы суразмоўца рэагуе наважна і крута: «спыніць!»

Самы момант задаць другое пытанне: як спыніць?

Тут вам паведамяць цэлы набор сродкаў:

– перакрыць усю мяжу патрулямі;

– сабак пабольш;

– шрубалётаў;

– мінаваць мяжу;

– пражэктарамі асьвятляць;

– паставіць электронную сігналізацыю;

– сьцяну ўздоўж мяжы пабудаваць.

Адкажыце, што ўсе гэтыя захады выпрабаваны, але не дапамагаюць.

Магчыма, нейкі суразмоўца адкажа: і чорт з імі, хай бягуць.

А вось з гэтым не пагадзімся. Бягуць не самыя дурныя. Ад Леніна пабеглі ўсе лепшыя прадстаўнікі вялікай рускай культуры, навукі і дзяржаўнасьці: геніяльныя шахматысты і стваральнікі першых у сьвеце шрубалётаў, генералы і дыпламаты, банкіры і гандляры, майстры балета з сусьветнымі імёнамі і артысты тэатраў, пісьменнікі, мастакі, скульптары, інжынеры, архітэктары, афіцэры, юрысты… Нават тыя, хто апяваў грамадзкую ўласнасць і кляў горад жоўтага дз'ябла і аднапавярховую Амерыку, разнастайныя Горкія і Маякоўскія, таксама пабеглі. Яны спявалі гімны працоўна-сялянскай уладзе, знаходзячыся ад яе на адлегласьці таму што ўсё добрае, як нас вучылі, бачыцца толькі здалёку.

Пасьля абагульнення гаспадаркі струмень уцекачоў ніколі і ні ў адной краіне не вычэрпваецца, а нарастае. Летам 1961 года ў адной толькі палове аднаго толькі горада, я маю на ўвазе Заходні Берлін, насельніцтва павялічвалася на аднаго чалавека кожную хвіліну. А ва Ўсходнім Берліне адпаведна кожную хвіліну насельніцтва на аднаго чалавека памяншалася. І давялося пабудаваць восьмы цуд сьвету – Берлінскую сцяну, а ўсіх, хто праз сьцяну спрабаваў перабрацца, – забіваць.

Праблема ўскладнялася тым, што і памежнікі таксама людзі. Самі памежнікі таксама беглі праз дрот. І тады давялося стварыць электронную абарону, перакрываць падыходы да мяжы мінньмі палямі, бар'ерамі, якія не праломіш ні танкам, ні бульдозерам… А людзі беглі.

У Берліне існуе самы цікавы ў сьвеце музей – музей Берлінскай сьцяны, музей уцёкаў праз сьцяну. Божа! Гэта музей геніяльных вынаходстваў. Чаго толькі людзі не прыдумалі каб збегчы із грамадства, у якім дзяржава бярэ ўдзел у іхным жыцці. Гэта музей сьмяротнай рызыкі. Гэта музей надзеі і веры: чалавек здольны збегчы!

І людзі беглі. Беглі з усіх сацыялістычных краін. Максімальная колькасць рэспублік у складзе Савецкага Звязу была шаснаццаць. А потым іх стала менш – пятнаццаць. Насельніцтва адной із рэспублік – Карэла-Фінскай – у сваёй большасьці паволі збегла ў суседнюю Фінляндыю. Людзей трымалі, лавілі, палохалі, але зямля засталася, а насельніцтва на цэлую рэспубліку ніяк не набіраецца…

Згадаем, як, уласна, адбылося крушэнне камунізму ва Ўсходняй Германіі, Польшчы, Чэхіі, Славакіі… Вугоршчына адчыніла мяжу з Аўстрыяй і раптам сотні тысяч людзей у суседніх камуністычных краінах загарэліся жаданнем падарожнічаць. Летам 1989-га года ўсе дарогі Ўсходняй Яўропы былі забіты

турыстамі, падарожнічаўшымі ў адным накірунку без намеру вяртацца. Эканамічнае жыццё адначасова ў некалькіх краінах была паралізавана: людзі хапалі тое, што маглі панесьці, і спяшаліся да мяжы, туды, дзе адчынілася маленькая дзірачка. І ўвесь сьвет быў сведкам эфекту паветранага шара: вялізны чырвоны шар з круглымі бакамі тырканулі іголачкай. І ён лопнуў.

Так што дазволіць людзям вольна сыходзіць камуністы не маглі. Той, хто гэта дазволіў, стаў мімавольным магільшчыкам Вялікай Ідэі. І лопнула Ідэя мыльнай бурбалкай.

На практыцы абагульненне гаспадаркі заўсёды мае наступствам массавае збяганне людзей. І змагарам за народнае шчасьце заўсёды і ўсюды патрэбна сьвята выконваць тое, што таварыш Сталін называў тэрмінам «мяжа на замку».

Але нават «мяжа на замку» не здолела стрымаць напор. І ўлады былі вымушаны пачынаць нешта больш сур'ёзнае і радыкальнае. Вось і запытайце кожнага на вуліцы, што ж рабіць, калі людзі бягуць мільёнамі?

І ваш суразмоўца прапаноўвае ўсе новыя захады:

– выправіць у суседнія краіны таемных агентаў, каб лавіць і вяртаць збегшых;

– збягаючых забіваць, каб у іншых не ўзнікала жаданне;

– вышукваць сярод жыхароў патэнцыйных здраднікаў;

– браць закладнікаў – ты пабег, а мы тваіх блізкіх перастраляем;

– зразумела патлумачыць насельніцтву, што за мяжой жыццё вельмі дрэннае, што там неграў б'юць.

І шмат яшчэ дадуць парад.

А вы пярэчце: гэтага мала. Гэтым збягаючых не спыніць.

І тады самы ўніклівы із вашых суразмоўцаў прапануе вонкавае рашэнне для ўнутраных праблем: ЗРАБІЦЬ ТАК, КАБ НЕ БЫЛО КУДЫ БЕГЧЫ.

Нам кажуць, што Расія не была гатова да сацыялізму, сацыялізм можна пабудаваць толькі ў заможнай, развітай, культурнай краіне. Чыстая праўда. Але чаму так? Эканамічную волю, вольнае прадпрымальніцтва можна ўвесьці дзе заўгодна – у Сінгапуры, у Паўднёвай Карэі, на Тайвані – і вынік заўсёды адзін: дзіўны ўзрост навукі, культуры, прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, дабрабыту людзей. А сацыялізм можна ўводзіць толькі ў заможных, культурных краінах. Чаму ж? Ды таму, што бюракратыя нічога не здольна стварыць сама, нехта да яе сваёй працай павінен назапасіць багацці, падняць культуру, навуку, прамысловасць і сельскую гаспадарку, вось толькі на створаных некім багаццях сацыялізм і квітнее. Не надоўга.

Бюракраты спустошаць якую заўгодна самую заможную краіну. Вельмі нават хутка.

Кажуць, што ў Расіі быў зусім не сацыялізм, а нешта жудаснае.

Слушна. Запомнім правіла: у тэорыі кожны сацыялізм выдатны.

Нам кажуць, у Расіі быў не сацыялізм, а дзяржаўны капіталізм. Гэта кажуць самі сацыялісты. Іх намеры вельмі зразумелыя: дайце нам яшчэ разок паспрабаваць, ужо гэтым разам мы пабудуем сапраўдны сацыялізм.

Прадказваю: кожнае ўмяшанне дзяржавы, г. азн. бюракратыі, да эканомікі завершыцца карупцыяй, крадзяжамі, хабарніцтвам, раскраданнем прыродных рэсурсаў, канцэнтрацыяй улады і багацця ў руках нешматлікіх, адкрытым бандытызмам, эканамічным і культурным застоем, загніваннем і крахам.

А людзі з гэтага грамадства пабягуць.

Не ў крыўду будзе сказана прытуліўшай мяне Брытаніі: Брытанская дзяржава спрабуе арганізаваць усё як мага лепш, таму кожны год Брытанія губляе тысячу навукоўцаў вышэйшага гатунку. Гэтая з'ява мае найменне збяганне мазкоў. Па тры чалавекі на дзень. Шмат дзесяцігоддзяў запар. Гэтыя навукоўцы ўжо ніколі ў Брытанію не вернуцца. У момант, калі вы чытаеце гэтыя радкі, трое сядзяць у аэрапорце Хітроу, тэрмінал нумар чатыры – гэта на Каліфорнію. У Каліфорніі клімат – не для белага чалавека. У Каліфорніі – бандытызм. У Каліфорніі ў кожны момант можа страсануць. І трасе. Гінуць людзі і каштоўнасьці. І хто ведае, што здарыцца ў наступную секунду. Але людзі туды бягуць.

Сацыялізм у Брытаніі адносна мякенькі. Але як толькі ўрадоўцы з лепшымі намерамі спрабуюць палепшыць і арганізаваць наша жыццё, дык неадкладна струмень збягаючых узмацняецца, і дзяржава проста дзеля самазахавання будзе вымушана сваіх навукоўцаў лавіць у аэрапартах з сабакамі і ўжываць да сваіх грамадзянаў усе тыя захады, якія мы пералічылі вышэй.

Але гэта – між іншым.

Кажуць, што рускія, кітайскія, нямецкія, кубінскія і ўсе іншыя камуністы не так зразумелі Маркса.

Магчыма.

Але калі мільярды людзей спрабавалі наладзіць жыццё адпаведна з Марксам і ні ў каго нічога не атрымалася, то пара ўпікнуць і Маркса: ён павінен быў прадбачыць непажаданыя эфекты. Калі геніяльны навуковец прыдумаў лекі, якія нікога не выратавалі, але ад якіх загінулі дзясяткі мільёнаў чалавек, то такога настаўніка, між іншым, геніяльным лічыць не варта. Можна, вядома, абвясьціць, што неразумныя пацыенты няправільна патлумачылі геніяльны рэцэпт. Але ёсць у чым упікнуць і геніяльнага настаўніка: ён абавязаны так пісаць інструкцыі, каб не заставалася магчымасьцей для скажонага тлумачэння.

У сьвеце тысячы прафесараў-марксістаў, але ніводзін із іх не спрабаваў хаця б тэарэтычна пабудаваць мадэль грамадства грунтуючыся на рэцэптах Маркса.

Разгорнем «Маніфест камуністычнай партыі», напісаны Марксам і Энгельсам, і паглядзім, якім павінен быць сапраўдны камунізм. Вось некаторыя рэкамендацыі:

1. Цалкам ліквідаваць прыватную ўласнасць.

2. Ліквідаваць сям'ю, наладзіць «афіцыйную адкрытую агульнасць жонак».

3. Усіх дзяцей узяць на грамадзкае выхаванне. (У рэзалюцыі жэнеўскага кангрэса Інтэрнацыянала Маркс распрацоўвае гэтую думку: «кожны дзіцёнак, пачынаючы з дзевяці гадоў, павінен быць вытворчым працаўніком…») 4. «Заснаваць прамысловае войска, асабліва для земляробства».

Маркс і Энгельс забыліся паведаміць, хто ж будзе працоўным жаўнерам, а хто працоўным капралам, хто афіцэрам, а хто працоўным фельдмаршалам.

Паспрабуем уявіць сотні мільёнаў і мільярды людзей, у якіх НІЧОГА няма: ні зямлі, ні сядзібы, ні жонкі, ні дзяцей. Раней сотні мільёнаў людзей кожны дзень прымалі мільярды рашэнняў пра тое, што ім рабіць, калі араць, калі сеяць, што выраблять, што купляць, што прадаваць. Але калі ўсё забраць у людзей, гэта азначае, пазбавіць іх права і магчымасьці прынімаць рашэнні. Хто ж будзе прынімаць мільярды штодзённых рашэнняў, хто ўсім будзе кіраваць?

Адказ Маркса адназначны – дзяржава: «цэнтралізацыя крэдыту ў руках дзяржавы праз нацыянальны банк з дзяржаўным капіталам і з выключнай

манаполіяй», «цэнтралізацыя ўсяго транспарту ў руках дзяржавы», «павелічэнне колькасьці дзяржаўных фабрык» і г.д.

Калі мы забіраем кавалак зямлі ў селяніна і не дазваляем яму гэтым кавалкам распараджацца так, як ён знаходзіць патрэбным, гэта азначае, мы павінны заснаваць пасаду бюракрата, які будзе аддаваць загады ад імя дзяржавы. Адразу ўзнікае пытанне: а калі селянін не пажадае падначальвацца бюракрату? Калі ён будзе кіравацца не інструкцыямі дзяржавы, а сваім досьведам? У гэтым выпадку дзяржава будзе вымушана выкарыстаць гвалт таму што калі дазволіць кожнаму кіравацца сваім досьведам і самому прымаць рашэнні, то каму ж патрэбна тады марксава працоўнае войска?

Кажуць, што Маркс і Энгельс мелі намер знішчыць класы і эксплуатацыю. Так кажа той, хто сам «Маніфеста» не чытаў, а знаёмы з ім грунтуючыся на пераказах. А задума Маркса іншая: выразная піраміда з падзелам грамадства на самых нізкіх, сярэдніх і вышэйшых (са шматлікімі прамежкавымі прыступкамі), канцэнтрацыя ўсіх багаццяў і ўлады на вяршыні, ператварэнне ніжэйшых у паслухмяных і пакорлівых выканаўцаў.

У прынцыпе мары Маркса здзяйсняемы. Усё, пра што марылі Маркс і Энгельс, было зроблена ў Бухенвальдзе, Дахау, Заксенхаузене. Гэта ж тое самае працоўнае войска, дзе ў людзей няма сям'і, няма прыватнай уласнасьці, дзеці пераўтвораны ў прадукцыйных працаўнікоў.

Мары Маркса цалкам памяшчаліся за кратамі і за межы Асьвенцыма не выходзілі.

У кожнай краіне, у кожным буйным горадзе існуюць самыя сапраўдныя агмені марксізму – супольнасьці людзей, якім дзяржава цалкам дарэмна забяспечвае жыллё, цяпло, медычную дапамогу, харчаванне, адзенне, гарантуе занятасць. Людзі ў гэтых супольнасьцях, хай фармальна, але роўныя: у іх аднолькавае харчаванне, аднолькавае адзенне, аднолькавыя ўмовы жыцця.

Дзе ж гэту ідылію можна сустрэць?

У турмах.

У турме ўсё наладжана згодна з Марксам: ліквідавана прыватная ўласнасць, людзі забяспечаны ўсім патрэбным для жыцця і праца ім гарантавана. Турма і канцлагер – гэта ідэал, да якога імкнецца кожная марксісцкая дзяржава.

Патрэбу тэрору Маркс і Энгельс разумелі вельмі выраза: хто ж самаахвотна будзе жыць у іхным камуністычным раю? Таму ў Маркса мы знаходзім заклікі не проста да дыктатуры, але «энергічнай дыктатуры» («Новая рэйнская газета». 14 верасня 1848 г.), а ў Энгельса ў «Катэхізісе» мы знаходзім прызнанне простага факту: на ўсіх турмаў не хопіць. Таму Энгельс рэкамендаваў для ворагаў рэжыму «асобна ахоўваемыя месцы». У дваццатым стагоддзі гэтае разуменне пазначаецца больш кароткім і зразумелым тэрмінам – канцлагеры.

Чым больш зямлі, заводаў, дарог мы забярэм у людзей, тым больш бюракратаў нам патрэбна для кіравання ўсім гэтым. Маркс і Энгельс прапанавалі забраць у народа ЎСЁ, г.зн. прапанавалі татальную бюракратызацыю, праўда, не назваўшы рэчы сваімі найменнямі.

Марксізм па-сутнасьці – таталітарны кантроль эканомікі дзяржавай, г.зн. дзяржаўнай бюракратыяй. Расія сапраўды не была гатова да таго, каб жыць адпаведна з вучэннем Маркса. Але пакажыце мне тую краіну, якая гатова жыць адпаведна з рэкамендацыямі барадатых скуралупаў.

Калі б Маркс пасправабаваў пабудаваць камунізм, напрыклад у Германіі, то давялося б разліць рэкі крыві. Калі толькі ў нямецкіх сялян забраць зямлю, у крамнікаў – крамы, у рамеснікаў– майстэрні, гэта колькі ж незадаволеных патрэбна будзе вынішчыць? Калі ў бацькоў забраць дзяцей, калі ў чалавекаў забраць жонак і пусьціць іх у грамадзкае карыстанне, то і тут мы сустрэнем супраціўленне. Для падаўлення супраціўлення Марксу запатрабаваліся б мільёны жаўнераў для вайны супраць свайго народа, таемная паліцыя, публічныя паказальныя пакаранні сьмерцю і іншыя захады. Калі ён здолеў бы задушыць супраціў, то тады немцы пабеглі б у суседнія краіны. Дарэчы, Маркс прадбачыў масавае збяганне і прапанаваў крутыя захады супраць незадаволеных і збягаючых. І не Хрушчоў, а Маркс будаваў бы сьцяну вакол свайго раю, не Эрых Хонэкер, а Маркс аддаваў бы загады забіваць збягаючых. У канчатковым выніку Маркс вымушаны быў бы пачаць рэвалюцыйную вайну супраць суседніх краін для таго, каб яны не служылі прынадай для яго падданых. Але ўсталяваннем камунізму ў Аўстрыі, Францыі, Швейцарыі праблему вырашыць немагчыма: немцы, аўстрыйцы, французы, швейцарцы пабягуць далей – у Брытанію, Італію, Гішпанію, і Маркс павінен будзе вайну працягваць у сусьветным маштабе. Сам ён гэта разумеў і менавіта таму лічыў, што камунізм можа існаваць толькі ва ўсім сьвеце.

Для насельніцтва кожнай камуністычнай краіны суседняя нармальная краіна – прыклад для параўнання. Параўнанне заўсёды не на карысць камунізму. Людзі ў Паўночнай Карэі глядзяць на сваіх суседзяў у Паўднёвай Карэі і робяць высновы. Само існаванне Паўднёвай Карэі ўяўляе небяспеку для існавання камунізму ў Паўночнай Карэі – людзі перастаюць верыць камуністам. Таму дзьве сістэмы побач доўга суіснаваць не могуць. Менавіта таму працяглае суіснаванне дзвух Германій было немагчымым. Людзі беглі із Усходняй Германіі, краіна губляла свой інтэлектуальны патэнцыял і дзеля самазахавання павінна была б аднойчы (разам з хаўруснікамі) ці ўсталяваць камунізм у Заходняй Германіі, ці знікнуць.

Аднак ператварэнне суседняй краіны ў камуністычную не вырашае праблемы. Паўночны камуністычны В'етнам пашырыў камунізм на Паўднёвы В'етнам, але людзі пабеглі яшчэ далей…

Вось чаму Маркс і Энгельс бачаць выйсце толькі глабальнае, толькі сусьветнае: усё насельніцтва Зямлі загнаць у адно працоўнае войска, усіх падначаліць аднаму ўраду, каб нідзе не было прывабнага ў замежжы. Таму ў кожнай сваёй кнізе тэрмін «дзяржава» яны выкарыстоўваюць толькі ў адзіночным ліку і падкрэсліваюць, што гаворка ідзе пра адзіную сусьветную дзяржаву, што гэта задумана для ўсіх народаў, назаўсёды, як вянок чалавечага развіцця, лепш якога нічога прыдумаць немагчыма. Маркс лічыў патрэбным пашырыць сваю ідэю на ўсіх людзей, як існуючых, так і на ўсе будучыя пакаленні.

Сусьветная рэвалюцыя – адзіна магчымы варыянт існавання чыстага марксізму. Маркс і Энгельс нічога іншага не дапускалі нават тэарэтычна.

Сусьветная рэвалюцыя магла ўзнікнуць толькі ў выніку сусьветнай вайны. Маркс і Энгельс сусьветную вайну прадказвалі, пра сусьветную вайну марылі…

Сталін таксама разумеў, што працяглае існаванне камуністычнага рэжыму (хай не ў чыстым марксісцкім, але нават у вельмі мяккім сталінскім варыянце) побач з нармальнымі дзяржавамі немагчыма. «Існаванне Савецкай рэспублікі каля імперыялістычных дзяржаваў працяглы час немагчыма». Гэта казаў Ленін. І паўтараў шматкроць: «Пакуль засталіся капіталізм і сацыялізм, яны мірна жыць не могуць: або адно, або другое, нарэшце, пераможа; або па Савецкай рэспубліцы

будуць спяваць паніхіды, або – па сусьветнаму капіталізму». Гэтыя ленінскія выказванні Сталін цытаваў часьцей усяго.

Каб схаваць сутнасць сваёй сістэмы, камуністы ўяўлялі справу так, што Савецкі Звяз – гэта нібы-та проста Расійская імперыя. На першы погляд у вочы кідалася падабенства: усё тыя ж межы, усталяваныя Кацярынай Другой, усе тыя ж суседзі, з якімі ў Расіі стагадовыя канфлікты.

Але было і адрозненне паміж Савецкім Звязам і ўсімі імперыямі, у тым ліку адрозненне і з Расійскай імперыяй.

Адрозненне вось у чым.

Тэарэтычна Чынгісхан мог спыніцца на якой заўгодна мяжы і далей не ісьці. Мог спыніцца Аляксандр Македонскі, Атыла, Банапарт. Кожная імперыя – Брытанская, Гішпанская, Французская, Расійская – магла спыніцца на нейкіх межах і больш не пашырацца.

Савецкі Звяз спыніцца не мог.

Савецкі Звяз павінен быў пашырыцца на ўвесь сьвет, таму што не мог існаваць каля нармальных дзяржаваў. Выратаванне камунізму было толькі ў яго пашырэнні па ўсяму сьвету, у знішчэнні нармальнага жыцця ў астатніх краінах, каб для савецкага народа не было краіны, пра якую можна марыць, не было б краіны, у якую была магчымасць збегчы, не было б у замежжы іншага, не такога як у нас, жыцця. Патрэбна было ўсталяваць камунізм усюды, каб праз некалькі пакаленняў людзі забыліся, што магчыма нейкая іншая форма існавання.

Вось чаму Другая сусьветная вайна для Савецкага Звязу была пажаданай, патрэбнай і няўхільнай. Сталін рыхтаваў Другую сусьветную вайну як этап у змаганні за пашырэнне камунізму па ўсяму сьвету. Пашырэнне на ўвесь сьвет – не прымха Сталіна і не тэрытарыяльная экспансія Расійскай імперыі, гэта не ідэалогія, а жорсткае змаганне за жыццё. Так змагаецца за жыццё зязюліна птушаня-падкідыш, вылупіўшаяся із яйка ў чужым гняздзе. Яно проста абавязана выкінуць із гнязда законных насельнікаў, загубіць іх, каб выжыць самому. Ленін увесь час падкрэсліваў: пашырэнне патрэбна для самазахавання камунізму. Не будзем пашырацца – загінем. Вось чаму, захапіўшы ўладу ў адной краіне, Ленін стварыў Камінтэрн – штаб Сусьветнай рэвалюцыі – магутную шпіёнска-падрыўную арганізацыю, якая раскінула свае сеткі па ўсяму сьвету.

Перамога ў Другой сусьветнай вайне ў ленінскім і сталінскім разуменні – гэта захоп як мінімум усёй Германіі, Францыі, Італіі, Гішпаніі і іхных калоній. Такая перамога не была дасягнута. І пачалося раскладанне, якое прывяло савецкі камунізм да няўхільнага развалу.

Але ў дваццатых гадах дваццатага стагоддзя камуністы былі поўныя надзеяў. Патрэбна сказаць, надзеяў цалкам абгрунтаваных…

Вось чаму яны пачынаючы з самых першых гадзін пасьля захопу ўлады загаварылі пра новую сусьветную вайну і пра Сусьветную рэвалюцыю.

Менавіта таму Сталін і загадаў галаву Леніна зрабіць вялікай…

# Глава III

## Спроба першая

«Замацоўвай у сусьвета на горле пралетарыята пальцы».
В.Маякоўскі

11 лістапада 1918 года завяршылася Першая сусьветная вайна. А 13 лістапада савецкі ўрад у аднабаковым парадку скасаваў Берасьцейскую дамову і аддаў Чырвонаму Войску загад на наступленне. Дастаткова разгарнуць пратаколы кожнага са шматлікіх паседжанняў і з'ездаў тых дзён, каб пераканацца: на парадку дня адзінае пытанне – пра Сусьветную рэвалюцыю.

Мэта савецкага наступлення – камунізм у Яўропе.

Праз некалькі дзён Чырвонае Войска ўступіла на тэрыторыю дзяржаў Балтыі. 29 лістапада быў сфарміраваны камуністычны ўрад Эстоніі, 14 снежня – Латвіі. Крыху пазней – Літвы. 17 снежня ў Рызе апублікаваны маніфест: бліжэйшая мэта наступлення – Германія. Галоўная мэта – распаліць новую сусьветную вайну.

Але нават не патрэбна чытаць заклікаў і маніфестаў, рашэнняў з'ездаў і рэзалюцый – магутны заклік да сусьветнай вайны працінаў у тыя дні ўсё жыццё ашалелай чырвонай Расіі. Заклік да новай сусьветнай вайны крычаў з першай старонкі новай чытанкі, з мільёнаў плакатаў, якімі як шпалерамі былі аблеплены сядзібы і вуліцы, заклік гучаў на кожным працоўным сходзе, на кожным мітынгу чырвонаармейцаў, з кожнай трыбуны, з кожнага ліхтара і ўжо, вядома, са старонак паэтычных складанак: сусьветны пажар раздуем!

Нашы паэты ішлі далей. Некаторыя з іх у 1918 годзе Другую сусьветную вайну ўспрымалі не як пажаданую, радасную, няўхільную і блізкую будучыню, але як рэчаіснасць – словы П.Арэшына, музыка І.Шведава, «На штыкі»:

Бой апошні, наважны бой, на арэне гарыць сусьветнай.
На штыкі пад набат і пажар мы зямны перакулілі шар.

Цікава, што зараз, гартаючы пажаўцеўшыя складанкі савецкіх песень, мы ў тым жа томе праз некалькі старонак можам сустрэць «Мы за мір!» А.Жарава і с.Тулікава:

Усёй зямлі народ хай трывогу б'е: будзем мір захоўваць!
Паднімемся як адзін, скажам: не дадзім зноў вайну запаліць!

У кожнай складанцы савецкіх песень абавязкова – «Чырвонае Войска ўсіх мацней» П.Грыгор'ева і С.Покраса: Мы раздуем сусьветны пажар …

І тут жа – «У Абарону міру» І.Фрэнкеля і В.Белага:

Зноў багацеі распальваюць пажар, міру рыхтуюць сьмяротны ўдар…

Гэтыя песьні складалі і спявалі тыя ж самыя людзі. Мы распальвалі вайну і люта змагаліся супраць нейкіх багацеяў-падпальшчыкаў.

Адольф Гітлер – адна із самых жахлівых асоб у сусьветнай гісторыі. Але Другую сусьветную вайну савецкія лідары спрабавалі пачаць ДА ТАГО, як Адольф Гітлер пад нумарам 007 запісаўся ў Германскую працоўную партыю.

У 1918 годзе Чырвонае Войска да Германіі не дайшло і распаліць Другую сусьветную вайну ў нас не атрымалася. У 1919 годзе ў шэрагу германскіх гарадоў узніклі камуністычныя ўрады. Але зараз Леніну было не да Германіі. Ленін у 1919 годзе, як і ў папярэднім 1918-м, ваяваў супраць народаў былой Расійскай імперыі.

Але таварыш Ленін глядзеў наперад. І таварыш Троцкі – таксама. 5 жніўня 1919 года Троцкі піша свой знакаміты мемарандум: «Шлях на Парыж і Лондан ляжыць праз гарады Афганістана, Пенджаба і Бенгаліі…» Троцкі прапануе падрыхтоўку вайсковага ўдару на Індыю, на дапамогу індускай рэвалюцыі». Для гэтага, адпаведна з яго думкай, патрэбна стварыць на Ўрале ці ў Туркестане «палітычны і вайсковы штаб азіяцкай рэвалюцыі і рэвалюцыйную акадэмію», сфарміраваць асобны конны корпус магутнасьцю роўнай 30000-40000 тысяч вершнікаў і «кінуць яго на Індыю» на дапамогу «тубыльным рэвалюцыянерам». Троцкі марыў «вымыць капыты чырвоных коней» у цёплых водах Індыйскага

акіяна. Але і тады пачаць Другую сусьветную вайну не атрымалася. Народы былой Расійскай імперыі са зброяй у руках ваявалі супраць камуністаў і не дазволілі ім распаліць «тубыльную рэвалюцыю» ў 1919 годзе.

У 1920 годзе камуністы пачалі новую спробу раздуць Другую сусьветную вайну прарывам праз Польшчу ў Германію. Гэтым разам мэта – «напаіць чырвоных коней вадой Віслы і Рэйна». Вось вытрымкі із загаду войску Заходняга фронту №1423 ад 2 ліпеня 1920 года: «…На захадзе вырашаецца лёс сусьветнай рэвалюцыі. Праз труп белай Польшчы ляжыць шлях да сусьветнага пажару. На штыках панясём шчасьце і мір працоўнаму чалавецтву. На захад!..» Падпісана: Тухачэўскі, Смілга, Уншліхт, Шварц.

Нашы камандыры, паэты і камісары размаўлялі на адной і той жа мове: на штыкі – ды да сусьветнага пажару. І кожны загад таго часу – у тым жа духу. Вось вытрымка із загаду №1847 ад 20 жніўня 1920 года: «Заходні фронт з'яўляецца фронтам сусьветнай рэвалюцыі». Подпісы тыя ж.

І мала хто разумее, што яны былі блізкімі да перамогі. Для перамогі патрабавалася зусім не класічная акупацыя – дастаткова было падпаліць. А падпаліць – справа не вельмі хітрая. Скатаваная Першай сусьветнай вайной, спустошаная, да крайняй мяжы знясіленая, саслабеўшая Яўропа шуганула б.

Чырвонае Войска ўступіла на тэрыторыю Польшчы і неадкладна ў першым жа захопленым горадзе было абвешчана пра стварэнне ПССР – Польскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (Дакументы і матэрыялы па гісторыі савецка-польскіх стасункаў. М., 1964. т. 3. с.221).

ПССР узначалілі таварышы із лубянкаўскай установы, уключаючы самога Ф.Э.Дзяржынскага і яго намесьніка І.С.Уншліхта.

Заходнім фронтам кіраваў Тухачэўскі. Вось вытрымкі із яго кнігі «Паход за Віслу», якая была выдадзена ў 1923 годзе ў Смаленску, глава «Рэвалюцыя звонку»:

«Ці магла Яўропа адказаць на гэты сацыялістычны рух выбухам рэвалюцыі на Захадзе? Падзеі сведчаць, што так…. Такім чынам, Няметчына рэвалюцыйна булькатала і для канчатковага выбуху толькі чакала судатыкання з узброеным струменем рэвалюцыі. У Ангельшчыне працоўны стан дакладна гэтак жа быў ахоплены жывейшым рэвалюцыйным рухам…. У Італіі выбухнула сапраўдная пралетарская рэвалюцыя…. Няма ніякага сумневу ў тым, што калі б на Вісле мы здабылі перамогу, то рэвалюцыя ахапіла б полымем увесь Еўрапейскі мацярык…. Рэвалюцыя звонку была магчымай».

А вось із заключнай часткі той жа кнігі: «Наша аперацыя вымусіла дрыжаць увесь еўрапейскі капітал…. Гэты пажар не застаўся б абмежаваным польскімі рамкамі. Ён разнёсся б бурным струменем па ўсёй Заходняй Яўропе. Пра гэты досьвед рэвалюцыі звонку Чырвонае Войска не забудзецца».

Маршал Юзэф Пілсудзкі, узначаліўшы польскую дзяржаву і войска ў вайне супраць камуністаў, у сваёй кнізе «1920 год» (Варшава, 1924) цалкам згаджаецца з ацэнкай сітуацыі: лёс сусьветнай цывілізацыі быў блізкім да катастрофы. Склалася сапраўды драматычная сітуацыя, калі, адпаведна са словамі Пілсудзкага, «над усёй Варшавай загусьцеў кашмар немачы і баязлівасьці».

У выпадку захопу Варшавы для Чырвонага Войска дарога ў Яўропу была б адкрыта. У 1920 годзе, акрамя Польшчы, супраціўляцца ў Яўропе не было каму.

Пілсудзкі лічыў, што «гэтая вайна амаль не перавярнула лёс усяго цывілізаванага сьвету».

Пілсудзкі разграміў камуністычнае войска пад Варшавай. Асноўнай слабасьцю чырвоных ён лічыў няздольнасць Тухачэўскага кіраваць войскам, няўменне «пагадняць свае думкі са штодзённай жыццядзейнасьцю войска». Калі б на месцы Тухачэўскага апынуўся іншы камандыр, хаця б трохі разбіраўшыся ў пытаннях стратэгіі, то Чырвонае Войска прайшло б у Няметчыну. А ў Няметчыне на той момант палітычная і эканамічная сітуацыя была на грані анархіі.

Але Яўропе пашанцавала і гэтым разам: Польшча адбіла «чырвоных коней».

А потым спробы развязаць вайну і рэвалюцыю савецкія камуністы паўтаралі шматкроць. Быў намер распаліць «Балканскую рэвалюцыю», а з раёна Балкан, згодна са славамі Троцкага, – прамы шлях да портаў Францыі і Брытаніі. Быў распрацаваны замах на баўгарскага цара Барыса. Ён дзівам ацалеў. «Баўгарская рэвалюцыя павінна была з'явіцца пралогам да нямецкай рэвалюцыі» (Л.Троцкі. Урокі Кастрычніка. Л.: «Прыбой», 1924. с. 221). Былі спробы пачаць рэвалюцыю ў Паўднёвай Амерыцы, у Кітаі, Індыі.

Але галоўнай мэтай заставалася Няметчына.

Адна із некалькіх спроб захапіць уладу ў Няметчыне ўяўляе асаблівую цікавасць. Гэта спроба была зроблена восенню 1923 года. Барыс Бажанаў гэтую падзею апісвае так: «Пад канец верасня адбылося надзвычайнае паседжанне Палітбюро, такое сакрэтнае, што на яго былі закліканы толькі сябры Палітбюро і я. Ніхто із сябраў ЦК на яго дапушчаны не быў. Яно было склікана для таго, каб зафіксаваць дату перавароту ў Няметчыне. Ён быў прызначаны на 9 лістапада 1923 года» (Успаміны былога сакратара Сталіна. Парыж: «Трэцяя хваля», 1980. с. 69).

План просты: 7 лістапада – угодкі захопу ўлады камуністамі ў Расіі, нямецкія працоўныя выйдуць на дэманстрацыі салідарнасьці, а падрыхтаваныя ў Маскве згуртаванні правакатараў ДПУ і савецкай вайсковай выведкі пад кіраўніцтвам І.С.Уншліхта будуць правакаваць канфлікты з паліцыяй, каб выклікаць крывавыя сутычкі і рэпрэсіі, раздуць абурэнне працоўных. 7 лістапада планаваўся як дзень дэманстрацый і сутыкненняў, 8 лістапада сутыкненні павінны былі перарасьці ў вулічныя баі, пад час ночы на 9 лістапада атрады Уншліхта павінны былі захапіць самыя важныя дзяржаўныя ўстановы пад выглядам стыхійнай рэакцыі мас на зверствы паліцыі.

Сцэнар просты, але надзейны. Грунтуючыся менавіта па гэтым сцэнары здзейснілася так званая «вялікая кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя». Згодна з гэтым сцэнарам перамагалі «пралетарскія рэвалюцыі» ў Эстоніі, Літве і Латвіі як у 1918, так і ў 1940 годзе. Згодна з гэтым сцэнарам камуністы прыходзілі да ўлады ў шмат якіх краінах пасьля Другой сусьветнай вайны: стыхійнае выступленне працоўных, народнае абурэнне… і невялікія згуртаванні спрытных прафесіяналаў.

На лістападаўскія дэманстрацыі 1923 года была паднята моц усіх левых згуртаванняў Няметчыны.

Да гэтага моманту Нямецкая працоўная партыя ўжо мела новую назву – Нацыянал-сацыялістычная германская працоўная партыя – і новага фюрара – Адольфа Гітлера.

Дык вось, Гітлер таксама вырашыў браць уладу ў той жа самы дзень, які быў прызначаны ў Маскве. Ці былі ў яго інструкцыі з Масквы? Не маю ніякага разумення.

Але патрэбна памятаць: Гітлер – сацыяліст. Калі з вокладкі прыбраць імя аўтара і назву партыі, то пад эканамічнай праграмай партыі Гітлера з гонарам маглі

б падпісацца Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін, Мао, Фідэль, Хрушчоў, Брэжнеў і яшчэ шмат хто.

Запярэчаць, Гітлер – не із пралетарыяў. Самая што ні на ёсць праўда. Але і Уладзімір Ілліч таксама, мякка кажучы, не ад станка, ды і Маркс – не із забою.

Кажуць, што партыя Гітлера – партыя крамнікаў і дробнай буржуазіі. Хай кажуць. Але дзеля справядлівасьці патрэбна звярнуць увагу і на ленінскую партыю. Пралетараў у ёй трымалі для статыстыкі, а запраўлялі Сталін, Молатаў, Малянкоў, Радэк, Зіноўеў, Каменеў, той жа Троцкі, а потым – Суслаў, Хрушчоў, Брэжнеў… Хто ж з іх, прабачыце, пралетар?

Згодна з сацыяльным складам партыя Леніна і партыя Гітлера – двайняты-сёстры.

Такім чынам, 8 лістапада 1923 года ў Мюнхене Гітлер са згуртаваннем узброеных прыхільнікаў арыштаваў урад Баварыі і абвясьціў, што рэвалюцыя пачалася, што баварскі і агульнаімперскі ўрады адхілены ад улады…

Тут жа быў сфармаваны новы ўрад. Пад час ночы з 8 на 9 лістапада згуртаванне на чале з Эрнстам Рэмам захапіла штаб вайсковай акругі. Спробы захапіць іншыя аб'екты былі адбіты войскам і паліцыяй. 9 лістапада Гітлер узначаліў дэманстрацыю сваіх прыхільнікаў. Адбылося сутыкненне дэманстрантаў з узброенай паліцыяй. Было забіта 16 прыхільнікаў Гітлера і 3 паліцыянты.

Спроба захопу ўлады была гвалтоўна задушана. Гітлер і яго самыя блізкія прыхільнікі збеглі, хутка былі злоўлены, паўсталі перад судом, далей – заняволенне ва ўмацаванні Ландсберг, дзе Гітлер і напісаў «Майн кампф».

Пазьней, прыйшоўшы да ўлады, Гітлер абвясьціў загінуўшых патужнікаў нацыянальнымі героямі, а дні паўстання 8-9 лістапада – галоўным сьвятам Няметчыны.

Але цікава вось што: кніга «Майн кампф» прысьвечана памяці шаснаццаці патужнікаў Гітлера, забітых 9 лістапада 1923 года, але ў вялізнай кнізе (толькі ў першым томе амаль 600 старонак дробным шрыфтам) ён нічога не піша пра падзеі 8-9 лістапада. Кнігу Гітлер піша ў заняволенні, але не паведамляе, як і чаму ён патрапіў за краты. Усё, што папярэднічала гэтым падзеям, Гітлер чамусьці хавае. Замест гэтага на апошняй старонцы коратка: «Я не буду пашырацца тут пра падзеі, якія прывялі да 8 лістапада 1923 года». І ўсё.

Хаця дзіўна. Кніга мае назву «Маё змаганне», аўтар распавядае пра сябе, пра сваю партыю і пра змаганне за ўплыў на масы і за ўладу. Падзеі 8-9 лістапада 1923 года – кульмінацыйны момант гэтага змагання, пасьля чаго партыя Гітлера была забаронена, а яго самога заняволілі. На момант напісання кнігі нічога больш значнага ў жыцці Гітлера і яго партыі не адбылося. Але самых важных падзей ён не апісвае.

А хаваць ёсць што.

Няўдалая рэвалюцыя Гітлера самым дзіўным чынам супала з няўдалай камуністычнай рэвалюцыяй. Супадзенняў некалькі. Яны здзіўляюць.

Дата рэвалюцыі была прызначана ў Маскве і захоўвалася як самая вялікая таямніца. Але Гітлер вырашыў сваю рэвалюцыю праводзіць у той жа самы дзень, пад тым жа чырвоным сьцягам, пад тымі ж лозунгамі экспрапрыяцыі непрацоўных прыбыткаў, нацыяналізацыі канцэрнаў, канфіскацыі вайсковых прыбыткаў. Тактыка гітлераўцаў цалкам адпавядае таму, што Масква наказала сваёй агентуры: праводзіць дэманстрацыі насуперак забаронам, адважна ісьці на сутычкі з

паліцыяй, захопліваць урадавыя будынкі. Відавочна супадзенне адпаведна з мэтай, метадах, месцам і часам з дакладнасьцю да гадзін і хвілін.

Яшчэ больш здзіўляе вось што. Ленін, Троцкі, Сталін верылі ў змову, пераварот, захоп улады арганізаванай меншасьцю. Менавіта гэта яны і вырабілі ў Расіі. У Гітлера іншы падыход. Гітлер – дэмагог, гарлахват, агітатар. «Майн кампф» – гэта кніга завадатара натоўпу, ведаючага, як ставіцца да натоўпу, як заваяваць яго давер і павагу. «Майн кампф» – гэта кніга пра тое, як заваяваць уладу легальным шляхам, але ў ёй ні слова, ні намёку на падпольныя ленінска-сталінскія метады. У сферы легальнага, адкрытага змагання за ўплыў на масы Гітлер значна мацнейшы за Леніна, Троцкага і Сталіна разам узятых. А ў сферы мецяжу і змовы Гітлер відавочна слабейшы. Але яго ў гэту вобласць і не цягнула. Праз дзесяць гадоў ён прыйдзе да ўлады легальным шляхам – з дапамогай агітацыі, прапаганды, дэмагогіі, выбарчай скрынкі (і нечыяй каштоўнай дапамогі). Шлях гарлахвата – гэта яго шлях. Тут ён моцны і сваю магутнасць прамоўцы разумее і ёю ганарыцца.

Дык чаму ж Гітлера ў лістападзе 1923 года раптам пацягнула на ленінска-сталінскія метады? Ды яшчэ і адначасова з выступленнем, відавочна кіруемым із Масквы?

Семдзесят гадоў камуністычныя гісторыкі нас пераконвалі: гэта проста ланцуг дзіўных, нетлумачальных супадзенняў. Бывае ж такое: мы вырашылі браць уладу, і ён вырашыў. У адзін дзень.

Ну добра. Хай будзе так. Паверым.

Але быў у мяне добры настаўнік – выканаўца абавязкаў рэзідэнта ГВУ ў Жэневе, мацёры воўк выведкі Валер Пятровіч Калінін. Званне контр-адмірала ён не атрымаў праз мяне. А годны быў куды больш высокіх званняў. Дык вось ён мяне вучыў: калі супадзенняў больш двух, гэта азначае, што гэта ўжо не супадзенні…

Кароткі вынік: спробы выкарыстаць Гітлера і яго партыю для дэстабілізацыі палітычнага становішча ў Няметчыне савецкія камуністы пачалі задаўга да прыходу Гітлера да ўлады. Але нават калі спробу супольнага захопу ўлады абвясьціць ланцугом нетлумачальных супадзенняў, то шматлікія спробы савецкіх камуністаў «распаліць пажар сусьветнай» і пачаць Другую сусьветную вайну ніякімі супадзеннямі патлумачыць немагчыма – гэта іхная натура. Яна выявілася адразу, пачынаючы з самага першага моманту існавання пралетарскай дыктатуры. Першую спробу пачаць Другую сусьветную вайну камуністы Расіі пачалі 13 лістапада 1918 года, г.зн. на трэцці дзень пасьля заканчэння Першай сусьветнай вайны.

x x x

Некалі вельмі даўно я вучыўся ў школе, завяршаў першы клас. Рыхтавалі пастанову. Галоўнае ў нашых пастановах – хор. Рэпертуар – стандартны: рэвалюцыйныя песьні пра паравоз, перадваенныя пра сустрэчнага, ваенныя пра Кацюшу і пасьляваенныя. Пачыналі, як было заведзена:

Мы раздуваем сусьветны пажар …

Павольна пераходзілі:

Даеш Варшаву! Дай Берлін!
Ужо ўрэзаліся мы ў Крым!

Потым было шмат усяго, а завяршалі:

Зноў багацеі распальваюць пажар…

Мая першая настаўніца Ганна Янаўна з намі вучыла словы. У той час мяне клікалі Вовачкай, я быў дысцыплінаваным хлопчыкам у белым каўнерыку, перад

тым як задаць пытанне, паднімаў руку. Я атрымаў дазвол задаць пытанне і яго задаў…

Яна была здзіўлена.

Зараз, згадваючы гэтую інтэлігентную жанчыну, яе вытрымку і разважлівасць, яе сумную ўсмешку, я раблю для сябе выснову: яна, верагодна, да таго часу ўжо адкруціла адзін тэрмін. Ды і хто б загнаў яе ў мястэчка Барабаш Хасанскага раёна Прыморскага краю, калі яна не жонка афіцэра?

Але тады мне гэтага разумець было не дадзена. Я проста адчуў, што сваім пытаннем яе аглушыў. І мне зрабілася шкада яе.

Яна нічога не адказала. Потым праз некалькі дзён сустрэла мяне аднаго ў калідоры і сказала, што я дабром не скончу, калі буду задаваць такія пытанні. Мудрая жанчына ў адным пытанні разглядзела ўвесь мой лёс. І выявілася маючай рацыю.

Маё пытанне яе ашаламіла. Але і я быў здзіўлены.

Яна была чалавекам, як мне зараз уяўляецца, вельмі нават неардынарным. Але да таго, як я задаў пытанне, яе відавочна не бянтэжылі супярэчнасьці, выкрыкваемыя нашым бязглуздым хорам. Яна іх не заўважала.

А тут заўважыла і ацаніла.

Але мяне ўразіла іншае: мы вучылі песьні ўсім класам, але чаму ніхто, акрамя мяне, не задаў пытання? Гэта было незразумела.

Гэта неразуменне я пранёс праз усё сваё няскладнае жыццё.

# Глава IV

## Што будзе пасьля адпачынку?

«Калі Расія заключыць мір, то гэты мір будзе толькі
перамір'ем. Сацыялістычная рэвалюцыя ў Расіі пераможа
толькі тады, калі яна будзе аточана колам сацыялістычных
рэспублік сясьцёр. Мір, заключаны з імперыялістычнай
Няметчынай, будзе з'явай эпізадычнай. Ён дасць невялікі
адпачынак, пасьля якога зноў закіпіць вайна».
Г.Зіноўеў, сябра Палітбюро, Старшыня Камінтэрна. Творы.
Л.,1925: т. 7. с.490.

Рускім камуністам патрэбна аддаць належнае: нават сярод іх з'яўляліся (часам) людзі, якія лічылі, што патрэбна адмовіцца ад панавання бюракратыі, г.зн. ад дзяржаўнага кіравання эканомікай, г.зн. ад сацыялізму, і вярнуцца да нармальнага чалавечага жыцця.

Сярод нешматлікіх – «улюбёнец партыі» Мікалай Бухарын. У мінулым Бухарын быў тэарэтыкам масавых расстрэлаў як аднаго са спосабаў вывядзення новай пароды людзей камуністычнага заўтра – гома саветыкусаў, г.зн. саўкоў. Пасьля правалу цэлай серыі спроб Чырвонага Войска пачаць Другую сусьветную вайну і Сусьветную рэвалюцыю Бухарын задумаўся і кінуў у масы вельмі нават некамуністычны лозунг: «Абагачайцеся!»

Пад такім лозунгам можна было прывольна жыць і людзям не было патрэбы бегчы са сваёй краіны. Але калі масы будуць жыць пад такім лозунгам, навошта ім патрэбны камуністы на чале дзяржавы?

Таварыш Сталін вырашыў, што лозунг «Абагачайцеся!» – відавочны адыход ад ідэалаў, што з Бухарына новы камуністычны чалавек ніяк атрымацца не зможа.

Таму таварышу Бухарыну быў прызначаны шлях у расстрэльны склеп, у той самы, які ён раней апяваў.

А што ж рабіць усім астатнім камуністам, якія ад ідэалаў не адмовіліся і ў расстрэльны склеп не патрапілі? Суіснаваць з нармальнымі краінамі іх рэжым не мог, таму суседнія краіны неабходна было ператварыць у сёстры рэспублікі, але тады з'явілася б новая мяжа, за якой – іншыя нармальныя краіны, іх таксама патрэбна было б ператвараць… і г.д. Для гэтага патрэбен быў «сусьветнай пажар», а ён ніяк не разгараўся.

Калі непрыяцельскую краіну (ці краіны, ці ўвесь сьвет) не здолелі захапіць, а ад захопу адмовіцца немагчыма, то застаецца два шляхі: а) працягваць не даючыя вынікаў спробы штурму; б) штурм спыніць, падпісаць перамір'е, добра падрыхтавацца і штурм паўтарыць.

У шэрагах расійскай камуністычнай партыі неадкладна з'явіліся прыхільнікі як першага, так і другога напрамку.

За першы шлях стаяў Троцкі з ідэяй перманентнай рэвалюцыі. За другі – Ленін і Сталін.

Троцкі: патрэбна прабіваць сьцяну ілбом, без перапынку.

Ленін і Сталін: хай капіталісты паміж сабой перагрызуцца, а мы пачакаем. А мы пакуль назапасім моц.

Ленін першым зразумеў, што Першая сусьветная вайна завяршылася, але пакінула пасьля сябе спадчыну-дынаміт. Краіны-пераможцы, асабліва Францыя, захапіліся і прызначылі пераможанай Няметчыне жахлівыя рэпарацыі. Перамога заходніх хаўруснікаў была замацавана Версальскай дамовай, рабаўніцкай і зневажальнай для Няметчыны. Выплочванне вялізных сум пераможцам мела наступствам жорсткі эканамічны крызіс у Няметчыне і паставіла германскі народ на мяжу голаду, галечы, на мяжу пастаяннага бедства.

Ленін першым зразумеў, што Версальская дамова – бомба, закладзеная пад Яўропу. Патрэбна было толькі дадаць да яе выбухоўнік і запусьціць механізм. Ленін зразумеў, што прагнасць загубіць пераможцаў: Няметчына ніколі не прымірыцца з несправядлівасьцю, у Няметчыны знойдуцца магутнасьці, якія выступяць супраць Версальскай дамовы, за перагляд вынікаў Першай сусьветнай вайны, выступяць з ідэяй рэваншу і яго ажыццявяць.

Ужо ў 1920 годзе Ленін на нарадзе старшыняў павятовых, валасных і вясковых выканаўчых камітэтаў казаў: «…упарадкаванне на якім трымаецца Версальскі мір, знаходзіцца на вулкане, таму што тыя $^{7}/_{10}$ насельніцтва ўсёй зямлі, якія заняволены, толькі і чакаюць не дачакаюцца, каб знайшоўся нехта, хто пачаў бы змаганне, каб пачалі хістацца ўсе гэтыя дзяржавы» (ПЗТ. т. 41. с. 353).

Менавіта ў гэты момант нехта знайшоўся. Гэты самы нехта запісаўся ў Нямецкую працоўную партыю пад нумарам 007.

Ленін настаяў на спыненні спроб на штыках Чырвонага Войска прынесьці шчасьце суседнім краінам, на тым, каб з суседнімі краінамі былі ўсталяваны дыпламатычныя і гандлёвыя стасункі.

І вось – Генуэзская канферэнцыя. Захад здзіўлены: савецкая дэлегацыя ў чорных фраках, у шаўковых цыліндрах… Захад – у захапленні: яны перамяняюцца! Яны робяцца такімі, як усё!

Нехта асьцярожна папярэджвае: патрэбна даць выпрабавальны тэрмін перад тым, як сядаць з імі за адзін стол…

А нашы камуністы не хавалі, што нічога не перамяняецца. Ім патрэбны толькі тры рэчы: тэхналогіі, тэхналогіі і тэхналогіі. Ім патрэбна ўзбройвацца, узбройвацца, узбройвацца. Потым яны маюць намер здзейсніць Сусьветную рэвалюцыю, для чаго ім патрэбна распаліць Другую сусьветную вайну. Але гэта будзе толькі пасьля сур'ёзнай падрыхтоўкі. А зараз – адпачынак.

Шануемы сталінскі паэт Уладзімір Маякоўскі напісаў у тыя дні верш «Мая прамова на Генуэзскай канферэнцыі»:

Мы ехалі, аглядаючы гаспадарчым вокам будучую
Сусьветную Федэрацыю Рад.
Балбочуць язычышкі газетных радкоў:
«Выпрабаваць іх спачатку…»
Хапілі лішку!

Не вы прызначаеце нам выпрабавальны тэрмін – а мы часова даём вам перадышку.

Сталін вельмі добра зразумеў ідэю Леніна і пасьля смерці правадыра абараніў ленінізм у змаганні супраць прыхільнікаў прабівання сьцен галавой. Шлях Сталіна просты і зразумелы: часова спыніць штурм, замацаваць уладу камуністаў унутры Расіі, з дапамогай Захаду падняць прамысловасць, пераўзброіць войска. Адначасова выгадаваць некага, хто стане на чале Няметчыне і знішчыць Францыю.

А гэты самы нехта сядзеў тым часам у зняволенні і пісаў «Майн кампф». Самы першы пераклад «Майн кампф» быў на рускую мову. Праўда, аўтару нічога не заплацілі, і ў вітрынах кнігарняў у нас пры таварышу Сталіне «Майн кампф» не выстаўлялі. Гэта быў звычайны для нас акт літаратурнага пірацтва. Кніга была перакладзена і выдадзена для кіраўнікоў партыі, войска, дзяржавы. Маршал Савецкага Звязу К.К.Ракасоўскі сведчыць: «Усе мы ў свой час чыталі кнігу Гітлера „Майн кампф“ (ВГЖ. 1989. №4. с. 53).

Троцкі не разумеў намераў Сталіна і абвінавачваў яго ў адыходзе ад ідэалаў. Захад таксама не зразумеў сталінскіх намераў. Больш дакладна, лідары Захаду бачылі не тое, што існуе ў рэчаіснасьці, а тое, што ім было пажадана бачыць.

А ім было пажадана, каб камуністычная Расія стала такой жа краінай, як і ўсе, каб ачуняла ад шаленства, каб засяродзілася на сваіх праблемах, каб не спрабавала кінуць увесь сьвет у той бруд, у якім апынулася сама.

Зараз нам кажуць, што Сталін проста адмовіўся ад ідэі Сусьветнай рэвалюцыі. І довады: выйшаў фільм «Браняносец „Пацёмкін“, на прыканцы фільма лозунг „Жыве Сусьветная рэвалюцыя!“. Сталін загадаў лозунг скасаваць… Ці гэта не довад!

Я гэта довадам не лічу. Калі вы сапраўды сур'ёзна рыхтуецеся знішчыць Захад і для гэтага вам патрэбны ваенныя тэхналогіі Захаду, то патрэбна іх атрымаць, а махаць чырвонай анучай перад носам суседзяў умеюць нават дурні. Вялікага розуму для гэтага не патрабуецца.

І яшчэ довад. Выгнаны із краіны Троцкі ў далёкай Мексіцы піша чорным па беламу: Сталін здрадзіў працоўным станам і ад вялікай Ідэі адмовіўся…

Довад?

Магчыма.

Але не ўсё, што выказваў Троцкі, патрэбна ўспрымаць сур'езна. Троцкі, напрыклад, усё жыццё крытыкаваў савецкую бюракратыю, ён лічыў, што ўлада працоўных і сялян звялася да ўлады бюракратыі, прапаноўваў бюракратыю разагнаць, скараціць, паставіць пад працоўны кантроль і шмат яшчэ чаго прапаноўваў. Дзіўная пазіцыя: спачатку Троцкі забраў у людзей усё, што яны мелі,

і перадаў усё ў грамадзкую ўласнасць. Але калі ніхто асабіста не мае права распараджацца зямлёй, яе нетрамі, чыгункамі і заводамі, хто ж усім гэтым будзе кіраваць? Калі самага лепшага машыніста прызначыць ад імя працоўнага стану кіраваць Транссібірскай магістраллю, то яму запатрабуецца шмат тэлефонаў для таго, каб мець інфармацыю пра ўсе справы на ўсім працягу дарогі. Яму запатрабуюцца стол, на які ён гэтыя тэлефоны паставіць, кабінет для гэтага стала, шафа для папер, каб захоўваць уласныя дырэктывы, аддадзеныя ўчора і тыдзень назад, таму што дырэктывы, якія ён аддасць сёння, не павінны супярэчыць учарашнім. Яму запатрабуецца машыністка, якая будзе друкаваць паперы, памагатыя, хай таксама працоўныя, якія будуць кіраваць вельмі складаным арганізмам пад час яго адсутнасьці. Карацей, наш працоўны вельмі хутка із пралетара ператворыцца ў бюракрата.

Дзіўная логіка ў таварыша Троцкага: спачатку ўсё загадаў аддаць пад кантроль дзяржавы, а потым абураецца засіллем бюракратыі… І змагаецца супраць яе. Але калі не бюракраты будуць кіраваць, тады хто? У прыватную ўласнасць дарогу аддаць? Акцыянернаму таварыству? Навошта тады Сусьветная рэвалюцыя? І хто пасьля Сусьветнай рэвалюцыі будзе кіраваць усёй сусьветнай гаспадаркай?

Так што логіка Троцкага была вельмі кульгавая.

Палітыка – гэта змаганне за вызначаныя ідэі. Але каб ідэі ўвасобіць у жыццё, патрэбна ўлада. Таму палітыка – гэта змаганне за ўладу. Веліч і нікчэмнасць палітыкаў правяраецца толькі адной меркай: якімі паспяховымі яны выявіліся ў змаганні за гэтую самую ўладу. Троцкі не ўтрымаўся на вяршыні ўлады, такім чынам, палітыкі не разумеў, выявіўся нікчэмным палітыкам і яго высновы пра палітычную сітуацыю не могуць уяўляць цікавасьці. Мексіканская глухмень і сталінская сякера Раймона Меркадэра, спыніўшая пошукі Троцкага ў вобласьці палітыкі, – лепшы доказ таго, што Троцкі дрэнна разумеў сітуацыю. Калі б разумеў яе добра, то быў бы правадыром Сусьветнай рэвалюцыі і сусьветнага пралетарыяту.

Патрэбна зразумець псіхалогію пераможанага, пазбаўленага ўсяго Троцкага. Мы часам сустракаем людзей, якія сябе занадта высока ставяць. Існуюць выбітныя і нават вялікія дзеячы кінематаграфіі, якія лічаць, што пасьля іхнага сыходу кінематаграфія зачаўрэе. Існуюць артысты балета, упэўненыя, што іхны талент – вяршыня, пасьля іх балет ужо ніколі не паднімецца на такую вышыню. Ёсць такія людзі і ў палітыку. Гітлер, напрыклад, лічыў, што застаўся жывы і здаровы таму, што ў свой час кінуў паліць, менавіта гэтая акалічнасць і выратавала германскі народ (Генры Пікер. Застольныя размовы Гітлера. Запіс ад 11 сакавіка 1942 г.). атрымліваецца, што калі б Гітлер не знайшоў у сабе моцы і не кінуў паліць, то германскі народ немінуча б загінуў, ніякіх іншых шляхоў для выратавання ў яго не заставалася…

Падобнага ж гледжання прытрымліваўся і Троцкі. Сябе і сваё імя ён непарыўна злучаў з Сусьветнай рэвалюцыяй. Усе яго артыкулы і лісты прасякнуты адзіным ускліканнем: «О, вярніце мяне на вяршыню! Без мяне ўсё прападзе!» І ўжо ніяк у Троцкага не атрымлівалася ўявіць Сусьветную рэвалюцыю без сваёй пярсоны на чале. Кожны ўчынак Сталіна Троцкаму бачыўся ў выглядзе жахлівага глупства, а сам Сталін, выказваючыся словамі Троцкага, быў «выбітной пасрэднасьцю». Зразумела, Сталін, як гэта бачылася Троцкаму, вёў вялікую справу не туды. Але і кожны іншы, апыніся ён на вяршыні ўлады, быў бы ў вачах Троцкага дурнем, здраднікам вялікай справы, пасрэднасьцю, бюракратам і інш. і інш.

Артыкулы Троцкага пра адыход Сталіна ад ідэі Сусьветнай рэвалюцыі – гэта лямант пацярпеўга. Не будзем звяртаць на іх увагі.

Два выбітныя расійскія гісторыкі Юры Лявонцьевіч Дзякаў і Таццяна Сямёнаўна Бушуева апублікавалі кнігу ўзрушаючай магутнасьці «Фашысцкі меч каваўся ў ЗССР». Якая гучная і ёмістая назва! Ужо ў назве ўтрымліваецца ўсё. Амаль чатырыста старонак – неаспэчныя доказы: Сталін рыхтаваў Няметчыну да вайны. Без сталінскай дапамогі Няметчына не здолела б узброіцца, разграміць Яўропу і напасьці на ЗССР.

У сталінскім плане нешта несрацавала, нешта пайшло не так, як задумвалася. Узброеная намі Няметчына на нас жа і напала. Але не для гэтага ж мы яе ўзбройвалі! Такім чынам, недзе Сталін пралічыўся. Недзе памыліўся. Дзе ж менавіта?

Кніга Дзякава і Бушуевай добрая тым, што вымушае думаць. Зачыніш кнігу на апошняй старонцы, адкладзеш, а назва не забываецца. Прачнешся ноччу: ФАШЫСЦКІ МЕЧ КАВАЎСЯ Ў ЗССР! І пытанне: НАВОШТА? НА ЧЫЮ ГАЛАВУ?

А адказ патрэбна шукаць у «Майн кампф», у XIII главе: «Мы павінны былі ўзяць кожны асобны пункт Версальскай дамовы і сістэматычна тлумачыць яго самым шырокім пластам народа. Мы павінны былі дамагчыся таго, каб 60 мільёнаў немцаў – мужчыны і жанчын, сталыя і дзеці – усе да аднаго чалавека адчулі ў сваіх сэрцах сорам за гэтую дамову. Мы павінны былі дамагчыся таго, каб усе гэтыя 60 мільёнаў зненавідзелі гэтую рабаўніцкую дамову да глыбіні душы, каб гэтая гарачая нянавісць загартавала волю народа і ўсё гэта вылілася ў адзін агульны кліч: ДАЙЦЕ НАМ ЗНОЎ ЗБРОЮ!»

Менавіта пра гэта і марыў таварыш Ленін: каб знайшоўся нехта… Вось ён – знайшоўся.

Версальская дамова не толькі патрабавала ад Няметчыны грошай, грошай і грошай для Францыі, але і забараняла Няметчыне мець, купляць, канструяваць, выпрабоўваць і вырабляць наступальную зброю і моцна абмяжоўвала абарончае ўзбраенне і колькасць войска Няметчыне.

І калі камуністы кажуць, што Сталін нібы адмовіўся ад ідэі Сусьветнай рэвалюцыі, я раю ім яшчэ раз прачытаць: «Фашысцкі меч…». Вось, напрыклад, вельмі сакрэтны даклад усё таго ж Уншліхта таварышу Сталіну пра таемную дапамогу Няметчыне. Датаваны 31 снежня 1926 года: «…патрэбна мець цалкам засякрэчаную базу для нелегальнай зброі».

Калі параўнаць тое, што выказваў Ленін, пісаў Гітлер і рабіў Сталін, то жаданне спрачацца пра адмову Сталіна ад ідэі Сусьветнай рэвалюцыі знікае.

Проста Троцкі рыхтаваў Сусьветную рэвалюцыю лозунгамі і лямантам на ўвесь сьвет, паведамляючы ўсім пра свае планы, на выкананне якіх у яго не было ні здольнасьцей, ні сродкаў, ні магчымасьцей, а таварыш Сталін лямантам паветра не скалынаў, а дзейнічаў і гэтыя дзеянні былі наглуха схаваны за грыфам «вельмі сакрэтна». Менавіта гэтым грыфам заканчваліся ўсе дакументы накіраваныя на стварэнне таемных кузняў, дзе каваўся фашысцкі меч…

Пасьля прыходу да ўлады ў 1933 годзе Гітлер вырашыў знішчыць усе палітычныя партыі і рухі ў Няметчыне, пакінуўшы толькі сваю ўласную, узброеную адзіна правільным вучэннем. Для знішчэння супернікаў Гітлеру запатрабаваўся правакатар. Быў падабраны нейкі прыдуркаваты Марынус ван дэр Любе. І пад час адной ночы загарэўся Рэйхстаг. У рукі паліцыі патрапіў ван дэр

Любе – паходня ў руках і квіток сябра камуністычнай партыі ў кішэні. Выходзіла, што камуністы падпалілі Рэйхстаг, а раз так, то Гітлер разграміў камуністычную партыю Няметчыны, а заадно і ўсе астатнія партыі.

Але Гітлер не зразумеў простую рэч – сам ён у руках Сталіна выконвае ролю прыдуркаватага ван дэр Любе, толькі ў сусьветным маштабе. Гітлер распаліць пажар Другой сусьветнай вайны, той самы, пра які нашы бацькі і дзяды марылі, пра які спявалі песьні. Потым Гітлера зловяць з паходняй у руках, і гітлерызм засудзяць у Нюрнбергу. І нікому із суддзяў у галаву не прыйдзе задаць простае пытанне: хто ж паклаў у руку Гітлера паходню і той самы фашысцкі меч, які быў выкуты ў ЗССР?

І пакуль таварышы камуністы не адказалі на пытанне, дзеля чаго іхная партыя рыхтавала фашыстаў да вайны, мы прыняць довад пра адмову Сталіна ад Сусьветнай рэвалюцыі не можам.

Возьмем з паліцы трынаццаць тамоў сталінскіх твораў і прачытаем іх яшчэ раз. Кожны, хто сам чытаў, засведчыць: усё, што напісана пасьля так званай «вялікай кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі», – гэта палеміка на тэму, што з'яўляецца поўнай, а што канчатковай перамогай сацыялізму.

Зразумець сталінскую логіку лёгка, аддадзім яму належнае: ён выказваўся зразумела, а гэта зусім не так проста, як здаецца. Думка Сталіна: спачатку мы будуем сацыялізм у адной краіне, потым – і гэта непазбежна – ва ўсім сьвеце. Поўная перамога сацыялізму ў адной краіне магчыма, але яна не канчатковая. Канчатковая перамога – толькі ў сусьветным маштабе.

Зразумела, Сталін у сваёй практыцы ніколі не даходзіў да чыста марксісцкага зверства, ён не скасоўваў сям'ю, не прызначаў усіх кабет для грамадзкага карыстання, не нацыяналізаваў дзяцей, у працоўным войску Гулага ўтрымліваў вельмі мала людзей – не больш за дзесяць адсоткаў насельніцтва, тым часам як Маркс рэкамендаваў – усіх і назаўсёды. Сталінскі сацыялізм быў звыш мяккім варыянтам марксізму – так бы мовіць, сацыялізм з чалавечым тварам. І ўсё ж, нягледзячы на амаль недапушчальную мяккасць і людзкасць, сталінізм заставаўся ў рамках марксізму і сацыялізму. Маркс фармуляваў сваю праграму выразна – ліквідацыя прыватнай уласнасьці. Сталін ад гэтай рэкамендацыі не адхіліўся. Сталін прыватную ўласнасць ліквідаваў. А канцлагеры – гэты непазбежны вынік ліквідацыі прыватнай уласнасьці.

Ліквідуйце яе дзе заўгодна і са здзіўленнем выявіце, што без канцлагероў не абыйсьціся. Але, пабудаваўшы поўны сацыялізм у адной краіне, Сталін ведаў, што кожны кантакт яго падданых з тлятворным замежжам нараджае ворагаў рэжыму. Будучыня паказала, што ўласная дачка Сталіна пры першай магчымасьці збегчы, гэтай магчымасьцю скарысталася. Яна згодна была жыць дзе заўгодна, толькі не на радзіме сусьветнага пралетарыяту.

І не будзем ставіць пытанне: адмовіўся Сталін ад ідэі Сусьветнай рэвалюцыі ці не. Паставім іншае пытанне: а ці мог Сталін ад гэтай ідэі адмовіцца, калі ведаў, што працяглае суіснаванне каля нармальных краін немагчыма?

Калі б Сталін і пажадаў адмовіцца ад Сусьветнай рэвалюцыі, то не змог бы гэтага зрабіць, таму што гэта раўназначна паразе і самагубству. І Сталін не адмовіўся. Ён адкрыта і настойліва паўтараў: «Канчатковая перамога сацыялізму ў сэнсе поўнай гарантыі ад рэстаўрацыі буржуазных адносін магчыма толькі ў міжнародным маштабе» («Праўда». 14 лютага 1938 г.).

Мой крытык Габрыэль Гарадзецкі: «Сувораў імкнецца давесьці, што вонкавая палітыка Савецкага Звязу цалкам вызначалася ідэалогіяй і грунтавалася на марксісцкіх догмах, якія заўсёды мелі на мэце сусьветную рэвалюцыю. Сувораў не бярэ ў разлік нацыянальныя інтарэсы…»

Пра якія нацыянальныя інтарэсы гаворка? Толькі падчас калектывізацыі ў Савецкам Звязе было знішчана больш людзей, чым падчас Першай сусьветнай вайны ва ўсіх краінах, браўшых у ёй удзел. Калектывізацыя – гэта Другая сусьветная вайна супраць майго народа. І калі кажуць, што 1 верасня 1939 года Гітлер пачаў… я адказваю: 19 жніўня 1939 года Сталін пачаў Другую сусьветную вайну супраць народаў Яўропы. Але калі глядзець у корань, то пабачым – Другая сусьветная вайна была пачата камуністамі ў 1930 годзе супраць мужыкоў Расіі, Украіны, Беларусі. У 1939 годзе гэтая вайна была пашырана і на суседнія краіны.

Паспрабуйце з боку гледжання нацыянальных інтарэсаў патлумачыць вайну супраць гэтай самай нацыі, вынішчэнне мільёнамі самых працавітых і дзейных прадстаўнікоў нацыі, яе касьцяк і хрыбет, вынішчэнне тых, хто нацыю корміць. А, акрамя таго, моцны мужык-гаспадар – заўсёды добры жаўнер. Паўтараю: заўсёды. Вынішчэнне моцных мужыкоў было вынішчэннем добрых жаўнераў. І калі савецка-германскую вайну дзякуючы непаразуменню называюць ледзь не «вялікай» і нават «айчыннай», запярэчым: калектывізацыя была камуністычнай анты айчыннай вайной, вайной супраць свайго народа, вайной на вынішчэнне, вайной на знішчэнне абаронцаў бацькаўшчыны. Вайна ў Яўропе – толькі працяг, але ужо супраць усіх нашых суседзяў, як блізкіх так і далёкіх.

Толькі з боку гледжання Сусьветнай рэвалюцыі дзеянні Сталіна тлумачальныя і зразумелыя: вольнаму сялянству Сусьветная рэвалюцыя не патрэбна, менавіта вольнае сялянства запрацівілася б саветызацыі Эфіёпіі і Антарктыды, таму што за Камінтэрн і яго авантуры расплачвацца мужыку і кроў ліць – мужыку.

Для таго таварыш Сталін і пераламаў хрыбет рускаму мужыку, а заадно і ўсяму народу, каб не перашкаджалі далучаць новыя рэспублікі ў непарушны звяз. І вельмі нават лагічна: спачатку ў адной краіне, потым – у сусьветным маштабе.

Цікава тлумачыць спадар Гарадзецкі: пажадаў Сталін – кіруецца марксісцкай ідэалогіяй, а не пажадаў – нацыянальнымі інтарэсамі…

Але не было ў таварыша Сталіна такой волі выбару. Сацыяльная справядлівасць патрабавала нацыяналізацыі, нацыяналізацыя азначала бюракратызацыю, гэта мела наступствам массавае збяганне і «мяжу на замку», «мяжа на замку» азначала самаізаляцыю, аддзяленне ад усёй сусьветнай цывілізацыі і няўхільнае адставанне. Мы пачыналі варыцца ва ўласным саку, парывалі кантакты з іншымі народамі, з лепшымі дасягненнямі сусьветнай навукі, тэхнікі і культуры, былі вымушаны ўсё вынаходзіць самі. У нармальным сьвеце навуковае адкрыццё ў адной із краін хутка рабілася агульным набыткам, усе краіны абагачалі адна адну, мы ж усе ровары былі вымушаны вынаходзіць самі… Адставанне спараджала незадаволенасць народа існуючым упарадкаваннем і ўрадам…

І ўсе, хто станавіўся на гэты шлях, былі проста вымушаны ісьці па сталінскіх слядах да патрэбы вайны на знішчэнне тых, хто вольны і таму заможны і шчасьлівы. Ці камуністычны Кітай пачне ядзерную вайну і палова чалавецтва загіне (так разважаў аптыміст Мао), ці кітайскі камунізм абваліцца. Яны не развязалі ядзерную вайну, і кітайскі камунізм бурыцца. Ці Фідэль Кастра будзе

пасылаць кубінскіх ваяроў ваяваць у Афрыку, усталёўваць там кіраванне бюракратыі (патлумачце мне: у чым тут нацыянальная зацікаўленасць Кубы?), ці рэжым Фідэля абваліцца. Хаця абваліцца, нікуды не дзенецца.

Так што адно із дзвюх: ці нацыянальныя інтарэсы, воля кожнага і дабрабыт усіх, ці ісьці да канца – да апошняй рэспублікі. Толькі і розніцы – ісьці з адпачынкам ці без.

Сталін ішоў да Сусьветнай рэвалюцыі з адпачынакам. Але ведаў: надоўга яго зацягваць немагчыма – Захад нас сваімі факстротамі і танга пераможа (і перамог жа!). Гэта як ракавая пухліна на целе: ці арганізм заб'е ракавыя клеткі і выжыве, ці ракавая пухліна заб'е арганізм. Камуністы лічылі сябе здаровым арганізмам, а ўсе нармальныя дзяржавы – ракавай пухлінай якую неабходна перамагчы… Не буду спрачацца, хто з іх быў здаровым целам, а хто пухлінай, але існаваць побач яны не маглі. Меў рацыю таварыш Ленін: або адно, або другое.

Таму сталінскі адпачынак завяршыўся да пачатку 1939 года. Каб зразумець гэта, патрэбна пагартаць нашы газеты тых дзён. Савецкі Звяз жыў чаканнем вялікіх падзей. XVIII з'езд камуністычнай партыі дыхаў паветрам няўхільнай і хуткай вызвольнай вайны. Генерал-маёр А.А.Лабачоў быў удзельнікам гэтага ваяўнічага зборышча. Ён згадвае 10 сакавіка 1939 года: «Два дзесяцігоддзі мінула пасьля таго, як, амаль хлапчуком, стаяў я тут на варце, з захапленнем праводзячы дэлегатаў кангрэса Камінтэрна. Зараз на гэтай жа варце стаяў іншы юнак, і я вітаў яго, магчыма, дэлегата будучага сусьветнага з'езда перамогшага камунізму» (Цяжкімі шляхамі. М., 1960. с. 97).

У тым жа годзе сталінскі ўлюбёнец Кастусь Сіманаў у п'есе «Хлопец із нашага горада» апісвае бітву савецкага войска на Халхін-Голе супраць 6-ай японскай арміі: «Ты зараз пра апошнюю сопку думаеш, а я – пра апошняга фашыста. Я думаю пра яго даўно, яшчэ із Мадрыду… у апошнім фашысцкім горадзе падыме гэты апошні фашыст рукі перад танкам, на якім будзе чырвоны, менавіта чырвоны сьцяг».

Гэта пісалася ў той самы момант, калі з Няметчынай яшчэ не было агульнай мяжы і яна на нас не магла напасьці, тым больш – раптоўна. Гэта пісалася тады, калі Рыбентроп ляцеў у Маскву падпісваць пакт, калі таварыш Сталін браў Рыбентропа ў абдымкі і кляўся ў вечным сяброўстве. Гэта пісалася тады, калі плана «Барбароса» яшчэ не існавала. Гэта пісалася тады, калі «апошнім фашысцкім горадам» мог лічыцца не толькі Кёльн ці Мюнхен, не толькі Неапаль ці Палерма, не толькі Барселона ці Лісабон, але Адыс-Абеба, Луанда, Трыпалі. Наша мэта – не абарона сваёй краіны, але «апошні фашысцкі горад».

І калі б Кастусь Сіманаў выказваў толькі свае ўласныя думкі, не адпавядаючыя генеральнай лініі, то не насіць бы яму Сталінскіх прэмій поўнымі кішэнямі. А насіў жа. Ведаў таварыш Сіманаў, менавіта якія кнігі патрабуе момант.

А мара пра «апошні фашысцкі горад» сугучна мары Чынгісхана – да апошняга мора! Толькі і адрознення, што нам зацягваць з гэтай справай было супрацьпаказана, што спыніцца было немагчыма, калі б і захацелі…

Менавіта таму таварыш Сталін і загадаў галаву Леніна зрабіць вялікай…

# Глава V

## Да апошняй рэспублікі

«Расія – прадвесніца сусьветнай федэрацыі рэспублік».

Герберт Ўэлс. Сакавік 1917г.

Такім чынам, галаву Леніна загадалі зрабіць вялікай. Вельмі вялікі. Такой вялікай, каб у ёй магла б размясьціцца зала для канферэнцый і з'ездаў.

Да такой галавы патрэбна дадаць тулава адпаведных памераў. Паразважалі. Атрымалася, што тулава ў гэтым выпадку павінна быць большым чым Спаская вежа Крамля.

Але вежу лёгка пабудаваць. Вежа яна і ёсць вежа. А таварыш Ленін – гэта вам не вежа. Ленін не стаяў у позе балвана. У таварыша Леніна, як кожны ведае, рука была заўсёды наперад і ўгару вынесена. Рука таварыша Леніна заўсёды пралетарыяту шлях паказвала: «Правільным шляхам ідзеце, таварышы!».

Гэта азначае, патрэбна таварыша Леніна такім рабіць так, каб ён стаяў не ў выглядзе бравага жаўнера Швейка – рукі па швах, а каб рука ў яго наперад вынесена была.

Зноў паразважалі: атрымліваецца, што рука павінна быць памерам з добры пралёт чыгуначнага моста. Але мост лёгка будаваць. Мост ён зноў жа і ёсць мост. Канцы моста на два берагі абапіраюцца. А ў таварыша Леніна – рука ў прастору. У пустэчу. У нікуды. Лёгка статую Волі ў Нью-Ёрку было будаваць – рука з паходняй паднята угару. Лёгка было пабудаваць статую Хрыста на гары ў Рыа: дзьве рукі ў два бакі – адна другую ўраўнаважвае… А таварышу Леніну падабалася адну руку наперад выносіць. Толькі ў такім выглядзе яго і дазвалялі маляваць.

Паразважалі інжынеры і вырашылі: прысабачым тысячатонную процівагу ў сярэдзіне статуі.

А тут новая праблема: у які бок ленінская рука павінна паказваць? На захад? На ўсход? А магчыма, на поўдзень, на Індыйскі акіян, у якім было наканавана памыць боты? Такім чынам, у які ж бок ленінская рука павінна паказваць?

Вырашылі так: наша ідэя – Сусьветная рэвалюцыя, увесь сьвет будзе нашым. Пагэтаму Ленін павінен паказваць на ўвесь сьвет. Акрамя таго, Ленін павінен паказваць шлях у зіхацячае заўтра. Таму пад ленінскую статую было вырашана паставіць электрычны рухавік (ці два, ці сто, калі запатрабуецца) і статую ўвесь час круціць: паднімаецца сонца на ўсходзе – Ленін на яго рукой паказвае. Ідзе сонца па небу, а ленінская рука ў яго тыкае. Дваццаць чатыры гадзіны – поўнае абарачэнне. І ўсё спачатку… На стагоддзі! На тысячагоддзі! Назаўсёды!

Але інжынерныя галаваломкі на тым не скончыліся, а толькі пачаліся. Немагчыма ж сапраўды ленінскую статую проста так на зямлю паставіць. Немагчыма. Патрэбна статую паставіць на адпавядаючы пастамент. Калі сама статуя вышэй чым якая б то ні было із крамлёўскіх веж, то якім жа ў такім выпадку павінен быць пад яе пастамент? Сто метраў? Дзьвесьце? Трыста? Вядома, не. Трыста мала. Трыста, гэта Эйфелева вежа ў Парыжы. Трыста ўжо ёсць. Патрэбна вышэй. І вось туды, на верхатуру, і ўзнесьці Леніна-флюгера. Хай падобна на залатога пеўнічка круціцца. Любата – самая высокая пабудова ў сьвеце і Ленін-пеўнічак зверху.

А ў пастаменце вырашылі абсталяваць музей Сусьветнай рэвалюцыі, самую вялікую бібліятэку ў сьвеце, інстытут Маркса і Энгельса, асобна – інстытут Леніна, працоўныя клубы і вялікая зала, самая вялікая зала ў сьвеце…

Залы і ўсходы – чырвоны граніт, белы граніт, чорны, мармур белы і ружовы, малахіт, Лабрадор. Парцьеры – парча залатая.

І на працягу шматлікіх начэй тысячы інжынераў шукалі рашэнні для тысяч праблем: а ліфты якія рабіць? Якой ёмістасьці? З крэсламі ці без? А як вентыляцыю

ўладкаваць? А падаграванне? А як забяспечыць правільную акустыку ў галоўнай зале? А калі пад столлю галоўнай залы перагарае лямпачка, то як яе замяніць на сямідзесяцімятровай вышыні?

І знаходзілі рашэнні: гардэробы – канвеернага тыпу на дзясяткі тысяч людзей, апусьціў жэтон у дзірачку, і тваё паліто (але нічыё іншае) – праз імгненне перад табой. Ну і, зразумела, у рэстаранах аздабленне ў нацыянальным духу братэрскіх рэспублік і кухня ў лепшых традыцыях: рускі рэстаран, украінскі, польскі, нямецкі, італьянскі, французскі… І шмат яшчэ ў тым пастаменце планавалася размясьціць: буфеты, залы адпачынку і інш. і інш. А знізу вырашылі падвесьці лінію метро, каб з падземнага палаца – выйсьце непасрэдна ў мармуровыя карункі, у асляпляючую раскошу, у нязгасаючае зіхаценне самага выдатнага палаца сьвету…

Усё гэта называлася двума славамі – Палац Рад. Ці дзвюма літарамі – ПР. У народзе – Вавілонская вежа.

Будаўніцтва толькі пачалося, а лінію метро ўжо падвялі, і адкрылі новую станцыю – «Палац Рад».

Месца для Палаца Рад выбралі выдатнае. Раней непасрэдна каля Крамля над Масквой-ракой красаваўся велічны Храм Хрыста Ратавальніка, ратавальніка Расіі. Храм – знак Расіі, узнесены да неба дзякуючы паўстагоддзевай працай лепшых рускіх майстроў, распісаны, упрыгожаны вялікімі мастакамі і скульптарамі. Храм, падняты ў неба на працоўныя капейкі рускіх сялян, працоўных, настаўнікаў і гандляроў, артыстаў і жаўнераў, на грошы, сабраныя купецтвам і дваранствам.

Пад Храм Хрыста Ратавальніка таварышы камуністы падлажылі адпаведную колькасць дынаміту… і рванулі.

Менавіта на парэштках знака Расіі і было вырашана пабудаваць новы знак.

Камуністы не прызнавалі Бацькаўшчыну і Айчынную вайну, як і саму Расію. На месцы знака Расіі ў цэнтры Масквы была адгароджана пляцоўка пад лагпункт і выкапаны катлаван.

І вось загналі ў грунт тысячы тон нержавеючай сталі (сталь маркі ПР), залілі дзясяткі тысяч тон цэментавага раствору (цэмент маркі ПР) і пацягнулі ў нябёсы сталёвы каркас…

І пабудавалі цэментавы завод, даваўшы лепшы ў сьвеце блакітны цэмент, і запусьцілі ў Магнітагорску пракатны стан, які гнаў сталёвыя канструкцыі, вырабленыя з найвялікшай дакладнасьцю, з найвялікшым стараннем. На пабудову аднаго толькі каркаса патрабавалася трыста тысяч тон самай лепшай сталі. Із гэтай сталі можна было б вырабіць дзесяць тысяч танкаў Т-34 і ўзброіць імі дзесяць танкавых армій. І запусьцілі для гэтай справы камбінат, пачаўшага апрацоўку драўніны адмысловым спосабам, каб не гарэла ў полымі, каб трываласьцю не саступала металу. І яшчэ адзін камбінат, які із гэтай драўніны пачаў вырабляць «вечную» мэблю для ПР. І яшчэ камбінат: вырабляючы мармуровыя пліты для абкладкі ўнутраных памяшканняў. Іх шмат трэба. І яшчэ камбінат – гранітныя блокі і пліты для вонкавай абкладкі. А ў Кіргізіі ў запаведных лясах зазвінелі сякеры, заспявалі пілы – зэкі стагадовыя арэхавыя дрэвы валяць. З усяго Звязу пайшлі эшалоны ў Маскву: кедр, мораны дуб, бук, карэльская бяроза, каранішчы арэхавага дрэва – на аздабленне салонаў! А на Урале зэкі малахіт шліфуюць. А каля дняпроўскіх парогаў сякуць гранітныя камлыгі…

А ў Маскву з усёй краіны сабраны лепшыя майстры: каруначніцы і залаташвачкі, кляпальнікі па бронзе і срэбру, разьбяры па дубу і мармуру, майстры дывановай справы, шкловыдзімальшчыкі, крыштальных спраў майстры…

4 ліпеня 1941 года ўсе працы на будаўніцтве ПР былі спынены. Хутка будаўнічая тэхніка была перакінута на будаўніцтва абарончых пабудоваў. На тыя ж патрэбы пусьцілі сотні тысяч тон ўжо нарыхтаваных матэрыялаў: цэмент – на будаўніцтва дотаў, сталь заўсёды на вайне спатрэбіцца, спец драўніну – на вытворчасць знішчальнікаў ЛаГГ-3. Каркас ПР неўзабаве зрэзалі. Ламаць – не будаваць.

У кастрычніку 1941 года тысячы будаўнікоў ПР сабралі ў дывізіі народнага апалчэння і кінулі пад танкі. Лепшыя майстры Расіі: мантажнікі і зваршчыкі, шкловыдувальшчыкі і кляпальнікіі, чырвонадрэўшчыкі і шліфавальшчыкі мармуру – усе, усе, усе ляглі ў беласнежных палях пад Масквой.

Пасьля вайны некалькі разоў браліся ПР будаваць нанова, ды ўсё кідалі. У 1956 годзе на XX з'ездзе партыі Хрушчоў выкрываў Сталіна: «Нягледзячы на прынятае трыццаць гадоў таму назад рашэнне пабудаваць Палац Рад як помнік Уладзіміру Іллічу, гэты палац не быў пабудаваны, яго будаўніцтва ўвесь час адтэрміноўвалася, і пра праект паступова пачалі забывацца». Зала адказала лямантам абурэння.

Здавалася б, калі згадалі пра Палац, калі Сталіна таўруеце за тое, што не пабудаваў, ну дык і будуйце самі. У чым праблема? Падмурак застаўся… Дарэчы, падмурак – цалкам унікальны, плаваючы, падмурак у форме вялізнай чаркі, якая можа стаяць на якім заўгодна грунце, больш правільна, плыць у якім заўгодна грунце, як талерка ў карыце. І ніякія землятрусы таму падмурку не зробяць шкоды, як не ўяўляюць небяспекі для плаваючай талеркі лёгкія скалынанні вады, у якой яна плыве. І калі Сталін не пабудаваў ПР, то вось ён, унікальны падмурак, бярыце і будуйце!

Але не стаў Хрушчоў будаваць ПР. І будучым пакаленням не пакінуў магчымасці ПР пабудаваць – загадаў Хрушчоў талерку падмурка заліць вадой, а вакол пабудаваць распранальні. І атрымаўся самы вялікі ў сьвеце адкрыты басейн для плавання. Гэта вельмі добрая ідэя – адкрыты басейн для плавання. Але зімой ён замерзне?

У нас не замерзне. Вырашылі грэць басейн. І грэлі.

Колькі патрэбна энергіі для таго, каб пад час маскоўскага лютага награваць самы вялікі ў сьвеце адкрыты плавальны басейн? Колькі патрэбна энергіі, каб і начамі вада ў ім не астывала?

Шчыра кажучы, я не ведаю, колькі патрэбна было энергіі. І ніхто не ведаў. Хто ў нас за што адказваў? Хто ў нас капейку народную лічыў?

Кожны капіталіст на такім бізнесе ў трубу выляцеў бы. Таму пры капіталізме дурні доўга ў бізнесе не трымаюцца: прыняў адно неразумнае рашэнне – вылятай. А сацыялізм тым добры, што дазваляе якія заўгодна рашэнні прымаць, якія заманецца. У капіталізме свае грошыкі выдаткуеш. А ў сацыялізме – агульныя. Народныя. Нічые.

Дарэчы пра народныя грошыкі. У Кіеве на стадыёне ў самым цэнтры горада некалі даўно лыжны трамплін пабудавалі. Пабудова – на ўзроўні сусьветных стандартаў. Толькі дзеля эканоміі так трамплін павярнулі, што лыжнік можа прызямляцца толькі на трыбуны гледачоў, на лаўкі. Больш там няма куды прызямляцца. Таму дзесяцігоддзямі трамплін ганарліва ўзвышаўся над горадам, а

жадаючых скокнуць так і не знайшлося. А ў Варшаве – гіганцкі пакінуты стадыён, такі вялізны, што ўсіх жыхароў польскай сталіцы можна пасадзіць, а месцаў усё адно застанецца яшчэ шмат… Дык на тым стадыёне зараз руская барахолка. Нашы суайчыннікі прадаюць ордэны Славы і Айчыннай вайны, медалі «За вызваленне Варшавы», «За ўзяцце Берліна», «За перамогу над Няметчынай». Добрая барахолка. Заможная.

Ну, гэта да слова, пра народную ўладу. Не будзем адступацца ад тэмы, ад самага вялікага ў сьвеце адкрытага басейна для плавання. Валачэшся, бывала, па белакаменнай, снегам рыпаеш, а басейн паруе, нібы Везувій над Неапалем. Хутка высьветлілася, што залішняя вільгаць, выпараемая гэтай пачварай, псуе карціны музея на Валхонцы і жыццё суседніх кварталаў, надмерная ненатуральная вільготнасць спрыяе карозіі электрычных правадоў і агароджы, труб і дахаў… Словам, хрушчоўская задума выкарыстаць падмурак ПР не па прамому прызначэнню сябе не апраўдала.

І вось загадка гісторыкам: чаму ж падмурак не выкарысталі па прамому прызначэнню? Чаму ПР так і не быў пабудаваны?

Нам кажуць, што грунт там мяккі. Гэта сапраўды так. Але тэхнолагі папярэдняга стагоддзя прымудрыліся на тым грунце паставіць Храм Хрыста Ратавальніка. І нічога, стаяў. І грандыёзныя храмы ў Пітары – не на гранітных скалах. Рымскі Калізей на балоце пабудаваны, стаіць, тысячагоддзі адлічвае, і яшчэ яму стаяць шмат тысячагоддзяў, калі не знойдзецца новы разумнік і не завершыць разбурэнне.

У Лондане сабор Сьвятога Пятра – на балоце, як, дарэчы, і ўвесь Лондан. Зразумела, ПР – унікальная пабудова, самая вялікая ў сьвеце, але ж і будаўнічая тэхніка з часоў пабудовы Калізея наперад пайшла. І цалкам не дарэмна я пра чарку паведаміў. Сталінскія архітэктары таксама мелі разуменне ў будаўнічай справе.

Тлумачэнне пра мяккі грунт прыдумана заднім днём. Калі б будаўнікі аднойчы сказалі: мяккі грунт, будаваць немагчыма, і будаванне спынілі, то мы б зараз гэтую падставу маглі б лічыць праўдзівай. Але ў будаўнікоў ні ў 1940, ні ў 1941 годзе сумневаў не ўзнікла, ПР будаваўся ўдарным тэмпамі. Ці можна лічыць нагодай спынення будаўніцтва тую акалічнасць, пра якую самі будаўнікі ніводнага разу не згадалі?

І калі нагодай з'яўляецца непрыдатны грунт, чаму б не перанесьці будаўніцтва ў іншае месца? Ці доўга? Будавалі Куйбышаўскую ГЭС у адным месцы, потым выбралі іншае. МДУ мелі намер над адхонам пабудаваць. Вылічылі – спаўзе ў Масква-раку. Над адхонам – больш эфектна, але перанеслі далей. І ПР маглі б перанесьці куды заўгодна. Хаця б на Вераб'ёвыя горы замест МДУ, хаця б у Астанкіна, там грунт прыдатны – пяцісотмятровую махіну ў неба ўшрубавалі на пляцовачцы як дзіцячая далонь. Можна было наогул із Масквы такую пабудову вынесьці. Ці доўга? Я зусім нездарма пра варшаўскі стадыён згадаў, пра кіеўскі трамплін і дымячы Везувій – краіна ў нас заможная, грошы не лічаны, з народнымі грашамі пры сацыялізме праблем не бывае. Хто іх калі лічыў? Ды і навошта?

Мая думка: спыненне будаўніцтва выклікана не тэхнічнымі і не эканамічнымі падставамі.

А можа ў таварыша Сталіна перамяніўся густ?

Не, густ не перамяніўся. Пасьля вайны адпаведна са сталінскім загадам у Маскве быў пабудаваны самы вялікі ў сьвеце ўніверсітэцкі будынак. Зразумела, МДУ немагчыма параўнаць з ПР. Параўноўваць МДУ з ПР – гэта тое ж самае як

параўноўваць кацяня з тыграм. Проста падкрэсліваю, схільнасць Сталіна да монументальных пабудоваў засталася нязменнай. Будзь у яго больш часу, ён бы ўсю Маскву перабудаваў на манер МДУ і МЗСа. І не толькі Маскву. Па ўсёй краіне ўрачыстым маршам крочыў гэты стыль і выходзіў за межы – ад Пекіна да Варшавы.

Зараз не сціхаюць спрэчкі пра падставы спынення будавання ПР.

А нагода на паверхні. Нагода тая ж самая, адпаведна з якой Сталін адмовіўся прымаць «парад перамогі» і насіць ордэны, якімі яго ўзнагародзілі ў 1945 годзе.

Каб зразумець падставу, патрэбна проста нагадаць пра прызначэнне ПР, патрэбна згадаць, для якой мэты яго збіраліся будаваць.

«Пяцьдзясят гадоў таму назад у сталіцы гітлераўскай Няметчыны – Берліне, адмысловыя будаўнічыя атрады раптам пачалі разбураць кварталы старой гарадзкой забудовы. Пачалася грандыёзная акцыя накіраваная на рэканструкцыю Берліна… Узнікае пытанне: сталіцай якой імперыі, больш дакладна, якой імперскай тэрыторыі павінен быў стаць новы Берлін? Адказ не выклікае сумневаў. Мелася на ўвазе тэрыторыя новай Няметчыны пасьля перамогі ў „імгненнай вайне“, якая прынесла б рэйху панаванне над усім сьветам. У праграме манументальнай ідэалагічнай прапаганды фашызму існаваў яшчэ адзін план – „Вялікага кола Славы“. Адпаведна з акружнасьцю новай мяжы Няметчыны (з захаду на ўсход – ад Атлантычнага акіяна да Ўрала і з поўначы на поўдзень – ад Нарвегіі да Паўночнай Афрыкі) павінны былі адначасна майстравацца вялізныя імперскія манументы ў выглядзе абеліскаў, маўзалеяў, веж, курганоў, замкаў на бачнай адлегласьці адзін ад аднаго… Із гісторыі вядома, што падобныя ідэалагічныя акцыі, патрабуючыя вялізных выдаткаў і намаганняў архітэктараў і мастакоў, былі характэрнымі для таталітарных дзяржаўных сістэм з антыдэмакратычным рэжымам і агрэсіўным курсам вонкавай палітыкі. Згадаем памеры пірамід…. Пад час 30-х гадоў нашага стагоддзя мастацтва рэйха, натуральна, не магло не мець нейкіх пераклічак з афіцыйным мастацтвам іншых таталітарных сістэм. Законы часу ўздзейнічалі няўмольна. У такіх краінах, як Італія, Грэцыя, Гішпанія, Польшча і нават Францыя, узніклі прамыя рэцыдывы гэтага мастацтва».

Гэтая вялізная цытата – із паважаемага мной «Вайскова-гістарычнага часопіса» (1989. №7. с. 95-96).

Ні аўтар артыкула, ні рэдактар не заўважылі супярэчнасьці: на адным радку напісана, што Гітлер імкнуўся ўсталяваць сусьветнае панаванне, а прама на наступным – Гітлер меў намер завяршыць экспансію на Ўрале і ў Паўночнай Афрыцы і новыя межы пазначыць манументамі. Сусьветнае панаванне? Калі Гітлер будзе валодаць усім сьветам, навошта яму межы? Улічваючы размах і кошт, можна выказаць здагадку, што гэта былі ва ўяўленні Гітлера канчатковыя межы рэйха.

Усё астатняе ў гэтым артыкуле ўспрымаецца як 16-я старонка «Літаратуркі» – насмяешся.

Праўда, першы раз артыкул я чытаў без смеху. Аўтар сцвярджае, што гітлераўская Няметчына – пашыральнік агіднага ідэалагічнага манументалізму, што ў іншых таталітарных краінах: у Францыі, Грэцыі, Польшчы – узніклі рэцыдывы гітлераўскай манументальнай архітэктуры. І я ўсё чакаў, што аўтар вось-вось згадае яшчэ адну краіну…

Пагадзімся з «Вайскова-гістарычным часопісам»: існавалі жудасныя рэжымы ў Францыі, Польшчы, Грэцыі. Пагадзімся, архітэктура гэтых краін адлюстроўвала

агрэсіўныя памкненні. Пагадзімся, Грэцыя ў 20-м стагоддзі была агрэсарам із агрэсараў. Але ж існавалі і акрамя іх краіны не з самым мяккім рэжымам, з вызначанымі геапалітычнымі амбіцыямі і архітэктурай, адлюстроўвайшай гэтыя амбіцыі…

Я ўсё чакаў, што, пачаўшы размову пра рэканструкцыю Берліна, аўтар згадае грандыёзную рэканструкцыю і яшчэ нейкай сталіцы. Мне чамусьці здавалася, што, задаўшы пытанне, «сталіцай якой імперыі?..», вынікала задаць і іншыя пытанні.

Згодзен, манументальнае будаўніцтва ў Берліне – сведчанне захопніцкіх планаў: будучай імперыі патрабавалася адпаведная сталіца.

Але ёсць думка: ці не лепш на сябе, кума, паглядзець?

30 снежня 1922 года быў утвораны Звяз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У гэтай назве няма ніякіх нацыянальных ці геаграфічных абмежаванняў. Адпаведна з задумай заснавальнікаў гэтае ўтварэнне павінна было пашырыцца на ўвесь сьвет. Гербам ЗССР стаў зямны шар з накладзенымі на яго знакамі камунізму. Менавіта ў дзень стварэння ЗССР выступіў Сяргей Кіраў і прапанаваў пабудаваць Палац ЗССР. Таварыш Кіраў патлумачыў сімволіку: «Гэты будынак павінен з'явіцца эмблемай будучай магутнасьці, урачыстасьці камунізму не толькі ў нас, але і там, на Захадзе». І ўдакладніў: палац патрэбна будаваць для таго, каб у ім прыняць у склад Савецкага Звязу АПОШНЮЮ РЭСПУБЛІКУ.

Тады ніхто не прадказваў, менавіта якая будзе апошняй: Аргенцінская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ці Ўругвайская, але цвёрда ведалі – аднойчы мы яе прымем у братэрскую сям'ю. На такі выпадк і было вырашана пабудаваць ПР.

Праз трынаццаць месяцаў памёр Ленін. Над труной таварыша Леніна таварыш Сталін вымавіў клятву: «…Сыходзячы ад нас, таварыш Ленін наказаў нам умацоўваць і пашыраць Звяз рэспублік. Клянёмся табе, таварыш Ленін, што мы з гонарам выканаем гэты твой запавет…» Менавіта гэтыя словы было вырашана высякчы на сьценах галоўнай залы гіганцкімі літарамі. Сам ПР быў як бы помнікам Леніну. Але гэта толькі на першы погляд. Задума была трохі іншай: Маркс і Энгельс – тэарэтыкі-заснавальнікі, ім па помніку каля падставы. Помнікі гіганцкія, але ў параўнанні са стамятровым Леніным – малюсенькія. А Ленін – практык, Ленін пачаў тэорыю ўвасабляць у жыццё, ён усталяваў шчаслівае жыццё на адной шостай сушы, Леніну за гэта – адпаведных памераў статуя.

Але галоўнае ў ПР – зусім не Маркс, не Энгельс і нават не Ленін, а – сталінская клятва. Сам манумент сімвалізаваў канчатковую перамогу камунізму на зямлі і павінен быў быць бачымым выяўленнем выкананай клятвы.

Калі адзін манарх ставіў помнік папярэдніку, ён узвышаў, перадусім, сам сябе, ён упрыгожваў сваю сталіцу, ён дэманстраваў падданым і супастатам сваю моц і сваё багацце…

Выява Сталіна навочна не прысутнічала ў статуях і барэльефах, але гэты храм павінен быў стаць яго храмам: Сталін – завяршальнік Самай Вялікай Справы на працягу ўсёй сусьветнай гісторыі. Таварыш Сталін абяцаў пашыраць Звяз – вось яго клятва на сьцяне, – таварыш Сталін з гонарам сваю клятву выканаў!

Такой была задума…

Цікава, што адзін з праектаў ПР, пададзеных на конкурс, меў, калі глядзець на будынак зверху, абрысы мяжы Савецкага Звязу, якімі яны былі на момант конкурсу. Аўтараў гэтага праекта весела асвісталі – яны не зразумелі ні сутнасьці

задання, ні прызначэння ПР, ні змест гістарычнага моманту: мы ж будзем пашырацца! Наша мяжа – увесь сьвет.

На пытанне, чаму ПР не быў пабудаваны, адказаць проста: таму, што Сталін не выканаў сваю клятву. Таму, што Сталін развязаў Другую сусьветную вайну, але завяршыў яе практычна ў тых жа межах, у якіх яе пачаў. Ён ведаў, што працяглае суіснаванне з нармальным грамадствам немагчыма, а перамагчы яго не здолеў. Вынікі Другой сусьветнай вайны азначалі канец камунізму. Гэта было гістарычнай паразай. Далей мог наступіць толькі развал. Рана ці позна. І «перамога» ў вайне азначала разгром камунізму ў сусьветным маштабе.

Апошнюю рэспубліку не давялося прыняць у склад ЗССР, таму палац для гэтага ўрачыстага акта не запатрабаваўся.

x x x

Адрозненне паміж намі і фашыстамі палягала ў тым, што рашэнне пабудаваць ПР і перабудаваць Маскву як сталіцу Сусьветнай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі было прынята да таго, як Адольф Гітлер памачыў пяро ў чарніла і напісаў першы радок сваёй кнігі. І яшчэ: Сталін не планаваў на сваёй будучай мяжы будаваць манументы і замкі. Будучая Сусьветная Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка не павінна была мець ніякай мяжы.

Яна задумвалася бязмежнай.

# Глава VI

## Нам гісторыя дала мала часу…

«Ужо адзін факт заключэння звязу паміж Няметчынай і Расіяй азначаў бы непазбежнасць будучай вайны, вынік якой загадзя прадвызначаны. Такая вайна магла б азначаць толькі канец Няметчыны».

Адольф Гітлер. «Майн кампф», глава XIV

Кожнае злачынства Сталіна ў вонкавай палітыцы, кожную брыдоту нам тлумачылі коратка і проста: гісторыя нам адпусьціла занадта мала часу! Была неабходнасць выйграць час!

На першы пагляд складна атрымліваецца: калі Савецкі Звяз у чэрвені 1941 года да вайны быў не гатовы, то ў жніўні 1939-га – і пагатоў, таму таварыш Сталін быў вымушаны даць загад таварышу Молатаву падпісаць пакт…

І друкуе «Вайскова-гістарычны часопіс» (1990. №2) артыкулы пад вялізнымі чырвонымі загалоўкамі: «Ці існаваў выбар?». Ужо із назвы вынікае: не было выбару – Молатаў павінен быў падпісаць пакт пра пачатак Другой сусьветнай вайны, таму што мы былі да яе не прыгатаваны і існавала патрэба ў тым каб адтэрмінаваць яе пачатак… Логіка дзіўная, але іншай нашы маршалы-генералы не прызнаюць. І выступае Маршал Савецкага Звязу С.Ф.Ахрамееў у тым жа часопісе (1991. N4) з вялізным артыкулам. Ён ідзе далей: пакт Молатава-Рыбентропа, развязаўшы вайну, – гэта не проста вымушаны ход Савецкага Звязу, дазволіўшы выйграць час, але гэта праява самай высокай гуманнасьці і маральнасьці, кожны, хто мае нахабства ўсумніцца ў правільнасьці сталінскіх дзеянняў, той – амаральны тып: «Дамова ад 23 жніўня 1939 года адтэрмінавала тэрмін пачатку вайны для ЗССР амаль на два гады… Пры адсутнасьці такой дамовы Савецкі Звяз апынуўся б зацягнутым у вайну ў 1939 годзе ва ўмовах яшчэ больш нявыгадных, чым у 1941 годзе… Таму амаральна гучаць…»

Маршал не самотны. Песьня пра тое, што таварыш Сталін выйграваў час, звініць пяцьдзясят гадоў. Мы яшчэ вернемся да пытання пра аўтара гэтай песьні. Кожны яе на свой лад спявае. Генерал арміі А.М.Маёраў: «Савецкі Звяз атрымаў амаль два гады для падрыхтоўкі да адбівання агрэсіі» (ВГЖ. 1989. №5. с. 36).

А пісьменнік Ян Фоціевіч Стаднюк пісаў пра гэта («Праўда» 22 чэрвеня 1993 г.) з клічнікамі: вось, маўляў, адмачылі нейкі там яшчэ адзін дыпламатычны трук і выйгралі яшчэ каштоўны месяц!

Калі верыць «Праўдзе», то Сталін лічыў германскі напад непазбежным і рознымі захадамі імкнуўся яго адтэрмінаваць: вось выйгралі каштоўны месяц, вось яшчэ тыдзень…

Але не з'яўляецца вялікай цяжкасьцю выкрыць легенды пра тое, што гісторыя нам адпусьціла мала часу, што таварыш Сталін час выйграваў. Для гэтага варта толькі нагадаць, чым Ленін адрозніваўся ад Гітлера.

Нямецкая камуністычная партыя была сур'ёзнай палітычнай магутнасьцю. Але сваю магутнасць яна брала зусім не на карабельных верфях Гамбурга, не ў працоўных, кварталах Берліна, не на сталеліцейных заводах Рура. Галоўная крыніца магутнасьці германскіх камуністаў знаходзілася зусім не ў Няметчыне, а ў камуністычнай Расіі.

Пакуль яшчэ ідэолаг нацыянал-сацыялізму Альфрэд Розенберг не ўзяўся за пяро, каб напісаць кнігі пра непаўнавартаснасць славянаў, савецкія камуністы ўжо вынішчалі гэтых самых славянаў мільёнамі. І ўжо на незлічоных лесапавальных лагпунктах адлічвалі брыгадзіры кубікі. І ішлі мільёны кубікаў на экспарт, экспарт даваў валюту, валютай сілкаваўся Вайскова-прамысловы комплекс і Камінтэрн – штаб Сусьветнай рэвалюцыі. Самай пражэрлівай секцыяй Камінтэрна была камуністычная партыя Няметчыны, калі, вядома, не лічыць наша роднае УКП(б)[1].

Архівы адчынены і кожны цікавячыся мае магчымасць пераканацца: крыніца магутнасьці камуністычнай партыі Няметчыны ўтойвалася менавіта на сібірскім лесапавале. І на золатаздабычы. Нязломная эканамічная магутнасць нашых канцлагероў – вось гранітны падмурак германскага камунізму. Ды і ад Раманавых залатыя запасы засталіся. А яшчэ прадавалі савецкія таварышы нацыянальны набытак краіны, у тым ліку – царкоўныя каштоўнасьці і творы вялікіх майстроў Адраджэння. Шмат на гэтым выручалі. Самім хапала і братэрскім партыям перападала. Ну і – калектывізацыя. У нашага селяніна хлеб бралі дарэмна і гналі на экспарт. Выручкай сілкавалася партыя бальшавікоў і яе малодшыя сёстры ва ўсім сьвеце. А яшчэ на чарнаморскіх берагах савецкія таварышы забралі ў сваю ўласнасць усё, што там было, ад царскіх палацаў да батанічных садоў і паляўнічых угоддзяў. Камуністы ўсяго сьвету зляталіся туды на дармовыя хлябы аднаўляць пахіснуўшаяся здароўе. І не патрэбна далёка хадзіць за доказамі, патрэбна проста прачытаць кнігу Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь». Вось так яна і гартавалася. І менавіта там, на прывольных крымскіх курортах.

У нас было чым завабіць на свой бок. Дармаеды ўсіх краін збіраліся каля нашых кармушак, яны ведалі: калі запісацца ў камуністы, то за сваю сьветлую будучыню можна не турбавацца – Масква аплоціць якія б то ні было выдаткі. Масква накорміць, добра напоіць, а курорты ў Крыму – дармовыя. Струмень прыхільнікаў працоўнага класа не вычэрпваўся.

Шэрагі камуністычных партый усіх краін камплектаваліся толькі з ліку дурняў і злачынцаў. І камуністычная партыя Няметчыне не была выключэннем.

[1] Усерасійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў)

Я за свае словы адказваю. У дваццатых гадах у Няметчыне не было канцлагероў, а ў Савецкам Звязе – былі. І вось усіх масьцей Пікі і Ульбрыхты змагаліся за скасаванне законнай, абранай народам улады ў Няметчыне з намерам пабудаваць камуністычную Няметчыну падабнай на Савецкі Звяз, больш дакладна – далучыць Нямецкую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку да непарушнага звязу з усімі вынікаючымі для Няметчыне наступствамі: чырвоным тэрорам, масавым вынішчэннем людзей, канцлагерамі, калектывізацыяй і іншымі задавальненнямі. Калі завадатар германскіх камуністаў Эрнст Тэльман быў марксістам і рыхтаваўся знішчаць станы ў Няметчыне, г.зн. рыхтаваў народу Няметчыны масавыя расстрэлы, гэта азначае, ён быў злачынцам. А калі ён верыў, што ліквідаваць станы можна без масавых расстрэлаў, гэта азначае, ён быў дурнем.

Напачатку трыццатых гадоў самыя радзючыя сельскагаспадарчыя мясцовасьці нашай краіны, ды і усёй планеты – Украіна, Дон, Кубань, Паволжа, – пры рэкордным ураджаі чамусьці былі ахоплены жахлівым голадам. Людзі елі сабак, катоў, перайшлі на пацукоў, мышэй, жаб. Нехта Міхал Шолахаў напісаў жудасна сьмешную кнігу «Паднятая цаліна» пра гэтыя вясёлыя часы і пра тое, як прывольна жылося пры гэтай самай калектывізацыі. Кніга іскрылася і пералівалася гумарам. Самае сьмешнае месца – дзед Шчукар варыць суп з жабамі. Абрагочашся. І ржалі таварышы комінтэрнаўцы, Шолахава па плечыку пляскалі, сярод іх знаходзіліся нават такія, хто не грэбаваў Шолахаву руку падаць, нават і ў госьці да яго заязджалі, за адзін стол з ім сядалі: у сядзібе таварыша Шолахава ікорачку спажывалі не жабіную.

І вось пытанне: як маглі правадыры сусьветнага пралетарыяту, розныя Дзюкло і Тэльманы, жыць у гэтай краіне і НЕ ВЕДАЦЬ пра голад? Як маглі не ведаць пра знішчэнне мільёнаў? Як маглі не ведаць пра існаванне канцлагероў? Як маглі не бачыць дзяцей-шкілетаў?

Не баюся выснову паўтарыць: калі яны і сапраўды не ведалі, куды свае народы і краіны завесьці намагаліся, то яны былі ідыётамі. А калі ведалі?

Нам апісваюць Няметчыну дваццатых гадоў, ахопленую беспрацоўем, інфляцыяй і крызісам, але ў Няметчыне ў тыя часы чамусьці не пісалі сьмешных раманаў пра суп з жабамі…. І вось таварыш Тэльман і іншыя змагаецца за ўсталяванне савецкіх парадкаў у Няметчыне. За што ж змагаліся нямецкія камуністы? За суп з жабамі?

Часам усе гэтыя Тэльманы, папярэдне пагрэўшыся на крымскіх пляжах, наведвалі сваю родную Няметчыну, а там – кніга С.П.Мельгунова «Чырвоны тэрор у Расіі». І яшчэ шмат-шмат кніг, у тым ліку і пра чырвоныя канцлагеры, пра голад, пра зверствы «народнай улады». Няўжо не цікавіўся таварыш Тэльман?

І вось я лічу, што камуністы (г. азн. дурні і злачынцы) не маглі легальным шляхам прыйсьці да ўлады ні ў Няметчыне, ні ў адной із нармальных краін проста таму, што ні ў адной краіне сьвету дурні і злачынцы не ўтвараюць большасьці і дастатковай падтрымкай не карыстаюцца. Таму партыі Тэльмана прыход да ўлады законным шляхам не пагражаў. Таму таварыш Тэльман дэмакратыю не вельмі паважаў і супраць яе змагаўся. Як і яго папярэднікі і патужнікі: таварышы Ленін, Троцкі, Сталін. Камуністычная партыя Няметчыны ўяўляла сабой магутнасць, але толькі да той пары, пакуль савецкі «Экспартлес» рэгулярна пераводзіў частку сваіх прыбыткаў у партыйную касу германскіх таварышаў. Без гэтага партыя германскага пралетарыяту была пустышкай, такой жа як у 1917 годзе была і партыя Леніна без германскага золата.

Сталін ведаў: можна выдаткаваць на ўтрыманне братэрскіх камуністычных партый колькі заўгодна мільёнаў даляраў, марак, франкаў і фунтаў, колькі заўгодна тон золата, але ні ў адной краіне ніводная камуністычная партыя ніколі законным шляхам уладу не возьме. «Досьвед дваццаці апошніх гадоў паказвае, што ў мірны час немагчыма мець у Яўропе камуністычны рух, моцны да такой ступені, каб бальшавіцкая партыя змагла б захапіць уладу. Дыктатура гэтай партыі робіцца магчымай толькі ў выніку вялікай вайны». Гэта таварыш Сталін сказаў 19 жніўня 1939 года ў вельмі сакрэтнай прамове, якая заставалася такой да 1994 года. Гэта было сказана ў той самы момант, калі Сталін адкрыў шлюзы Другой сусьветнай вайны.

Сталін ведаў, што камуністы здольны прыйсьці да ўлады толькі ў выніку вайны, таму Сталін рыхтаваў вайну і рыхтаваў камуністаў.

Яшчэ пад час дваццатых гадоў у Маскве была створана асобная школа Камінтэрна. А яшчэ – школа імя Леніна. У гэтых школах рыхтавалі агентуру для падрыву існуючай улады ва ўсіх краінах сьвету, да Аргентыны і Бразіліі ўлучна, і правадыроў пралетарыяту для ўсіх краін сьвету. Ужо пад час дваццатых гадоў Камінтэрн каваў кіруючыя кадры, якія павінны былі ўзначаліць парламенты і ўрады новых савецкіх рэспублік, да самай апошняй рэспублікі ўлучна.

Вось прыклад – Эрых Мільке, двойчы герой ГДР, сябра Палітбюро, генерал арміі, міністр дзяржаўнай бяспекі ГДР. А адкуль ён? Са школы Камінтэрна. Эрыха Мільке германская паліцыя лавіла яшчэ да прыходу Гітлера да ўлады. «Чырвоная зорка» (27 снежня 1987 г.): «Летам 1931 года становішча Мільке стала небясьпечным, паўстала пагроза арышту». «Чырвоная зорка» не паведамляе падрабязнасьцей, і мы не будзем гадаць пра тое, чым таварыш Мільке дасадзіў уладам, але нагадаем, што Няметчына 1931 года была краінай у вышэйшай ступені вольнай, з магутнымі праблісkамі нестабільнасьці і нават анархіі. Проста так, за камуністычную прапаганду, не садзілі. Нешта таварыш Мільке ўтварыў вельмі сур'ёзнае. «Чырвоная зорка» мімаходзь і пра завочны сьмяротны прысуд згадала, хаця пры Гітлеру Эрых Мільке ў Няметчыне не з'яўляўся.

Для такіх таварышаў, як Мільке, дзьверы сталіцы сусьветнага пралетарыяту былі расчынены насцеж. Мільке ратуецца ад пераследу ў Савецкім Звязе, трапляе ў школу Камінтэрна, потым – у школу імя Леніна. Чаму ў гэтых школах яго вучылі, я не ведаю, але ў 1939-1940 гадах Эрых Мільке – на нелегальнай працы ў Бельгіі. Далей у гэтым жыцьцяапісанні – невядомы прабел, а пачынаючы з 1945 года Эрых Мільке будуе шчасьлівае жыцьцё ў шэрагах супрацоўнікаў адпаведных установаў Усходняй Няметчыны. За 12 гадоў ён падымаецца да пасады міністра дзяржаўнай бяспекі, на якой і застаецца больш трыццаці гадоў.

Ах, гэтыя школы Камінтэрна, якая закваска!

Нам, вядома, распавядаюць прыгожыя словы пра гераічнага антыфашыста. магчыма, Мільке і быў антыфашыстам, але для таго, каб змагацца супраць фашысцкіх канцлагероў, зусім не абавязкова бегчы ў 1931 годзе із Няметчыны, у якой канцлагероў яшчэ няма, у Звяз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, дзе яны квітнеюць. Не ведаю, ці была мая любая радзіма радзімай сланоў, але радзімай канцлагероў для сваіх уласных грамадзянаў была. У гэтым пытанні першынства ў нас нікому не забраць. Дарэчы, германскія камуністы не маглі быць праціўнікамі канцлагероў – пасьля разгрому фашызму камуністы выкарысталі гітлераўскія канцлагеры, пры гэтым адпаведна з прамым прызначэннем. Антыфашыст таварыш Мільке не мог не мець да гэтай справы персанальнага дачынення. Таварыш Мільке

і іншыя таварышы змагаліся не супраць канцлагероў, а толькі за тое, каб канцлагеры існавалі не пад чырвоным фашысцкім сьцягам, а пад чырвоным камуністычным. Яны змагаліся за тое, каб у гэтых канцлагерах быць кіраўнікамі.

Лёс Эрыха Мількe – толькі адзін прыклад таго, што нямецкія камуністы лічылі сваёй радзімай зусім не Нямеччыну, а Савецкі Звяз, служылі яму і яму падпарадкоўваліся. Так «Чырвоная зорка» і паведамляе: «Краіну Леніна ён называе сваёй другой радзімай».

Яшчэ прыклад. Гэтым разам не пра невядомага пад час перадваенных гадоў Эрыха Мількe, а пра самага вядомага нямецкага камуніста, пра самага галоўнага. Правадыр германскіх камуністаў Эрнст Тэльман праводзіў шмат часу ў Савецкім Звязе, хадзіў у савецкай вайсковай форме: «На трыбуну з'явіўся таварыш Тэльман у чырвонаармейскім шынялі і ў шлеме з чырвонай зоркай» («Чырвонае Войска». 9 снежня 1926 г.).

Вельмі гэта цікава: Савецкі Звяз абвясьціў мэтай свайго існавання знішчэнне законных урадаў ва ўсім сьвеце, у тым ліку (і перадусім) – у Нямеччыне, а кіраўнік адной із германскіх палітычных партый ходзіць у вайсковай форме суперніка.

Чырвонае Войска ніколі не хавала свайго галоўнага і адзінага прызначэння: «Бальшавіцкую місію Чырвонае Войска будзе лічыць выкананай, калі мы будзем валодаць зямным шарам». Гэта вымавіў начальнік Палітуправы ПСЧВ[2] вайсковы камісар першага рангу таварыш Ян Гамарнік на актыве Наркамата абароны 15 сакавіка 1937 года. І калі нам кажуць, што гісторыя адпусьціла камуністам мала часу, запярэчым – занадта шмат адпусьціла. Калі б краіна рыхтавалася да адбівання агрэсіі, то часу б хапіла, проста пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна краіна рыхтавалася да выканання іншых заданняў. І гэтыя заданні з самага першага дня існавання камуністычнай дыктатуры адкрыта паўтараліся на ўсіх узроўнях і часьцей усяго – у Камінтэрне, дзе засядалі розныя Бела Куны, палымяныя Далорэсы і Тэльманы, абутыя ў савецкія генеральскія боты.

Дзіўна, але ў той жа самы час, калі таварыш Тэльман засядаў у Маскве, зусім побач у сакрэтнай танкавай школе пад Казанню таварыш Сталін рыхтаваў будучых германскіх танкавых камандзіраў. У якой жа яны форме хадзілі? Не ў сваёй жа германскай! Вядома, не. Яны таксама хадзілі ў нашай роднай чырвонаармейскай форме, дакладна як таварыш Тэльман, толькі без чырвоных зорак (ВГЖ. 1993. N7. с. 42).

Да чаго ж ты цёмная, маці-гісторыя!

Думку паўтараю: Вільгельмы Пікі, Ота Гратэволі, Ульбрыхты і Тэльманы былі сваімі дзецьмі, прыкормленымі і паслухмянымі. Яны шчасліва жылі ў краіне канцлагероў, яны распутнічалі на крымскіх курортах і ведаць не жадалі, што Украіна есць кару з дрэваў, а данскія казакі – жабіную сёрбаўку, тым часам як хлеб Украіны, яе сала і “горілка” ідуць на пракорм сусьветнага камуністычнага руху. Таварышаў камінтэрнаўцаў рыхтавалі быць міністрамі дзяржаўнай бяспекі ў зноў далучаных братэрскіх рэспубліках і адначасова з імі рыхтавалі германскіх танкістаў, якім было наканавана Яўропу знішчыць…. На першы пагляд – парадокс, на другі – сталёвая логіка.

А зараз мы вернемся да Леніна і Гітлера. Розніца паміж імі ў тым, што Гітлер, асабліва пасьля лістапада 1923 года, лічыў магчымым прыход да ўлады толькі законным шляхам, толькі праз выбары. А ў Леніна ніякіх тармазоў і абмежавальнікаў не было. Ленін быў гатовы да захопу ўлады якімі б то ні было

[2] Працоўна Сялянскае Чырвонае Войска

шляхамі, перадусім – незаконнымі. Вось таму перад таварышам Леніным перашкод не ўзнікала, а перад Гітлерам – паўсталі.

Перашкода палягала ў тым, што патрэбна было мець абсалютную большасць галасоў на выбарах. А яе не было.

У ліпені 1932 года гітлераўцы сабралі 13,7 мільёнаў галасоў, але да абсалютнай большасці ўсё адно не дацягнулі. Гэта быў пік, пасьля якога пачалося зніжэнне. За чатыры месяцы Гітлер страціў амаль два мільёна галасоў. Зніжэнне працягвалася, хуткасць зніжэння нарастала. Вось расклад палітычных магутнасьцей у Няметчыне на канец 1932 года: гітлераўцы – 11,8 мільёна галасоў, сацыял-дэмакраты – 8,1 мільёнаў, камуністы – 5,8 мільёнаў.

Дарэчы, нас вучылі, што гітлераўцы – крамнікі, сацыял-дэмакраты – партыя дробнай буржуазіі, камуністы – партыя працоўнага класа. Але калі верыць вынікам шматлікіх выбараў напачатку трыццатых гадоў, то дробных крамнікаў і дробных капіталістаў у Няметчыне было ўтрая больш, чым пралетараў. Іншымі словамі, усе распрацоўкі Маркса ўжо тады былі пераіначаны жыццём і менавіта ў індустрыйнай Няметчыне. І калі ў пралетарскай індустрыйнай Няметчыне за Гітлера галасавала ў 2-3 разы больш людзей, чым за Тэльмана, то хто ж у гэтым выпадку быў выразнікам інтарэсаў большасьці працаўнікоў?

Яшчэ нас вучылі, што партыю Гітлера патрэбна называць не сацыялістычнай, а сацыялісцкай, маўляў, у нас сапраўдны сацыялізм, а ў Гітлера таксама сацыялізм, але не да самага канца слушны. Тут патрэбна пазначыць, што Гітлер лічыў прама працілегла: толькі ў яго сапраўдны сацыялізм, а сацыялізм ленінскага тыпу – пераіначванне, адступленне, збочванне. Пагэтаму прапаную партыю Гітлера называць так, як яе называў сам Гітлер і яго прыхільнікі: Нацыянал-сацыялістычная германская працоўная партыя (нямецкае скарачэнне – НСДАП). І давайце не будзем спрачацца пра тое, што з’яўляецца праўдзівым сацыялізмам, а што – пераіначваннем: пакуль ён не мае ўлады, кожны сацыялізм слушны.

Такім чынам, Нацыянал-сацыялістычная працоўная партыя Гітлера патрапіла ў бяду. У крызіс. На першы пагляд Гітлер – пераможца. Здавалася б, Гітлер – самы папулярны палітык Няметчыне – бяры ўладу. Дык не ж. Абсалютнай большасьці ў яго няма, і таму забраць уладу ён не можа. Простая большасць без вырашаючай перавагі – не перамога, а самы глыбокі крызіс. Агульная колькасць галасоў у сацыял-дэмакратаў і камуністаў усё адно большая.

Нацыянал-сацыялістычная працоўная партыя Гітлера патрапіла яшчэ і ў вельмі цяжкі фінансавы крызіс. У працоўнага класа Няметчыне проста не было больш грошай падтрымліваць сваю партыю. Партыя чыста сацыялістычная, чыста працоўная, чыста пралетарская – адкуль у пралетараў грошы Гітлера падтрымліваць? І працэс распадання гітлераўскай партыі пайшоў па нарастаючай

Цікава пагартаць дзённікі Гебельса тых дзён: «надзеі цалкам зніклі», «у касе ні пфеніга», «няма грошай, ніхто не дае ў крэдыт», «мы ў стане апошняга скону».

Сітуацыя: у партыі Гітлера больш няма грошай на піва для штурмавікоў, на карычневыя кашулі, на боты, на сьцягі і паходні, на барабаны і ўлёткі, на выданне літаратуры, на правядзенне новай передвыбарчай кампаніі, на ўтрыманне партыйнага апарата. Гітлер абдумвае два варыянты дзеянняў: першы – збяганне, другі – самагубства. Гэта зафіксавана на паперы, напрыклад, у тым жа дзённіку Гебельса, які для абнародавання ніяк не прызначаўся.

Праз дзесяць гадоў пасьля крызісу сам Гітлер выказваўся ў цесным коле: «Горш усяго ішлі справы ў 1932 годзе, калі давялося падпісаць шмат пазыковых абавязацельстваў, каб мець магчымасць фінансаваць прэсу, выбарчыя кампаніі і наогул усю партыйную працу... Ад імя НСДАП падпісваў гэтыя пазыковыя абавязацельствы, усведамляючы, што калі дзейнасць НСДАП не завершыцца поспехам, то ўсё загіне» (Генры Пікер. Застольныя размовы Гітлера. Запіс ад 5 траўня 1942 года).

На прыканцы 1932 года песьня Адольфа Гітлера была праспявана, і як палітык ён ужо быў зьнішчаны. Ён пакуль заставаўся самым папулярным палітыкам Няметчыны, але партыя – у даўгах, плаціць няма чым. Нямейкі нацыянал-сацыялізм быў вырачаны. Гітлера мог выратаваць цуд. Але цудаў не бывае.

Таму Гітлера выратаваў таварыш Сталін.

Таварыш Сталін не проста выратаваў Гітлера, але даў яму ключы ад улады.

Дэмакратыя так уладкавана, што пад час вырашаючых, паваротных момантаў гісторыі асноўную ролю мае меншасць.

Адбываецца гэта таму, што гісторыя мае незлічоную колькасць варыянтаў развіцця. Пакуль усё добра, людзі могуць пагаджацца ў галоўным, але ў моманты крызісаў і абвастрэнняў у грамадстве ўзнікаюць тысячы рашэнняў і планаў. Звычайна думкі падзяляюцца на дыяметральна процілеглыя і амаль напалову. У гэтай сітуацыі ўсё вырашае няўстойлівая, вагаючаяся меншасць: як толькі яна схіліцца направа, пераможуць правыя, налева – левыя.

Менавіта падобная ж сітуацыя стварылася ў Няметчыне на прыканцы 1932 года: гітлераўцы, як мы памятаем, на першым месцы, сацыял-дэмакраты – на другім, камуністы – на трэццім. Але ні гітлераўцы, ні сацыял-дэмакраты, ні тым больш камуністы цалкам кантраляваць уладу не ў стане.

У гэтай сітуацыі лёсы Няметчыны, Яўропы і ўсяго сьвету апынуліся ў руках меншасьці – у руках германскіх камуністаў. Падтрымаюць камуністы сацыял-дэмакратаў – і гітлерызм абваліцца і больш ніколі не паднімецца. А калі камуністы падтрымаюць гітлераўцаў, абваліцца сацыял-дэмакратыя.

Надзенем жа працоўную блузу таварыша Тэльмана і памяркуем, што патрэбна рабіць, пралічым наступствы хаця б аднаго наступнага кроку. Пра самастойны прыход да ўлады камуністам марыць не даводзілася. Заставалася два шляхі.

Першы: утварыць кааліцыю з сацыял-дэмакратамі, перамагчы на выбарах, сацыял-дэмакраты – старэйшы партнёр, камуністы – малодшы. Пасьля гэтага патрэбна было падзяліць партфелі: сацыял-дэмакратам – большасць міністэрстваў, камуністам – меншасць. Пасьля паразы на выбарах Гітлер збяжыць ці застрэліцца, калі не – яго заняволяць у турму за нявыплату шматмільённых абавязацельстваў. Партыя Гітлера разбяжыцца – у каго застанецца жаданне знаходзіцца ў шэрагах збанкрутаванай партыі і плаціць яе абавязкі пасьля паразы, калі іх не было каму плаціць да выбараў? Такім чынам, утварыць кааліцыю з сацыял-дэмакратамі азначала для камуністаў (і для ўсяго сьвету) крушэнне гітлерызму. Пасьля такога крушэння камуністы аўтаматычна падымаліся з трэццяга месца на другое і дзялілі ўладу з першай партыяй, з сацыял-дэмакратамі. Прывабна.

Быў у таварыша Тэльмана другі шлях: падтрымаць гітлераўцаў. Наступствы такога ходу прадказаць было лёгка: Гітлер, прыйшоўшы да ўлады, пасадзіць у канцлагеры як  сацыял-дэмакратаў так і камуністаў і самога таварыша Тэльмана.

Калі германскія камуністы падтрымаюць Гітлера, то гэта будзе азначаць забойства сацыял-дэмакратыі і самагубства германскага камунізму.

Таварыш Тэльман так і зрабіў – падтрымаў Гітлера.

На выбарах 1933 года Гітлер атрымаў 43% галасоў, сацыял-дэмакраты і камуністы – 49%.

Але таварыш Тэльман не пажадаў выступіць з сацыял-дэмакратамі адзіным блокам. Таму перамог Гітлер.

Цікава, як чырвоная прапаганда апісвае прыход Гітлера да ўлады. «Фашызм – гэта вайна… Хіба б у Гітлера і Мусаліні атрымалася б захапіць уладу і кінуць Яўропу ў бездань вайны, калі б усе антыфашысты, і перадусім камуністы і сацыялісты заходнееўрапейскіх краін, выступілі адзіным фронтам? Вядома, не».

Гэта перадавы артыкул «Вайскова-гістарычнага часопіса» (1962. N5. с.5), г. азн. афіцыйны погляд Міністэрства абароны ЗССР. Артыкул кіпіць шляхетнай лютасьцю: калі б аб'ядналіся, то Гітлер і Мусаліні не прыйшлі б да ўлады!.. Не было б Другой сусьветнай вайны!

Кіраўнікі Міністэрства абароны кіпяць гневам, але вінаватых прыходу да ўлады Мусаліні і Гітлера дзякуючы нейкай нагодзе не называюць.

А мы назавём. Беніта Мусаліні без чужой дапамогі да ўлады прыйсьці не мог. Праблема тая ж, што і ў Гітлера: нехапала галасоў. У сацыялістаў і лібералаў было больш. І тады таварыш Ленін забараніў італьянскім сацыялістам утвараць кааліцыю з ліберaламі. Вынік – да ўлады прыйшоў Мусаліні. Дарэчы, менавіта гэтыя дзеяння Леніна былі нагодай расколу сацпартыі. Тыя, хто падначаліўся ленінскаму загаду, выйшлі із сацыялістычнай партыі і ўтварылі камуністычную партыю Італіі. Дзякуй таварышу Леніну.

Гэты ўрок вельмі спадабаўся таварышу Сталіну. У студзені 1924 года на пленуме ЦК РКП(б) Сталін заявіў: «Не кааліцыя з сацыял-дэмакратыяй, а сьмяротны бой з ёю».

Сацыял-дэмакраты неаднаразова прапаноўвалі камуністам супольныя дзеянні супраць Гітлера на якіх заўгодна ўмовах, але заўсёды атрымлівалі цьвёрдую і наважную адмову.

Сталін адкрыў дарогу да ўлады для Гітлера метадам, якім Ленін адкрыў дарогу да ўлады для Мусаліні. А вось як гэта зараз апісвае наша афіцыйная прапаганда. У 1991 годзе АПН выпусьціла кнігу «Злачынец нумар 1». Аўтары – Данііл Яўхімавіч Мельнікаў, доктар гістарычных навук, прафесар, і Людзьміла Барысаўна Чорная, публіцыст і перакладчык. Кніга пра Гітлера.

Аўтары правялі вялізную дасьледніцкую працу, дакапаліся да самых каранёў, яны паведамляюць пра далёкіх продкаў Гітлера, мы даведваемся, хто із іх жыў у стане незаконнага адружання, у каго былі пабочныя незаконнанароджаныя дзеці. Мы даведваемся шмат цікавага пра дзяцінства і юнацкасць Гітлера. Перад намі выява ўзнікнення і развіцця германскага нацыянал-сацыялізму, кіраўніком якога быў Адольф Гітлер. Мы бачым узвышэнне нацыянал-сацыялізму, а потым крызіс 1932 года: усё знікла, усё бурыцца. Аўтары цытуюць выступленні германскіх палітыкаў канца 1932 года: Гітлер вырачаны, Гітлер спісаны, Гітлер ужо не існуе як палітык, на Гітлеру пастаўлены крыж. Аўтары выказваюць сваю думку: яшчэ крыху, і ад партыі Гітлера адвярнуліся б усе яе прыхільнікі, а сам Адольф Гітлер, калі б не збег ці не пакончыў з сабой, то апынуўся б у пазыковай яме.

За гэтым адразу ідзе апісанне прыходу Гітлера да ўлады.

Пераскок у апавяданні незразумелы. Гэта як у фільме, калі выразана некалькі метраў плёнкі: рывок – і раптам на экране без якога б то ні было перапынку паданне ператвараецца ва ўзлёт.

Кніга пра Гітлера, таму ключавым месцам у ёй павінен быць пытанне: як ён дабраўся да ўлады? Усе астатнія пытанні – другарадныя. Без дзяржаўнай улады Гітлер быў нічым. Усе злачынствы сталі магчымымі толькі таму, што Гітлер атрымаў уладу – у прыватным стане канцлагер не пабудуеш. Як жа гэты падлюка, гэты гнюс, гэты вылюдак набыў уладу?

Вось што аўтары нам прапануюць у адказ: «У гэтай кнізе няма магчымасьці, ды і патрэбы пералічваць усе перыпетыі змагання вярхоў за канцлерскае крэсла ў 1932-1933 гадах…» (с. 135).

Вось і ўсё: няма магчымасьці і патрэбы. Дабраўся Гітлер да ўлады, і каму якая справа, як дабраўся. Аўтары дакапаліся да гітлераўскіх бабуль і прабабуль, перакапалі горы бруднай бялізны, паведамілі нам усе вясковыя плёткі стагадовай даўніны, а калі дайшлі да галоўнага, то тут бачыцца толькі нетлумачальны пераскок у апавяданні.

Гітлер, калі яму было непажадана распавядаць пра падзеі лістапада 1923 года, ужыў прыём: «я не буду пашырацца…». Афіцыйная камуністычная прапаганда карыстаецца тым жа гітлераўскім прыёмам: «няма магчымасьці і патрэбы» паведамляць пра галоўнае і самае цікавае.

А мы адкажам: таварышы камуністы, ёсць магчымасць абмяркоўваць прыход Гітлера да ўлады. І ёсць такая патрэба.

Проста для таго, каб гэта ніколі больш не паўтарылася.

Пытанне: што павінен быў рабіць таварыш Сталін у драматычнай сітуацыі пачатку 1933 года?

Адказ: нічога.

І тады Гітлер прайграў бы і ніякай «вялікай айчыннай вайны» проста не было б. Быў бы мір. І мы б не аплаквалі мільёны загінуўшых.

Але таварышу Сталіну была патрэбна вайна. Таму таварыш Сталін загадаў камуністам у адзін блок з сацыял-дэмакратамі не ўступаць. Мала таго, страйк ва Ўсходняй Прусіі, дзе была патрэба скінуць сацыял-дэмакратаў, праходзіў пад агульным чырвоным сьцягам, на якім у свастыку былі ўплецены серп і молат. Зараз, зразумела, камуністам «няма магчымасьці і патрэбы» пра гэта распавядаць.

Пасьля выбараў 49% галасоў былі падзелены на сацыял-дэмакратаў і камуністаў. Разам – магутнасць, паасобку – слабасць. Ні камуністы, ні сацыял-дэмакраты паасобку не мелі 43%. Іх меў Гітлер. І ён перамог. І ўсе абавязацельствы спісалі.

Вось тут і патрэбна шукаць вытокі Другой сусьветнай вайны.

Першыя гітлераўскія канцлагеры – для педэрастаў і сацыял-дэмакратаў. Камуністаў Адольф Гітлер таксама не забыўся. Ніжнія чыны камуністычнай партыі Няметчыне хутка перакаваліся ў нацыянал-сацыялістаў, не вялікая розніца, а верхні эшалон, пачынаючы з таварыша Тэльмана, – у кутузку.

Перад выбарамі таварыш Тэльман меў дзьве магчымасьці: а) адным крокам, адным палітычным ходам задушыць гітлерызм у стане маленства і самому пры гэтым стаць міністрам у сацыял-дэмакратычным урадзе; б) адкрыць дарогу Гітлеру да ўлады і самому патрапіць за калючы дрот і там загінуць.

Таварыш Тэльман выбраў кутузку. І загінуў у зняволенні. Так хай жа не крыўдзяцца на мяне, калі я Тэльмана, яго саўдзельнікаў і супольнікаў называю

амерыканскіх стратэгічных паставак у ЗССР. Гэты спіс перадваенных амерыканскіх стратэгічных паставак можна параўнаць толькі з бясконцым спісам стратэгічных паставак падчас вайны. Калі чытаеш гэты спіс, перастаеш разумець, чым амерыканскія пастаўкі Сталіну ваеннага часу адрозніваліся ад перадваенных. І прыходзіш да высновы: нічым. Амерыканскі канвеер дапамогі Сталіну быў уключаны напачатку трыццатых гадоў. У студзені 1939 года струмень амерыканскіх стратэгічных матэрыялаў набраў галавакружачую хуткасць і знішчальную магутнасць і да канца вайны ўжо не спыняўся. Сталін мог рабіць у Яўропе ўсё, што лічыў патрэбным, але вышэй «маральнага эмбарга» пакаранне не атрымваў. Вось яна – сталінская прыгатаванасць да вайны: Сталін заручыўся амерыканскай падтрымкай да таго, як германскія танкі паламалі польскія памежныя шлагбаўмы.

Але ў таемным савецка-амерыканскім пагадненні хавалася нешта большае, чым безкарыслівая гатоўнасць Рузвельта дапамагаць Сталіну. Кожны, хто падпісваў дамову са Сталіным, дрэнна заканчваў (у тым ліку і Адольф Гітлер), таму што дамова са Сталіным была дамовай з дз’яблам – тут выйграць немагчыма. Гэта мела дачыненне і да Рузвельта. Зрабіўшы толькі адзін першы крок – пагадзіўшыся на таемныя перамовы са Сталіным, Рузвельт ужо прайграў. Сутнасць пройгрышу ў тым, што амерыканская палітычная сістэма задумана так, каб не дазволіць нікому (і перадусім – прэзідэнту) мець зашмат улады. Кангрэс жудасна не паважае прэзідэнтаў, якія вядуць таемныя перамовы не раючыся з народнымі выбраннікамі. Пагадзіцца на таемныя перамовы са Сталіным, не паведаміўшы пра гэта Кангрэс, – самагубны крок Рузвельта. Сталін атрымаў матэрыял, якім калі заўгодна мог Рузвельта забіць у вачах Кангрэса, прэсы і амерыканскага народа.

Зразумела, таварыш Сталін быў не такім дурным, каб пазбавіць таварыша Рузвельта пасады. Але такую магчымасць Сталін набыў.

Я не ведаю, якім чынам Сталін прымушаў Рузвельта ісьці на саступкі, магчыма, ён казаў: «Ты не рыпайся, калі хочаш і далей…», магчыма Сталін вымаўляў іншыя словы, але ў Сталіна існаваў нейкі механізм уплыву на Рузвельта. Гэтую загадку належыць разгадаць сапраўдным гісторыкам-прафесіяналам.

Я падобнае заданне вырашыць не ў стане. З маёй званніцы можна толькі бачыць нетлумачымую шчодрасць амерыканскага прэзідэнта і загадкавую мяккасць, выяўляемую Рузвельтам пачынаючы з самага першага дня яго кіравання (памятаеце два трактары із Нью-Ёрка?). Незразумелая падатлівасць Рузвельта ўвесь час пашыралася і паглыблялася і завяршылася поўнай капітуляцыяй у 1945 годзе ў Ялце.

Калі паглядзець шырэй, то добрае стаўленне Захаду да ўлады камуністаў у Расіі выявілася з першых дзён яе захопу. Ужо ў 1919 годзе Ленін заўважыў: «Нам даводзіцца рукамі нашых ворагаў ствараць камуністычнае грамадства» (VIII з'езд РКП(б). Пратаколы. М., 1959. с. 20).

Гэтае добрае стаўленне давала Сталіну магчымасць не асьцерагацца таго, што на Захадзе нехта абурыцца яго ўварваннем у Яўропу. Пастаяннае прыхільнае стаўленне Захаду Сталін замацаваў бліскучым заключэннем пакта Молатава-Рыбентропа: падштурхнуўшы Гітлера ў вайну, Сталін паставіў сябе так, што Брытанія і ЗША былі вымушаны завабліваць яго на свой бок. Маршал Савецкага Звязу М.В.Захараў пра пакт Молатава-Рыбентропа пісаў: «Узніклі выгадныя падставы для стварэння ў будучым антыгітлераўскай кааліцыі» («Новая і навейшая

гісторыя». 1970. №5. с. 27). Гэта праца генія: Сталін заключыў хаўрус з Гітлерам і тым самым стварыў умовы і перадумовы для хаўрусу супраць Гітлера!

Праз шмат гадоў пасьля першых публікацый главаў із «Ледакола» архівы трохі адчыніліся і ўсплылі доказы: прамова Сталіна 19 жніўня 1939 года. Доступу да яе я мець не мог. Калі б на мяне працавалі ўсе выведкі сьвету, то яны таксама да сталінскага архіву (спадзяюся) далезьці не змаглі б. Але шмат гадоў назад існаванне гэтай прамовы я вылічыў. Яна павінна была быць: да 18 жніўня 1939 года ўключна існавала адна палітыка, а 19 жніўня яна рэзка перамянілася. У гэты момант Сталін павінен быў у самым блізкім коле патужнікаў патлумачыць свой манеўр. Віраж быў круты да галавакружэння, а кожны сябра Палітбюро павінен разумець свой манеўр, інакш кіраваць краінай і Сусьветнай рэвалюцыяй немагчыма: пасьля такога віражу ўсе сябры Палітбюро павінны былі страціць арыентоўку. І Сталін, як кожны камандыр у незразумелым становішчы, павінен быў пачынаць рашуча і проста: «Арыентую!»

Я не меркаваў, а проста ведаў, што выступленне Сталіна ў гэты дзень было. І ведаў – пра што. Мяне не хвалявала, што доказаў няма, не турбавала нават пытанне, была запісана сталінская прамова ці не, і калі запісана, ці захавалася ў архіве ці была знішчана.

Я выказваўся і пісаў пра гэты выступ як пра ўсталяваны факт. Прызнаю, у маёй упэўненасьці быў элемент нахабніцтва…

Уся афіцыйная навука адмаўляла магчымасць існавання такой прамовы і самога паседжання Палітбюро пад час таго фатальнага дня 19 жніўня 1939 года.

І вось у 1994 годзе прамова знойдзена. У ёй таварыш Сталін гаварыў: «Пазьней усе народы, патрапіўшыя пад „абарону“ пераможнай Няметчыне, таксама стануць нашымі хаўруснікамі. У нас будзе шырокае поле дзейнасьці для развіцця Сусьветнай рэвалюцыі».

19 жніўня 1939 года Сталін ведаў, што пачынае Другую сусьветную вайну, ведаў, што Няметчына пачне захопы і тым самым ператворыць усе краіны, як захопленыя, так і не захопленыя, у хаўруснікаў ЗССР. Таму пачынаючы з 19 жніўня 1939 года антыгітлераўская кааліцыя не магла не ўзнікнуць. Пачынаючы з гэтага моманту яна была вырачана на няўхільнае ўзнікненне.

Вы можаце мяне абзываць якімі заўгодна словамі, але я захоплены і зачараваны Сталіным. Гэта быў звер, крывавая дзікая пачвара.

А яшчэ – геній усіх часоў і народаў.

# Глава XI

## Як я ваяваў з марсіянамі

«І потым усе бачылі гэтую безталанную, ганебную фінскую кампанію, калі наша вялізная краіна тыкалася, тыкалася каля гэтай самай лініі Манэргейма. Усім паказалі, што мы ваяваць… і супернікі нашы бачылі, што мы ваяваць не гатовы».

Аляксандр Салжаніцын. Астанкіна, 15 траўня 1995 г.

У адной вельмі ганаровай і вядомай у вайсковым сьвеце навучальнай установе недзе пад канец васьмідзясятых завяршыўся навучальны год. Адгрымелі экзамены, шчаслівыя выпускнікі развітаўшыся з роднымі сьценамі, раз'ехаліся. Апусьцелі калідоры, заціх сьмех у садах цяністых…

Прыгожае месца. Калі вам папярэдне не паведамяць, куды гэта вас лёс занёс, то так адразу і не здагадаешся: сады, паркі, азёры ў чароце, кедры да неба, акіяны кветак, уздоўж алей то тут то там – гарматы, танкі, самалёты ўсіх часоў і народаў. Ідзеш як па музею: шрубалёты, марскія міны, тарпеды. І зусім не шэрагамі, а для кожнага танка сваё мястэчка прыстасавана, кожны так упісаны ў сады і лужкі, нібы кітайская альтанка над грымячым раўчуком, – з разуменнем. А вось і наша родная 76-мм палкавая гармата ўзору 1942 года на жалезных нямецкіх колах з нямецкім дульным тормазам – немцы захоплівалі і выкарыстоўвалі ў баях – у іх такой дзіва-зброі проста не было. Часам трафейныя савецкія гарматы немцы выкарыстоўвалі ў тым выглядзе, у якім захапілі, а часам рабілі перамены ў канструкцыі. Адпаведна з нейкімі, толькі ім вядомым меркаваннямі здымалі нашы колы, напоўненыя гусматыкам, і ставілі свае нямецкія – жалезныя. Мабыць, гумы ў іх не было ў дастатковай колькасьці. І дульны тормаз замянялі… І выкарыстоўвалі супраць Чырвонага Войска. Шмат немцам дасталася першакласнай зброі і боепрыпасаў у памежных раёнах Савецкага Звязу на працягу першых дзён вайны. А потым – пад Харкавам і ў Крыму – у 1942-м. А пад канец вайны гэтыя гарматы, гэтыя скарбы патрапілі ў рукі Брытанскага войска ў якасьці баявога трафея, і вось адна з іх стаіць у кустах бэзу, падобна на тое як у засадзе.

Гэта ўжо гісторыя. І кошту ёй няма, той гарматцы. А побач у ангарах – наша трыццаць чацьвёрачка і «Каралеўскі тыгр» і шмат-шмат яшчэ розных штук, ад дакранання да якіх у кожнага нармальнага чалавека кружыцца ад захаплення галава.

Калі прайсьці па алеях, то тут не толькі танкі і гарматы, але і марціру часоў Крымскай вайны можна сустрэць і шмат яшчэ розных цудаў.

Такім чынам, завяршыўся навучальны год – рамонт ва ўсіх навучальных карпусах, фарбуюць сьцены і падлогу, у старым корпусе рэстаўрацыя, каб усё было так, як пад час даўніны, а побач у новым корпусе перарабліваюць кампутар неверагоднай магутнасьці, пераводзячы на новыя праграмы.

Нашаму брату выкладчыку раздолле – залазь на цэлы дзень у бібліятэку і грызі граніт навук, ніхто не перашкодзіць. Бібліятэка – мара. На сьценах – калекцыі ордэнаў, кожны музей пазайздросьціць. І калекцыі асабістай зброі знакамітых генералаў, пад шклом – форма парадная з аксельбантамі і эпалетамі. Палічкі кніжныя бясконца цягнуцца. Цішыня, як у космасе.

Аблажыўся я тамамі, нібы-та бастыёны вакол сябе пабудаваў, абарону непрыступную, каб не заўважылі мяне, каб ад працы не адрывалі.

Але знайшлі мяне і адарвалі: існуе магчымасць вылучыцца.

Запрашае вялікі кіраўнік, ставіць заданне: дапамагчы інжынерам той самы кампутар пераналадзіць. «Я, – адказваю, – у кампутарах не вельмі…»

А кіраўнік адказвае, што гэтага ад мяне і не патрабуецца: там ужо шэсць электронных экспертаў на працягу двух месяцаў вядзьмараць, чарадзейнічаюць – аднаго із Японіі выпісалі, дваіх із Амерыкі даставілі, астатнія – свае. І мяне да іх – вялікая сямёрка. Інтэрнацыянал. Кампутар пераналаджваюць на іншую праграму. Засталося два тыдні. Сваю электронную працу інжынеры ведаюць добра, але ім патрэбен нехта, хто б фантастычныя вайсковыя сітуацыі прыдумляў, нешта накшталт вайны сусьветаў: нашы супраць марсіянаў ці нешта падобнае. Кампутар створаны адмыслова для мадэлявання баявых аперацый. Іх на ўсю Брытанію, магчыма, усяго толькі пара такой магутнасьці: адзін баявы, дзе-небудзь у падзямеллі для планавання войны, і адзін тут – для падрыхтоўкі аператараў,

праграмістаў і вышэйшых кіраўнікоў. Калі сказаць праўду, я не ведаю, колькі іх, такіх кампутараў, у Брытаніі. Проста выказваю здагадку. А па ўсяму сьвету (на мой пагляд дылетанта) іх, магчыма, не больш дзясятка набярэцца.

«Ты, – кажа кіраўнік, – у нас вядомы дзівак, і ўсе ў тваю галаву нейкія дзівацкія ідэі прыходзяць, парадаксальныя. Нам тваіх ідэй не зразумець. Але тваёй здольнасьцю дзівачыць мы скарыстаемся. Ідзі да электронных экспертаў і прыдумляй. Каб дарэмна твае ідэі не зьнікалі, ідзі і ваюй з марсіянамі».

І я пайшоў.

Тут патрэбна зрабіць адступленне. Адступіць ад тэмы. Мне часам пытанні задаюць наконт выкладніцкай дзейнасьці. Зноў жа – удзел у наладцы вайсковага кампутара неверагоднай магутнасьці… Гэта для ядзернай вайны. Пытанне мне непасрэдна не фармулююць, але неяк аб’ядноўваюць: лекцыі чытаеш, вучыш афіцэрыкаў варожых, і тут жа – пра сумленне, пра пакінутую радзіму…

Пытанне зразумеў. Адказваю: калі мая любая радзіма і ў новым тысячагоддзі не адмовіцца ад ідэі Сусьветнай рэвалюцыі і кінецца ва ўсім сьвеце ўсталёўваць камуністычныя парадкі, дык я не толькі варожых афіцэрыкаў вучыць буду і браць удзел у наладжванні вайсковых кампутараў, але і з аўтаматам у руках пайду ваяваць супраць камунізму.

Ну а калі Сусьветнай рэвалюцыі не здарыцца, калі мая выдатная радзіма не кінецца ў прыпадку шаленства на ўсіх сваіх суседзяў, то мае лекцыі нікому шкоды не прынясуць. І той кампутар будзе мірна гусьці ў халаднаватым падзямеллі.

Такім чынам, я спускаюся туды, дзе вядзьмараць электронныя карыфеі. Спачатку нібы-та пакрыўджаны – ад працы адрываюць. А потым зразумеў: да кампутара такой магутннасьці на працягу дваццатага стагоддзя наўрад ці нейкі гісторык будзе дапушчаны. Занадта дарагое задавальненне. Не для цацак такія штукі ствараюць. І не для гістарычных дасьледаванняў. Я не гісторык, я проста аматар вайсковай гісторыі. Але атрымліваецца, што я адзін із усіх гісторыкаў, прафесіяналаў і аматараў, на ўсёй зямлі ў дваццатым стагоддзі маю магчымасць скарыстацца такім дзівам. Праз два тыдні, калі яго канчаткова пераналадзяць, такім цвыркунам, як я, доступу да яго не будзе і загрузяць яго сур'ёзнай працай, пра змест якой можна толькі здагадвацца. А пакуль….

Разам з сабой прынёс валізку даведніцкай літаратуры. Расклаў.

І пачалі. Мадэлюем нейкую фантастычную вайну.

– Можна армейскую наступальную аперацыю пракруціць?

– Калі ласка, – адказваюць. – хоць і франтавую.

Добра. Пачалі. Пачынаю з таго, што прашу задаць тэмпературу паветра: мінус 41 градус па Цэльсію.

Мне здалося, што кампутар бліснуў злосьцю, увесь заіскрыўся і завыў ад абурэння. Адказ імгненны: зададзена немагчымая для выканання ўмова – пры такой тэмпературы правядзенне наступальных аперацый немагчыма.

Я настойваю. Кампутар маё патрабаванне адкідае. Эксперты пачынаюць злавацца. Мне тлумачаць, што разумная машына благую інфармацыі не прыме.

А я ўпёрся.

Але спрачацца з кампутарам – справа безнадзейная, накшталт таго як нападаць на Расію. Настойваю, патрабую, каб увялі мінус 41. Эксперты палезлі ў слоўнікі – калі я па-ангельску не разумею, вось чытай гэтае слова на сваёй рускай мове: не прымае кампутар, не ўспрымае, не пераварвае, такога не есь, не дзяўбе, не жарэ, не пажырае, не хавае!

Добра. Пераканалі. Разумею: не ўспрымае.

Занадта, кажуць, рускі, у цябе ўяўленне распалілася. Задавай заданні, але галавой думай, фантазія – справа добрая, але тармазы май. І часам імі карыстайся.

А я не фантазіраваў, не вайну сусьветаў прыдумляў, а нашу няшчасную Зімовую вайну: 30 лістапада 1939 года Чырвонае Войска ўступіла на зямлю Фінляндыі. Пад час дня – яшчэ нічога, ноччу – трываць можна, бліжэй да раніцы – мінус 41 па Цэльсію. А пазней некаторымі днямі і начамі бывала і горш.

Але ім, басурманскім дзецям, не патлумачыш, ім да гэтага няма ніякай справы. Ім бы кнопкі свае націскаць.

А я раблю першую для сябе выснову: позняй восенню 1939 года таварыш Сталін паставіў Чырвонаму Войску немагчымае для выканання заданне – прарваць «Лінію Манэргейма» на Карэльскім пярэсмыку.

ЧЫРВОНАЕ ВОЙСКА НЕМАГЧЫМАЕ ДЛЯ ВЫКАНАННЯ ЗАДАННЕ ВЫКАНАЛА.

Прызнаюся, у мяне раней існавала такое ж меркаванне: Чырвонае Войска ў Фінляндыі зганьбавалася на ўвесь сьвет… Задума ў мяне была простая – прайграць вайну ў Фінляндыі на свой манер, не так, як дурныя сталінскія генералы ваявалі, а па-свойму, па-разумнаму…

Але высьветлілася, што ніводнае войска ў сьвеце пры тэмпературы мінус 41 градус наступальных аперацый не вяло. І ніхто не павінен смяяцца над маім войскам. Самі паспрабуйце. Тады смейцеся.

Але як жа фіны абараняліся?

Абарона – іншая справа. На працягу дваццаці гадоў практычна ўвесь вайсковы бюджэт Фінляндыі выдаткаваўся на стварэнне ўмацаванняў на Карэльскім пярэсмыку. Была пабудавана абарончая лінія працягласцю 135 кіламетраў і глыбінёй да 90 кіламетраў. Флангі ўпіраліся ў Фінскі заліў і Ладажскае возера. За бязмежнымі міннымі палямі, за супрацьтанкавымі равамі і гранітнымі надаўбнямі, за жалезабетоннымі тэтраэдрамі і драцянымі загародамі па дзесяць, дваццаць, трыццаць радоў (на вышыні 65,5 – сорак сем радоў густа замінаванага калючага дроту на металічных слупах, цэнтральныя рады – убітыя ў зямлю рэйкі замест слупоў), дык вось, за гэтымі загародамі – жалезабетонныя казяматы: тры, чатыры, пяць паверхаў пад зямлю, перакрыванні – паўтара-два метры фартыфікацыйнага жалезабетону, падлогавыя сьцены прыкрыты бранявымі плітамі, усё гэта завалена шматтоннымі гранітнымі валунамі і засыпана грунтам. Усё замаскіравана. Над гэтымі казематамі ўжо выраслі густыя яловыя лясы. А лясы снегам засыпаны. Кулямётчыкі, стралкі, артылерысты сядзяць за бранёй і бетонам, глыбокія амбразуры тушаць выблiскі стрэлаў, пераіначваюць і прыглушаюць гук стрэлаў – страляюць ва ўпор, а нам усё здаецца – страляюць нібы-та із-за далёкага лесу… А ўсярэдзіне ў іх, у кожным казэмаце – склад боепрыпасаў і паліва, усярэдзіне – цёплыя спальныя памяшканні, пакой адпачынку, і кухня, і страўня, і прыбіральня, і вадавод, і электрастанцыя… Камандныя пункты, вузлы сувязі, шпіталі – усё пад зямлёй, усё пад бетонам, пад лясным гушчаром, пад снегам. І ўсё – у цяпле. Снайпер, суткамі чакаючы сваю ахвяру, ваяры лёгкіх лыжных атрадаў, робячых рэйды па тылах Чырвонага Войска, цёпла апрануты, добра экіпіраваны. Жаўнеры Фінляндыі народжаны, выхаваны і падрыхтаваны для дзеянняў менавіта ў гэтых умовах. Яны ведаюць, што праз некалькі дзён пасьля баявога дзяжурства ці лыжнага рэйду іх накормяць гарачым супам, іх чакае ўтульны адсек у падземным бункеры, дзе яны выспяцца ў цяпле перад новым заданнем. Яны ведаюць, што ў

выпадку ранення іх чакае аперацыйная палата глыбока пад зямлёй, там чыста, суха, і зноў жа – цёпла.

Але паспрабуйце наступаць пры такіх умовах. Паспрабуйце адрэзаць параненаму нагу, калі за танюсенькай сьцяной шпітальнага намёта мінус 40, а ўсярэдзіне – мінус 30.

Дык вось, пры мінус сарака і ніжэй градусах здольна наставаць толькі маё войска. Толькі яно здольна здзяйсняць цуды, здзяйсняць тое, што немагчыма.

Адным словам, кампутар мінус 41 не прыняў. Не пераварыў. Не з'еў. Не зжэр. Не схарчаваў.

– Добра, – кажу, – будзем лічыць, што тэмпературы наогул ніякай не было. Бывае ж такое, што няма тэмпературы.

Заўсміхаліся электронныя мудрацы: гэта лепш, так да рэальнага жыцця бліжэй. Хлусіць я не мог, мінус 25 не мог уводзіць у электронныя мазкі, калі ў рэчаіснасьці было мінус 40 і ніжэй. Таму кампраміс – няма тэмпературы. Не – і баста.

Уводзім другі параметр: глыбіня снежнага покрыва – паўтара.

– Паўтара? Чаго паўтара? Сантыметра, цалі, фута?

– Метра, – адказваю. – Метра, дзеткі.

І зноў кампутар зароў.

Мой чытач, вы нікому не перадавайце, а я вам вайсковы сакрэт паведамлю: у іх на Захадзе наогул усе ваенныя кампутары слабанярвовыя.

І чым больш разумны, тым нервы больш слабыя. Заканамернасць такая. Адваротная прапорцыя. Мне дастаўся адзін із самых разумных і магутных, таму яго нярвовая сістэма была разбалансавана вышэй дапушчальнай мяжы. Ён тут жа і ўскіпеў: так ваяваць немагчыма!

Немагчыма.

Я ўдакладняю, што пад сьнегам балоты, якія не замярзаюць – снег іх ад марозу хавае. Я тлумачу, што пад снегам азёры. На азёрах тонкі лёд. Тая ж нагода: глыбокі снег – ізалятар. Там, дзе снегу няма, вада прамярзае да дна, а там, дзе на лёдзе глыбокі снег, там лёд вельмі танюсенькі, там танк правальваецца. Фінляндыя – краіна тысяч азёр, але паспрабуй жа ты разбяры, дзе возера, а дзе поле? Усё навокал белае і пушыстае, ды зіхацячае. А яшчэ пад снегам – валуны гранітныя. З выгляду поле роўнае, снег ды і снег, але пайшлі танкі і пераламалі каткі, гусяніцы парваліся. Яшчэ да таго, як патрапілі на міннае поле. Мясцовасць, так бы мовіць, супрацьтанкавая. Танкам тут рабіць няма чаго: ці поле ў валунах, ці возера, ці гушчар непралазны. І ўсё гэта мільёнамі мін нашпігавана. Памыліцца можна, але толькі адзін раз на працягу жыцця.

Але ўсіх гэтых падрабязнасьцей кампутар чуць не жадае: калі б не было балот і азёр, калі б не было рэзка перасечанай мясцовасьці, калі б не было вялізных гранітных камлыг, то ўсё адно пры наяўнасьці такога снежнага покрыва ваяваць немагчыма.

Дык вось, таварыш Сталін паставіў Чырвонаму Войску двойчы немагчымае для выканання заданне.

А я дадаю паведамленне пра тое, што сьветлага часу ў снежні – вельмі мала. У чатыры гадзіны – цемра. А туды, вышэй да поўначы, – дзень яшчэ карацейшы ці наогул ніякага дня няма.

А я дадаю сведчанні пра лясы: вышыня дрэў, сярэдняя адлегласць паміж ствааламі, таўшчыня ствалоў. А адказ усё той жа – тут наступаць немагчыма.

У лясах танкам рабіць няма чаго, у лясах агонь артылерыі карэктаваць немагчыма. Лес. Непраходны лес. Тайга. Лініі гарызонту няма. Артылерыйскі назіральнік не бачыць, куды падаюць снарады: над галавой свішча, вые, а куды падае – не разабраць. А із батарэі гарлапаняць у трубку: недалёт? Ці пералёт? А халера яго ведае! Бачыць разрывы можна толькі з той самай палянкі, на якую гэтыя самыя снарады падаюць. А фінская артылерыя ў гэтых месцах існавала заўсёды. Кожная батарэя за шмат гадоў мірнага часу прыстраляла межы; наводчыкі, карэктоўшчыкі, камандыры ведаюць дадзеныя для стральбы напамяць.

Такім чынам, наша артылерыя мала нам дапамагае, танкі амаль не маюць карысьці, не для танкаў гэтая мясцовасць, авіяцыя зверху таксама нічога не бачыць. Падручнік тактыкі сведчыць: «Зверху лес успрымаецца як аднастайная паверхня, выявіць знаходжанне войска ў лесе атрымліваецца ў выключных выпадках». У нармальных умовах войска ў лесе не заўважыш. А тут і заўважаць няма чаго – яно не ў лесе, а пад сьнегам, пад зямлёй. І на працягу сьветлага часу дым ад іхных печак можна назіраць толькі там, дзе яны маюць жаданне яго прадэманстраваць – у несапраўдных раёнах абароны. Ды і дзе ён, гэты сьветлы час?

А наступаючаму ў зямлю не закапацца, таму што ў снежні ў Фінляндыі зямля ад граніту адпаведна з цьвёрдасьцю мала адрозніваецца. І параненых можна ў шпіталь нават не цягнуць – на такім марозе нават пры невялікай страце крыві паранены замярзае.

Гэта ўсё я кампутару дадаю.

Кампутар нічога гэтага браць не жадае, аператары сварацца. Спрачаліся-спрачаліся, пайшлі на кампраміс: тэмпературы зусім ніякай не было, снегу не было, не было балот і лясоў, дзень ніколі не меў заканчэння. Вырашылі ваяваць так, каб прырода наступаць не перашкаджала. Палічылі, што існуюць перашкоды толькі выбуховыя і невыбуховыя, проціпяхотныя і супрацьтанкавыя і існуюць абарончыя пабудовы. Дадаю шчыльнасць мінавання. Дадаю паведамленні пра паласу загарод – глыбіня ад 15 да 60 кіламетраў: мінныя палі, эскарпы, контрэскарпы, лясныя завалы, у непраходных стагадовых яловых лясах – вузкія калідоры ў снягу. (Снегу, дамовіліся, няма, але калідоры засталіся, нікуды з іх не збочыш: патрапілася перад танкавай калонай наша сустрэчная машына – душы яе. Інакш – ніяк.) Штучныя перашкоды ўпісаны ў мясцовасць, а мясцовасць перарэзана ручаямі і рачулкамі са стомкімі берагамі. Берагі эскарпаваны. Усе масты знішчаны. Усе падыходы да мастоў замінаваны, усё прастрэльваецца снайперамі. За гэтым – галоўная палоса абароны глыбінёй 7-12 кіламетраў. Але гэта вядома мне зараз, а тады савецкаму кіраўніцтву гэта было невядома, як і абрысы пярэдняга краю. За галоўнай палосай – зноў загароды і яшчэ адна палоса абароны, і зноў мінныя палі, загароды, і яшчэ адна палоса абароны.

– А які бетон? – цікавіцца кампутар.

Адказваю: цэмент маркі «600», арматура сталёвая, 95 кілаграмаў арматуры на кубаметр бетону.

Ну, лічу, задаў я шэраму загадку, думаць яму зараз дні тры. Але я памыліўся. Кампутар адказаў хутка і рашуча: накірунак галоўнага ўдару Лінтула-Віipуры; перад наступленнем – агнявая падрыхтоўка: першы выбух паветраны, эпіцэнтр – Каннельярві, эквівалент 50 кілатон, вышыня 300; другі выбух паветраны, эпіцэнтр – Лаўнатйёкі, эквівалент… трэцці выбух… чацьвёрты…

Я аператарам: стоп, машына, поўны назад!

– Без ядзернай зброі немагчыма?

– Немагчыма, – адказвае кампутар.

Я да яго і з ласкай, і з пагрозамі, але кампутар патрапіўся ўпарты: БЕЗ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ НЕМАГЧЫМА.

Май хоць восем розумаў, хоць самы магутны кампутар, адказ усе той жа: без ядзернай зброі нічога не атрымаецца. НІХТО НЕ ЗДОЛЕЕ!

Выснова: Чырвонае Войска прарвала «Лінію Манэргейма», г.зн. здзейсніла немагчымае. Чатырохразова немагчымае. Такое было магчыма толькі ў нас. І толькі пры таварышу Сталіну. І толькі пасьля вялікага ачышчэння войска: загад не выкананы – расстрэл на месцы. Як расстрэл кіраўніцтва 44-й стралковай дывізіі перад яе шэрагамі.

Прарваць тую абарону немагчыма. Нават калі б не існавала ніякай тэмпературы. Нават калі б не было сьнегу. Нават калі б было дваццаць гадзін сьветлага часу за суткі. Немагчыма.

Наогул у дваццатым стагоддзі, калі адно войска стала ў глухую абарону, то прарваць яго фронт вельмі складана. За ўсю Першую сусьветную вайну ні немцам, ні брытанцам, ні амерыканцам, ні французам прарваць фронт абароны суперніка не атрымалася ніводнага разу. Выключэннем было толькі Рускае войска. На працягу ўсёй Першай сусьветнай вайны была толькі адна аперацыя, назва якой паходзіць не ад мясцовасьці, а ад імя вайскавода – генерала ад кавалерыі Аляксея Аляксеевіча Брусілава – Брусілаўскі прарыў.

Калі адно войска стала ў абарону, калі яно закапалася ў зямлю, г.зн. выкапала траншэі, акопы, пабудавала бліндажы, загарадзілася калючым дротам, то праламаць гэта не атрымлівалася нават пасьля шматмесячнай артылерыйскай падрыхтоўкі, шматразовай апрацоўкі атрутнымі газамі і незлічоных атак пяхоты.

Калі ж палявую абарону войска ўзмацніць даўгачасовай фартыфікацыяй, г.зн. пабудаванымі яшчэ ў мірны час інжынернымі загародамі: супрацьтанкавымі равамі, надаўбнямі, эскарпамі і контрэскарпамі, жалезабетоннымі агнявымі пабудовамі, схаваць глыбока пад зямлю ўсё, што магчыма, то такая абарона будзе цалкам непрыступнай. Так і лічылі вайсковыя эксперты Захаду, у тым ліку і сам вялікі Б.Х.Лідэл Гарт. Так лічылася да 1940 года, пакуль Чырвонае Войска не давяло адваротнае.

Прарванне «Лініі Манэргейма» – гэта першы ў гісторыі прыклад пераадолення даўгачасовай абарончай паласы. Толькі пасьля таго, як Чырвонае Войска ў Фінляндыі здзейсніла нешта выходзячае за межы разумнага, эксперты пачалі лічыць, што прарыў тэарэтычна магчымы.

Нямецкае войска ніколі падобных умацаванняў не прарывала. «Лінію Мажыно» можна было абыйсьці бокам, і германскае войска яе абыйшло. У Савецкім Звязе «Лінія Молатава» не была пабудавана, не была прыкрыта палосай забеспячэння і практычна войскам не абаранялася. «Лінія Сталіна» была раззброена, кінута і войскам не занята. Там, дзе яна абаранялася войскам (Кіеўскі УР), там прарваць яе супернік не здолеў – быў здзейснены прарыў на іншых дзялянках фронту і Кіеўскі УР абыйшлі з двух бакоў.

У 1943 годзе германскае войска, сканцэнтраваўшы жахлівую магутнасць, не здолела прарваць савецкую палявую абарону ў раёне Курскага выступу. На Курскай дузе не было ні дотаў, ні жалезабетонных тэтраэдраў, ні гранітных надаўбняў. Мароз таксама не даймаў.

Нават без снегу і марозу, нават без балот, азёр, рэк і лясоў сама па сабе «Лінія Манэргейма» была непрыступнай. Дык вось. Чырвонае Войска зімой

1939/40 года здзейсніла цуд. Непатрэбны, бязглузды, але цуд. Крывавы, жахлівы, але вялікі.

Прарваць такія ўмацаванні немагчыма ні за пяць, ні за восем гадоў. Чырвонае Войска зрабіла гэта за тры месяцы.

Чырвонае Войска ў Фінляндыі давяло, што яно ў стане выканаць якое заўгодна заданне. Нават невыканальнае. Двойчы невыканальнае. Тройчы і чатырохразова невыканальнае.

Прызнаюся, доўга пракатваць аперацыі мне не дазволілі. Ужо на наступны дзень электронныя інжынеры пайшлі жаліцца вялікаму кіраўніку: нам патрэбен рэаліст, а не фантаст.

І замест мяне выправілі рэаліста.

Але я не маркоціўся. Галоўнае было зроблена. І калі больш няма доступу да кампутара такой магутнасьці, то я вырашыў праводзіць навуковыя эксперыменты. І правёў. Не ў Фінляндыі, а ў суседняй Нарвегіі, што ў прынцыпе амаль тое ж самае. Цудоўныя там мясьціны: снег рыпіць, елкі навокал. Лепш чым Швейцарыя. Для эксперыменту ў Берліне каля Брандэнбургскіх варот купіў ялавыя боты, шынялёк і «востраверхі суконны шлем», названы прапагандай «будзёнаўкай», а ў народзе гэты шлем празвалі «багатырка». Каля Брандэнбургскіх варот гэтага дабра – валам. Прыехаў у Нарвегію, адкатаўся тыдзень на лыжах, кожны вечар абяцаючы самаму сабе навукова-гістарычны эксперымент пачаць, але ўсё неяк адкладаў. Потым адважыўся. Нацягнуў боты, надзеўся ў шынель і суконную шапку багатырку-будзёнаўку з чырвонай зоркай (народ у вестыбюлі ад мяне адышоў), узяў бутэльку «Сталічнай», банку тушонкі, хлеба бохан. І – на мароз. Вырашыў адну ноч пераспаць у снезе. На яловых галінках. Тэарэтычна магчыма: снайперы не даймаюць. І няма рызыкі наступіць на нейкае выбуховае паскудства: праверана – мін няма. Атрады лыжнікаў-аўтаматчыкаў раптоўнымі нападамі не назаляюць. Усяго і зрабіць – ноч пераспаць. Скачу на марозе гадзіну. Скачу другую. Трэццюю. Пачаў эксперымент пры тэмпературы мінус 34. На сон не асабліва цягнула. Гарэлка ў бутэльцы празрыстасць пачала губляць, белая, як малако. Бохан хлеба стаў звонкім, як хваёвы ствол. З тушонкай таксама нешта нядобрае здарылася. Хаця не да кожнага нашага жаўнерыка тушонка даходзіла. Яшчэ гадзіну скачу. А тэмпература хуценька гэтак – уніз ды ўніз. Дайшла да мінус 39… Пальцы ног губляюць адчувальнасць. Дыхаць робіцца немагчыма – абпальвае ўсяго ўсярэдзіне…

Карацей, сьвітанку, а ён тут позьні, не дачакаўся. Каюся. Але адмоўны вынік эксперыменту – для навукі таксама вынік. Усім, хто распавядае прывабныя гісторыі пра тое, што ваяваць мы былі не прыгатаваны, усім, хто разносіць легенды пра нізкія баявыя якасьці Чырвонага войска, настойліва рэкамендую мой эксперымент паўтарыць. Прыемна сядзець у лубянскім кабінеце і пісаць навуковыя артыкулы; калі ватэрклазет побач, то забываешся пра тое, што нашы жаўнеры ваявалі ў Фінляндыі без клазетаў.

Дык вось, толькі той гісторык, які ў шынялі і ботах у снежні правядзе адну ноч пад Сармулай ці Выбаргам, хай смяецца над непрыгатаванасьцю Чырвонага Войска да вайны. Я б таксама быў бы рады паскаліць зубы з нагоды нізкіх баявых якасьцей Чырвонага Войска, але лічу, што права ў мяне такога няма.

Што ж здарылася ў Фінляндыі?

А здарылася трагедыя. У высокіх крамлёўскіх кабінетах было прынята рашэнне адрэзаць Няметчыну ад стратэгічнай сыравіны ў Швецыі. Швецыя – гэта

медзь, свінец, цынк і, вядома, жалезная руда высокай канцэнтрацыі. Задума – прыбраць гэтыя багацці да рук ці, у крайнім выпадку, бліжэй да іх падабрацца. Шлях праз Фінляндыю. Заадно – дадаць яшчэ адну рэспубліку да непарушнага звязу. Быў створаны «ўрад» із афіцэраў НКУС і ГВУ. «Прэзідэнтам» быў прызначаны Ота Куўсінэн (яго жонка ў гэты час працавала ў складзе нелегальнай рэзідэнтуры Рыхарда Зорге), міністрамі – савецкія камуністы фінскага паходжання. Была створана «чырвоная армія Фінляндыі», якая павінна была пераможна зайсьці ў Хельсінкі і падтрымаць «паўстаўшы пралетарыят», а наша Чырвонае Войска павінна была крыху дапамагчы «братам па класу».

Усё насельніцтва Фінляндыі было ўжо падзелена на белых і чырвоных. Так званыя «белафіны» падлягалі ізаляцыі і ліквідацыі. Іх чакала тое, што і польскіх афіцэраў. Дарэчы, дзяленне на белых і чырвоных было праведзена на ўсіх прылягаючых да нашай мяжы тэрыторыях: у 1920 годзе мы ваявалі супраць «белапалякаў», у 1921 годзе – супраць «белафінаў» і «бела-карэлаў», у 1927 годзе – супраць «бела-кітайскіх генералаў». Ужо тады выношваліся планы аказання «пралетарскай дапамогі» народам Эфіёпіі. Усё сарвалася, і голад мы ім наладзілі значна пазьней. Але ўжо ў 30-х гадах існаваў тэрмін «бела-негры». І не будзем смяяцца. Гучыць гэта не больш смешна, чым «бела-кітайцы». Усё жыццё шукаю белага кітайца, але пакуль трапляюцца толькі жоўтыя. І калі сустракаю ў цэнтральным органе Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі згадванні пра «белафінаў» (напрыклад, 16 ліпеня 1994 г., 28 красавіка 1995 г.), я заўсёды пытаю, а чаму, уласна, галоўны рэдактар і карэспандэнты «Чырвонай зоркі» не называюць сябе чырвона-рускімі? Ці чырвона-карычневымі? Калі, нарэшце, Міністэрства абароны Расіі перастане дзяліць людзей на пралетараў і буржуяў, на прыхільнікаў і супернікаў Сусьветнай камуністычнай рэвалюцыі? Калі, нарэшце, «Чырвоная зорка» перастане паўтараць лозунг Маркса «Пралетары ўсіх краін, яднайцеся!»? Пара зразумець, што нікому з намі самахвотна аб’ядноўвацца не пажадана.

Ужо сам тэрмін «белафіны» сведчыў пра тое, што наша мэта –ператварыць іх у чырвоных. І восенню 1939 года было пастаўлена адпаведнае заданне. У крамлёўскім кабінеце неяк не думаецца пра тэмпературу роўную мінус 40. І думка пра тое, што нехта праводзіць снежаньскую ноч без цёплага сарціра, успрымаецца без адпавядаючай вастрыні адчуванняў. І таму, што пра дробязі проста ніхто не думаў, было прынята рашэнне дапамагчы братам па стану. Лічылася, што «белафіны» паднімуць белы сьцяг. Супраціўленне не прадбачылася. Проста быў аддадзены загад – увесьці войска.

А фіны ўпёрліся. Белы сьцяг не выкінулі. Сустрэлі нашых вызваліцелей снайперскім агнём. Яны дваццаць гадоў чакалі ад нас менавіта падобнага кроку. І рыхтаваліся.

Пачалася вайна, штурм, прарыў. Але прарваць «Лінію Манэргейма», як мы зараз ведаем, немагчыма. Ні пры якіх умовах. І абыйсьці немагчыма: на поўнач ад Ладагі цалкам непраходныя лясы, балоты, тундра, вялізныя азёры. А дзякуючы таму, што чакалася безумоўная капітуляцыя, ніякай падрыхтоўкі да вайны ў Чырвоным Войску не праводзілася. Планаваўся пераможны марш.

Але мужны народ Фінляндыі не здаўся. І тады Чырвонаму Войску быў аддадзены загад – знішчыць.

Усё жыццё я чуў думку: ды што з той Фінляндыяй было цацкацца! Ногцем яе! Падобную думку выказвалі выбітныя стратэгі і палітыкі, журналісты, генералы, адміралы, простыя людзі на вуліцы…

Давайце на хвіліну з гэтай думкай пагадзімся. Калі сапраўды там не было патрэбы так доўга намагацца, то тады давайце ж зразумеем і Сталіна. Ён думаў так жа: ды што з ёю вазіцца! Таму і падрыхтоўкі адпаведнай не было. А былі настроі шапказакідальніцкія. Падобныя настроі з’яўляюцца зразумелымі, асабліва – пасьля бліскучага Халхін-Гола: летам 1939 года Жукаў разграміў цэлае японскае войска, а восенню загад Мерацкова ўвесьці войска ў Фінляндыю… Зразумела, пасьля разгрому японцаў ніхто сур'езна не паставіўся да падрыхтоўкі аперацыі ў Фінляндыі… І абпаліліся.

Але хутка адрэагавалі. І ўсё зрабілі, як належыць.

Чырвонае Войска адразу пасьля першых жа баёў працьверазілася ад шапказакідальніцкіх настрояў. Ваяры і камандыры Чырвонага Войска зразумелі – перад імі моцны супернік: дысцыплінаваны, думаючы, адважны. Жаўнер Фінляндыі – выдатны стралок, майстэрскі лыжнік. Над гэтым жаўнерам няма ніякай вайсковай бюракратыі, уся ініцыятыва аддадзена яму, і ён дзейнічае: неспадзявана, рашуча, напорыста, ад працяглых баёў ухіляецца, наносіць удар толькі тады, калі ўпэўнены ў поспеху, і тут жа знікае ў тайзе. Такога суперніка патрэбна паважаць, тым больш што ўся дасканалая тэхніка Чырвонага Войска ў гэтых умовах амаль не мае карысьці. Выкарыстаць самую сучасную тэхніку Чырвонага Войска супраць дробных згуртаванняў фінскіх лыжнікаў – гэта тое ж самае, што біць блохаў танкавым рухавіком. І шапкамі іх таксама не закідаеш.

Здзіўляе мяне тое, што знаходзяцца вельмі нават недурныя людзі, якія шмат гадоў запар паўтараюць: падумаеш, нейкая там Фінляндыя, нейкая там «Лінія Манэргейма», нейкі сняжок паўтарамятровай глыбіні, нейкі там марозец за сарок… Што, маўляў, з гэтай Фінляндыяй было важдацца!

Хаця так можа выказвацца толькі той крытык, які сам яшчэ ад шапказакідальніцкіх настрояў не пазбавіўся.

Дзіўнымі з’яўляюцца паводзіны і некаторых выбітных стратэгаў. «Лінія Манэргейма» будавалася як абсалютная мяжа са стаадсоткавай гарантыяй непераадольваемасьці. У яе пабудове бралі ўдзел лепшыя (за выключэннем, зразумела, нашых) інжынеры-фартыфікатары сьвету. Было прызнана на ўсіх узроўнях (давайце пагартаем вайсковыя часопісы трыццатых гадоў!), што прарваць «Лінію Манэргейма» немагчыма ні за пяць, ні за дзесяць гадоў. Немагчыма наогул прарваць. Ніколі. Ніякімі намаганнямі. Будавалася яна з адзінай мэтай – затрымаць прарыў менавіта Чырвонага Войска. Якога ж яшчэ? І вось Чырвонае Войска «Лінію Манэргейма» прарвала. Прарвала зімой. Прарвала без падрыхтоўкі. Экспромтам. Не за дзесяць гадоў, не за пяць гадоў – за тры месяцы.

Усе, хто прадракаў, што Чырвонае Войска ніколі «Лінію Манэргейма» не прарве, былі, мякка кажучы, зганьбаваны. Чырвонае Войска, праламіўшы «Лінію Манэргейма», аспрэчыла і скасавала выснову сусьветнай вайсковай навукі пра непераадольнасць падобных умацаваных палос.

Вайсковым экспертам Захаду вынікала прызнаць уражваючыя баявыя якасьці Чырвонага Войска і памылковасць сваіх прагнозаў. Із баявых падзей у Фінляндыі вынікала толькі адна выснова: для Чырвонага Войска не існуе нічога немагчымага. Калі яно здольна наставаць у такіх умовах, гэта азначае, што яно здольна наступаць у якіх бы то ні было іншых – горш гэтага не бывае. Калі Чырвонае Войска праламала «Лінію Манэргейма», гэта азначае, яно гатова знішчыць Яўропу і наогул каго пажадае.

Пераможнае Чырвонае Войска здзейсніла тое, што стратэгі Захаду лічылі немагчымым. Але стратэгі не прызналі памылковасць сваіх прагнозаў і прадказанняў. Замест гэтага яны абвясьцілі Чырвонае войска… не прыгатаваным да вайны.

І мы гэта праглынулі. З'елі. Схарчавалі. Схавалі.

# Глава XII

## Хто прайграў вайну ў Фінляндыі?

«Гэта была наша вайсковая катастрофа, пасьля якой наша войска доўга не ўспрымалі сур'езна нават нашы будучыя хаўруснікі, у чым прызнаваўся сам Чэрчыль».
«Вечаровая Масква». 15 лістапада 1994 г.

Яшчэ пярэчанне: «Лінію Манэргейма» прарвалі, але якім коштам?

А які заўгодна!

Хіба нас калі-небудзь цікавіў кошт? У нас была вялікая МЭТА.

Дзеля дасягнення гэтай мэты таварышы Ленін і Троцкі лічылі магчымым прынесьці ў ахвяру усе народы Расіі і ўсе яе багацці. Так і рабілі. І Сталін пра кошт ніколі не думаў.

Але ў Сталіна хапіла розуму пасьля таго, як «Лінія Манэргейма» была прарвана, калі Фінляндыя страціла свой абарончы бар'ер і стала безабароннай, «вызвольны паход» спыніць і ў працяглую партызанскую вайну не ўвязвацца.

З боку гледжання вялікай палітыкі, вайна ў Фінляндыі была паразай Савецкага Звязу: мэты вайны былі абвешчаны занадта шчыра і выразна, зараз давялося абвясьціць, што мы ваявалі не за далучэнне новай рэспублікі да складу ЗССР, а за «бяспеку горада Леніна». «Урад» Куўсінена і «народна-вызвольнае войска Фінляндыі» давялося без шуму разагнаць, маўляў ніколі не існавала такога «ўрада» і такога «войска».

Аднак з чыста вайсковага боку гледжання гэта была бліскучая перамога, роўнай якой на усім працягу папярэдняй і на ўсім працягу наступнай гісторыі не існуе нічога. Кожнае войска сьвету, калі б у яго атрымалася такое здзейсніць, запісала б такую перамогу залатымі літарамі ў сваю гісторыю.

Баявыя дзеянні ў Фінляндыі завяршыліся 13 сакавіка 1940 года, а ўжо летам тры дзяржавы Балтыі: Эстонія, Літва і Латвія здаліся Сталіну без бою і ператварыліся ў «рэспублікі» Савецкага Звязу.

Урады і вайсковае кіраўніцтва гэтых краін уважліва сачылі за баявымі дзеяннямі ў Фінляндыі і зрабілі з таго, што пабачылі, жахлівую, але правільную выснову: Чырвонае Войска здольна выканаць невыканальныя загады, яно не спыніцца ні перад якімі ахвярамі. Калі Сталін прыняў рашэнне, то Чырвонае Войска знішчыць каго заўгодна, само пры гэтым зведае якія заўгодна страты, але сталінскі загад выканае. І тры дзяржавы здаліся без адзінага стрэлу. Разумеючы, што супраціўленне безнадзейнае і не маючая карысьці справа.

У гэты ж час Сталін падаў ультыматум ураду Румыніі: вярніце Бесарабію. Помнячы досьвед Фінляндыі, урад Румыніі нават не стаў зацягваць перамовы: вось вам Бесарабія, а заадно і Букавіна.

Выснова: страты Чырвонага Войска ў Фінляндыі патрэбна падзяліць адразу на пяць краін: Фінляндыю, Эстонію, Літву, Латвію і Румынію. Чырвонае Войска прадэманстравала такую магутнасць у Фінляндыі, што пасьля гэтага іншыя краіны

здаваліся без бою, разумеючы, чым можа скончыцца супраціўленне сталінскай волі.

Дык хто ж прайграў вайну ў Фінляндыі?

Адказ: вайну ў Фінляндыі прайграў Гітлер.

Чырвонае Войска правяло ў Фінляндыі ўнікальную, не маючую прыкладаў аперацыю. Чырвонае Войска дзейнічала так, як не дзейнічаў ніхто і ніколі, а Гітлеру чамусьці здалося, што Чырвонае Войска дзейнічае вельмі дрэнна. Нямецкія генералы бачылі перад сабой дзіва, але не зразумелі яго значэнне. Нямецкія генералы не здолелі ацаніць таго, што пабачылі. І атачаўшыя Гітлера людзі рабілі дзіўныя высновы пра непрыгатаванасць Сталіна да вайны. Дзённік Гебельса тых дзён напоўнены такімі заўвагамі: «Рускае войска ніякай каштоўнасьці не ўяўляе. Войска дрэнна кіруецца, а яшчэ горш яно ўзброена…» Гебельс запісваў не толькі свае думкі, але і думкі Гітлера: «Ён зноў канстатуе катастрафічны стан рускага войска. Яго наўрад ці можна выкарыстаць для баявых дзеянняў…»

Самая жахлівая памылка на вайне: недаацаніць суперніка. Наогул у жыцці кожнага із нас няма нічога горшага, чым лічыць суперніка горшым за сябе. Некаторых такая памылка прыводзіць да заўчаснай сьмерці. Менавіта да сьмерці прывяла Гітлера фатальная недаацэнка магутнасьці Чырвонага Войска.

Гітлеру патрэбна было не выскаляцца, а выправіць у Фінляндыю адну нямецкую пяхотную роту. Не асобную, не элітную, а самую звычайную і даць германскім жаўнерам практыку. Хай паспрабуюць наступаць. Хай паспрабуюць знішчыць жалезабетонную агнявую кропку, якую ніяк немагчыма разглядзець у зіхацячым снезе. Хай паспрабуюць атакаваць, калі сьнег – па самыя вушы. Калі не атрымліваецца, хай знойдуць іншае месца і паспрабуюць атакаваць там, дзе снег не па шыю, а толькі па грудзі. Ці нават па пояс. Хай паспрабуюць знайсьці ў снезе хаця б адну міну. Хай пераспяць адну ноч на палярным марозе. Хай пагрызуць хлебную скарыначку жалезабетоннай цьвердзі.

Вось з гэтымі жаўнерамі і вынікала паразмаўляць. Вынікала памацаць іхныя чорныя вушкі, якія з хрусценнем адломваюцца ад галавы, не выклікаючы адчування болю. Вынікала агледзець іхныя ногі, пакрытыя бурбалкамі абмаражэння. Вось гэтых жаўнерыкаў Гітлеру патрэбна было запрасіць да сябе ў госьці і разам з імі, не спяшаючыся, каля цёплай печкі абмеркаваць баявыя якасьці Чырвонага Войска.

Гітлеру вынікала выправіць у Фінляндыю чалавек пяць сваіх генералаў: хай досьведу набяруцца, хай паспрабуюць арганізаваць забеспячэнне хаця б аднаго пяхотнага ўзвода, і калі атрымаецца праштурхнуць адну машыну праз снег, то хай паспрабуюць гарэлачкі марожанай. Вось у гэтых генералаў патрэбна было Гітлеру даведацца пра ўражанні. І смяяцца над Чырвоным войскам.

Але Адольф Гітлер чамусьці так не зрабіў. Ён назіраў савецка-фінскую вайну з утульнага далёка. Із шыкоўнага кабінета Імперскай канцылярыі. Але ж доўна заўважана: сыты галоднага не разумее. Гітлер быў сыты, і яму было цёпла. І навокал яго стаялі людзі, якія соладка выспаліся ў чыстых спальнях, прынялі гарачую ванну, іх гладка пагалілі, пастрыглі і напарфумавалі, на сняданак ім падавалі грэйпфрутавы сок, смажаны бекон з яечняй, гарачыя духмяныя булкі з маслам… І вось пасьля снядання, яшчэ аточаныя кававым водарам, яны глядзяць на глобус і ацэньваюць становішча: вялізны Савецкі Звяз і маленькая Фінляндыя!

І нічым яны не разумнейшыя за нас: яны ацэньваюць становішча менавіта такім, якім яго некалькі дзён назад у высокіх крамлёўскіх кабінетах ацэньвалі

таварышы Сталін, Молатаў, Берыя, Варашылаў: чаго з ёй лічыцца? Якія могуць быць праблемы!?

Сталіну здавалася – варта толькі цыкнуць… Вось і Гітлеру так здаецца. І Чэрчылю ў імглістым Лондане незразумела, што гэта там Чырвонае Войска тыкаецца, тыкаецца. Усім ім у кабінетах не зразумела, што такое мінус 32. Ім не зразумець розніцы паміж мінус 35 і мінус 38. Ды прабачыць мяне гасьцінная, прытуліўшая мяне Брытанія, не ў дакор ёй будзе сказана: тут пры мінус 3 абвяшчаецца нацыянальнае бедства, спыняюцца цягнікі, замяраюць старыя ў кватэрах, лопаюцца трубы вадавода і каналізацыі. Калі выпадае сьнег глыбінёй дзьве цалі, жыццё ў прыгожай Брытаніі замірае. Той, хто бачыў Брытанію пад лёгкім сняжком, не дасць падмануць: усе кюветы завалены машынамі дагары коламі.

Але сядзіш каля палаючага каміна ў старажытным замку, не спяшаючыся спажываеш нешта шатландзкае з лёдам і содавай, хутаешся ў салодкі дым гаванскай цыгары і спрабуеш зразумець: што гэта там рускія марудзяць? Можа, камандыры ў іх дурныя? Ці, можа, жаўнеры ленаватыя? Ці зброя ў іх састарэлая?

Нарвежцы, канадцы, шведы, эскімосы, фіны ведаюць, што такое мінус сорак. Але запытайце ў брытанца, у немца, у француза, ці адчуваў ён калі-небудзь сваёй скурай гэтыя самыя мінус 40? Ці здольны звычайны чалавек у кірзавых ботах, г.зн. у брызентавых, прагумаваных, выжыць тыдзень?

Чырвонае Войска выжыла. Мала таго, заданне выканала. І гэтага мала: яно яшчэ і вучылася, вучылася надзіва хутка. Прачытайце шведзкія газеты за люты 1940 года! Дык вось там, у тых газетах – не паверыце – там захапленне маім войскам. Людзі, разумеючыя, што ёсць сапраўдная зіма, у лютым 1940 года бачылі перад сабой зусім іншае войска, зусім не тое, якае два месяцы назад уступіла на зямлю Фінляндыі. Перамянілася рашуча ўсё – ад рацыёну ваяра і яго экіпіявання да арганізацыі тылавога забеспячэння карпусоў і армій, ад тактыкі стралковага аддзялення да сістэмы стратэгічнага кіравання на тэатры баявых дзеянняў…

Гітлер гэтых перамен не ўгледзеў. Гітлер не заўважыў здзіўляючую здольнасць нашых ваяроў і камандыраў прыстасоўвацца да чаго заўгодна, у тым ліку і да забіваючых умоў Зімовай вайны.

Цікава, сам Гітлер лічыў, што ў лясах магчыма абарона і вядзенне партызанскай вайны, а наступленне вялікімі вайсковымі злучэннямі немагчыма («Застольныя гутаркі». 8 верасня 1941 г.). Гітлер не меў на ўвазе Фінляндыю, яе лясы і яе клімат. Гітлер выказваўся пра лясы Заходняй Яўропы: весьці баі немагчыма. Але калі Чырвонае Войска прадзіралася праз карэльскія гушчары цэлымі дывізіямі, карпусамі, а потым – і арміямі, Гітлер не згадаў пра тое, што наступаць у лясах немагчыма…

Для Чырвонага Войска вайна ў Фінляндыі была прышчэпкай ад зазнайства, ад шапказакідальніцкіх настрояў, ад недаацэнкі суперніка.

Вайна ў Фінляндыі шмат чаму навучыла Чырвонае войска: пад Масквой у 1941-м і пад Сталінградам у 1942-м германскае войска сустрэла войска, умеючае ваяваць зімой. А вось германскае войска вайна ў Фінляндыі не навучыла нічому.

З Гітлерам гэтая вайна згуляла злы жарт. Не зразумеўшы гэтай вайны, не ацаніўшы яе цяжкасьцей, Гітлер зрабіў катастрафічна няправільныя высновы. Ён раптам чамусьці вырашыў, што Чырвонае Войска да вайны не прыгатавана, што Чырвонае Войска ні на што не здольнае.

Гітлер пралічыўся. Ён проста не ведаў, што ў маёй краіне законы логікі не працуюць. Гітлер проста не зразумеў, што мая краіна жыве насуперак логіцы. Калі Чырвонае Войска не дайшло да Хельсінкі, то із гэтага наогул нічога не вынікае. Наадварот, із гэтага вынікае, што да Берліна яна здольна дайсьці пры якіх бы то ні было ўмовах. Пры самых горшых з усіх тэарэтычна магчымых! І яно гэта пазьней даказала.

Шматлікія германскія генералы ўсьвядомілі, што Чырвонае Войска грунтуючыся на выніках баёў у Фінляндыі ацэнена няправільна. Усьвядомілі хутка. Ужо ў 1941 годзе. Ужо пад час першых баёў было ўсталявана, што Чырвонае Войска мае лепшыя ў сьвеце танкі, лепшыя ў сьвеце гарматы і гаўбіцы, лепшыя ў сьвеце самалёты для агрэсіўнай вайны. Чырвонае Войска мае такія сістэмы ўзбраення, якіх не мае ніводнае войска сьвету. Было ўсталявана, што савецкі жаўнер здольны ваяваць. Адным словам, было зразумета, што германскае кіраўніцтва і германская выведка жорстка пралічыліся.

Памылку ў цесным коле прызнаў і сам Гітлер. Гэта здарылася 12 красавіка 1942 года. Гітлер сказаў наступнае: «Уся вайна з Фінляндыяй у 1940 годзе – роўна як і ўступленне рускіх у Польшчу з састарэлымі танкамі і ўзбраеннем і апранутымі не па форме жаўнерамі – гэта не што іншае, як грандыёзная кампанія дэзынфармацыі, таму што Расія ў свой час мела ўзбраенне, якое рабіла яе поруч з Няметчынай і Японіяй сусьветнай дзяржавай» (Г.Пікер. Застольныя размовы Гітлера. с. 205). І яшчэ: «У сябе ў Расіі яны стварылі неверагодна магутную вайсковую прамысловасць… і чым больш мы даведваемся пра тое, што адбываецца ў Расіі, тым больш цешымся таму, што своечасова нанеслі рашучы ўдар… Узбраенне Чырвонага Войска – найлепшы доказ таго, што… атрымалася дамагчыся незвычайна вялікіх поспехаў…» (22 ліпеня 1942 г.) Загаварыў!

Падчас баёў у Фінляндыі: яны ні на што не здольныя. Зараз высьветлілася – здольныя…

Зразумела, Гітлер не мог прызнацца, што жорстка памыліўся, што зрабіў фатальную памылку, таму ён кажа пра кампанію дэзынфармацыі: Сталін, маўляў, ашукаў… Нават калі гэта так, нават калі Сталін проста наўмысна дэманстраваў у Фінляндыі слабасць, а Гітлер гэтаму паверыў, то і гэты факт – на карысць Сталіна. Тысячы гадоў назад найвялікшы тэарэтык вайны Сунь-цзы павучаў вайскаводаў: «Вайна – гэта шлях падману. Калі тваё войска блізка, пакажы ворагу, што далёка. Калі яно далёка, пакажы, што блізка. Калі ты слабы, пакажы магутнасць. Калі моцны – пакажы слабасць. Гора таму, хто ашукаўся».

Ніхто Гітлера не падманваў у Фінляндыі. Ён і яго генералы самі сябе падманулі. За што і заплацілі.

x x x

Нават Гітлер зразумеў: баявыя дзеянні ў Фінляндыі НЕМАГЧЫМА лічыць як праяву слабасьці Чырвонага Войска.

Прайшлі дзесяцігоддзі. Мільёны нашых разумных людзей вывучалі вайну ў Фінляндыі, але зноў чамусьці рабілі выснову: баі ў Фінляндыі – сведчанне слабасьці Чырвонага Войска і яго поўнай непрыгатаванасьці.

Таварышы дарагія, так лічыў Адольф Гітлер.

Ён па-мы-ліў-ся. І выявіўся ў дурнях. Вы паўтараеце яго памылку.

Але Гітлеру хапіла розуму прызнаць памылку. А нашым людзям чамусьці розуму не хапае.

Суайчыннікі, няўжо мы з вамі дурнейшыя чым ашалелы фюрэр?

# Глава XIII

## Пра вогненебяспечнасць танкаў

«Матор – такая ж зброя танка, як і гармата».
Генерал-палкоўнік Г.Гудэрыян

У Сталіна танкаў было ў некалькі разоў больш, чым у Гітлера.

І лічбы – рэч вельмі пругкая.

Таму абаронцам гітлераўскай «прыгатаванасьці» патрэбна было прыдумаць нейкае паскудства, нейкую рыску, нейкую характарыстыку, не змяшчаючую лічбаў, каб сказаць: падумаеш, сяміразовая перавага, ды яны ж!..

Доўга камуністы думалі, дадумаліся і абвясьцілі: савецкія танкі былі вогненебяспечнымі, гарэлі, як запалкі!

Імкненне чырвонай прапаганды выпінаць «Непрыгатаванасць» да вайны зразумела. Але рашучая безсаромнасць здзіўляе.

І пайшлі чырвоныя гісторыкі паўтараць: пажаранебяспечныя, пажаранебяспечныя, як запалкі ў карабку! А за экспертамі пачалі паўтараць шырокія народныя масы. Хутка гэтая хлусня за межы дзяржавы перайшла і пайшла гуляць па сьвету…

Аднойчы выступаю па французскаму тэлебачанню, распавядаю пра прыгатаванасць Сталіна да вайны, а мне вядучая з ветлівым падспутсвам: ох, ведаем мы гэтыя рускія танкі, гарэлі, як запалкі…

Гэтая цётка відавочна шрубоўку ад разваднага ключа не адрозніць, а вось пра тое, што танкі ў Сталіна былі пажаранебяспечныя, яна ведае цьвёрда. Засвоіла. Запомніла.

І ўсе ведаюць.

У Лондане мяне лёс звёў з галоўным рэдактарам аднаго маскоўскага, вельмі папулярнага і з дзяцінства мной паважаемага тэхнічнага часопіса. Я сустрэчы рады, ён рады. Абняліся. Выпілі па чарцы чаю. Пра тое, пра гэта. А потым ён мне паціху, па-сяброўску: ты вось усё пра падрыхтаванасць распавядаеш, народу лапшу на вушы вешаеш, але мы людзі пісьменныя, нас не правядзеш, мы ведаем, што нашы танкі былі… таго… вогненебяспечныя.

Вось і ўсё. І сяміразовая перавага спісана.

Што ад таго, што іх было шмат? Гарэлі, як запалкі…

Мяне даўно цікавіла пытанне пра першакрыніцу. Зразумела, слых пашырае чырвоная прапаганда. Але павінна, мабыць, існаваць і яшчэ нейкая крыніца, якую людзі лічаць сур'ёзнай. Не маглі ж разумныя людзі проста так паўтараць глупства. Адкуль жа гэта пайшло?

І кожнага пытаю: дзе ж ты пра такое даведаўся? А ў адказ: ды гэта ўсе ведаюць.

А калі ведаюць ўсе, да крыніцы не дакапаешся.

І вось аднойчы ў амерыканскай газеце «НРС» (25 траўня 1990 г.) выступае гісторык Ёсіф Касінскі, выкрывае мяне, распавядае, што лікавая перавага нічога не азначала: якая карысць ад сталінскіх танкаў, калі яны гарэлі як паходні!

І мяне ж асьвяціла: ды гэта ж ён Жукава начытаўся!

Дзукуючы таму што нічога, акрамя Жукава, не чытаў, то нічога і не зразумеў.

А справа была якраз наадварот. Адна із самых выдатных характарыстык савецкіх танкаў перыяду Другой сусьветнай вайны – яны дрэнна гарэлі. Падпаліць іх было цяжэй, чым танкі якога б то ні было іншага войска.

Тлумачылася гэта проста: усе краіны карысталіся танкамі з карбюратарнымі рухавікамі, а Савецкі Звяз быў адзінай краінай сьвету, якая выкарыстоўвала на танках дызельныя рухавікі. Былі спробы выкарыстаць іх на некаторых японскіх, італьянскіх і амерыканскіх танках, але гэта былі маламагутныя і прымітыўныя рухавікі. У дадатак гэта былі не адмысловыя танкавыя дызелі, а трактарныя ці аўтамабільныя. Карбюратарны рухавік працуе на бензіне, часта – на авіяцыйным. Пары бензіну – штука небяспечная. Пад час бою ўзнікае вельмі шмат нагод могучых мецъ наступствам загаранне пару. Напрыклад, нешта заіскрылася ў рухавіковым аддзяленні. Бываюць выпадкі, калі бранябойны снарад не прабівае браню, але моц удару такая, што ўсярэдзіне танка сыплюцца іскры… Калі замест карбюратарнага рухавіка паставіць дызель, то іскры не небяспечны, хай сабе сыплюцца.

Перавагу дызеля можна падмацаваць з дапамогай простага досьледу. Наліце ў вядро авіяцыйны бензін і паднясіце падпаленую паходню. Будзьце асьцярожны: выбухападобнае ўзгаранне адбываецца яшчэ да таго, як паходня дакранецца да бензіну. Памяркуйце, як гэта выглядае ў танку, калі пад час бою ў вас у рухавіковым аддзяленні шуганулі сотні літраў. Зараз наліце ў вядро дызельнае паліва і суньце ў яго паходню. Агонь загасне як у вадзе.

Эксперымент з двума вёдрамі ствавральнікі савецкага танкавага дызеля дэманстравалі Маршалу Савецкага Звязу М.Н.Тухачэўскаму. На Тухачэўскага гэта ўражання не вырабіла і ён зацята настойваў на выкарыстанні бензінавых рухавікоў. Пасьля пакарання сьмерцю Тухачэўскага савецкія канструктары паўтарылі просты эксперымент перад шмат якімі вялікімі начальнікамі. Перавагу дызеля здолелі давесьці і Савецкі Звяз стаў першай краінай сьвету, пачаўшай массавае вырабніцтва дызельных рухавікоў для танкаў. Да самага заканчэння Другой сусьветнай вайны Савецкі Звяз так і застаўся адзінай краінай, у якой пераважаючая колькасць танкавых рухавікоў былі дызельнымі. Усе астатнія краіны перайшлі на дызельныя рухавікі праз 10-15 гадоў пасьля вайны.

Зразумела, танк з дызельным рухавіком таксама можна падпаліць, але гэта зусім не так проста, як танк з карбюратарным рухавіком.

У пажаранебяспечным дачыненні савецкія танкі дваццатых-трыццатых гадоў нічым ад танкаў іншых краін не адрозніваліся. І не маглі адрозніваццa. Увесь сьвет карыстаўся карбюратарныя рухавікамі, і ўсе яны гарэлі ў баях яркім полымем. Гэта лічылася непазбежным злом. З гэтым мірыліся. Савецкія танкі ў гэтым дачыненні былі не горшымі і не лепшымі за іншыя. На іх стаялі такія ж рухавікі, як на брытанскіх, французскіх, германскіх і амерыканскіх танках. Самымі пашыранымі танкавымі рухавікамі Чырвонага Войска ў тыя гады былі брытанскі «Армстронг-Сідлі» і амерыканскі авіяцыйны рухавік «Ліберці-Аэра», які і мы, і яны ставілі на танкі. Зразумела, мы басурманскім рухавікам свае пралетарскія назвы давалі.

Але не мог наш родны «Ліберці-Аэра» гарэць ярчэй, чым амерыканскі «Ліберці-Аэра». Не мог пры ўсім жаданні. Таму што гарыць не рухавік, а бензін у ім. А яны, басурмане, бензін рабілі больш чыстым чым мы. Менавіта для таго рабілі больш чыстым, каб ён гарэў ярчэй.

Расія – радзіма сланоў.

Але дызельны рухавік прыдумаў Рудольф Дызель.

А быў ён із немцаў. Заслуга савецкіх канструктараў не ў тым, што яны дызельны рухавік прыдумалі, а ў тым, што ацанілі. Няметчына свайго генія не прызнала. А нашы зразумелі перавагі і ў 1932 годзе ў Савецкам Звязе былі пачаты працы па стварэнню хуткаходнага танкавага дызеля БД-2. У 1935 годзе распрацоўка была завершана. Гатовы рухавік атрымаў індэкс В-2. Перавагі дызеля былі відавочнымі. Пры той жа магутнасьці ён спажываў амаль на трацiну менш паліва, а магчымасць успыхвання рэзка зніжалася. Дызель быў прасьцей адпаведна з канструкцыяй, не меў патрэбы ў складанай і капрызнай сістэме запальвання з яе перапыннікам, размеркавальнікам, свечкамі, высокай напругай. І дызельнае паліва больш таннае.

В-2 усталёўваліся на некаторыя ўзоры танкаў БТ-5. Экзамен яны вытрымалі. Але.

Але Чырвонае Войска рыхтавалася ваяваць на тэрыторыі суперніка. Верагодныя супернікі да нашага ўзроўню развіцця баявой тэхнікі ніяк не дацягвалі, дызелямі не карысталіся і нават не планавалі. Савецкі Генеральны штаб зрабіў разлікі, якія не суцяшалі. Калі пятнаццаць-дваццаць тысяч савецкіх танкаў кінуць у Заходнюю Яўропу, то вельмі хутка ўзнікне патрэба дастаўляць наступаючаму войску дзясяткі тысяч тон дызельнага паліва. Пры адступленні супернік будзе знішчаць масты і чыгуначныя шляхі. Падвозіць паліва ў такіх колькасьцях будзе цяжка, захапіць у Заходняй Яўропе – немагчыма: супернік дызельным палівам не карыстаецца і пра такое нават не думае.

Таму пытанне: пераходзіць Чырвонаму Войску на дызельныя рухавікі ці не пераходзіць? Калі не пераходзіць, то танкі будуць такімі, як ва ўсіх, – пажаранебяспечнымі. Затое ва ўмовах нашага наступлення не будзе праблем з палівам, яго можна будзе здабываць у суперніка. У Заходняй Яўропе на кожным скрыжаванні – бензакалонка. А калі перайсьці на дызелі, то танкі стануць лепшымі, але з нагоды адставання ўсіх іншых краін у гэтым дачыненні мы рызыкуем застацца без паліва пад час самага драматычнага момант вызвольнага паходу.

Адзін із выбітных дасьледчыкаў гісторыі развіцця савецкіх танкаў Васіль Вішнякоў паведамляе: «Чуліся і прынцыповыя пярэчанні, із якіх ледзь не самым асноўным лічылася тое, што на ўсіх замежных танках ставяцца бензінавыя маторы, а гэта азначае, нашы танкі з дызелямі будуць патрабаваць асобнага забеспячэння палівам, пры патрэбе будзе немагчыма карыстацца бензінам са складоў суперніка…» (Канструктары. Выд. ДТСААФ. 1989. с. 27).

Прынцыповы супернік дызеляў – Маршал Савецкага Звязу М.Н.Тухачэўскі. Па гэтаму пытанню ён пісаў: «Механізаванае войска, якое асабліва пад час першага перыяду вайны пойдзе далёка наперад на тэрыторыю суперніка, нягледзячы на вельмі вялікую патрэбу ў забеспячэнні, звычайна, на чыгуначны транспарт разлічваць будзе немагчыма. Яго забеспячэнне будзе грунтавацца на хуткаходных трактарах і аўтамабільным транспарце, а таксама на захопе складоў суперніка, асабліва ў дачыненні да паліва» (Абраныя творы. М.: Ваенвыдат, 1964. т. 2. с. 192.) Калі б вайна рыхтавалася на сваёй тэрыторыі, то дызелі былі б прыняты без ваганняў.

Але Чырвонае Войска рыхтавала ўварванне.

Чырвонае Войска сур'ёзна рыхтавалася ваяваць на тэрыторыі суперніка, савецкія штабы планавалі глыбокія аперацыі ў Заходняй Яўропе ў разліку на захоп паліва для танкаў на складах супастата. Таму савецкія канструктары былі

вымушаны штучна стрымліваць наш прагрэс, раўняючыся на адстаючых, на састарэлыя рухавікі Няметчыны, Францыі, Брытаніі, ЗША.

Але ў нашай краіне спрэчка працягвалася. Нарэшце, прыхільнікі дызеля перамаглі. Гэта не азначала адмаўлення ад планаў уварвання, проста былі распрацаваны метады падачы вялікай колькасці паліва сьледам за наступаючым войскам – трубаводы падвялі да мяжы і стварылі запасы труб для хуткага нарошчвання магістраляў на захопленых тэрыторыях. У 1939 годзе пачаўся серыйны выпуск танкаў БТ-7М з дызельнымі рухавікамі В-2.

У 1940 годзе генерал войска Г.К.Жукаў прыбыў із Манголіі і на справаздачы Сталіну паставіў апошнюю кропку ў спрэчцы: танкі з карбюратарнымі рухавікамі лёгка загараюцца…

Былі ўзважаны плюсы і мінусы, і перавага была канчаткова аддадзена дызелю.

24 чэрвеня 1945 года Маршал Савецкага Звязу Г.К.Жукаў выехаў на Чырвоны пляц на пышным белым жарабцы з мянушкай Кумір.

Так яго і адлілі ў бронзе. І скача бронзавы Кумір па Маскве…

Але сказана: не сатвары куміра.

Але нам без куміраў не жывецца. Не можацца. Скасаваў Хрушчоў культ Сталіна, і пытанне: а на яго месца – каго?

Каго заўгодна. Якую заўгодна брыдоту. Хаця б самога Стукачэўскага, загубіўшага сліўкі нашай стратэгічнай думкі. І пачалі культ Стукачэўскага раздуваць. Тухлы культ тухлага Тухачэўскага. Даходзіла да таго, што ледзь не помнік яму прапанавалі ставіць!

Дзіўная прапанова. Але ўжо калі ставіць, дык у тамбоўскім лесе. У працівагазе. Каб не толькі людзі, але і тамбоўскія ваўкі, якіх ён заадно з людзьмі газамі душыў, пра яго не забываліся. Гэты вылюдак выкарыстаў баявыя атрутныя рэчывы супраць свайго народа. Дык патлумачце ж мне прынцыповае адрозненне паміж Тухачэўскім і вынаходнікамі газавых камер.

Ды да таго ж невядома, хто іх першым выкарыстаў. Ох, баюся напіша хто-небудзь кнігу пра тое, што Расія – радзіма газавых камер. Ужо вельмі шмат на то ўказанняў.

А пакуль лепім куміраў.

Толькі заварушыўся народ – пара адыходзіць ад ушанавання трупаў, Леніна патрэбна пахаваць, і адразу пытанне: а каго ж на яго месца? І «Чырвоная зорка» выступае: акрамя іншага, захаванне трупа – навуковы эксперымент! Немагчыма эксперымент перапыняць!

Запярэчым: таварышы камуністы, пры ўсім вашым зверстве, пры ўсёй вашай нянавісьці да Леніна, пашкадуйце яго труп. Вы Леніна ператварылі ў сабаку. У сабаку для эксперыментаў. Чаму б вам Леніна не закапаць, а на яго месца не пакласьці…? І працягвайце эксперымент. Была б ад яго карысць.

А пакуль доўжыліся спрэчкі пра Леніна, ужо новага стода на кані адлілі і паставілі.

Добры быў маршал. Але толькі на працягу ўсёй чалавечай гісторыі больш крывавага вайскавода, чым Жукаў, не існавала. Ніводзін фашыст не загубіў без усякай карысьці і патрэбы столькі сваіх жаўнераў. Патрэбна было для большага рэалізму басейн крывёй наліць замест пастамента, каб скакаў кумір па калена ў крыві. А яшчэ лепш – возера на Манежным пляцы выкапаць, сімвалізуючае акіяны

крыві, у якіх Рыгор Канстанцінавіч бродаў не шукаў. І намаляваць яго плывучым. Размашкай. Каб толькі галава выглядвала. І рукі махалі.

Мы лепім із Жукава стода, і гэта перашкаджае нам задаць простае пытанне: а чаму яго не судзілі?

У кожнай нармальнай краіне яго б за 1941 год аддалі пад трыбунал і задалі б пытанні, шмат пытанняў. Навошта трубаводы да самай мяжы падвёў? Навошта танкі на мяжы сабраў? Чаму масты не мінаваў? Чаму ўсе памежныя аэрадромы самалётамі напоўніў? Дзеля чаго паліва, снарады дзясяткамі тысяч вагонаў да мяжы падагнаў?

У нас на ўсё тлумачэнне: пралікі, пралікі, пралікі.

Але за пралікі судзіць патрэбна. Калі выбухам у 45-мм гарматы адарвала кола, аднаго забіла, дваіх параніла, то ўсё адно гармату ратаваць трэба. Не выратавалі – узводнага Ванечку пад трыбунал. Пралік – не пралік, а галаванькай адказвай.

А Жукава да адказу не заклікалі.

Чаму?

Ды таму, што мы і пасьля вайны ўсё так жа аэрадромы каля мяжы будавалі і склады боепрыпасаў і паліва. І штабы, і вузлы сувязі. Калі прыпёрла, із Усходняй Няметчыны прыпасы на працягу чатырох гадоў вывезьці не змаглі. Пайшлі із Няметчыны, Польшчы, Вугоршчыны – і зноў без аэрадромаў засталіся. Як у 1941 годзе.

Калі дзеянні Жукава перад германскім нападам абвясьціць няправільнымі, то ў такім выпадку ўсю савецкую вайсковую навуку патрэбна перапісаць і перамяніць праграмы ўсіх вайсковых акадэмій, і войска будаваць неяк па-іншаму.

Жукава не судзілі, таму што ў траўні 1941 года ён рабіў усё правільна і менавіта так, як рабіў раней – перад нанясеннем раптоўнага ўдару па 6-ай японскай арміі на Халхін-Голе, як рабіў пазьней – перад нанясеннем раптоўнага ўдару па 6-ай германскай арміі пад Сталінградам.

Жукава не судзілі таму, што рэжыму цалкам не было патрэбы разбірацца з нагодамі разгрому 1941 года. Нагоды патрэбна было замаўчаць, замазаць, зацерці. Сам Жукаў гэтым і займаўся: «Працавалі танкі на бензіне і, такім чынам, былі лёгкападпальваемымі» (Успаміны і разважанні. с. 137). «Танкі БТ-5 і БТ-7 занадта вогненебяспечныя» (с. 170).

Навошта паўтараць?

Каб усе засвоілі. Патрэбна адзін раз сказаць, потым у іншым месцы паўтарыць. Тады цётка з французскага тэлебачання будзе цьвёрда памятаць.

Жукаў праўду піша (далёка не заўсёды), але забываецца паведаміць, што ва ўсім астатнім сьвеце былі дакладна такія ж самыя бензінавыя рухавікі.

Дзякуючы таму, што Жукаў пра нашы вогненебяспечныя танкі паведамляе, а пра замежныя маўчыць, ствараецца ўражанне, што ў нас танкі былі горшыя, чым у іншых войсках.

Сітуацыя: толькі ў Савецкам Звязе была ўсьвядомлена патрэба мець звышмагутны хуткасны танкавы дызель. Задаўга да вайны ён быў створаны, выпрабаваны, паступіў на ўзбраенне. Толькі Савецкі Звяз на момант пачатку вайны меў дызельныя рухавікі. (Чытач мяне прабачыць, калі японскія аднарадовыя дызельныя рухавікі магутнасьцю 110 к.м. і італьянскія магутнасьцю 125 к.м. згадваць не буду. Гэта былі недасканалыя, аўтамабільныя рухавікі маючыя магутнасць зусім не танкавую. Яны выраблялiся абмежаванымі серыямі для танкаў,

якія ніякай ролі ў вайне не мелі.) Толькі Савецкі Звяз вырабляў танкавыя дызелі, якія былі не проста лепшымі ў сьвеце, але ўнікальнымі, таму што ніхто іншы да гэтай ступені развіцця тады не дайшоў.

І вось пасьля ўсяго гэтага над нашымі танкамі, над нашымі рухавікамі смяюцца. Увесь сьвет смяецца. А мы самі – гучней за ўсіх.

Нейкі Ёсіф Касінскі разважае так: пісаў Жукаў, што танкі з карбюратарнымі рухавікамі вогненебяспечныя? Пісаў. А генералы іншых войскаў пісалі? Не. Такім чынам…

Генералы іншых войскаў сапраўды нічога не пісалі пра вогненебяспечныя танкі. Не пісалі таму, што пытанне пра пераход на дызельныя рухавікі ва ўсіх астатніх краінах не абмяркоўвалася, а ў шмат якіх выпадках і не ставілася.

Да лета 1941 года склалася наступная сітуацыя: усе войскі сьвету былі ўзброены танкамі толькі з карбюратарнымі рухавікамі, а Чырвонае Войска мела тысячы раней вырабленых танкаў з карбюратарнымі рухавікамі, акрамя таго, пяць тыпаў савецкіх танкаў (БТ-7М, Т-34, КВ-1, КВ-2, Т-50) мелі дызельныя рухавікі. Гэта быў гіганцкі якасны скок.

Савецкі Звяз напярэдадні вайны наладзіў массавае вырабніцтва танкавых дызеляў і стварыў магутнасьці, дазваляўшыя ў выпадку патрэбы вырабляць танкавыя дызелі ў якіх заўгодна колькасьцях.

x x x

Мы ствараем новага куміра.

І за гэта адразу атрымліваем па мазках. Кумір выкруціўся: танкі былі вогненебяспечнымі, у тым падстава разгрому.

Нашага куміра друкуюць мільённымі тыражамі на ўсіх мовах. Куміра чытаюць. Куміру вераць.

Кумір выкруціўся, а над намі смяюцца. Кумір выкруціўся, а мы – у дурнях.

# Глава XIV
# Чаму таварыш Сталін не пакараў сьмерцю таварыша Кудраўцава?

«Вайну мы будзем весьці наступальную, перанёсшы яе на тэрыторыю суперніка».
Палявы статут ПСЧВ. 1941 года (ПС-41). с.9

Да дваццатага стагоддзя месца камандыра батарэі ў бою было на агнявых пазіцыях сваёй батарэі. Дзе ж яшчэ? Памятаеце ў Ільва Таўстога батарэю капітана Тушына?

А напачатку дваццатага стагоддзя палявая артылерыя перадавых у вайсковым дачыненні дзяржаваў асвоіла стральбу за гарызонт па аб'ектах, якія з агнявой пазіцыі бачыць немагчыма. Гэта атрымала назву стральбы із заслоненых агнявых пазіцый. Гэты спосаб стаў асноўным: ён даваў магчымасць хаваць артылерыйскія батарэі за няроўнасьцямі мясцовасьці, за будынкамі, за дрэвамі, у натуральных і штучных сховішчах ці проста за лініяй гарызонту. Жывучасць батарэй рэзка павысілася, іх стала цяжка знаходзіць і зьнішчаць.

Але заслоненая батарэя сляпая: наводчыкі цэлі не бачаць. Таму пры стральбе із заслоненых пазіцый месца камандыра батарэі – не на сваёй батарэі, а там, адкуль ён у стане бачыць суперніка. Кіруючы пункт батарэі пачалі выносіць наперад і

ўбок на шмат кіламетраў ад агнявых пазіцый. З кіруючага месца камандыр батарэі бачыць цэль і перадае ўказанні, куды і як страляць.

Кожны із нас у дзяцінстве гуляў у марскі бой – маляваў сетачку з каардынатамі і наносіў удары: А-1, Б-2 і г.д. Прыкладна так робіцца і ў артылерыі: адна мапа ў камандыра батарэі, назіраючага суперніка, другая – у старэйшага афіцэра на батарэі (гэта камандыр першага агнявога ўзвода), які суперніка не бачыць. Камандыр здалёку падае загад, старэйшы афіцэр на батарэі загад дублюе, батарэя загад выконвае. Дыстанцыйнае кіраванне, так бы мовіць. Гэта ў прынцыпе. А на практыцы будучым афіцэрам-артылерыстам патрэбна тры-чатыры гады вучыць матэматыку, тапаграфію, балістыку, метэаралогію і іншыя навукі, каб авалодаць элементарнымі асновамі страляння із заслоненых агнявых пазіцый. Такая стральба патрабуе майстэрства, навыкаў, дакладных прылад, складаных вылічэнняў, устойлівай бесперапыннай сувязі і паўнавартага тапаграфічнага забеспячэння.

Усё гэтае доўгае ўступленне, да таго, што баявое ўжыванне артылерыі без тапаграфічных мапаў немагчыма, як немагчыма гуляць у марскі бой без сетачкі з каардынатамі. На кожнай батарэі павінна быць на самы крайні выпадак два камплекты тапаграфічных мапаў: у камандыра батарэі, які бачыць суперніка, і ў старэйшага афіцэра на батарэі, які суперніка не бачыць. Існуюць спосабы страляння із заслоненых агнявых пазіцый без тапаграфічных мапаў, але эфектыўнасць баявога ўжывання артылерыі рэзка зніжаецца. У прынцыпе можна і аўтамабіль без матора выкарыстаць па прамому прызначэнню – запрэгчы пару коней і ведай сабе лазінкай памахвай ды на коней пакрыквай. Артылерыя без мапаў – гэта аўтамабіль без матора. Адпаведна з прамым прызначэннем скарыстаць можна, але…

Дык вось: на кожнай батарэі пажадана мець два камплекты тапаграфічных мапаў. На крайні выпадак. А лепш мапы павінны яшчэ быць у камандыра ўзвода кіравання, у камандыра другога агнявога ўзвода, у перадавых артылерыйскіх назіральнікаў, у вылічальнікаў, у артылерыйскіх выведнікаў, у старшыні батарэі і ў камандыра аддзялення цягі. А калі ў камандыра аддзялення артылерыйскага забеспячэння няма мапы, то і снарады могуць не падвезьці. Каму тады патрэбны ўсе вашы вылічэнні?

Артылерыя – зборны аркестр. Бываюць сольныя выступленні батарэй, але часьцей батарэі спяваюць і граюць дуэтам, трыа, квартэтам… Для кіравання агнём двух-трох батарэй камандыр дывізіёна павінен мець мапу, і яго намеснік, і кіраўнік штаба, а ў іхным падначаленні – уласная батарэя кіравання з узводам артылерыйскай выведкі. І ўсім патрэбны мапы, як дырыжору і музыкантам ноты. А стральбой дывізіёнаў кіруе камандыр артылерыйскага палка. І ён без мапы ваяваць не ў стане сам, як не ў стане і падначаленыя яму артылерыйскія выведнікі, карэктоўшчыкі агню, вылічальнікі…

Маючы ўсё гэта на ўвазе, вернемся ў 13 чэрвеня 1941 года. Пад заслонай Паведамлення ТАСЗ мільённыя масы савецкага войска накіраваліся да заходняй мяжы. Тысячы вайсковых чыгуначных эшалонаў пачынаючы ад Далёкага Ўсходу да самага Бярэсьця запоўнілі чыгуначную сетку краіны, паралізаваўшы ўвесь астатні рух. Начамі дывізіі, карпусы і арміі таемна выгружаюцца ў памежных лясах. Савецкія камандыры пакуль не ведаюць, што ім патрэбна будзе рабіць. Кожны бачыць толькі сваю роту, батарэю, батальён, дывізіён, полк, брыгаду, дывізію, корпус, армію, але не ўяўляе ўсёй глыбіні і размаху сталінскай задумы. І

вось тут савецкіх камандыраў наганяе жахлівая вестка: Гітлер нанёс апераджаючы ўдар, раптам пачаўшы прэвентыўную вайну.

Стандартная сітуацыя із 22 чэрвеня: у беларускіх лясах выгружаецца 22-я армія, таемна перакінутая з Урала. Як і ўсе іншыя савецкія арміі, яна рыхтавалася да ўварвання. Але 22-й арміі ставяць нечаканае і зусім незвычайнае заданне: рыхтаваць абарону і контрудары на сваёй тэрыторыі. Генерал-лейтэнант Н.І.Бірукоў у той час быў генерал-маёрам і кіраваў 186-й стралковай дывізіяй 62-га стралковага корпуса 22-й арміі. Вось яго апавяданне: «Адзіны асобнік мапы, які мне атрымалася раздабыць у кіраўніка штаба 21-га механізаванага корпуса, забраў у мяне камандыр нашага корпуса генерал-маёр І.П.Карманаў» (ВГЖ. 1962. №4. с. 82).

186-я дывізія генерала Бірукова ўкамплектавана амаль цалкам. У дывізіі – 13 000 жаўнераў, сяржантаў і афіцэраў, 144 гарматы, 154 мінамёты, 558 кулямётаў, 13 бронемашын, 16 плаваючых танкаў, 99 трактароў, 558 аўтамабіляў, 3000 коней і… ніводнага камплекта мап. Адну мапу генерал Бірукоў раздабыў у суседзяў, але больш высокі камандзір яе забраў. Паміж савецкімі генераламі дачыненні як у сталінскім крымінальным лагеры. Дарэчы, забраўшы мапу Карманаў толькі што вызвалены із турмы, і ўся ўральская 22-я армія шчыльна ўкамплектавана «спецкантынгентам» – зэкамі ўральскіх лагероў. Генерал Бірукоў у дадзеным выпадку выявіў недаравальнае легкадумства: ёсць адна мапа, дык і не паказвай яе нікому, нават свайму камандыру, а то забяруць, адныкаюць. Але не пазайздросцім і вышэйшаму камандыру, забраўшаму мапу: ён кіруе 62-м стралковым корпусам, а гэта тры дывізіі (153-я, 174-я і 186-я), два асобныя артылерыйскія палкі, зянітна-артылерыйскія дывізіёны, батальён сувязі і сапёрны батальён, авіяцыйны атрад. Стралковы корпус – 50 000 жаўнераў і афіцэраў. Усяго ў корпусе 17 палкоў, із якіх 8 артылерыйскіх. У корпусе 966 гармат і мінамётаў.

Мы ўжо ведаем, колькі камплектаў мапаў патрэбна мець на адной батарэі. Але ў стралковым корпусе не адна батарэя, а 173 артылерыйскія і мінамётныя батарэі (уключаючы батарэі кіравання). У кожным стралковым корпусе для карэктавання артылерыйскага агню існуе ўласная авіяцыя. Толькі куды самалёты паляцяць без мапаў і як ім карэктаваць агонь батарэй? Ды і не адной жа артылерыі мапы патрэбны. Мапы патрэбны і пяхоце, і сапёрам, і тылавікам. Калі артылерыстам даць мапы, а пяхоце не даць, то як арганізаваць узаемадзеянне? А штабы батальёнаў, палкоў і дывізій наогул без мапаў працаваць не могуць. 186-я стралковая дывізія і 62-і стралковы корпус – гэта толькі прыклады. У 21-м механізаваным корпусе – тая ж сітуацыя. Корпусам кіраваў генерал-маёр Д.Д.Лелюшэнка – чалавек шырокай душы. Узаемная выручка ў бою – галоўны прынцып вайсковага таварыства. Падчас вайны генерал Лелюшэнка быў адным із самых дбайных прыхільнікаў гэтага прынцыпу. Ён завяршыў вайну генерал-палкоўнікам, камандуючым 4-ай гвардэйскай танкавай арміі. На ўсіх пасадах, ва ўсіх сітуацыях Лелюшэнка падтрымліваў сваіх суседзяў агнём, адважнай атакай, імклівым манеўрам. І калі напачатку войны генерал Бірукоў вымушаны выпрошваць у генерала Лелюшэнкі мапы і атрымлівае адзін ліст, то, відаць, у Зьміцера Данілавіча Лелюшэнкі ў 21-м мехкорпусе мапы – не ў багацці. Але гаворка не пра дывізіі, не пра карпусы і нават не пра арміі: Другі стратэгічны эшалон у складзе сямі армій і шматлікіх асобных карпусоў апынуўся без мапаў. У Першым стратэгічным эшалоне (пятнаццаць армій уварвання і дзясяткі асобных карпусоў і дывізій) мапаў таксама няма. Ззаду іх ідзе разгортванне трэццяга, а

потым і чацьвёртага эшалонаў, але кіраваць імі немагчыма: там таксама няма мапаў.

Вось прыклад пра становішча савецкіх частак у Першым стратэгічным эшалоне. Сведка – генерал-маёр Д.І.Асадчы. У той час ён быў старэйшым лейтэнантам, камандырам танкавай роты ў 3-м танкавым палку 2-й танкавай дывізіі 3-га механізаванага корпуса 11-й арміі Паўночна-заходняга фронту. Гэта ў Літве. Перад вайной дывізію паднялі па баявой трывозе, перамясьцілі ў памежныя лясы. Танкі КВ-2 загрузілі бетанабойнымі снарадамі. Лагічна: наперадзе Ўсходняя Прусія, на яе тэрыторыі сотні магутных жалезабетонных абарончых пабудоваў. Каб іх ламаць, патрэбныя менавіта бетанабойныя снарады. Але вайна пачалася не так, як планавалі: жалезабетонных умацаваных палос прарываць не давялося, бетанабойныя снарады не запатрабаваліся, давялося бараніць сваю краіну, ваяваць на сваёй тэрыторыі. І тут узнікла праблема: у камандыраў няма тапаграфічных мапаў. Артыкул генерала Асадчага вельмі кароткі, але на адсутнасць мапаў генерал паказвае некалькі разоў (ВГЖ. 1988. №6. с. 52-54).

Із дакументаў таго часу вынікае, што не толькі ў 2-й танкавай дывізіі не было мапаў, але і ва ўсіх іншых танкавых дывізіях. 5 жніўня 1941 года памагаты камандуючага бранятанкавым войскам Чырвонага Войска генерал-маёр танкавага войска В.Т.Вольскі накіраваў намесьніку Наркама абароны генерал-лейтэнанту танкавага войска Я.Н.Федарэнку справаздачу пра выкарыстанне савецкага танкавага войска пад час першых дзён вайны. Сярод высноваў: «Кіруючы склад мапаў не меў, што мела наступствам тое, што не толькі асобныя танкі, але і цэлыя падраздзяленні блукалі» (ЦАМО. Фонд 38. Вопіс 11360. Справа 2. с. 13).

А вось сведка высокага рангу – Ф.І.Голікаў. Перад вайной – кіраўнік ГВУ, пад канец вайны – намеснік Наркама абароны (г.зн. намеснік Сталіна), пасьля вайны – Маршал Савецкага Звязу. У лістападзе 1941 года Голікаў быў генерал-лейтэнантам, кіраваў 10-й арміяй. Кадравае Чырвонае Войска ўжо загінула. Каля самой Масквы суперніка стрымліваюць рэшткі Трэццяга стратэгічнага эшалона Чырвонага Войска, а Сталін таемна стварыў дзесяць армій із ненавучаных рэзервістаў і рыхтуе контрнаступленне. Але праблема застаецца: «Было толькі два асобнікі мапаў. Адзін знаходзіўся ў мяне, другі – у кіраўніка штаба арміі» (ВГЖ. 1966. №5. с. 74).

10-я армія Голікава ў лістападзе 1941 года мела больш 100 000 жаўнераў. Два лісты мапаў на сто тысяч жаўнераў… Прапорцыя, як у 62-м стралковым корпусе 22-й арміі: адзін ліст на пяцьдзясят тысяч ваяроў і камандыраў. Не густа ў таварыша Сталіна з мапамі.

Са сведчання маршала вынікае, што ў аператыўным аддзеле штаба 10-й арміі (аддзел займаецца планаваннем баявых дзеянняў) мапаў няма. Ніводнай. У выведным аддзеле штаба 10-ай арміі мапаў няма. У кіраўніка артылерыяй арміі – мапаў няма. У кіраўніка тылу – няма. Хаця гэта ж не штаб дывізіі і не штаб корпуса. Гэта штаб арміі. Паспрабуй паваюй, калі кіраўніку аператыўнага аддзела план аперацыі ўзнікае неабходнасць маляваць не на мапе, а на лісточку. Гэта прыкладна тое ж, што хірургу рабіць аперацыю не хірургічнымі прыладамі, а з дапамогай відэльца і сталовага нажа.

Але будзем лічыць, што план неяк намалявалі на лісточку. Як яго давесьці да ведама ніжэйшых камандыраў? На пальцах сітуацыю тлумачыць? У ніжэйшых генералаў і іхных штабах мапаў і наогул няма. А як артылерыі страляць? У 10-ай арміі, як і ў кожнай іншай, артылерыйскіх і мінамётных батарэй – сотні. Як

кіраваць іхным агнём? Ніяк. Немагчыма. Як забяспечваць дывізіі, калі тылавікам месцаванне дывізій на мапе паказаць немагчыма? Як арганізаваць узаемадзеянне з авіяцыяй? Як арганізаваць выведку? Атрымалі паведамленне ад партызан пра месцазнаходжанне суперніка, што з гэтым паведамленнем рабіць? На лісточак запісаць?

У маім архіве сведчанняў пра дзікую недастачу мапаў набралася больш трох соцень. Сведкі – афіцэры, генералы, маршалы. Думаю, чатырох прыкладаў дастаткова. А калі не, магу працягваць. Калі заўгодна, магу цэлую кнігу напісаць пра тое, што тапаграфічных мапаў НЕ БЫЛО.

Адсутнасць мапаў у падраздзяленнях, частках, злучэннях і аб'яднаннях Чырвонага Войска мела катастрафічныя наступствы. Кіраванне войскам без мапаў немагчыма. Як вы ні ўзбройвайце дывізію, якіх адукаваных камандыраў над ёю ні прызначайце, якімі адважнымі і дасьведчанымі жаўнерамі яе ні камплектуйце, дывізія – дрэнна кіруемы статак, калі няма мапаў. Такая дывізія ганебна загіне і адкрые шлях суперніку ў тыл іншых такіх жа магутных, узброеных, але дрэнна кіруемых і таму не маючых карысьці дывізій. Савецкая палявая артылерыя мела лепшыя ў сьвеце артылерыйскія гарматы, а адпаведна з колькасьцю артылерыі Чырвонае Войска перавышала ўсе войскі сьвету разам узятыя. Але праз адсутнасць мапаў скарыстацца гэтай магутнасьцю пад час першых месяцаў вайны было немагчыма. А некіруемая і не падтрымліваемая артылерыяй пяхота адыходзіла (г.зн. бегла), агаляючы фронт. Агаліўшы фронт, пяхота аддала суперніку і камандныя пункты, і стратэгічныя запасы, і памежныя аэрадромы, і артылерыю, якая без пяхотнага прыкрыцця безабаронная. А танкі без мапаў блукалі… І гэта канец кадравага войска, а без яго дзяржава страціла вялікую і лепшую частку вайсковай прамысловасьці. І атрымалася: у Гітлера – і кадравае войска, і рэзервісты, і вайсковая прамысловасць, а ў Сталіна – ні кадравага войска, ні вайсковай прамысловасьці, – адны рэзервісты, якіх яшчэ патрэбна сабраць, навучыць, узброіць, стварыўшы на Ўрале і ў Сібіры новыя цэнтры вайсковай прамысловасьці.

Вось тут і патрэбна шукаць адказ на пытанне, чаму Чырвонае Войска здолела дайсьці ўсяго толькі да Одэра, Дуная і Эльбы: катастрафічны пачатак вайны азначаў і катастрафічнае яе заканчэнне. Зразумела, магутнасьці ў сталінскіх рэзервістаў было столькі, што яны пераламалі хрыбет германскаму кадраваму войску і германскім рэзервістам, якіх забяспечвала прамысловасць усёй Яўропы. Але захапіць у Яўропе Сталіну амаль нічога не атрымалася.

Дзіўная справа, але ніводзін із крамлёўскіх гісторыкаў не звярнуў нашай увагі на адсутнасць мапаў як на падставу паразы Савецкага Звязу ў Другой сусьветнай вайне. Афіцыйная гістарычная навука абыйшла ўвагай гэтыя цікавыя паведамленні. І калі б нехта із крамлёўскіх гісторыкаў згадаў пра мапы, то непазбежна, упэўнены ў гэтым, скарыстаўся б фактам адсутнасьці мапаў у якасьці доказу «непрыгатаванасьці» Сталіна да вайны.

А мы не будзем спяшацца з высновамі. Перадусім, высьветлім імёны тых, хто ў Чырвоным Войска адказваў за тапаграфічнае забеспячэнне войска і штабоў. Знойдзем вінаватых. І толькі пасьля гэтага вынесем прысуд.

Вінаватых лёгка знайсьці і назваць іхныя імёны.

На кожным лісьце савецкай тапаграфічнай мапы – надпіс: «Генеральны штаб». Гэта пазначана тая арганізацыя, якая адказвае за падпадрыхтоўку планаў вайны і забеспячэнне войска планамі, а таксама мапамі, на якіх гэтыя планы

намаляваны. У 1941 годзе ў складзе Генеральнага штаба існавала восем упраўленняў. Адно із іх мела назву «Тапаграфічнае» і загадвала ўсімі пытаннямі тапаграфічнага забеспячэння войска. На 22 чэрвеня 1941 года Тапаграфічнае ўпраўленне Генеральнага штаба ўзначальваў генерал-маёр М.К.Кудраўцаў. Ён падначальваўся непасрэдна кіраўніку Генеральнага штаба генералу арміі Г.К.Жукаву.

Вось яны – два галоўныя вінаватыя.

Правільна было б пакараць сьмерцю генерала Кудраўцава за адсутнасць мапаў, а генерала Жукава – за тое, што не накіраваў працу Кудраўцава належным чынам.

Ці пакараў іх Сталін сьмерцю? Не, не пакараў.

Тут адразу ўзнікае меркаванне: магчыма, таварыш Сталін быў мяккі характарам, дараваў усім памылкі і прамахі?

Сталін сапраўды быў мяккі характарам, але не вельмі і не заўсёды: папярэдніка Жукава на пасадзе кіраўніка Генеральнага штаба генерала арміі (і будучага Маршала Савецкага Звязу) К.А.Мерацкова пад час гэтых самых дзён следчыя НКДБ паілі мачой, заціскалі яму полавыя органы дзвярамі і рвалі пугамі кавалкі мяса са спіны і іншых месцаў.

А як таварыш Сталін паставіўся да Жукава? Жукава таварыш Сталін неўзабаве прызначыў сваім намесьнікам, навешаў на яго ордэнаў больш, чым на каго-небудзь, даручыў яму прымаць так званы «парад перамогі» замест сябе і ніколі не ўпікнуў за адсутнасць тапаграфічных мап.

Ну а той, які? Так-так, галоўны тапограф, як да яго паставіліся?

Не турбуйцеся, і яго не пакрыўдзілі. Ён закончыў вайну генерал-лейтэнантам. На яго грудзях дзесяць баявых ордэнаў і шмат медалёў. Ён прыняў тапаграфічную службу Генеральнага штаба ў 1938 годзе, калі яму было 36 гадоў, і заставаўся на гэтай пасадзе 30 (трыццаць) гадоў пры Сталіне, пры Малянкове, пры Хрушчове, пры Брэжневе. Перамяняліся кіраўнікі Генеральнага штаба, наркамы і міністры, перамяняліся генеральныя сакратары, а Кудраўцаў заставаўся. І дзесяцігоддзямі ў савецкай тапаграфічнай службе было нормай уступіць у яе шэрагі зялёненькім курсантам вайсковай вучэльні пры Кудраўцаве і завяршыць службу сівым палкоўнікам ці генералам пры тым жа Кудраўцаве. 30 гадоў на пасадзе галоўнага вайсковага тапографа – гэта рэкорд. Гэта сапраўдны рэкорд. Высвятляў у брытанскіх, французскіх, амерыканскіх і германскіх вайсковых гісторыкаў. Ніхто на падобнай пасадзе ні ў адным войску сьвету трыццаць гадоў не трымаўся. На працягу ўсёй сусьветнай гісторыі. Ён пайшоў з пашанай і дажыў да 82 гадоў. Яму не пагражалі турмы і лагеры. Яго паважалі ўсе. Вось былы начальнік ГВУ і кіраўнік Генштаба генерал арміі С.М.Шцяменка: «Тапаграфічную службу Генштаба ўзначальваў бліскучы знаток гэтай справы генерал М.К.Кудраўцаў» (Генеральны штаб у гады вайны. с. 128).

А вось яшчэ ўхвала генералу Кудраўцаву і ўзначальваемай ім тапаграфічнай службе: «выявілася, што ў Савецкай Расіі была створана мапаграфічная вытворчасць, якая па свайму размаху, арганізацыі, аб'ёме і якасьці вытворчасьці перасягае ўсё тое, што да гэтага часу было зроблена дзе б там ні было».

Ухвала тым больш каштоўная, што выходзіць ад суперніка, пры гэтым пад час вайны, якую супернік яшчэ спадзяецца выйграць. Гэта із германскага часопіса «Petermanns geographische№Mitteilungen» (1943, Heft 9/10). Гэта не проста адзін супернік прызнае перавагу другога. Тут больш. Тут вышэйшая раса прызнае

перавагу над сабой тупых і ленаватых рускіх, якія наогул людзьмі не з'яўляюцца. Такую ацэнку патрэбна заслужыць.

Пасьля выхаду «Ледакола» на нямецкай мове я атрымаў вельмі шмат лістоў ад былых германскіх жаўнераў і афіцэраў. Разбіраць іх мне да канца жыцця. І няма ніводнага ліста пра непрыгатаванасць Чырвонага войска да вайны. Усе лісты – пра прыгатаванасць. Пішуць пра ўсё, сустракаюцца згадванні і пра савецкія тапаграфічныя мапы. Часьцей усяго – пра затрыманне напярэдадні вайны савецкіх артылерыйскіх выведнікаў, наўмысна ці памылкова патрапіўшых на германскую тэрыторыю, і пра знаходжанне у іх тапаграфічных мапаў высокай якасьці. А яшчэ лісты – пра захопленыя ў памежнай паласе пад час першых дзён вайны савецкія тапаграфічныя склады. Напрыклад, пра вялізнае сховішча ў Ціраспалі, дзе захоўваліся мапы дзіўнай якасьці, у тым ліку і мапы Галацкага праходу, пра заліты бензінам і спалены склеп на ўскраіне горада Шаўляя. Склеп быў забіты мапамі, ад якіх засталіся толькі абгарэлыя куткі. Стары жаўнер піша, што ўвесь яго ўзвод быў здзіўлены якасьцю паперы і выразнасьцю малюнка: «Лепш, чым на нямецкіх грашах».

Нам засталося самае простае – аб’яднаць разам факты. З аднаго боку – лепшая ў сьвеце тапаграфічная служба, з другога – адсутнасць мапаў. З аднаго боку – бліскучая кар'ера галоўнага савецкага тапографа, з другога – савецкі генерал выпрошвае мапу ў суседзяў, а вышэй стаячы генерал гэтую мапу забірае. Як усё гэта падвесьці пад агульны змест?

Магчыма нехта знойдзе іншае тлумачэнне, але мне здаецца, што існуе толькі адно задавальняючае: Савецкі Звяз рыхтаваў агрэсію.

Падпадрыхтоўка пачалася яшчэ пачынаючы з дваццатых гадоў. Рыхтаваліся да вайны і савецкія вайсковыя тапографы. Тапаграфічная служба нарыхтавала мапы ў вялізных колькасьцях. Але ўсе яны былі сабраны ў памежных раёнах ЗССР, і там іх давялося знішчаць пры адыходзе. Факт вынішчэння соцень і тысяч тон тапаграфічных мапаў падмацаваны шматлікімі германскімі крыніцамі.

І савецкія крыніцы паведамляюць пра тое ж: мапы былі вывезены ў памежныя раёны краіны і там страчаны ці наўмысна знішчаны пры вымушаным адыходзе. Генерал-лейтэнант А.І.Лосеў патлумачыў нагоды недахопу тапаграфічных мапаў: «Склады тапаграфічных мапаў, неапраўдана размешчаныя непасрэдна каля мяжы, былі або захоплены супернікам, або знішчаны супернікам падчас першых бамбаванняў. У выніку войска страціла 100 млн. мапаў» (ВГЖ. 1992. №10. с. 82).

Такім чынам, мапы былі нарыхтаваны, але ўсе загінулі на мяжы пад час першых дзён вайны.

У пяці памежных акругах Савецкага Звязу на 21 чэрвеня знаходзілася пятнаццаць армій Першага стратэгічнага эшалону, прыбывалі і разгружаліся яшчэ сем армій Другога стратэгічнага эшалону, акрамя таго, фармаваліся тры арміі Трэццяга стратэгічнага эшалону. Пасьля раптоўнага савецкага ўдару і абвяшчэння Дня «М» колькасць армій у заходніх раёнах ЗССР планавалася павялічыць да пяцідзесяці. Дык вось, на кожную із існуючых і нават планаваўшуюся да стварэння армію на мяжы ўжо было падрыхтавана па два мільёны мапаў.

А ваяваць давялося, маючы ў кожнай арміі не па два мільёна мапаў, а часам па дзьве мапы, як у 10-ай арміі генерал-лейтэнанта Голікава.

Розніца – у мільён разоў.

Гэта, аднак, сучасная заніжаная ацэнка. А крыху раней страты тапаграфічных мапаў ацэньваліся вышэй. Сам галоўны вайсковы тапограф генерал-лейтэнант Кудраўцаў сведчыць, што пад час першых дзён вайны толькі ў Прыбалтыйскай, Заходняй і Кіеўскай акругах савецкім войскам было знішчана каля двухсот вагонаў тапаграфічных мапаў (ВГЖ. 1970. №12. с. 22). У 1941 годзе ў Савецкам Звязе самы малы вагон – 20 тон. Калі лічыць, што выкарыстоўваліся толькі малыя вагоны, то і тады атрымаем чатыры тысячы тон знішчаных мапаў.

Генерал-лейтэнант Кудраўцаў дае яшчэ адзін ключ да ацэнкі колькасьці знішчаных мапаў: у сярэднім у кожным вагоне было па 1,033,000 асобнікі. Дзьве сотні вагонаў – гэта дзвесце мільёнаў мапаў.

Зараз генерал-лейтэнант Лосеў паведамляе: страчана сто мільёнаў ва ўсіх памежных акругах. А шмат гадоў назад генерал-лейтэнант Кудраўцаў, непасрэдна за гэтыя мапы адказваўшы, даваў іншую лічбу: толькі ў трох акругах было страчана дзьвесце мільёнаў мапаў.

Але не будзем дробязнымі. Не будзем спрачацца, хто мае рацыю: ці на адной лічбе грунтавацца, ці на другой – розніцы няма, ва ўсякім выпадку мы маем справу з жахлівымі колькасьцямі, колькасьцямі астранамічнымі, якія немагчыма ўявіць. Ніхто ніколі столькі не губляў. Пакажыце мне іншую краіну, якая страціла хаця б дзесяць мільёнаў мапаў. На працягу трох дзён. Дык вось: я іншай такой краіны не ведаю… Хто ведае, пакажыце..

І калі Чырвонае Войска губляла мапы ў такіх колькасьцях, калі самі начальнікі Вайскова-тапаграфічнай службы паміж сабой разыходзяцца ў ацэнцы страт, калі розніца ў ацэнках – сто мільёнаў, а то і больш, то давайце ж пагадзімся: нарыхтавалі шмат. Стлолькі нарыхтавалі, колькі ніхто ніколі не рыхтаваў. Давайце ж пагадзімся, што сёе-тое і ў нас да вайны рыхтавалі…

Такім чынам, праблема апісана з розных бакоў: германскімі вайсковымі экспертамі-тапографамі падчас вайны, былымі германскімі жаўнерамі праз шмат дзесяцігоддзяў пасьля вайны, савецкім генералаі, які непасрэдна сам кіраваў тапаграфічнай службай падчас вайны і другім генералам праз палову стагоддзя пасьля таго, што здарылася. Вынік адзін: нідзе ў сьвеце не было нічога падобнага ні згодна з арганізацыяй, ні з аб'ёмам, ні з размахам, ні з якасьцю. Савецкі Звяз меў лепшую ў сьвеце тапаграфічную службу, нарыхтаваўшую проста неверагодную колькасць мапаў для будучай вайны. Генерал Кудраўцаў і ўсе падначаленыя яму тапографы рыхтаваліся да вайны так, як ніхто ў сьвеце не рыхтаваўся, яны назапасілі столькі мапаў, колькі нікому нават немагчыма і ўявіць.

За гэта ў Сталіна не магло быць прэтэнзій да генерала Кудраўцава, і караць сьмерцю за перадваенную працу яго няма за што. Узнагароджваць патрэбна.

Але ўзнікае пытанне: навошта ж вывезлі мапы ў памежныя раёны?

За тое, што нарыхтаваў столькі мапаў, караць сьмерцю генерала немагчыма, але за тое, што вывез іх да мяжы, – расстраляць! Ці вялікая розніца: нічога не рабіў перад вайной і мапаў не нарыхтаваў, ці мапы нарыхтаваў, але размясьціў там, дзе яны адразу ўсе загінулі? Вынік адзін: мапаў няма, і таму катастрофа ідзе за катастрофай, таму ваяры гінуць мільёнамі, таму горад за горадам здаём, таму тэрыторыю аддаём мільёнамі квадратных кіламетраў і насельніцтва – дзясяткамі мільёнаў.

Чаму ж Кудраўцава не расстралялі за такое неразумнае размяшчэнне мапаў?

Вельмі мне падабаюцца нашы генералы і некаторыя вайсковыя гісторыкі. Гэта дзіўныя людзі. Самыя складаныя праблемы могуць патлумачыць проста,

зразумела, даходліва: «неапраўдана размясьцілі». І ўсё. І знята праблема. І дыскусія не разгараецца.

А я заклікаю свайго чытача ўявіць сітуацыю, уявіць, як такое магло здарыцца. Такім чынам, прыходзіць перад самым германскім нападам генерал-маёр Кудраўцаў да свайго прамога кіраўніка генерала арміі Г.К.Жукава:

– Рыгор Канстанцінавіч, я вырашыў усе нашы запасы мапаў непасрэдна да германскай мяжы накіраваць!

– Ух ты! Выдатна. А навошта, Марк Карпавіч?

– Ды проста так, Рыгор Канстанцінавіч, стукнула ў галаву.

– І ніякай падставы не прыдумаў?

– Цяжка, Рыгор Канстанцінавіч, днямі думаю, начамі думаю, ніяк нагоду прыдумаць не магу. Проста вырашыў іх усе туды выправіць і там трымаць. Без нейкай патрэбы. Без падставаў. Усе дзьвесце мільёнаў. Немец стукне, усе мапы разам і патрапяць да яго ў лапы. Правільна?

– Правільна, Марк Карпавіч.

– Ну дык я загад аддаю, Рыгор Канстанцінавіч?..

– Валяй, Марк Карпавіч. Вывозь усе нашы запасы мапаў непасрэдна на самую мяжу. У непасрэдную блізкасць!

Смешна?

Але не я прыдумаў такую сітуацыю. Гэты, мной прыдуманы, дыялог непасрэдна вынікае із афіцыйнай версіі нашага роднага Генеральнага штаба: вось проста так узялі і проста так неапраўдана ўсе мапы на мяжу вывезлі. Без ніякай падставы.

Вялікія начальнікі ў Міністэрстве абароны, у Генеральным штабе, у высокіх навуковых установах самі пяцьдзясят гадоў дуракамі прыкідваюцца і нам прапануюць паверыць у тое, што генерал Кудраўцаў быў поўным ідыётам. Кіраўнік самай лепшай вайскова-тапаграфічнай службы сьвету, сам – лепшы вайсковы тапограф у сусьветнай гісторыі, узнагарод вешаць няма куды, на грудзях не памяшчаюцца, і раптам проста так узяў і ўсе вынікі шматгадовай прац загубіў, усе запасы мапаў непасрэдна да германскай мяжы засунуў. І нават падставу забыўся прыдумаць, навошта гэта патрэбна.

Добра, паверым афіцыйным гісторыкам: Кудраўцаў – ідыёт.

Але яны прапануюць нам паверыць у тое, што і Жукаў быў поўным ідыётам. Менавіта начальнік Генштаба Жукаў нёс адказнасць за ўсе мапы. Без яго дазволу ніводная тысяча тон мапаў, ніводны эшалон, ніводны вагон з мапамі да мяжы не накіруеш. Патрэбны подпіс Жукава. Ці, у крайнім выпадку, – вусная дырэктыва. Але Кудраўцаў усе мапы Чырвонага Войска на мяжу выправіў, а Жукаву і справы няма. Жукоў не мае ніякага разумення, чым займаюцца непасрэдна яму падначаленыя генералы. Добра, паверым і гэтаму.

Крамлёўскія гісторыкі нам прапануюць паверыць у тое, што Жукаў быў мяккацелым, слабахарактарным чалавекам. Усе мапы на мяжы загінулі, дзукуючы адсутнасьці мапаў войска гіне і аддае суперніку паўкраіны, а Жукаў Кудраўцава за гэта не тое што не расстраляў, але нават і вымовы не абвясьціў, і нават у сваіх мемуарах дрэнным словам не згадаў.

Добра, паверым: Жукаў быў слабахарактарным.

Афіцыйныя гісторыкі нам прапануюць паверыць у тое, што і таварыш Сталін быў добрым, пяшчотным дзядзечкай. Дзякуючы адсутнасьці мапаў у 1941-м гіне краіна, сусьветны камунізм і вялікая справа Сусьветнай рэвалюцыі, гіне сталінскі

рэжым, лёс самога Сталіна – на валасінцы, а ў Сталіна ні да Кудраўцава, ні да Жукава прэтэнзій няма.

Хаця камандыры палкоў, брыгад, дывізій, карпусоў, камандуючыя арміямі і франтамі патрабуюць, крычаць, настойваюць, лямантуюць: таварыш Сталін, дайце мапы! Без мапаў ваяваць немагчыма!

А таварыш Сталін Кудраўцава не расстрэльвае і Жукава не чапае. І таварыш Берыя не спяшаецца. А таварыш Сталін на Кудраўцава і на Жукава ведай ордэны вешае.

І ўсё гэта ў нас тлумачыцца проста: памылка, пралік. Не падумалі. Неапраўдана размясьцілі…

Цікава, што сам Жукаў у сваёй кнізе апісаў масу разнастайных дробязяў, прывёў тысячы імёнаў, дат, фактаў, якія можна было без асаблівай шкоды прапусьціць: яны нікому не цікавыя і да справы дачынення не маюць, але вось пытанне пра тапаграфічныя мапы, за якія Жукаў нёс асабістую адказнасць, ён абыйшоў хвацкім кавалерыйскім манеўрам. У прадстаўленнях да ўзнагароды вайскаводніцкімі ордэнамі гэта фармулююць так: адважна і рашуча абыйшоў агмень супраціўлення, не бяручы ўдзел у зацяжных баях.

І ніводзін афіцыйны гісторык не адважыўся пры жыцці Жукава задаць яму нязручнае пытанне пра тапаграфічныя мапы. Але і пасьля сьмерці Жукава пытанне не паднята. Колькі шляхетнай лютасьці дактары і кандыдаты вылілі на мяне і мой «Ледакол», а вам бы, таварышы, гэтую лютасць ўкласьці ў пытанні да вялікага вайскавода. Не я, а ён дзясяткі мільёнаў народа знішчыў проста дзякуючы таму, што не было мапаў, проста дзякуючы таму, што тапаграфічныя склады «неапраўдана размясьцілі ў непасрэднай блізкасьці»…

Ніхто Жукаву не назаляў, ніхто яму нязручных пытанняў не задаваў. А Жукаў, натуральна, на іх не адказваў. І таму ганьба сарок першага года Жукава як бы не закранула: ён вялікі, ён мудры і магутны. Ён Маскву абараніў. І Ленінград… На Рыгоря Канстанцінавіча Жукава ніхто дрэннага не падумае: ён чысты.

Але ганьба разгрому не змытая. І калі гэтая ганьба не патрапіла персанальна на нечую галаву, то некуды патрапіць ёй было патрэбна. І яна упала на ўсе нашы галовы. І гуляе па сьвету думка: ах, якія дурні гэтыя рускія! Ні на што яны не здольныя. І ваяваць няздольныя. І хай не радуюцца ўкраінцы, казахі, жыды ці татары: калі замежнік кажа пра дурных рускіх, ён усіх астатніх таксама мае на ўвазе, ганьба ўпала не толькі на рускія галовы, але і на галовы ўсіх народаў былога Звязу.

Усе вычыны нашага народа заслонены тысячамі самых ганебных фактаў пачатку вайны, якім няма тлумачэння, акрамя нашай усеагульнай фантастычнай тупасьці і дурасьці. Над намі смяецца сьвет. Над усімі.

Але не ўсе мы неслі адказнасць за размяшчэнне тапаграфічных складоў (аэрадромаў, кіруючых пунктаў, запасаў вадкага паліва, соцень тысяч тон боепрыпасаў і інш., і інш., і інш.). Адказваў за ўсё гэта Генеральны штаб, і персанальна – яго кіраўнік генерал арміі Г.К.Жукаў.

Таму прапаную: або давайце Жукава Рыгора Канстанцінавіча публічна назавём ідыётам, скінем з пастаментаў яго статуі і разаб'ём іх на кавалкі, або давайце разам шукаць нагоду, дзеля якой склады мапаў (а таксама штабы, вузлы сувязі, горы скураных ботаў, эвакуацыйныя шпіталі і ўсё іншае) апынуліся ў «непасрэднай блізкасьці», апынуліся там, дзе былі страчаны пры першым жа судотыку з супернікам.

Адно із двух: знойдзем тлумачэнне незразумелых дзеянняў Жукава (Кудраўцава, Сталіна, Ватуціна, Васілеўскага, Берыя іпр.) і абвесьцім яго злым геніем ці не знойдзем падставаў яго дзейнасьці і абвесьцім дурнем, але ва ўсякім разе пара ганьбу разгрому здымаць з галавы нашага народа. І калі ўсё ўпіраецца ў неразумнасць, то пара ганьбу персанальна ўскласьці на нечыю неразумную галаву. Не можам мы дазволіць крамлёўскай прапагандзе нечы персанальны пралік (ці злачынную задуму) перакладаць на наш народ, на ўсіх нас і нашых нашчадкаў.

Калі мы не разбяромся, менавіта хто вінаваты ў ганьбе і жаху сарок першага года, то так усім нам і хадзіць у дурнях, і дзецям нашым, і іхным унукам.

# Глава XV

## А якія танкі былі ў Гітлера?

«Дарогі цяжкапраходныя. Вялікая колькасць машын сапсавалася ў выніку аварый. Штаб танкавага згуртавання Гота паведамляе, што на хаду засталося толькі 50% штатнай колькасьці баявых машын… Нашы танкі Т-1 з'яўляюцца абузай для войска».

Генерал-палкоўнік Ф.Гальдар. Вайсковы дзённік. Запіс 4 ліпеня 1941 г.

На 21 чэрвеня 1941 года ў Сталіна 24000 танкаў.

Пытанне выпускніку трохмесяцовых курсаў малодшых лейтэнантаў: якую перавагу павінен мець наступаючы?

Адказ: трохразовую.

Слушна. Такім чынам, для нападу на Сталіна Гітлер павінен быў мець 72 000 танкаў.

Аднак супернікі знаходзіліся ў няроўных умовах. Вядома, што нашы дарогі – супрацьтанкавыя. Нашы дарогі маюць падкідаючую здольнасць. Дарогі самі вынішчаюць танкі, машыны, цягачы, бронетранспарцёры суперніка. Таму Гітлеру патрэбна было мець не 72 000 танкаў, а больш. Недзе за 100 тысяч.

Акрамя таго, тэрыторыя ў нас бясконцая. Для захопу такой тэрыторыі патрэбна мець бязмежную колькасць танкаў.

Але ў Гітлера не было бязмежнай колькасці танкаў. У Гітлера не было нават і 100 000 танкаў. У яго не было ні 72 000, ні 24 000.

На 22 чэрвеня 1941 года на Ўсходнім фронце Гітлер меў 3350 танкаў.

Усяго ў Вермахце танкаў было трохі больш, але яны былі заняты на іншых франтах, таму мы іх улічваць не будзем.

Кожны выпускнік трохмесяцовых курсаў здольны зрабіць разлік патрэбнага і для іншага боку. Няма патрэбы быць генерал-палкоўнікам, прафесарам і доктарам навук, каб ведаць, што наступаючаму патрабуецца ўтрая большая магутнасць, а абараняючамуся – утрая меншая: у наступаючага Гітлера 3350 танкаў, такім чынам, абараняючамуся Сталіну для раўнавагі дастаткова было мець 1127 танкаў.

У Сталіна танкаў было ў 21 раз больш, чым гэта патрэбна для абароны.

А калі Сталін вырашыў на Гітлера напасьці, то супраць 3350 гітлераўскіх танкаў трохразовая перавага – 10 050.

Так што і для нападу ў Сталіна танкаў было больш чым удвая патрэбнага.

Заданне для Сталіна спрашчалася тым, што перад ім ляжала маленькая ўтульная Яўропа з добрымі дарогамі, з курортным кліматам, з запасамі бульбы ў

кожным склепе, з галоўкамі сыру ў кожнай каморы, з вэнджанымі кумпякамі над кожным камінам, з насельніцтвам, якое ў сваёй большасьці лічыла Сталіна вызваліцелем і чакала прыходу яго танкаў.

А заданне Гітлера ўскладнялася тым, што перад ім ляжалі бясконцыя абшары, дзікае бездарожжа, цяжка пераадольваемыя лясы, палескія балоты памерам з добрую еўрапейскую краіну. Чатыры месяцы – пачынаючы ад сярэдзіны траўня да сярэдзіны верасня – у гэтай краіне можна ваяваць, а потым – дажджы, бездарожжа, зіма, снег, мароз і зноў бруд.

І мужыкі з сякерамі.

І вось пасьля вайны збіраюць крамлёўскія правадыры гераічных савецкіх маршалаў, генералаў, прафесароў і акадэмікаў і ставяць баявое заданне: давесьці, што 3000 гітлераўскіх танкаў – гэта больш, чым 24000 сталінскіх, давесьці, што Гітлер да вайны быў падрыхтаваны, а Сталін – не.

Якім чынам падбіралі навуковых таварышаў для такой справы, я не ведаю. Не ведаю, што ім абяцалі. Магчыма, абяцалі кожнаму баначку варэння і кошык печыва, магчыма, абяцалі па дзесяць мільёнаў даляраў на брата, магчыма, кватэру на Арбаце роўную шэсцьсот пяцьдзясят метраў і палац у Крыму, магчыма, каму паласатыя парткі, а каму маршальскія зоркі… Не будзем здагадвацца. Зразумела адно: на такую брудную справу падбіралі людзей, гатовых гандляваць не толькі сумленнем…

І яны гандлявалі.

І яны здолелі давесьці, што ўсе мы, жыхары былога Звязу, поўныя ідыёты. Яны здолелі давесьці, што мы згодна са сваімі разумовымі здольнасьцямі ніяк да германскіх стандартаў не дацягвалі, што лянота і прыдуркаватасць – галоўныя характарыстыкі нашых народаў.

Як жа такое здолелі давесьці палкоўнікі Мерцалавы і Анфілавы, генералы Герэевы, Жыліны,Ваўкагонавы, маршалы Куліковы і Агаркавы?

Усё проста: у сваіх навуковых пошуках яны проста прамаўчалі пра 24 тысячы сталінскіх танкаў. За 50 гадоў у афіцыйных выданнях гэтая лічба не з'яўлялася. Яна ўсплыла толькі пад час дзевяностых гадоў, хаця на Захадзе яна заўсёды была вядома.

Але разгорнем «Успаміны і разважанні» Маршала Савецкага Звязу Рыгора Канстанцінавіча Жукава, прагледзім ад пачатку да канца, але галоўнага не знойдзем. Рыгор Канстанцінавіч – усё больш пра дробязі.

Згадваць пра сяміразовую перавагу ў танках Жукаву не дазволілі і разважаць на гэтую тэму не загадалі. Вось бы Рыгору Канстанцінавічу і пляснуць дзвярамі: не буду пісаць, і баста!

Але ўжо ж вельмі яму жадалася атрымаць тыя самыя слоянку варэння і кошык печыва…

А Інстытут вайсковай гісторыі працаваў пад кіраўніцтвам Галоўпура і Ідэалагічнага аддзела ЦК КПСЗ. І вайсковыя гісторыкі у нас служылі ва ўстанове прапаганды. Із прапагандыстскіх установаў яны галоўным чынам і паходзілі, із УСП – упраўленне спецпрапаганды Галоўпура, якім кіраваў нехта Ваўкагонаў. Вайсковую гісторыю прапагандысты не вывучалі, а стваралі яе. Адпаведна з зададзенымі параметрамі.

І нарадзілася ў нетрах прапагандысцкага ведамства формула: «У Чырвоным Войску на 21 чэрвеня 1941 года – 1861 навейшых танкаў Т-34 і КВ, а таксама – шмат састарэлых і лёгкіх танкаў».

Так бы мовіць, формула з прыказкай. І ўсім загадалі паўтараць гэтую формулу і прыказку: «а таксама шмат лёгкіх і састарэлых».

Гэтая формула наскрозь фальшывая. Як і прыказка.

Па-першае, Чырвонае Войска акрамя Т-34 і КВ мела на 22 чэрвеня 1941 года навейшыя танкі Т-40 і Т-50. Нашы прапагандысты «забыліся» гэтыя танкі ўключыць у статыстыку.

Па-другое, 1861 Т-34 і КВ – гэта заніжаная лічба. Два мужных, г.зн. сапраўдных, гісторыкі Н.П.Золатаў і С.І.Ісаеў правялі вялізную працу па вывучэнню танкавага парка ЗССР на момант пачатку вайны. Яны пішуць: «Да сярэдзіны 80-х гадоў тыя, хто пісаў пра гэтую праблему, прытрымліваліся строга зададзеных лічбаў, паведамляемых у фундаментальных выданнях. Адпаведна з афіцыйнай версіяй у Чырвоным Войску напярэдадні войны на ўзбраенні было 1861 танкаў КВ і Т-34… Ужо тады шмат хто із дасьледчыкаў валодалі больш дакладнымі дадзенымі, але апублікаваць іх было практычна немагчыма» (ВГЖ, 1993. N11. с. 75). Лічба 1861 – слушная, але гэта адпаведна са станам на 30 траўня 1941 года. На 21 чэрвеня 1941 года ў Чырвоным Войску было 1363 Т-34 і 677 КВ, г. азн.: 2040 навейшых танкаў толькі гэтых двух тыпаў, не ўлічваючы Т-40 і Т-50.

Прыказка пра «састарэлыя і лёгкія» таксама выдае хітрасць. Нават калі пагадзіцца, што ўсе астатнія танкі, акрамя Т-34 і КВ, былі сапраўды састарэлымі і лёгкімі, то ўсё адно цікава даведацца, колькі ж іх было. Але маўчалі генералы і маршалы, дактары і кандыдаты.

І калі за 25 паваенных гадоў нас прызвычаілі да ілжывых лічбаў, із ЦК КПСЗ у Акадэмію навук ЗССР паступіў загад падман паглыбіць і пашырыць. Акадэмікі адказалі: «Будзе выканана!»

Крыніца – часопіс «Пытанні гісторыі» (1970. №5. с. 25). Выдавец – Акадэмія навук ЗССР. Чытаем: «У германскім войску было 3712 танкаў, у Чырвоным Войску – 1800 (цяжкіх і сярэдніх)».

Пра «вялікую колькасць лёгкіх і састарэлых» – ні словы. Прыказка пра «вялікую колькасць» адпала, адвалілася, як хвосцік у яшчаркі.

У дадзеным выпадку колькасць германскіх танкаў неапраўдана завышана, колькасць савецкіх сярэдніх і цяжкіх танкаў названа няправільна, а потым яшчэ і акруглена, пры гэтым і акруглена няправільна: нават калі браць да ўвагі афіцыйную лічбу 1861, то яна бліжэй да 1900, чым да 1800. Калі акругляць, то патрэбна акругляць адпаведна з правіламі матэматыкі ў бок павелічэння. Але быў загад нашу магутнасць заніжаць, таму акадэмікі акруглялі насуперак правілам матэматыкі.

А зараз – да германскіх танкаў.

Нямецкія канструктары зрабілі недаравальную памылку: рухавік танка яны ўсталявалі на карме, а сілавую перадачу – у пярэдняй частцы танка. Гэтую ж памылку дапусьцілі канструктары брытанскіх, амерыканскіх і японскіх танкаў.

Такое размяшчэнне мае шмат пераваг. Перавагі былі бачны кожнаму. Але існаваў і недахоп, на яго ўвагу не звярталі.

А складаўся ён вось у чым: калі рухавік у кармавой частцы, а цягавая перадача – у перадку, то ад рухавіка да перадачы неабходна перакінуць карданны вал. Так і рабілі. Карданны вал размяшчалі пасярэдзіне корпуса танка, і ён шмат месца не займаў. У прынцыпе менавіта так зроблена ў большасьці легкавых машын: рухавік у адным месцы, а вядучыя колы – у іншым. Ад рухавіка да вядучай восі перакінуты карданны вал. Ён не займае шмат месца: накрыем яго кажухом, а

справа і злева на дно корпуса ўсталюем сядушкі. Наяўнасць карданнага вала на вышыню корпуса не ўплывае.

Іншая справа ў танку. Над карданным валам нам патрэбна размясьціць плоскасць – падлога круцячайша вежы. Таму паміж дном корпуса і падлогай вежы ўтваралася пустая прастора. Дзякуючы гэтаму у прынцыпе непатрэбнаму пустому месцу мы вымушаны вышыню корпуса танка павялічыць на 30-40, а то і на ўсе 50 сантыметраў. Адпаведна павялічваўся сілуэт танка і яго ўстойлівасць у бою. Мала таго: павялічвалася вага корпуса. Танкавы корпус – гэта бранявая сталь, калі павялічыць вышыню бранявога корпуса на 30-40, а то і на 50 сантыметраў, то павелічэнне вагі будзе налічваць сотні кілаграмаў, калі браня супрацькулевая. А калі браня тоўстая, супрацьснарадная, то павелічэнне непатрэбнай вагі будзе налічваць тоны.

Але гэта не ўсё: для таго каб несьці гэтую дадатковую і цалкам непатрэбную браню, патрабавалася выкарыстоўваць больш магутны (такім чынам, больш цяжкі) рухавік. Больш магутны рухавік мае большы аб'ём, гэты аб'ём патрэбна засланіць бранёй, – зноў павялічваецца вага. Замкнёнае кола: больш магутны рухавік патрабуе большага аб'ёму, якому патрабна дадатковага браня, а каб несьці дадатковую браню, патрэбна мець яшчэ больш магутны рухавік, які… і г.д. Бяда ў тым, што ўзнікае не адно кола, а некалькі: больш магутнаму рухавіку патрабуецца больш магутная цягавая перадача, якая важыць больш і патрабуе дадатковых аб'ёмаў, якія патрэбна засланяць дадатковай бранёй. Гэта лішняя вага. Каб яе несьці, патрэбны яшчэ больш магутны рухавік, а да яго больш магутная перадача, якую патрэба… і г.д. больш магутны рухавік патрабуе больш паліва, патрабуючае ў сваю чаргу большых аб'ёмаў, якія зноў жа патрэбна засланіць бранёй, а каб яе несьці, патрэбен больш магутны рухавік…

Павелічэнне цалкам непатрэбных аб'ёмаў і вагі ішло адразу па некалькіх спіралям, прытым з паскарэннем. Адпаведна з павелічэннем непатрэбных аб'ёмаў і вагі зніжаліся ўсе баявыя характарыстыкі: танкі былі ціхаходнымі, мелі слабенькія гарматы і слабую браню.

Немагчыма сказаць, што канструктары не разумелі простых рэчаў: яны разумелі, але павелічэнне аб'ёмаў і вагі лічылася натуральнай і непазбежнай платай за прагрэс.

Савецкія канструктары танкаў БТ, Т-34, КВ, ІС размясьцілі рухавік і цягавую перадачу ў адным месцы – на карме. Такое размяшчэнне мела шмат відавочных ндахопаў і адну не вельмі заўважаемую перавагу: з корпуса танка быў выкінуты карданны вал. Зараз з’явілася магчымасць падлогу вежы апусціць непасрэдна на самае дно корпуса. За кошт гэтага паменшылася вышыня карпуса і агульны сілуэт танка. Рэзка паменшылася магчымасць уцэліць, асабліва із далёкіх дыстанцый. Але самае галоўнае – стала меншай вага. Больш таго – зачараваныя колы закруціліся ў адваротны бок: паменшыўшы вагу танка, можна паменшыць магутнасць рухавіка, менш магутны рухавік важыць менш і патрабуе меншы аб'ём, такім чынам, з’яўляецца магчымасць зняць яшчэ частку брані, а такім чынам, і паменшыць магутнасць рухавіка… Менш магутны рухавік патрабуе менш паліва – зноў зніжаецца вага, акрамя таго памяншаецца аб'ём, такім чынам, здымаем непатрэбную браню, вага памяншаем… і г.д.

Зразумеўшы гэтае простае правіла, канструктар зараз атрымаў магчымасць ісьці рознымі шляхамі адпаведна са сваімі патрэбамі: можна было магутнасць

рухавіка не памяншаць, а эканомію вагі выкарыстаць на павелічэнне бранявой абароны, узбраення ці хадавых характарыстык танка.

Вось тут патрэбна шукаць адказ, чаму савецкі танк ІС-3, фактычна аднагодак «Каралеўскага тыгра», перавышаў яго па ўсіх параметрах: па хуткасьці, праходнасьці, удвая па запасу ходу, па браняванню (броня больш таўстая, лепшай якасьці і лепшай формы), па ўзбраенню – 122-мм гармата супраць 88-мм на «Каралеўскім тыгры». Пры гэтым ІС-3 меў значна ніжэйшы сілуэт і важыў на 21 тону менш. Гэта мела свае наступствы – ІС можна было перавозіць на стандартнай чыгуначнай платформе, а «Каралеўскі тыгр» – толькі на адмысловай платформе і толькі пасьля асобнай падпадрыхтоўкі. І з мастамі ў «Тыграў» было куды больш праблем: ніводзін наплаўны мост іхную вагу не трымаў.

Усё гэта нам будзе патрэбна крыху пазьней. Зараз будзем памятаць галоўнае: параўнанне вагі савецкіх і германскіх танкаў зусім не азначае, што цяжэйшы быў больш магутным. Зусім не: савецкія танкі мелі рацыянальную кампаноўку, а танкі Няметчыны, ЗША, Брытаніі, Японіі – нерацыянальную. Калі чалавек важыць 150 кг., то із гэтага зусім не вынікае, што ён больш мацны за таго, хто важыць 75 кг: чалавек з вялікай вагой можа проста насіць непатрэбны тлушч, як насілі на сабе дадатковую браню навакол у прынцыпе непатрэбных аб'ёмаў танкі ЗША, Брытаніі, Японіі, Няметчыны.

Вернемся да навейшых і састарэлых танкаў. Чырвоныя вайсковыя гісторыкі – красваяністы – адным росчыркам пяра скасавалі 22000 сталінскіх танкаў, проста выкінулі іх са статыстыкі, абвясьціўшы лёгкімі і састарэлымі. Мы да гэтых танкаў яшчэ вернемся. А пакуль разгледзім пытанне: што ёсць састарэлы танк у разуменні камуністычнай навукі і чым ён адрозніваецца ад навейшага?

У 1941 годзе існавала пяць элементаў канструкцыі, выводзіўшых танк у разрад навейшых:

– магутная даўгаствольная гармата калібрам 76-мм і вышэй;

– супрацьснарадное браняванне, г.зн. здольнасць выстаяць і выжыць ва ўмовах, калі супернік ужывае супрацьтанкавую артылерыю;

– шырокія гусеніцы, якія даюць танку здольнасць дзейнічаць практычна на якой заўгодна мясцовасьці пры якім заўгодна надвор'і па-за дарогамі;

– рацыянальная кампаноўка: рухавік і цягавая перадача знаходзяцца побач;

– дызельны рухавік: лёгкі, эканамічны, галоўнае – не схільны да хуткага ўзгарання.

Т-34 і КВ былі не проста навейшымі, але навейшымі адпаведна з усімі пунктамі. У іхнай канструкцыі ўсе гэтыя пяць элементаў існавалі і гарманічна спалучаліся.

Існавалі ў Чырвоным Войску шыкоўныя танкі БТ. Усе яны мелі слушную рацыянальную кампаноўку: рухавік і цягавую перадача – у кармавым аддзяленні. Самыя апошнія із гэтага сямейства – БТ-7М мелі дызельны рухавік У-2. Той самы легендарны У-2, які стаяў на Т-34 і на КВ. Усе танкі БТ мелі ў сваёй канструкцыі адзін із элементаў навейшага танка. БТ-7М мелі два такіх элементы – рацыянальную кампаноўку і дызельны рухавік.

Гэтага недастаткова, сказалі камуністы, і ўсе танкі БТ дапасавалі да разраду састарэлых, усе са статыстыкі выкраслілі.

Такім чынам, падыход вельмі строгі: калі прысутнічаюць у канструкцыі танка ўсе пяць элементаў, вось толькі тады танк браўся ў разлік.

Добра. Пагадзімся з такім падыходам. І паглядзім на германскія танкі.

Таварышы камуністы, назавіце той германскі танк, які ў 1941 годзе меў усе пяць элементаў канструкцыі навейшага танка: магутную даўгаствольную гармату, супрацьснараднае браняванне, шырокія гусеніцы, дызельны рухавік, рухавік і цягавую передачу на карме. Падыміце мне вейкі і пакажыце на яго!

Такіх танкаў у 1941 годзе ў Няметчыны не было ніводнага. І ва ўсім астатнім сьвеце – ніводнага.

Тады пакажыце мне той германскі танк, які б спалучаў у сваёй канструкцыі чатыры элементы навейшага танка.

Абцяжарваецеся? Інуюць падставы: такіх танкаў у Няметчыны таксама не было. Ніводнага. І ва ўсім астатнім сьвеце – ніводнага.

А як наконт трох элементаў? А ўсё так жа. Такіх таксама не было. А два? Не было і двух. Ну, а магчыма, па аднаму із гэтых элементаў існавала на нейкім германскім танку? Зноў жа не. І ва ўсім сьвеце – не.

Падчас вайны германскія канструктары запазычылі савецкі досьвед і стварылі танкі «Тыгр» (1942), «Пантэра» (1943) і «Тыгр-Б» (1944). Гэта былі лепшыя замежныя танкі. Яны мелі ў сваёй канструкцыі тры элементы, выводзіўшыя іх у разрад навейшых: магутная даўгаствольная гармата, супрацьснарадная броня і шырокія гусеніцы. Але рухавікі ўсталёўваліся на карме, а цягавая передача – у перэдняй частцы корпуса. Гэта – нерацыянальнае рашэнне, гэта тэхнічная адсталасць. І стварыць танкавы дызель падчас вайны Няметчына не здолела. Вайну давялося завяршаць – на карбюратарных рухавіках.

У ЗША, Брытаніі і Японіі справы ў галіне танкабудавання былі некалькі горшымі, чым у Няметчыны.

Практычна ўсе свае грошы выдаткую на кнігі. У маёй бібліятэцы, якой я ганаруся, пра адны толькі танкі – 407 тамоў. І няма ніводнага, які б не высмейваў савецкія «састарэлыя» танкі 1941 года. Над нашымі «састарэлымі» танкамі 1941 года смяецца ўвесь сьвет. А калі яны выхваляюцца перамогамі ў Паўночнай Афрыцы і высадкай у Нармандыі, мы чамусьці не смяёмся. Мы чамусьці не кажам, што яны ваявалі на састарэлых танках і вайну завяршылі – на састарэлых. А прыклады – абуральныя.

Амерыканскі танк М3 вырабляўся ў вялізных колькасьцях (у іхным разуменні) да 1943 года, ён ужываўся да канца вайны і далей. Дэталі лёгенькай супрацькулевай брані гэтага танка не зварвалі – іх злучалі заклёпкамі. Як на браняносцах XIX-га стагоддзя.

На танку М5 было два аўтамабільныя рухавікі, а на танку М4А4 – пяць аўтамабільных рухавікоў (P.Chamberlai№and c. Ellis. British and America№Tanks of World War Two. New York. ARCO. 1969. P. 110).

Як працавалі пяць аўтамабільных рухавікоў у адным цягавым аддзяленні танка, хай кожны ўявіць сам. У мяне не атрымліваецца.

У 1940 годзе ў амерыканскім Кангрэсе былі вымаўлены словы, увайшоўшыя ў гісторыю: «Учора я бачыў усе танкі Злучаных Штатаў, адразу ўсе чатырыста». У чэрвені 1940 года для абароны Брытанскіх выспаў Чэрчыль меў менш ста танкаў – іхная колькасць пазначалася двухзначнай лічбай.

Чырвонае Войска – адзіная ў сьвеце напачатку войны мела танкі, у канструкцыі якіх спалучаліся адразу ўсе пяць элементаў навейшых баявых машын. І было ў Сталіна адных толькі найновых Т-34 і КВ больш, чым у Брытаніі, ЗША і Японіі танкаў усіх тыпаў разам узятых.

Няметчына толькі ў другой палове вайны змагла наладзіць вырабніцтва «Пантэр» і «Тыграў», у канструкцыі якіх спалучалася па тры элементы навейшага танка. Астатнія краіны гэтага зрабіць не здолелі.

І вось увесь сьвет смяецца над нашымі «састарэлымі» танкамі.

А тым часам 22 чэрвеня 1941 года Гітлер пайшоў на савецкую тэрыторыю, маючы ўсяго толькі 3350 танкаў.

І ЎСЕ ЯНЫ БЫЛІ САСТАРЭЛЫМІ.

# Глава XVI

## З нямецкім размоўнікам па… Смаленскай вобласьці

«На Няметчыну камуністы звяртаюць галоўную сваю ўвагу».
К.Маркс і Ф.Энгельс. Маніфест камуністычнай партыі

Запярэчаць: «Калі б такі план існаваў, то ніякая сакрэтнасць не дапамагла б. У палон да немцаў патрапілі высокія камандыры Чырвонага Войска, шмат штабоў самага высокага ўзроўню… Нават грунтуючыся на аналізе перахопленых пакетаў, калі б яны складалі адзіную задуму ўварвання, гэты план было б лёгка аднавіць» (Уладзімір Юравіцкі. Расійскі час. 1993. №1. с. 10).

Адказваю. Адзіная задума савецкага ўварвання існавала, і германскай выведкай была у агульных рысах выкрыта. Раніцай 22 чэрвеня 1941 года германскі пасол фон дэр Шуленбург таварышу Молатаву гэты план даволі дакладна намаляваў. Яшчэ і паперу ўручыў. На памяць. Гэтая, выкрытая германскай выведкай, савецкая задума ўварвання ўласна і з'явілася нагодай і падставай германскага ўварвання як апераджаючай акцыі самаабароны ад няўхільнага і хуткага савецкага нападу.

Заява германскага ўрада пра неабгрунтаваную канцэнтрацыю савецкага войска на мяжы Няметчыны і Румыніі была неадкладна падмацавана фактамі. Уладзімір Юравіцкі іх сам і прызнае: «У палон да немцаў патрапілі высокія камандыры Чырвонага Войска, шмат штабоў самага высокага ўзроўню…»

У палон яны патрапілі таму, што да абароны не рыхтаваліся. Што ж у гэтым выпадку «штабы самага высокага узроўня» рабілі на германскай і румынскай мяжы?

На працягу першых жа дзён вайны германскае войска захапіла шмат савецкіх планаў і неаднаразова іх дэманстравала ўсяму сьвету. Уладзіміру Юравіцкому рэкамендую прагледзець яшчэ раз германскія вайсковыя часопісы таго часу. Напрыклад, «Сігнал». Савецкія камандыры на допытах таксама давалі цікавыя сведчанні. Пра гэта – цэлыя стосы інфармацыі. Практычна невычэрпныя. І зусім не патрэбна звяртацца да пратаколаў допытаў тых генералаў, якія спрабавалі ваяваць супраць камунізму ў складзе Рускага Вызваленчага войска і іншых фармаваннях. Тыя, хто аддаў перавагу сьмерці і лагеру, сведчылі тое ж самае. Рэкамендую прачытаць пратаколы допытаў кіраўнікоў 5-ай арміі генерал-маёра М.І.Патапава, 6-ай арміі генерал-лейтэнанта Н.І.Музычэнкі, 12-ай арміяй генерал-маёра П.Г.Панядзеліна, 19-ай арміі генерал-лейтэнанта М.Ф. Лукіна, 32-ой арміі генерал-маёра С.В. Вішнеўскага. Пра тое ж сведчылі палонныя камандыры карпусоў, дывізій, брыгад, палкоў і батальёнаў, іхныя намесьнікі і кіраўнікі штабоў.

Нашу размову пра тапаграфію мы пачалі з таго, што камандыру артылерыйскай батарэі цяжка без мапы ў бою. Каб гэта становішча падмацаваць

напрыклад, было б нядрэнна паслухаць думку артылерыста, і менавіта – камандыра батарэі. У нямецкім палоне іх апынулася адразу шмат тысяч. Вось адзін із іх. Ён кіраваў 5-й батарэяй 14-га гаўбічнага артылерыйскага палка 14-й танкавай дывізіі 7-га механізаванага корпуса. Лёс гэтага афіцэра па-свойму паказальны. Ён не абіраў вайсковы шлях. Ён меў жаданне быць чалавекам асабліва мірным: інжынерам-механікам чыгуначнага транспарту. І ён ім стаў. Але ў яго быў уладны бацька, які настояў на тым, каб малады інжынер стаў афіцэрам, каб паступіў у Артылерыйскую акадэмію, і не проста так зрабіў, а паступіў так, каб закончыць яе ў траўні 1941 года. І малады інжынер, выконваючы волю бацькі, стаў афіцэрам і скончыў Артылерыйскую акадэмію. Травень 1941 года. 5 траўня ў Крамлі адбыўся ўрачысты прыём у гонар выпускнікоў вайсковых акадэмій. На гэтым прыёме бацька выказаў прамову, якая больш пяцідзесяці гадоў захоўвалася ў якасьці абсалютнай дзяржаўнай таямніцы, а сын – старэйшы лейтэнант Якаў Ёсіфавіч Джугашвілі – сядзеў у зале і слухаў прамову бацькі. Пра што выказваўся бацька, якія прамаўляў тосты, мы зараз ведаем.

Сын пасьля выпуску патрапіў у Маскоўскую вайсковую акругу, у 7-ы механізаваны корпус генерал-маёра В.І. Вінаградава (14-я, 18-я танкавыя, 1-я Маскоўская пралетарская мотастралковая дывізіі). Маршал Савецкага Звязу А.І.Яроменка на самым пачатку вайны сустрэў гэты корпус у Беларусі. Маршал сведчыць: «Корпус укамплектаваны» (На заходнім накірунку с. 29).

Дзіўна, але 7-ы мехкорпус Маскоўскай вайсковай акругі апынуўся ў Заходняй Беларусі ўжо 25 чэрвеня. Кожны, хто хаця б аднойчы назіраў пагружэнне аднаго танкавага батальёна ў чыгуначны эшалон і выгружэнне, той мяне падтрымае: мехкорпус, у якім 1031 танкаў, 358 гармат і мінамётаў, 266 бронеаўтамабіляў, 352 трактароў, 5165 аўтамашын і 36 080 жаўнераў, сяржантаў і генералаў перакінуць за тры дні із Маскоўскай ў Заходнюю асобную акругу немагчыма. Немагчыма нават у нармальным становішчы.

А становішча пасьля паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года было, мякка кажучы, ненармальным: не адзін 7-ы мехкорпус таемна перакідаўся да мяжы, але дзясяткі карпусоў. Пачынаючы з той жа Маскоўскай вайсковай акругі ў тую ж Заходнюю асобную – 21-ы механізаваны корпус генерал-маёра Д.Д. Лелюшэнкі, у якога генерал із 22-ой арміі (туды ж таемна перакінуты із Урала) мапу выпрошвае. Дык вось: 7-ы мехкорпус пачаў пагружэнне да 22 чэрвеня. Да германскага нападу. Навошта? Гэта нам патлумачаць гісторыкі.

Патрапіўшы ў Беларусь, 7-ы мехкорпус загінуў разам з 5-м мехкорпусам (таемна перакінутым із Забайкалля), разам з 21-м і ўсімі іншымі. Іх там шмат было. Разам з 22-й арміяй. Разам з 3-й, 4-й, 10-й, 13-й арміямі. А камандыр 5-й гаўбічнай артылерыйскай батарэі 14-га гаўбічнага артылерыйскага палка 14-й танкавай дывізіі 7-га мехкорпуса старэйшы лейтэнант Джугашвілі Якаў Ёсіфавіч патрапіў у палон і на допыце паказаў: «Мапы падвялі Чырвонае войска, таму што вайна, насуперак чаканням, вялася на ўсход ад дзяржаўнай мяжы». Сведчанні сына Сталіна надрукаваны германскім гісторыкам І.Хофманам у расійскім часопісе «Айчынная гісторыя» (1993. N4. с. 26).

Гэта я да таго, што матэрыял пра намеры і задумы савецкага кіраўніцтва існуе. У багацці. Пры жаданні кожны ў стане ў германскіх архівах знайсьці штабелі выкрываючага матэрыялу; дакументаў, сведчачых пра падпадрыхтоўку Чырвонага войска да «вызвалення» Яўропы летам 1941 года.

Дарэчы, самае цікавае захоўваецца зусім не ў Няметчыне, а пад Масквой, у горадзе Падольску. Але дзякуючы нейкай дзіўнай нагодзе ні таварыш Сталін, ні таварыш Хрушчоў, ні Брэжнеў, ні Андропаў, ні Гарбачоў з Ельцыным не гарэлі жаданнем дапусціць гісторыкаў да германскіх архіваў. Здавалася б, узялі Берлін, архівы вышэйшага германскага кіраўніцтва – наш вайсковы трафей, ну дык і надрукаваць іх! Усяго, зразумела, не надрукуеш, але за пяцьдзясят гадоў, друкуючы на год па сто тамоў, сёе-тое можна было прадэманстраваць сьвету. Дык не ж. Не друкуецца нічога. І аматараў да гэтых фондаў не падпускаюць. Так проста туды не пралезьці. Асабіста ў мяне гэта не атрымалася. А тыя высокія кіраўнікі, якія доступ маюць, выяўляюць нетлумачымую абыякавасць.

Але вось што цікава. Пасьля вайны германскія генералы пісалі мемуары і дасьледванні пра вайну. Галоўным чынам яны спадзяваліся на сваю памяць і карысталіся тымі вартымі жалю рэшткамі архіваў, якія Сталін не паспеў захапіць і вывезьці. Нашы ж генералы і маршалы мелі ўсе магчымасьці германскімі архівамі скарыстацца: ім не было патрэбы нават і ў Падольск ездзіць – падымі трубачку і даставяць тэчачкі на Стары пляц, на Фрунзенскую набярэжную, на Гогалеўскі бульвар. Дык не ж. Нашы кіраўнікі, маючыя званні маршалаў, генералаў арміі і генерал-палкоўнікаў, пасады – дарадцаў Прэзідэнта, Міністра абароны, кіраўніка Генеральнага штаба і іхных намесьнікаў, ахвотна цытавалі мемуары германскіх генералаў, а архівы ігнаравалі. Чаму? Што хаваем? Магчыма, публікацыя трафейных германскіх ваенных дакументаў уяўляе пагрозу для нашай гістарычнай навукі, нашай версіі вайны, падмурку рэжыма?

Я не цытую германскіх архіваў таму, што самае цікавае – мне недаступна. А тое, што захавалася пасьля вайны ў Няметчыне, не цытую таму, што той жа Уладзімір Юравіцкі із часопіса «Расійскі час» мяне першым і выкрые ў «паўтарэнні прыдумак гебельсаўскай прапаганды». Таму я і буду грунтавацца на нашых афіцыйных выданнях, на сведчанях Жукава, Конева, Ракасоўскага. Пазначу толькі, што мемуары нашых маршалаў і генералаў дзіўным чынам падмацоўваюць усё тое, што прынята называць «прыдумкамі фашысцкай прапаганды». Уладзіміру Юравіцкаму настойліва рэкамендую прабрацца ў падольскія скарбніцы. А мне нашых савецкіх матэрыялаў пакуль цалкам хапае.

Такім чынам, план уварвання існаваў. І толькі самая вялікая сакрэтнасць у захаванні трафейных германскіх і нашых архіваў дазволіла некалькі дзесяцігоддзяў захоўваць яго ў таямніцы.

Але Уладзімір Юравіцкі мае рацыю: у рэшце рэшт, ніякая сакрэтнасць не дапаможа. Занадта ўжо падпадрыхтоўка да ўварвання была відавочнай. Яна бачна няўзброеным вокам. Добра б закапацца ў падольскія тэчачкі гадоў на дзесяць-пятнаццаць. Але што рабіць? Даводзіцца мне пакуль задавальняцца адкрытым матэрыялам. Але будзе час, дабяруцца і да падольскіх сховішчаў.

У гэта я сьвята веру.

У пытанні пра тапаграфічныя мапы шмат што будзе зразумелым, калі згадаць, што мапа – гэта асобны стратэгічны прадукт.

Вайна пражэрлівая. Вайна патрабуе нафты і сталі, золата і бавоўны, мыліц і пратэзаў, бінтоў і хлеба, крыві і мяса, марганцу і волава, вальфраму і медзі. І не напасешся: то алюмінію нехапае, то гузікаў для жаўнерскіх штаноў, то бранявога ліста. Але існуе адзін стратэгічны прадукт, які назапасіць перад вайной асабліва цяжка. Гэты прадукт – тапаграфічныя мапы.

Цяжкасць вось у чым: лес ударнымі тэмпамі высякаюць, балоты асушваюць, рэкі плацінамі перагароджваюць, паварочваюць іх з поўначы на поўдзень, зэкі каналы капаюць, бравыя мінёры рвуць дынамітам званніцы, у непралазных лясах з'яўляюцца «барачныя мястэчкі для лесасекаў». Адным словам, мясцовасць перамяняецца на вачах і леташняя мапа ўжо не дае праўдзівай выявы. Гэта са скуранымі ботамі для вызваленчага паходу няма праблем: пакладзі на склад і хай ляжаць, хай чакаюць сваёй гадзіны хоць пяць гадоў, хоць дзесяць. А тапаграфічная мапа – із разраду хуткапсуючыхся прадуктаў. Гэта на геаграфічнай мапе перамяняць амаль нічога не патрэбна, а на тапаграфічную наносіцца кожны раўчук і яр з указаннем шырыні і глыбіні, кожны масток з указаннем грузападымальнасьці і матэрыялу із якога ён зроблены, кожны гаёк з указаннем сярэдняй вышыні дрэваў, таўшчыні ствалоў і адлегласьці паміж дрэвамі, кожная вёска, а то і кожная сядзіба. Таму патрэбна ўвесь час сачыць за пераменамі, дадаваць папраўкі і передрукоўваць тапаграфічныя мапы. Добра, калі ў вас краіна малюсенькая – два-тры мільёны квадратных кіламетраў. Тады праблем няма. Тады абнаўляйце мапы хоць кожны год. А калі ў вас самая вялікая тэрыторыя ў сьвеце, тады як? А калі афіцыйна абвешчаная мэта існавання вашай дзяржавы – пашырыць яе тэрыторыю на ўвесь сьвет і ЎСЕ краіны сьвету да самай апошняй ператварыць у савецкія рэспублікі і дадаць іх да складу ЗССР? Як тады тапаграфічнай службе працаваць? Якія мапы друкаваць? Якія выпраўляць і передрукоўваць?

Але галоўная цяжкасць нават не ў гэтым. Тапаграфічная мапа – гэта стратэгічны прадукт, які адрозніваецца ад усіх іншых абсалютнай адсутнасьцю ўніверсальнасьці. Патроны і мыліцы, сталь і свінец, сухары і намёты выкарыстоўвай хоць пад Масквой, хоць пад Сталінградам, хоць пад Кёнігсбергам ці Берлінам, а вось самая лепшая, самая дакладная мапа Берліна пры абароне Сталінграда не вельмі патрэбна, і наадварот – вы нарыхтавалі мапы Сталінградскай вобласьці, але іх немагчыма выкарыстаць для падпадрыхтоўкі захопу румынскіх нафтавых раёнаў: тут патрабуюцца мапы Галацкага праходу.

Амаль кожны іншы стратэгічны матэрыял універсальны: нарыхтаваў дзесяць тысяч тон бінтоў і спажывай іх хоць у наступальнай вайне, хоць у абарончай, хоць у вайне супраць Няметчыны, хоць супраць Японіі. А з тапаграфічнымі мапамі праблема: адны мапы заўсёды лішнія, іншых – нехапае.

Праблема кіраўніка Генеральнага штаба ў тым, каб задаўга да вайны дакладна вызначыць раёны, мапы якіх запатрабуюцца на вайне. Кіраўнік Генеральнага штаба абавязаны так паставіць заданне тапографам, каб не распыляць намаганні тапаграфічнага войска на здымку і пераздымку раёнаў, якія не будуць зачэплены вайной, а на раёны будучых баявых дзеянняў мапы павінны быць падрыхтаваны з належнай якасьцю і ў адпаведных колькасьцях.

Лічылася, што вайна з Няметчынай непазбежна.

Але не на савецкай тэрыторыі.

У адпаведнасьці з гэтым савецкія тапографы і працавалі.

На кожнай савецкай тапаграфічнай мапе стаіць грыф сакрэтнасьці. Мапа сакрэтная ужо да таго, як патрапіла ў рукі камандыра, сакрэтная незалежна ад таго, нанёс камандыр на яе становішча свайго войска, суседзяў і суперніка ці не нанёс. Мапа сакрэтная проста таму, што на ёй нанесены лясы і рэкі, масты і палі. І гэта зразумела: мапа павінна заставацца сакрэтным дакументам, і праца вайсковых тапографаў заўсёды павінна быць заслонена чарнатой дзяржаўнай таямніцы. Пракрасьціся ў таямніцы тапаграфічнай службы – мара выведкі суперніка.

Патлумачу на прыкладзе. Уявім сабе, што выведкі заходніх краін вясной 1968 года ўсталявалі, што савецкія мапаграфічныя фабрыкі пачалі масавае вырабніцтва мапаў Чэхаславакіі… На гэтых мапах яшчэ не нанесены планы вызвольнага паходу, на гэтых мапах яшчэ не пазначаны аэрадромы высаджвання, маршруты руху войска, аб'екты захопу, але факт масавай вытворчасьці мапаў дадзенай краіны цікавы сам па сабе, і ёсць над чым падумаць.

Ці, будзем лічыць, у 1979-м замежныя выведкі даведаліся, што ў Савецкім Звязе тэрмінова абноўлены мапы Афганістана і мапаграфічныя фабрыкі пачалі іхную масавую вытворчасць. Цікава? Цікава. Грунтуючыся на такіх фактаў можна рабіць высновы. А мапы Аляскі, напрыклад, у Маскве пакуль масавым тыражом не друкуюць. Грунтуючыся на гэтым таксама можна рабіць высновы.

Савецкая вайсковая выведка заўсёды праяўляла асаблівую цікавасць да тапаграфічных службаў суперніка. Прыклад: напачатку 1943 года савецкая вайсковая выведка здабыла сведчанні пра тое, што германскія мапаграфічныя фабрыкі друкуюць сотні тысяч лістоў мапы Арлоўскай, Белгародзкай, Курскай абласьцей. Пачынаючы ад гэтага рабіліся высновы. На самым пачатку 1941 года савецкая вайсковая выведка паведамляла кіраўніцтву: японская тапаграфічная служба атрымала загад рыхтаваць дэталёвы рэльефны макет Філіпінскіх выспаў… што б гэта магло азначаць? А мапаў савецкіх далёкаўсходніх абласьцей японская тапаграфічная служба пакуль у вялікіх колькасьцях не друкуе…

У наш час існуе дастаткова сведчанняў пра тое, чым займаліся савецкія тапографы перад вайной.

І ёсць над чым падумаць.

Сведчыць былы кіраўнік Генеральнага штаба генерал войска С.М.Шцяменка: «І патрэбна заўважыць, што да вайны мапы, патрэбныя войску, для значнай часткі тэрыторыі нашай дзяржавы не складаліся» (Генеральны штаб пад час гадоў вайны. с. 128). Выключэннем, паведамляе Шцяменка, была вузкая палоса ад заходняй мяжы да гарадоў Петразаводск, Віцебск, Кіеў, Адэса.

Прыгледзімся: вось мяжа, а вось побач Адэса. Гэта пазьней мяжу перанесьлі на захад, а да 1940 года Адэса была горадам памежным. Паміж адэскімі ўскраінамі і мяжой – вузкая паласа тэрыторыі. Вось на гэтай паласе і працавалі тапографы. А на ўсе тэрыторыі размешчаныя больш на ўсход (а там – уся краіна), тапаграфічныя мапы не складаліся. Праз непатрэбнасць. На нашай зямлі вайна не меркавалася.

Калі напаў Гітлер, тапаграфічныя мапы ўнутраных раёнаў Савецкага Звязу было немагчыма надрукаваць, як немагчыма надрукаваць яшчэ не напісаную кнігу.

Калі тэрыторыя нашай краіны да вайны была па-за інтарэсамі вайсковых тапографаў, то што ж іх у такім выпадку цікавіла? Лёгка здагадацца: іх цікавілі тэрыторыі замежныя. Вайсковыя тапографы не проста складалі мапы сумежных тэрыторый, але і друкавалі іх у патрэбных колькасьцях пры самай высокай якасьці. І не ляжалі тыя мапы дарэмна на складах, але выкарыстоўваліся войскам і штабамі для баявой падпадрыхтоўкі і для планавання будучай вайны. Генерал-палкоўнік Л.М. Сандалаў паведамляе, што ў Беларускай акрузе для трэніравання кіруючага складу выкарыстоўваліся мапы Польшчы і ўвесь кіруючы склад ведаў польскую тэрыторыю да самых дробных вёсак. У 1939 годзе Чырвонае Войска «вызваліла» тэрыторыі з насельніцтвам больш 20 мільёнаў чалавек. Сандалаў апісвае палявое падарожжа савецкіх штабных камандыраў па «вызваленай» зямлі. Яны ніколі тут раней не былі, але за шмат гадоў на штабных вучэннях паспелі вывучыць мясцовасць па мапах да драбнюсенькіх дэталяў. Савецкія камандыры былі

здзіўлены, да якой ступені дакладнымі былі іхныя мапы. «Адзіным чалавекам, якому падарожжа па вызваленай тэрыторыі не прынесла асобных клопатаў, быў начальнік тапаграфічнага аддзялення» (На маскоўскім кірунку. с. 39.).

Чырвонае Войска ў 1939 годзе пасунулася наперад да 350 км, а тапаграфічнай службе няма клопатаў: мапы гэтых раёнаў даўно складзены і надрукаваны. 350 кіламетраў – не мяжа заінтэрысаванасьці чырвоназорных топографаў. Да 1939 года былі складзены мапы і для больш аддаленых ад нашай мяжы тэрыторый. У 1939 годзе ў Маскве выйшла выдатная ва ўсіх дачыненнях кніга Аляксандра Лапчынскага «Паветранае войска». Адкрыем раздзел «Забеспячэнне наступальных дзеянняў паветранага войска» і палюбуемся на мапы. Тут і германскія аэрадромы, і месцы размяшчэння германскіх камандных пунктаў, і стратэгічныя склады і, вядома, Берлін ва ўсёй прыгажосьці. Нанесены і шырокія вуліцы, і завулачкі, і масты, і вакзалы, і заводы. Пісалася кніга пад час разгару Вялікага ачышчання, і не думаю, каб наша цэнзура дазволіла апублікаваць лепшае, што маем. Але і тое, што паказана ў кнізе, уражвае. Гэта адваротны бок нашай «непрыгатаванасьці» да вайны. Непрыгатаванасць толькі на сваёй тэрыторыі, а для вызвольных паходаў усё прыгатавана.

У таварыша Сталіна не было падставаў караць сьмерцю генерала Кудраўцава (і Жукава). Узначальваемая генералам Кудраўцавым Вайскова-тапаграфічная служба (ВТС) да вайны была цалкам прыгатавана.

Толькі не да «вялікай айчыннай»…

Нашы тапографы падрыхтаваліся да нейкай зусім іншай вайны, яны не абмежаваліся тым, што вывезлі ўсе мапы ў памежныя раёны. Генерал-лейтэнант А.І.Лосеў сведчыць: «Вайна з'явілася для Вайскова-тапаграфічнай службы цяжкім выпрабаваннем. Яна заспела вялікую частку яе вайскоўцаў непасрэдна на мяжы… Некаторыя часткі ВТС разам з памежнікамі бралі ўдзел ў баях 22 чэрвеня 1941 года… Служба зведала адчувальныя страты ў людзях і тэхніцы» (ВГЖ. 1992. №10. с. 82).

Калі рыхтавалася вайна на сваёй тэрыторыі, то і часткі ВТС павінны былі працаваць у раёнах меркуемых бітваў. Навошта іх трымалі на памежных заставах? Чым яны там займаліся?

Яўропе вельмі пашанцавала. Нямецкае войска раптоўным ударам адкінула Чырвонае войска ад мяжы ў глыбіню Савецкага Звязу, туды, дзе Чырвонае Войска дзякуючы шмат якім нагодам (адсутнасць тапаграфічных мапаў – толькі адна із іх) была амаль небаяздольнай. Мала таго, на мяжы былі знішчаны лепшыя кадры Вайскова-тапаграфічнай службы, страчаны самыя каштоўныя прылады і абсталяванне. Праблема не проста ў тым, што не было мапаў савецкай тэрыторыі, але і ў тым, што за час першых дзён вайны разам з тысячамі тон мапаў былі страчаны шматлікія часткі ВТС, якія маглі б скласьці новыя мапы. Атрымалася: няма мапаў і складаць іх няма каму.

Вось таму і адкінулі Чырвонае войска да сьцен Масквы, Ленінграда і Сталінграда. На савецкай тэрыторыі на працягу трох гадоў Чырвонае Войска была знякроўлена. У 1944 годзе звышмагутнае Чырвонае Войска зноў з'явілася на межах Няметчыны. Яно праводзіла бліскучыя, здзіўляўчыя ўвесь сьвет аперацыі. Але патрэбна памятаць, што лепшая частка Чырвонага Войска была даўно вынішчана. У Польшчы, Румыніі, Вугоршчыне, Чэхаславакіі, Аўстрыі, Няметчыне з'явіліся вартыя жалю аскепкі таго, што магло быць. Вось чаму Чырвонае Войска здолела захапіць у Яўропе так мала тэрыторый.

Савецкая тапаграфічная служба падрыхтавала тыя мапы, якія ёй загадалі: мапы тэрыторый сумежных дзяржаваў. Сярод лістоў былых германскіх жаўнераў і афіцэраў, якія бачылі кучы не да канца згарэўшых мапаў, існуюць сведчанні не толькі пра згарэўшыя склады, але і пра чыгуначныя вагоны, набітыя мапамі, напрыклад, на станцыі Тэўлі Берасьцейскай вобласьці, на станцыі Броды Ільвоўскай вобласьці.

Цікава, што і савецкія генералы згадваюць не толькі пра склады, але і пра вагоны з мапамі.

І незразумела, чаму не вывезлі? Мапы ўжо пакладзены ў вагоны, ці цяжка прычапіць да праходзячага эшалона і адцягнуць у бяспечны тыл?

Зразумела, не ўсюды і не заўсёды былі прыдатныя эшалоны, асабліва калі вагоны з мапамі былі непасрэдна каля мяжы. Зразумела, што савецкія часткі траплялі ў аружэнне і не было магчымасьці вывезьці не тое што мапы, але і боепрыпасы. Але была і яшчэ нагода: ва ўнутраных раёнах краіны гэтыя мапы былі непатрэбнымі.

Калі мы вырашылі, напрыклад, абараняць Смаленск ці Маскву, то нам патрэбны мапы Смаленскай і Маскоўскай абласьцей. Дзе захоўваць такія мапы перад вайной? Лічу, дзе заўгодна, акрамя як каля варожай мяжы. Дзе заўгодна, але не на станцыі Тэўля каля Бярэсьця і не ў Алітусе каля мяжы з Усходняй Прусіяй. У вялікіх колькасьцях тапаграфічныя мапы Маскоўскай вобласьці могуць быць патрэбнымі толькі на тэрыторыі Маскоўскай вобласьці, але нідзе больш. А мапы Сталінградскай вобласьці – толькі ў раёне Сталінграда. Нідзе больш яны не патрэбны. Зразумела, што мапы Маскоўскай вобласьці патрэбна захоўваць недзе недалёка ад Масквы, а Сталінградскай – каля Сталінграда. А ў памежных раёнах мы захоўваем тыя мапы, якім ва ўнутраных раёнах краіны непатрэбны. У памежных раёнах мы трымаем тысячы тон мапаў, якія нам запатрабуюцца ў «вызвольных паходах». Таму яны і пагружаны ў вагоны.

Тапаграфічныя мапы – вялікая каштоўнасць, але іх палілі, таму што 22-й арміі, таемна перакінутай із Урала, пастаўлена нечаканая і вельмі незвычайная задача – рыхтаваць абарону на ўласнай тэрыторыі. І ўсім іншым памежным і прыбываючым арміям ставяцца такія ж незвычайныя заданні – абараняць сваю тэрыторыю. Мапаў ім да зарэзу не хапае, але калі адцягнуць ад мяжы вагоны з мапамі, то гэта ніяк не выправіць становішча: навошта пры абароне Смаленска мапы раёнаў Мюнхена і Гамбурга?

«Вызваленне» сарвалася, і каштоўнасць мапаў, нарыхтаваных каля мяжы, апусьцілася да нуля, як кошты акцый збяднелай фірмы. Гэтыя мапы нават уяўлялі небяспеку як выкрываючы матэрыял і як прадукт, які можна выкарыстаць суперніку ці для ўнутранага карыстання, ці ў якасьці макулатуры вышэйшай якасьці. Вось чаму мапы палілі каля мяжы, але галоўнага тапографа не папракалі: што ж ты не там мапы захоўваў? Таму што захоўваў ён іх там, дзе было патрэбна.

Дарэчы, не толькі мапы спальваліся каля мяжы.

Каля мяжы гарэлі яркім полымем вагоны, набітыя невялікімі шэрымі кніжачкамі пад назвай «Кароткі руска-нямецкі размоўнік».

Склаў размоўнік генерал-маёр Н.Н.Біязі. Рэдактар – А.В.Любарскі. Друкавалася гэта кніжачка тыражамі, якім пазайздросціць кожны бэстсэлер. Але так жа хутка гэтая кніжачка была знішчана. Засталося гэтых кніжачак вельмі мала. Мне ўпершыню патрапілася адна ў Вайскова-дыпламатычнай акадэміі Савецкага Войска. Яна, непрыкметная, стаяла на бібліятэчнай паліцы і ніхто яе не чапаў.

Кніжачка была не таго узроўню: мы вучылі мовы сур'ёзна, але ў бібліятэцы захоўваліся ўсе слоўнікі, усе падручнікі, усе размоўнікі на ўсіх мовах сьвету, калі-небудзь выдадзеныя ў Расіі і Савецкам Звязе.

Гэтая сьціплая кніжачка ніяк не дасягала да ўзроўню стандартаў будучых шпіёнаў-дыпламатаў, таму што была разлічана на мільённыя жаўнерскія масы, на людзей, ніколі замежных моваў не вывучаўшых і чуўшых замежнае вымаўленне толькі ў фільмах пра крываногіх фашыстаў: «Вы не ёсць кажаш праўду!»

Размоўнік – памерам з пачачку «Беламора». Кожнаму ваяру-вызвольніку – за халяву. У 1941 годзе падвезлі мільёны пар скураных ботаў для вызвалення, вось да кожнай пары ботаў – накшталт дадатку.

Мяне размоўнік зацікавіў зместам: ні слова пра абарону. Усё пра наступленне. Назвы раздзелаў: «Захоп чыгуначнай станцыі раз'ездам ці выведваючай партыяй», «Арыентаванне нашага парашутыста» і г.д.

З дапамогай размоўніка можна лёгка і вольна знайсьці паразуменне з мясцовымі жыхарамі: якую назву мае вёска? Дзе крыніцы вады? Дзе паліва? Ці пройдзе грузавая машына? Можна зайсьці на тэлеграф і цалкам зразумела патлумачыцца: «Спыні перадаваць – застрэлю!» А можна запатрабаваць, каб адпілі глыток і адкусілі кавалак перад тым, як яго грызне вызвольнік, каб нашага ваяра не атруцілі праклятыя басурмане.

У 1941 годзе ў нямецкіх жаўнераў за халявамі былі такія ж размоўнікі: «Мамка, млека». «Мамка, яйкі». Вось і нашым жаўнерыкам удосталь назапасілі. Разгарнуў кніжачку, знайшоў патрэбнае выказванне і маеш магчымасць пацікавіцца, хто знаходзіцца ў шэрагах атрадаў SA. Незаменная кніжка! Праўда, калі мы ваюем пад Старой Русай ці Вязьмай, нам такая кніжка без патрэбы. На які ляд нам размаўляць на нямецкай мове з наўгародскім ці смаленскім мужыком? Навошта чырвонаармейцу ў цэнтры Расіі на нямецкай мове пытацца пра назву вёскі?

А фразы ў кніжцы такія: «Назавіце паселішча!», «Назавіце горад!», «Ці можна піць?», «Выпі спачатку сам!», «Дзе паліва?», «Колькі быдла?» і г.д. і г.д.

Уяўленне ў мяне жвавае. Памеркаваў: вось пачалася «вялікая айчынная», вось нашы жаўнерыкі абараняюць Радзіму, ваююць на роднай зямлі. Вось зайшлі ў незнаёмы горад, знайшлі ў размоўніку патрэбную фразу і першаму патрапіўшамуся мужыку:

– Nenne Sie die Stadt!

А той у адказ:

– Смаленск!

А нашы яму:

– Sie lugen, падла!

Ці зайшлі ў вёску дзе-небудзь пад Воршай, зачарпнулі вады ключавой і маладусе: «Trinke Sie zuerst maselbst!»

Дык жа наша і не зразумее. Гэта толькі калі да нямецкай маладухі звярнуцца…

А пытанні галоўным чынам – да насельніцтва: дзе схаваліся паліцыянты?

Зразумела, нашы жаўнеры мелі інструкцыі сярод палонных знаходзіць паліцыянтаў, жаўнераў і афіцэраў SS, актывіст SA. Толькі вось праблема: атрады SA дзейнічалі толькі на тэрыторыі Няметчыне. Пад Бярэсьцем, Смаленскам ці Воршай іх ніяк апынуцца не магло. І зусім ужо незразумела выглядае пытанне: дзе

схаваліся сябры партыі? Гэта сябраў якой жа партыі нашы жаўнерыкі пажадалі лавіць у 1941 годзе?

Дык вось: размоўнічак быў дарэчным толькі на тэрыторыі Няметчыны, толькі там гэтую кніжачку і можна было выкарыстаць. Не ў Прапойску ж пытацца на нямецкай мове, як да ратушы прайсьці і дзе схаваўся бургамістр?

У кнізе «Дзень „М"“ я згадваў пра руска-румынскія размоўнікі, атрыманыя напачатку чэрвеня 1941 года жаўнерамі 9-га асобнага стралковага корпуса генерал-лейтэнанта П.І.Батава. А для асноўнай масы войска нарыхтавалі „Руска-нямецкі размоўнік“. У руска-румынскім размоўніку галоўнае: як дабрацца да крыніц нафты. Але і ў руска-нямецкім галоўнае пытанне не забыта – сярод магчымых адказаў палонных нямецкіх жаўнераў і афіцэраў існуе і гэты: „Там нафтавыя промыслы“. У Няметчыне, наколькі я памятаю са школьнага курса, нафтавых промыслаў не знайсьці. Такі адказ мог даць толькі нямецкі афіцэр ці жаўнер, захоплены ў Румыніі.

Размоўнік быў падпісаны да друку 5 чэрвеня 1941 года. Надрукаваны ў 2-й друкарні Ваенвыдата НКА ЗССР ім. К. Варашылава, Ленінград, вул. Герцэна, 1.

Наша войска і ўся дзяржава працавалі з дакладнасьцю гадзіннікавага механізму: падпісалі кнігу да друку 5 чэрвеня, а ўжо 23 чэрвеня гэтыя кніжачкі былі захоплены перадавымі нямецкімі часткамі ў Ліепаі, 25 чэрвеня – у Раве-Рускай, 28 чэрвеня – пад Менскам. Забіралі вагонамі. Згарэўшымі, напалову згарэўшымі, цэлымі. Пашырыць такія кніжачкі (калі б Гітлер не напаў) можна было ў войску так жа хутка, як і газету «Чырвоная зорка». І карыстаючыся тымі ж каналамі.

І ўсё тут было мне зразумела. Толькі вось… Чаму ў Ленінградзе друкавалі? Пры нашай цэнтралізацыі… Ды і пашыраць з далёкага паўночна-заходняга кута вялікай нашай Радзімы нязручна… Ці крыецца за гэтым нешта?

Пасьля надрукавання «Ледакола» мне моцна дасталася і ў Расіі, і ў Няметчыне, і ў Амерыцы, і ў Ізраілі, і ў Брытаніі. Але па сутнасьці ніхто нічога так і не запярэчыў. Таму крытыкі ішлі ў абходам. Таму крытыкі часам шукалі ў «Ледаколе» тое, чаго ў ім няма. І білі мяне за тое, чаго я не сказаў, чаго не напісаў, чаго не падумаў. Напрыклад, такая пабудова: Сувораў выказваецца, што Сталін быў злачынцам, дык, магчыма, ён Гітлера абараняе? Дык, магчыма, ён адмаўляе існаванне нацысцкіх канцлагераў і вынішчэнне мільёнаў?

З такімі заявамі выступіў, напрыклад, ізраільскі гісторык Габрыэль Гарадзецкі.

Я не пачынаў палеміку з Гарадзецкім: няма нічога больш недарэчнага, чым спрачацца згодна са схемай: «дурань – сам дурань!» Я ведаў, што знойдуцца аб'ектыўныя крытыкі, якія пакажуць Гарадзецкаму і яму падобным на тое, што немагчыма крытыкаваць аўтара за той матэрыял, пра які ён нават не згадвае.

І знайшліся абаронцы маёй версіі і ў Расіі, і ў Польшчы, і ў Ізраілі, і ў Няметчыне, і ў Амерыцы.

Ізраільскі гісторык Зееў Бар-Села даў годны адказ Гарадзецкаму ў часопісе «Вокны», а ў якасьці падмацавання маёй версіі надрукаваў фотакопію… руска-нямецкага размоўніка. Выявілася, што яны захаваліся не толькі ў нас у акадэміі, не толькі ў старых нямецкіх жаўнераў, але і ў прыватных калекцыях савецкіх грамадзянаў, а потым выехалі за мяжу сацыялістычнай бацькаўшчыны… Узрадаваўся я, вось, маўляў, і яшчэ адно пацверджанне… І на тым бы кропку паставіць. Але так ужо мяне выхавалі: на самыя дробныя кручкі ўвагу звяртаць.

Прачытаў усё, агледзеў фотакопію да самых апошніх кручкоў. Тая ж кніга, той жа тэкст. Толькі вось… Толькі на самай апошняй старонцы – адрозненне. Самымі дробнымі літарамі: «Падпісана да друку 29.5.41. 1-я друкарня Вайсковага выдавецтва НКА ЗССР ім. С.К.Цімашэнка, Масква, вул. Скварцова-Сцяпанава, 3».

Пасьля акадэміі мне некалькі разоў трапляліся ў рукі такія размоўнікі, пасьля выхаду «Ледакола» із Няметчыны былыя нямецкія жаўнеры і афіцэры дасылалі. Але заўсёды – ленінградзкага выдання. Пра існаванне маскоўскага выдання я не ведаў. А тут – вось яно. І падпісана ў друк на тыдзень раней ленінградзкага.

Такім чынам, размоўнік пачалі друкаваць у Маскве 29 траўня 1941 года. Але патрабавалася іх шмат. Вельмі шмат. І тэрмінова. Таму праз тыдзень, 5 чэрвеня 1941 года, далучылася ленінградская друкарня, а магчыма і яшчэ нейкія.

А дата наводзіць на разважанні.

Усе без выключэньня гісторыкі-камуністы прызнаюць, што Сталін рыхтаваўся зьнішчыць Яўропу. Але, кажуць яны… у 1942 годзе. Запярэчым: у гэтым выпадку размоўнік ляжаў бы ў сейфе генерала Біязі да 1942 года. А дзе-небудзь за месяц да ўварваньня было б дадзена зялёнае сьвятло і яго надрукавалі б адпаведным тыражом, напакавалі вагоны і выправілі б да заходняй мяжы савецкаму войску ўварваньня. Рассылаць войску такую кніжачку за год да ўварваньня – вельмі неабачліва. Для таго таварыш Сталін у 1937-1938 гадах таварышам кіраўнікам галовы дзіравіў, каб астатніх да парадку прызвычаіць. Не адважыўся б генерал-маёр Біязі за год да ўварваньня сталінскі план расчыняць перад мільёнамі выканаўцаў. І прамы начальнік генерала Біязі кіраўнік ГВУ генерал-лейтэнант Ф.І.Голікаў не дазволіў бы такую кніжачку дачасна масавым тыражом друкаваць і распаўсюджваць у войску. Не із таго цеста быў Піліп Янавіч Голікаў. Нездарма ён падчас вайны стаў сталінскім намесьнікам. Таварыш Сталін дурняў у намесьніках не трымаў.

А вось калі ўварванне рыхтавалася на 6 ліпеня 1941 года, то кніжачку запусьцілі ў вытворчасць менавіта тады, калі патрэбна. За месяц. Акурат тады калі патрэбна.

Але пад час таго ж «грымотнага чэрвеня» гэтыя самыя размоўнікі спальвалі вагонамі як непатрэбныя ў дадзены момант. Разам з мапамі Баварыі і Латарынгіі.

x x x

У «Ледаколе» я прывёў доказы таго, што савецкі Генеральны штаб планаваў агрэсіўную вайну. Лубянскія гісторыкі не пачалі спрачацца: так, кажуць, існавалі наступальныя планы. Але, дадалі яны, кожны генеральны штаб на кожны выпадак мае як наступальныя, так і абарончыя планы.

Не, таварышы, «на кожны выпадак» у савецкіх штабах былі толькі наступальныя планы. А планаў абароны ці контрудараў «на кожны выпадак» не выявілася цалкам.

Проста не было мапаў, на якіх такія планы можна было б намаляваць.

# Глава XVII

## Колькі гадзін да Плоешці?

«Вайсковая дактрына Чырвонага Войска загадвае: біць ворага на яго ж тэрыторыі».
«Чырвоная Зорка». 18 красавіка 1941 г.

Шмат гадоў назад у Савецкім Звязе былі надрукаваны сведчанні пра тое, што напярэдадні вайны некаторыя састарэлыя савецкія танкі былі такімі зношанымі, што іхны рэсурс складаў усяго 40-150 гадзін. Іншымі словамі, ім заставалася ад 40 да 150 гадзін актыўнага жыцця.

Паведамленне вырабіла сенсацыю, і ў кожнай кнізе па гісторыі танкаў і наогул па гісторыі вайны мы сустрэнем гэтыя самыя 40-150 гадзін. Гэтыя лічбы прыводзяць як доказ поўнай непрыгатаванасьці Чырвонага Войска да вайны. Лічбы сапраўды ўзрушаючыя. Тры вядучыя амерыканскія ваенныя гісторыкі ў 1985 годзе апублікавалі гнеўны адкрыты ліст, у якім задалі мне шмат пытанняў. Сярод іншага: ці ведаю я, што некаторыя савецкія танкі мелі рэсурс роўны ўсяго толькі 40-150 гадзін?! Ці разумею я, што для нямецкага войска гэтыя танкі ніякай небяспекі ўяўляць не маглі?

Тром знакамітым гісторыкам я задаў сустрэчнае пытанне: а які рэсурс мелі германскія танкі на 22 чэрвеня 1941 года?

Ад адказу яны ўхіліліся.

Такі падыход некаторых навуковых мужоў да методыкі гістарычных дасьледаванняў мяне засмучае. Усё пазнаецца ў параўнанні. Дзе ж параўнанні? Паведамляючы якое заўгодна статыстычнае сведчанне пра адзін бок, неабходна паведамляць такое ж сведчанне і пра другі. Калі мы не будзем параўноўваць, то нічога не зразумеем, нічаму не навучымся. Запярэчаць: ды чаго ж тут параўноўваць! Лічбы кажуць самі за сябе. 40-150 гадзін актыўнага жыцця – гэта жудасна.

Разбярэмся.

У розных войсках актыўнае жыццё танка і паміжрамонтныя тэрміны вылічваюцца карыстаючыся рознымі адзінкамі вымярэння: адны міжрамонтны прабег мераюць у кіламетрах, другія – у мілях, а ў Чырвоным Войску – у гадзінах. У кнізе «Апавяданні вызвольніка» я з гонарам паведамляў, што савецкія танкі (гаворка ішла пра танкі 60-х гадоў), выходзячы із завода, маюць гіганцкі, амаль неверагодны рэсурс – 500 гадзін актыўнага жыцця. На Захадзе кожны, хто гэта чытаў, лічыў маё паведамленне за жарт і смяяўся да слёз. Адзін амерыканскі аўтар напісаў папулярную кнігу пра тое, што Савецкае Войска не можа ўяўляць ніякай пагрозы. У прынцыпе кніга амерыканскага аўтара была проста пераказваннем маёй кнігі, але з вясёлымі каментарамі. Зразумела, над рэсурсам роўным 500 гадзін ён доўга смяяўся, а потым паведаміў, што танкі заходніх войскаў маюць у шмат разоў большы рэсурс.

Аўтар відавочна не разумеў, што танк мае шмат жыццяў. Пасьля 500 гадзін працы танк вяртаюць на завод і робяць тое, што на рускай мове мае назву капітальны рамонт, на ангельскай – rebuild. Тэрміны розныя – значэнне аднолькавае: із танка здымаюць усё, пакідаючы адзін голы корпус, і на корпус ставіцца новы рухавік, цягавая перадача і ўсе астатнія вузлы і агрэгаты. Прайшоўшы завадзкі рамонт, савецкі танк набывае новае жыццё – яшчэ 500 гадзін. Такія аднаўленні танк пераносіць лепш, чым аўтамабіль: бранявы корпус танка не зношваецца, як каркас аўтамабіля. На бранявы корпус можна шмат разоў запар ставіць новыя агрэгаты.

А зараз усё ж паспрабуем параўнаць рэсурс «састарэлых», зношаных сталінскіх танкаў 1941 года з сучаснымі заходнімі паказчыкамі. Магчыма, усё і не так смешна, і не так жудасна.

Самымі грознымі супернікамі савецкіх танкаў у Яўропе пад час «халоднай вайны» былі не амерыканскія і нават не германскія, а брытанскія танкі. Гэта зразумела: калі «Леапарды» і «М-60» мелі 105-мм гарматы, брытанскія «Чыфтэны» мелі ўжо 120-мм гарматы. І адпаведна з бранявой абаронай яны рэзка перавышалі як германскія так і амерыканскія танкі. Не будзем забывацца і пра тое, што на брытанскіх танках стаялі не проста рухавікі, а шматпаліўныя дызелі фірмы «Ролс-Ройс». Можа вы назавеце ў некага нешта лепшае?

Дык вось, запрашаю сваіх чытачоў на танкавыя заводы ў Шэфілд і на 18-ю рамонтную базу бранятанкавай тэхнікі ў Бавінгтоне, графства Дорсэт.

Такім чынам, кожны новенькі «Чыфтэн», выходзячы із завода, меў рэсурс 3000 (тры тысячы) міль ці 4827 кіламетраў. У мірны час гэты рэсурс падзяляецца на шэсць гадоў. На працягу года брытанскі танк праходзіць 500 міль, ці ў перакладзе на зразумелую нам сістэму злічэння – 800 кіламетраў. Гэта ліміт, які перавысіць немагчыма. Пасьля шасьці гадоў такой бязлітаснай эксплуатацыі танк вяртаюць на рамонтную базу, «распранаюць дагала» і робяць, як ангельцы выказваюцца, «ребілт», ці, у перакладзе на рускую мову, перабудову.

Усім, хто на брытанскія танкавыя і танкарамонтныя заводы доступу не мае, а на слова мне не верыць, рэкамендую часопіс брытанскага войска «Фокус» за люты 1993 года (с. 11).

А зараз мілі (ці, калі заўгодна, кіламетры) перавядзём у гадзіны.

Сярэдняя хуткасць «Чыфтэна» – 25 міль/гадзіна (максімальная – 30). Падзелім рэсурс 3000 міль на сярэднюю хуткасць і атрымаем рэсурс у гадзінах – 120 гадзін.

Менавіта столькі меў кожны новенькі «Чыфтэн», выйшаўшы із завода, – 120 гадзін актыўнага жыцця.

Калі танк ганяць з максімальнай хуткасьцю, то яго рэсурс скароціцца да ста гадзін.

120 гадзін актыўнага жыцця брытанскага танка дзеляць на шэсць гадоў: па дваццаць гадзін на год на баявую падпадрыхтоўку, кіраванне, стрэльбы, вучэнні. 20 гадзін у год – гэта, акрамя усяго, і баявыя трывогі ў момантаў частых абвастрэнняў становішча пад час перыяду «халоднай вайны».

Зразумела, не ўсе танкі так па-зверску эксплуатуюць. 1 лістапада 1994 года Брыстальская тэлевізійная кампанія «HTV» паказала праграму пра брытанскага фермера із Глостэра, ператварыўшага сваю ферму ў танкадром. Ён купіў дзясятак танкаў, бронемашын і бронетранспарцёраў, сярод якіх і адзін «Чыфтэн». Дастаўся фермеру «Чыфтэн» вельмі танна – усяго за дзесяць тысяч фунтаў. Гэты танк быў зроблены ў 1971 годзе, быў на ўзбраенні 1-га корпуса Брытанскай Рэйнскай арміі. Спісаны ў 1994 годзе. За 23 гады актыўнай службы танк пабываў на шматлікіх вучэннях, праходзіў урокі кіравання, манеўры, вучэнні і баявыя трывогі і інш., і інш. За 23 гады актыўнага жыцця танк прайшоў 200 міль, г.зн. ледзь больш 300 км. У перабудове не бываў. Пры сярэдняй хуткасьці 25 міль/гадзіна – гэта 8 гадзін за 23 года.

Некаторыя нашы гісторыкі паведамілі, што савецкія танкісты летам 1941 года мелі ўсяго па некалькі гадзін кіравання. Самая што ні ёсць праўда. Але рэкамендую яшчэ раз прачытаць главу пра Пашу Ангеліну ў кнізе «Дзень „М"“ У гэтай кнізе я памясьціў сведчанні пра тое, што із рэзерву было таемна забрана ў Чырвонае войска 200 000 кіроўцаў трактароў. А прафесійны кіроўца трактара павядзе які заўгодна танк – не вялікае адрозненне. Гэта па-першае. А па-другое,

калі мы ўжо пачалі параўноўваць, то ў самым прафесійным войску сьвету, у брытанскім, 8 гадзін кіравання за 23 гады – гэта таксама не вельмі шмат. На працягу гэтых гадоў у танку перамянілася не менш за шэсць экіпажаў. Зразумела, існуюць у Брытанскім войску танкі, якія ганяюць па 20 гадзін на год. Але гэта не ўсе. І 20 гадзін на год – гэта ліміт, які можа быць перавышаны толькі ў выпадку баявых дзеянняў. 20 гадзін на год – гэта не на аднаго кіроўцу, а на ўвесь экіпаж із чатырох чалавек. Вядома, большая частка кіравання танкам прыпадае на кіроўцу, але ж і іншым сябрам экіпажа патрэбна мець навыкі… І неяк яны задавальняюцца. І лічаць сябе прафесіяналамі. І маюць для гэтага ўсе падставы.

А зараз вернемся да 40-150 гадзін, якія мелі некаторыя савецкія «састарэлыя» танкі перад вайной. Паўтару: мы разважаем не пра ўсе, а толькі пра некаторыя «састарэлыя». Нашы БТ-7 выходзілі з заводаў з рэсурсам 600 гадзін. У сваёй большасьці на 22 чэрвеня 1941 г. савецкія танкі мелі больш 150 гадзін рэсурсу.

У сучасным Брытанскім войску, калі танк мае 40 гадзін рэсурсу, то яго трымаюць у войску яшчэ мінімум два гады, пакуль ён не выпрацуе ўвесь рэсурс. А могуць з рэсурсам 40 гадзін трымаць у рэзерве шмат гадоў, у закансерваваным стане, не дазваляючы каштоўныя рэсурсы выдаткаваць. У асноўным баявыя танкі з рэсурсам роўным 150 гадзін у Брытаніі наогул не вырабляюць. Паўтараю: яны выходзяць із завода з рэсурсам роўным 3000 міль, што азначае 120 гадзін.

Каб зразумець метад працы чырвоных гісторыкаў, мы зноў паглядзім на амерыканскія і японскія лінейныя караблі перыяду Другой сусьветнай вайны. На амерыканскіх лінкорах, серыю якіх пачалі вырабляць у 1940 годзе, галоўны калібр – 406-мм. На кожным лінкоры – дзевяць гармат галоўнага калібру ў трох вежах. Запытаем чалавека з вуліцы: колькі можа важыць адна гарматная вежа з трыма 406-мм гарматамі? Звычайныя адказы: сто тон, дзьвесце тон… Гэта псіхалагічны эфект. Мы пазначаем калібр у міліметрах, і гэта ніяк не вяжацца з велічынёй вагі. Тым часам кожная гарматная вежа тыпу МК7 з трыма гарматамі важыць 1708 тон без боепрыпасаў і экіпажа. Экіпаж вежы – 212 чалавек. Чатыры із гэтых лінкораў усё яшчэ дзейнічаюць і на адным із іх – «Нью Джэрсі» мне давялося пабываць у 1987 годзе. Прызнаюся: уражвае.

Калі калібр гармат павялічыць на 54 мм, то павялічыцца вага саміх гармат, а такім чынам, і гарматнай вежы. Японцы на лінкорах тыпу «Ямата» ставілі гарматы калібрам 460-мм. Адзін ствол – 165 тон. Тры ствалы – 495 тон. Але ствалам патрэбны падымаючыя механізмы, супрацьадкатныя прылады… І ўсё гэта патрэбна размясьціць у круцячайся вежы з лабавой бранёй роўнай 650-мм – паўметра з гакам. Агульная вага кожнай вежы атрымалася роўнай 2510 тон (J. Campbell. Naval Weapons of World War Two. London: «Conway». 1982. P. 180). Кожная такая вежа мела 268 чалавек экіпажа і боекамплект роўны 100 стрэлам на ствол, 300 – на вежу. Вага снарада – 1460 кг, вага зарада – 330 кг. Але гэта мы, зразумела, не ўлічваем.

Гэта ўсё – прыклад для разумення нашай псіхалогіі: калібр гармат павялічылі на 54 міліметра, вага вежы павялічылася на 802 тоны.

Гэта цяжка ўспрымаецца. Менавіта на такі псіхалагічны эфект і разлічвалі камуністы.

Псіхалогія – зброя, якой крамлёўскія гісторыкі валодаюць па-майстэрску. Абвясьціўшы, што некаторыя састарэлыя савецкія танкі мелі рэсурс «усяго толькі…», камуністы выклікалі буран смеху і весялосьці. Нашы мазкі не ўспрымаюць такую лічбу, нашы мазкі пратэстуюць. Камуністы паведамілі

сьмешную лічбу і ў нас пасьля гэтага не ўзнікае жадання параўнаць. Нам і без параўнання зразумела, што ў немцаў не магло быць такіх смешных лічбаў.

Вось так паціху із малых (і цалкам праўдзівых) фактаў складаецца выява: Гітлер – падспутны злыдзень, узброены да зубоў, грызучы Яўропу, а Сталін наіўны дурань, ні да чаго не здольны, да вайны не падрыхтаваны і ні для каго пагрозы не ўяўляўшы, і войска ў Сталіна складаецца з дурняў, і танкі зношаны да такой ступені, што ў некаторых рэсурс, смешна сказаць, усяго толькі 40-150 гадзін…

Якую б методыку мы ні ўжывалі, спрачацца немагчыма – актыўнае жыццё танка кароткае. І зусім нездарма танк амаль усё сваё жыццё стаіць. Нездарма яго перавозяць з месца на месца на цяжкім прычэпе, на трэйлеры. Мы лічым: гэта для таго, каб танк дарогі не псаваў. Але вось ідзе вайна ў пустыні, і ўсё адно ўсе ваюючыя краіны вязуць танкі па пустыні на трэйлерах, дзе толькі гэта магчыма. Ды чаму ж? Ды таму, што танк хутка зношваецца.

Каб зразумець гэта, звернем нашу ўвагу на гоначны аўтамабіль. Яго кошт непараўнальна большы за кошт звычайнага аўтамабіля. Гоначным аўтамабілем кіруе прафесіянал зорнага ўзроўню, а побач – цэлая каманда рамонтнікаў. Дзіўная справа: прабег аўтамабіль некалькі кругоў, а яму ўжо колы перамяняюць, яму рухавік рэгулююць. Колы ў яго дарэчы самыя лепшыя і рухавік, які нам і не сніўся. Чаму ж гоначны аўтамабіль увесь час рамантуюць, а мая дрындулетка сёмы год ходзіць, мілі сотнямі тысяч адлічвае? Ды таму, што гоначны аўтамабіль працуе на мяжы магчымага і за гэтай мяжой.

Зараз звернем увагу на алімпійскага чэмпіёна: вялізны звышчалавек, мязы – заглядзенне, і ўвесь абвешаны медалямі. Але дзіўная справа – прабег усяго сто метраў (сто!) і аддыхацца ніяк не можа, і валіцца на траву, і лекары вакол яго мітусяцца і трэнеры.

А я вакол стадыёна магу тры разы абыйсьці і не валюся.

У чым жа розніца?

У тым розніца, што я іду не вельмі напружваючыся, а ён бяжыць так, каб памерці ці перамагчы.

Вось і танк із той жа пароды. Танк працуе на мяжы магчымага, за мяжой і заўсёды ў экстрэмальных сітуацыях. Танк нясе масу броні, агрэгатаў, механізмаў, узбраення і боепрыпасаў праз бруд і пясок, у спякоту і мароз, ён ідзе праз камяні і балоты, яго кідае із выбоіны ў выбоіну. Мала таго, кожная секунда жыцця танка можа выявіцца апошняй, і таму кіроўца то рве з месца да самай мяжы магчымага, то тармозіць, то раптам разварочвае, то зноў гоніць яго наперад наколькі хапае магутнасьці рухавіка. У баю танк б'е сваім ілбом лакаматывы і вагоны, праламвае сьцены, платы, дрэвы, душыць людзей і машыны. Яму таксама дастаецца…

Таму танк доўга не жыве. Ён можа доўга жыць у ангары, чакаючы сваёй гадзіны.

Калі не вельмі разумныя (ці не вельмі сумленныя) гісторыкі смяяліся над некаторымі савецкімі танкамі, рэсурс якіх быў «усяго толькі…», я казаў: давайце параўнаем.

Але ніводзін са смяўшыхся не спяшаўся параўноўваць. А тым часам у Гітлера былі свае праблемы. 29 чэрвеня 1941 года ў падземным бетонным бункеры Гітлера ідзе нарада вышэйшага кіруючага складу. Прайшоў першы тыдзень вайны, і вырашаецца прынцыповае пытанне, як скарыстаць 4-ае танкавае згуртаванне. Ёсць два варыянту. Першы: кінуць яго прама на Маскву. Другі: спачатку – на Ленінград, а ўжо потым на Маскву. Ад мяжы да Масквы па прамой – 1000

кіламетраў, а калі стукнуць на Ленінград, а потым на Маскву, то атрымліваецца 1700, і чуюцца галасы, што добра б двух зайчыкаў забіць – і Ленінград, і Маскву. А іншыя выказваюцца: нельга губляць час, патрэбна непасрэдна на Маскву. Думкі падзяліліся, і ў гэтай спрэчцы мудры генерал-палкоўнік А.Ёдль звяртае ўвагу на тое, што «рух танкавых злучэнняў на Пецярбург можа перавысіць іхны мотарэсурс».

Аперацыя плануецца ў становішчы, калі моцнага супраціву Чырвонага Войска не чакаецца, стаіць летняя сьпякота, калі дарогі дрэнныя, можна ісьці непасрэдна па-за дарогамі, танк урэшце не для дарог прыдуманы. Пры хуткасьці 25 км/гадзіна адлегласць у 1700 кіламетраў можна прайсьці за 70 хадавых гадзін. Калі манеўраваць, сыходзіць убок, вяртацца, адыходзіць, зноў ісьці наперад, то і тады 100 хадавых гадзін цалкам дастаткова, каб ад мяжы дайсьці да Пітэра, а потым да Масквы. Але мудры генерал выказвае заклапочанасць. А ў заклапочанасьці выяўляецца веданне. Генерал ведае, чым пахне сапраўдны танк, і бачыў яго не толькі на парадзе. Таму для яго лічба 40-150 гадзін не магла здавацца сьмешнай. Калі б усе германскія танкі на 22 чэрвеня мелі па 150 гадзін рэсурсу, то і праблем бы не было: дайшлі б да Пітара, захапілі яго, а потым дайшлі б на Маскву. Але няма ў германскіх танкаў 150 гадзін. Мабыць, у большасьці няма і 100. Таму і заклапочанасць.

Мінуў другі тыдзень вайны. 3 ліпеня 1941 года генерал-палкоўнік Ф.Гальдар робіць запіс у службовым дзённіку: «Кампанія супраць Расіі выйграна на працягу 14 дзён». Пад час таго ж дня вырашаецца пытанне, куды павярнуць 2-е танкавае згуртаванне із-пад Смаленска. Абмяркоўваюцца дзьве магчымасці: Смаленск – Харкаў – 744 км і Смаленск – Азоўскае мора – 1150 км. Яшчэ няма ні бруду, ні снегу, ні марозу, супраціўлення Чырвонага Войска не прадбачыцца: у германскім кіраўніцтве вырашылі, што вайна ўжо выйграна. Патрэбна проста здзейсніць марш танкавымі калонамі, якім, як мяркуецца, ніхто не перашкодзіць. Але ці ўзнікае пытанне, хопіць рэсурсаў у танкаў? Танкі ваююць ужо два тыдні, танкі ўжо моцна зношаны, а да Харкава пры хуткасці 25 км/гадзіну патрэбна выдаткаваць 30 гадзін хадавога часу. Генералы, якія ведаюць толк у танках, выказваюць цалкам абгрунтаваную заклапочанасць: ці хопіць рэсурсаў? А да Азоўскага мора і таго далей – 40-45 гадзін.

Камуністычныя гісторыкі смяюцца над малым рэсурсам некаторых «састарэлых» савецкіх танкаў. Але людзі, якія планавалі і вялі вайну, не смяяліся над рэсурсам у 30, 40, 45 гадзін. Адсутнасць ці наяўнасць такога рэсурсу азначалі перамогу ў вайне ці паразу.

А зараз разбяром пытанне: ці былі сталінскія танкі з рэсурсам у 40-150 гадзін небяспечнымі для Няметчыны? Ці, іншымі словамі, які мінімальны рэсурс павінны былі мець савецкія танкі для нанясення знішчаючага ўдару?

Давайце палічым разам.

Ад савецкай мяжы да нафтапромыслаў Плаешці – 180 км. Гэта чыстая адкрытая мясцовасць. Тут каля самай мяжы было размешчана войска Адэскай вайсковай акругі. У яго складзе 1043 танкі (А.Г.Харкоў. Навальнічны чэрвень. М.: Ваенвыдат, 1991. с.21). Праз невялікі прамежак часу акруга павінна была дадаткова атрымаць яшчэ 220 танкаў. Акрамя таго, супраць Румыніі быў разгорнуты 16-ы механізаваны корпус (608 танкаў) суседняй акругі. Ззаду гэтага войска ў першай палове чэрвеня на чыгуначных станцыях разгружаліся злучэнні і часткі 16-ай арміі, якая пад прыкрыццём Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года таемна

перакідалася із Забайкалля. У складзе гэтай арміі 1370 танкаў. Сюды ж таемна перакідаецца і 19-я армія. У яе складзе 484 танкі. Усёй гэтай масе савецкага войска супрацьстаяла войска Румыніі (60 танкаў).

Адэская акруга і 16-ы механізаваны корпус Кіеўскай асобнай вайсковай акругі – гэта 1651 танк. Гэта ў 27 разоў танкаў больш, чым у Румыніі. Калі ўлічыць новыя паступленні танкаў у Адэскую акругу і танкі армій ужо выгружаўшыхся паблізу румынскай мяжы, то суадносіны势 станучь 3725 савецкіх танкаў супраць 60 румынскіх, г.зн. больш 60 савецкіх танкаў супраць кожнага румынскага. Калі гэтага мала, то супраць Румыніі могуць быць перакінуты танкі 9, 19 і 24-га механізаваных карпусоў, не кажучы пра паветрана-дэсантныя карпусы, авіяцыю і іншае. Савецкі «састарэлы» танк БТ-7М нават афіцыйна меў хуткасць 86 км/гадз (на самай справе больш). Супрацьстаяўшыя яму румынскія танкі FT-17 мелі максімальную хуткасць 9 км/гадз. Таму савецкія танкі маглі проста не звяртаць увагу на румынскія танкі, ігнараваць іх і абыходзіць бокам. Калі нават 1000 савецкіх танкаў кінуць у зацяжныя баі супраць 60 румынскіх, то і тады сотні і тысячы іншых змогуць бесперашкодна ісьці на Плаешці, не збочваючы і не манеўруючы. Калі ісьці з хуткасьцю 25 км/гадз, то нам запатрабуецца 7-8 гадзін. Адна ноч. Аднак у нас не простыя танкі, а хуткаходныя, адмыслова для такой справы створаныя. Мясцовасць наперадзе роўная, грунт цьвёрды, дарогі добрыя. Танкі БТ тут цалкам могуць ісьці з хуткасцю 40-50 км/гадз, а скінуўшы гусеніцы – 70-80 км/гадз. Да Плоешці – ТРЫ гадзіны чыстага хадавога часу.

І зусім не абавязкова ўсім танкам дайсьці да нафтавых вышак: калі дойдуць дзесяць танкаў, то і гэтага дастаткова. Нафтавыя промыслы можна падпаліць запальваючымі снарадамі… ці непасрэдна жаўнерскай запальніцай.

23 жніўня 1939 года ў Маскве Сталін (рукой Молатава) падпісаў такі пакт, згодна з якім Гітлер атрымаў вайну на два фронты, згода з якім брытанскі флот блакаваў Нямеччыну і не дапускаў падвозу нафты морам. У Нямеччыны заставалася адзіная (годная ўвагі) крыніца забеспячэння нафтай. Яе страта азначала б спыненне германскай прамысловасьці і параліч войска, авіяцыі і флоту. Без нафты ваяваць немагчыма. Нафта – не толькі паліва, але і сыравіна для хімічнай прамысловасьці, без якой існаваць немагчыма. Калі адна савецкая танкавая рота роўная дзесяці танкам з'явіцца ў раёне Плоешці і калі ў кожнага танкіста ў кішэні будзе пачак запалак, то вайна ў Яўропе завершыцца крушэннем Трэццяга рэйха.

Калі б у Сталіна былі танкі з рэсурсам ад 1-2 да 5 гадзін, то і тады яны былі б сьмяротна небяспечнымі для Нямеччыны і для ўсёй Яўропы: танкі з мінімальным рэсурсам вядуць бой з месца, скоўваюць суперніка, час ад часу перамяняючы пазіцыі (на што выдаткуецца некалькі хвілін хадавога часу), а за гэты час танкі з рэсурсам 4-5 гадзін здзяйсняюць прарыў да нафтапромыслаў.

Нямеччына выраблял значную колькасць сінтэтычнага паліва. Пад канец вайны. У 1941 годзе яго выраблялася недастаткова. Акрамя таго, толькі сінтэтычным палівам вырашыць усе патрэбы войска немагчыма. Захоп Плаешці савецкім войскам ці проста пажар на нафтапромыслах азначаў параліч Нямеччыны. Вось гэтага і чакалі тысячы іншых савецкіх танкаў. Ад Бярэсьця і Ільвова, ад Беластока і Гародні шлях да Берліна зусім кароткі. Калі германскае войска і авіяцыя паралізавана, калі ніхто не перашкаджае, то па добрых дарогах танкавыя кліны могуць дайсьці не толькі да Берліна і Мюнхена, але і да Парыжа, Марсэля і Брэста. Рэсурс 40 хадавых гадзін пры хуткасці 25 км/гадз. гэта 1000 кіламетраў. Але Заходняя Яўропа – гэта не Смаленская вобласць і не Пскоўская. Тут танкавыя

калоны могуць ісьці з хуткасьцю ўдвая-ўтрая больш высокай. Таму за 40 хадавых гадзін можна прайсьці не адну тысячу кіламетраў, а дзьве і больш. Адна тысяча кіламетраў ад савецкай мяжы – гэта Бухарэст, Сафія, Афіны, Белград, Будапешт, Вена, Берлін, Мюнхен, Гамбург, Капенгаген… Дзьве тысячы кіламетраў – гэта не толькі Парыж і Рым, але і Тулуза, і Барселона.

А 150 хадавых гадзін – гэта вялізны рэсурс. Нават пры хуткасьці 25 км/гадз. за 150 хадавых гадзін танк праходзіць без капітальнага рамонту 3750 кіламетраў. Пры больш высокай хуткасьці на еўрапейскіх дарогах прабег будзе большым. Пачынаючы з рэсурсам роўным 150 гадзін можна захапіць не толькі Яўропу…

Нагадаю, мы разважаем толькі пра некаторую частку «састарэлых» савецкіх танкаў. У астатніх матарэсурс быў вышэйшым чым 150 гадзін.

Удар па Румыніі вырашаў і праблему рамонту танкаў. Пасьля такога ўдару тысячы спраўных танкаў можна было кідаць у Яўропу, тысячы сапсаваных – спакойна рамантаваць і па меры гатоўнасьці ўводзіць у бітвы.

Запярэчаць, што танкі на вайне ідуць не па прамой, а манеўруюць. Згодзен. Гэта мае назву каэфіцыент манеўру. У наступальных аперацыях супраць слабога суперніка (а Румынію мы пры ўсім жаданні да магутнага далучыць не можам), асабліва пры раптоўных аперацыях, каэфіцыент манеўру рэдка падымаўся вышэй 1,3. Іншымі словамі, фактычны прабег можа быць прыкладна на 30% вышэй глыбіні баявога задання. У нашым выпадку пры глыбіні задання роўнай 180 км рэчаісны прабег мог скласьці 230-240 км. Гэты шлях танкі маглі прайсьці не за тры, а за чатыры гадзіны.

x x x

У 1945 годзе Чырвонае Войска нанесла раптоўны ўдар па японскаму войску у Маньчжурыі і Кітаі. 6-я гвардэйская танкавая армія здзейсніла не маючы прыкладаў пераход праз пустэльню, горны хрыбет Вялікі Хінган і рысавыя палі да акіяна. За 11 сутак па-за дарогамі танкавае войска пераадолела адлегласць па прамой роўную 810 кіламетраў, а яе перадавыя атрады – 1100 кіламетраў. У гэтым пераходзе бралі ўдзел і сотні танкаў БТ-5, БТ-7, Т-26, захаваўшыяся ў войску Далёкага Ўсходу. Танкі з малым рэсурсам выкарыстоўваліся ў памежных баях, а танкі з рэсурсам 40 і больш гадзін дайшлі да акіяна.

Выснова: са жніўня 1939 года, з моманту падпісання пакта Молатава-Рыбентропа, уся кантынентальная Яўропа жыла пад пагрозай савецкай сякеры. Удар у нафтавае сэрца Яўропы мог быць сьмяротным. Усе савецкія танкі, самыя навейшыя і старыя, выйшаўшыя з заводаў і ўжо зношаныя, уяўлялі пагрозу не толькі для Няметчыны, але і для ўсёй Яўропы.

Легенды пра «непрыгатаванасць» Сталіна да вайны лёгка выкрываюцца, як толькі ад аднабаковага разгляду праблем мы пераходзім да параўнанняў. Усё пазнаецца ў параўнанні. Шкада, што некаторыя масьцітыя гісторыкі не жадаюць параўноўваць.

# Глава XVIII

## Гвардэйскія цуды

«Цудаў не бывае».
І.Сталін

Вясной 1942 года Чырвонае Войска зведала адразу некалькі значных параз: у баях пада Ржэвам была ахоплена і загінула 39-я армія, пад Вязьмай была ахоплена і

загінула 33-я армія генерал-лейтэнанта М.Г.Яфрэмава; была адрэзана і загінула ў атачэнні 2-я ўдарная армія генерал-лейтэнанта А.А.Уласава; быў разбіты Крымскі фронт, пры гэтым загінулі 44, 47 і 51-я арміі; а ў Харкаўскай бітве былі знішчаны 6, 9, 28 і 57-я арміі, сем асобных танкавых і кавалерыйскіх карпусоў, значная колькасць дывізій, брыгад і палкоў узмацнення, страчаны тысячы танкаў і гармат, вялікія стратэгічныя запасы, сотні тысяч афіцэраў і жаўнераў былі забіты ці захоплены ў палон. Савецкі стратэгічны фронт на поўдні быў прарваны на вялізным працягу, і германскае войска, не сустракаючы супраціўлення, накіравалася праз гіганцкі прарыў адразу па двух накірунках: на Каўказ і на Сталінград.

Захоп Каўказа азначаў амаль поўнае крушэнне сталінскага рэжыму. Каўказ – гэта нафта. Захоп Сталінграда азначаў тое ж самае: праз Каспійскае мора нафта ішла ўгару па Волзе. Самы просты спосаб перарэзаць нафтавую артэрыю – захапіць Сталінград. Усё, што патрабавалася, – падысьці да берага, паставіць пару танкаў на адхоне і тапіць нафтавыя баржы. Савецкае войска неарганізавана адыходзіць. Прасьцей кажучы, бяжыць. Сталін выдае грымотны загад №227 пра загараджальныя атрады і штрафныя батальёны, лютуюць камісары і чэкісты. Але ніякімі зверствамі, ніякімі загадамі дэмаралізаванае савецкае войска не спыніць. Патрэбны свежыя рэзервы. Але рэзервы вычарпаны падчас зімовага наступлення, падчас няўдалых спроб прарваць блакаду Ленінграда, у спробах выратаваць становішча пад Харкавам і ў Крыму.

Такім чынам, дзе ўзяць рэзервы? Без рэзерваў – канец.

Сталіна магло выратаваць толькі дзіва.

І яно здарылася.

У Чырвоным Войску на той момант было дзевяць гвардэйскіх стралковых карпусоў, яны даўно былі зацягнуты ў баі, знякроўлены і знясілены, зняць іх з тых пляцовак фронту, дзе яны ваявалі, было немагчыма.

Але на каўказскім накірунку перад германскімі дывізіямі і карпусамі 4-ай танкавай арміі раптам падняліся сьцяной два савецкія новенькія, свежыя, адборныя, цалкам укамплектаваныя гвардэйскія карпусы: 10-ы і 11-ы. Іх з'яўленне пад час самага крытычнага моманту менавіта там, дзе патрэбна, выратавала сітуацыю. Савецкае кіраўніцтва атрымала магчымасць перавесьці дух, перараразмяркаваць часткі, прывесьці іх у адноснае ўпарадкаванне і стабілізаваць сітуацыю, ператварыўшы бязладнае збяганне частак у арганізаваны адыход, потым – у зацяжныя баі. Нарэшце – у контрнаступленне.

На Сталінградзкім накірунку таксама адбылося дзіва. У той момант у Чырвоным Войску была 31-я гвардэйская стралковая дывізія. Усе гвардэйскія дывізіі, зразумела, былі зацягнуты ў баі, вельмі ў іх патрапаны і выматаны. Выцягнуць іх із тых самых мясасечак, у якіх яны задзейнічаны і кінуць пад Сталінград немагчыма… Але раптам пад Сталінградам з'яўляецца свежая, адборная, навенькая 32-я гвардэйская стралковая дывізія. Тут жа за ёй – 33, 34, 35, 36-я. Сталінградзкія жароны круцяцца: Гітлер пад Сталінград падкідае, і Сталін падкідае. Стаўкі растуць. Таварыш Сталін крые казырным тузам – уводзіць у бітву 1-ю гвардэйскую армію генерал-лейтэнанта Ф.І.Голікава ў складзе із пяці гвардэйскіх стралковых дывізій: 37, 38, 39, 40 і 41-я.

Раней існавалі гвардэйскія палкі і брыгады, дывізіі і корпусы. Упершыню – цэлае гвардэйская армія! І армія не простая – сьвежая, цалкам укамплектаваная: маладзец да малайца і былы кіраўнік ГВУ на чале…

Было так усталявана – гвардэйскія злучэнні здабывалі свае высокія званні ў баях: гэтая дывізія вызначылася на Паўночна-заходнім фронце, а тая – на Цэнтральным, і вайна тасавала палкі, брыгады, дывізіі, карпусы і арміі кашчавай рукой. Выпадкова пяць нумароў адзін за адным ніяк не маглі выпасьці, а тут – дзесяць гвардэйскіх дывізій і нумарацыя безперапыннай чарадой.

Мяне гэты шэраг нумароў хваляваў яшчэ пад час юнацства. За гэтым відавочна нешта хавалася. Адкуль яны, свежанькія, з нумарамі радком, накшталт хрумцячых чырвончыкаў у тэчцы?

Вайна ішла сваім парадкам і гвардэйскія дзівы працягваліся. Летам 1943 года разгарэлася самая жорсткая бітва на Курскай дузе. Супернік нанёс два звышмагутныя ўдары па збягаючыхся накірунках.

Прарваць абарону савецкага войска не атрымалася. Сярод шматлікіх нагод: шыкоўная праца савецкай выведкі, выкрыўшай планы суперніка, перавага Чырвонага Войска ў колькасці і якасьці баявой тэхнікі, умелае кіраванне войскам, устойлівасць савецкага войска ў абароне… Але не абыйшлося і без дзіваў. Нямецкі ўдар з поўначы прыняла на сябе 13-я армія Цэнтральнага фронту. У яе складзе апынуўся выдатны, укамплектаваны адборнымі малайцамі 18-ы гвардэйскі стралковы корпус. І на паўднёвым фасе Курскага выступу раптам як із-пад зямлі з'явіліся нязломныя гвардэйскія дывізіі.

Пасьля адбівання ўдараў суперніка савецкае войска само перайшло ў рашучае наступленне. І зноў дзівы. У бітву быў уведзены стратэгічны рэзерв – Стэпавы фронт, у складзе якога акрамя іншых – 4-я гвардэйская армія, укамплектаваная цалкам, прытым укамплектаваная адборнымі жаўнерамі і афіцэрамі. Разам з ёю ваявала 5-я гвардэйская армія, якая таксама мела не рознакаліберных жаўнерыкаў, а сапраўдных гвардэйцаў, як гэта было заведзена Пятром – дай у рукі аглоблю, увесь кірмаш пераб'е…

Гэтых гвардэйцаў таварыш Сталін кідаў у бой, яны выдатна ваявалі, але вайна пажырала людзей, зноў узнікаў крызіс, і зноў здаралася дзіва. У таварыша Сталіна заўсёды ў запасе выяўлялася нейкая адборная гвардэйская дывізія, корпус ці цэлая гвардэйская армія.

Лішняя саломінка ламае хрыбет вярблюду. У таварыша Сталіна гэтая самая саломінка заўсёды выяўлялася пад рукой. І не толькі, саломінка, але і сноп, калі патрэбна. А то – і скірта, неба засланяючая. Апошняе гвардэйскае дзіва здарылася ў сакавіку 1945 года падчас Балатонскай абарончай аперацыі.

Да канца вайны Сталін падышоў з вынікам вартым жалю – цэлае пакаленне маладых хлопцаў і мужчын палягло па невядомых гайках і бэлечках. Народзец да канца вайны падрабнеў – падграбалі што было. «Іхнае войска надзвычай добра ўзброена, але яны ўсё больш і больш пакутуюць ад недахопу людзей. Іхная атакуючая пяхота складаецца большай часткай із усходніх працоўных і палякаў, затрыманых у нашых усходніх раёнах». Гэта запісаў у сваім дзённіку доктар І.Гебельс 3 сакавіка 1945 года. Запіс не для прапаганды і не для публікацыі. І запярэчыць тут няма чаго: савецкая вёска была сьмяротна паранена калектывізацыяй і дабіта «вялікай айчыннай вайной». Народ у нас берагчы не ўмелі і не выяўлялі ніякага жадання. Загубіла вайна мужыкоў.

Але на кожны выпадак у таварыша Сталіна было сёе-тое ў рэзерве… Толькі Гебельс запісаў у сваім дзённіку, а 16-га сакавіка было зарэгістравана новае дзіва. Адбылося вось што. Напачатку 1945 года Чырвонае Войска захоплівае апошнюю годную згадвання крыніцу нафты ў Вугоршчыне, пасьля чаго Няметчына павінна

была ўпасьці. Гітлер тэрмінова спыняе наступленне супраць амерыканскага войска ў Ардэнах і сваю галоўную ўдарную магутнасць – 6-ю танкавую ірмію СС – перакідае ў Вугоршчыну і пачынае апошнюю наступальную аперацыю ў раёне возера Балатон – нафту патрэбна адбіць. Для савецкага войска склалася роспачная сітуацыя, але 4-я гвардэйская і 26-я арміі спынілі 6-ю танкавую армію СС, і ў гэты момант таварыш Сталін зноў кінуў на стол казырнага туза – увёў у бітву новую 9-ю гвардэйскую армію ў складзе 37, 38 і 39-га гвардэйскіх стралковых карпусоў, кожны – па тры гвардэйскія стралковыя дывізіі. 9-я гвардэйская армія была ўкамплектавана цалкам, пры гэтым самымі лепшымі жаўнерамі. 9-я гвардэйская армія нанесла класічны ўдар у фланг і тыл 6-ай танкавай арміі СС. Далей 9-я гвардэйская імкліва пайшла на Вену, пасьля гэтага – Пражская аперацыя і выхад на бераг Эльбы…

Выснова: пад час самых крытычных момантаў вайны заўсёды знаходзіліся адборныя рэзервы: гвардэйскія дывізіі, карпусы і цэлыя арміі, якія Сталін кідаў у бітвы і вырашаў іхны вынік на сваю карысць.

У вайсковых вучэльнях і акадэміях аперацыі вывучаліся глыбока, але калі даходзіла чарга да дзіваў, то выкладчыкі іх не тлумачылі, а проста паведамлялі: здарылася дзіва, выявіўся рэзерв, яго кінулі ў бітву і, зразумела, перамаглі…

І кожны раз узнікала жаданне падняць руку і пакорліва запытаць: а адкуль, таварыш палкоўнік, гэтая самая гвардэйская армія ўзялася?

Але пытанняў лішніх я, навучаны горкім досьведам, ужо не задаваў, ведаў, што занадта цікавячыхся ў нас у акадэміях і вучэльнях называюць Кутузавымі, Банапартамі, Македонскімі і рэдка хто із іх даходзіць да выпуску…

Так што я ў акадэміі маўчаў, хаця маё асабістае знаёмства з усімі гэтымі дзівамі пачалося даўно…

12 чэрвеня 1964 года наша 6-я рота Калінінскай сувораўскай вайсковай вучэльні прыбыла на вайсковае стажыраванне ў 35-ю гвардэйскую Лазоўскую Чырванасьцяжную ардэноў Суворава і Багдана Хмяльніцкага мотастралковую дывізію – Маскоўскай вайсковай акругі, навучальны цэнтр Пуцілава.

Мы ведалі, што нас чакае, таму нічаму не здзіўляліся. Чакала нас вельмі суровая вайсковая рэчаіснасць і баявая падпадрыхтоўка на ўзроўні сусьветных стандартаў і ледзь вышэй. Нам было па 17 гадоў, за нашымі плячамі – ужо шэсць гадоў вайсковай вучэльні, гэтае стажыраванне была не першым. Так што здзіўляцца не даводзілася.

Дарэчы…

На стажыраваннях напіралі на практыку. Вымотвалі так, што позняй ноччу, калі заняткі заканчваліся, шмат хто валіўся ў намётах на худыя матрасы (адзін матрац на дваіх і вельмі шчыльненька) і засыналі, не паспеўшы распрануцца, а то – і разуцца. Яно і добра: праз пару гадзін трывога, а ты ужо ў ботах…

А тэорыяй там амаль не займаліся. Толькі вельмі крышачку: кожны, хто ўпершыню трапляе ў які б то ні было савецкі полк, брыгаду ці дывізію, абавязаны атрымаць хаця б агульнае ўяўленне пра баявы шлях… «Таварышы сувораўцы, наша гераічная 35-я гвардэйская мотастралковая была сфармавана ў 1942 годзе на базе 8-га паветрана-дэсантнага корпуса…»

Цяжка сказаць, як я ўтрымаўся на нагах, пачуўшы такое… Кожны нармальны чалавек ведае, што Чырвонае Войска пачало вайну, маючы пяць паветрана-дэсантных карпусоў, і нумары іх былі ад першага па пяты, у абарончай вайне яны ўсё адно не былі патрэбнымі, і іх выкарысталі не па прамому

прызначэнню, а ў якасьці простай пяхоты… Але адкуль жа ўзяўся 8-ы паветрана-дэсантны корпус?

А трэніроўкі, вучэнні, стрэльбы ішлі сваім парадкам. І толькі нядзельнымі днямі пасьля абеду выпадала некалькі вольных гадзін, і ўсім, хто не патрапіў у нарад, дазвалялася ў гэты час «адпачываць лежачы». Рота падала ў адным парыве і «лежачы адпачывала» нейкім цяжкім адзіным на ўсіх безперапынным сном. Рота не засынала, а адначасова адключалася ад гэтага мітусьлівага сьвету, зразумела, выставіўшы ахову, унутраны нарад, нарад на кухню і г.д. і прызначыўшы «самаахвотнікаў» на індывідуальныя размовы да зампалітаў.

Пад час звычайных дзён у нас не было ніводнай вольнай хвіліны, але палітычную працу патрэбна весьці. Палітычная праца – калектыўныя палітзаняткі раз на тыдзень па суботах, але патрэбна ж і індывідуальна працаваць, дзе ж узяць для гэтага час? Вось зампаліты батальёна і палка, палітпрацаўнікі дывізійнага ўзроўню і чакалі тыя самыя гадзіны, калі дазвалялася «адпачываць лежачы». І пад час гэтых гадзін яны на нас накідаліся. Нарад прызначаўся ў парадку чаргі, а «самаахвотнікаў» на індывідуальныя размовы з зампалітамі выбіралі паміж сабой з дапамогай жэрабя.

Але ў нашым другім узводзе жэрабя не кідалі, таму як быў сярод нас адзін не да канца нармальны таварыш, за якім даўно былі заўважаны прыкметы лёгкіх адхіленняў. Да ўсеагульнай палёгкі другога ўзвода, ён самахвотна ішоў на такія індывідуальныя размовы з зампалітамі і тым ратаваў астатніх. За магчымасць спакойна «лежачы адпачываць» узвод плаціў свайму ратавальніку кпінамі і нязлымі жартамі.

Гэтым самым аматарам быў, зразумела, я. І як інакш, калі я пачуў пра 8-ы(!) паветрана-дэсантны корпус?

8-ы паветрана-дэсантны корпус! Да гэтага часу не разумею, чаму нікога із маіх таварышаў не ўсхваляваў гэты нумар. Пачуўшы яго ў самы першы дзень, я бачыў яго кожную ноч. Уражанне такое, што ў момант, калі роце аб'яўлялі адбой, я заплюшчваў вочы і тут жа трапляў у 8-ы паветрана-дэсантны корпус. На ўсю ноч, да ранку, да самага ранішняга крыку старшыні Алфёрава: «Шостай роце! Падняцца!»

Наступную ноч я зноў праводзіў у 8-м вдк, і наступную таксама.

І вось тая самая чаканая нядзеля, калі я змагу пагаварыць з зампалітам 100-га гвардэйскага мотастралковага палка 35-й гвардэйскай мотастралковай дывізіі і распытаць пра 8-ы паветрана-дэсантны корпус, ад якога дывізія вяла свой пачатак…

Доўгая, бясконцая раніца, чышчанне зброі, шмат рознага глупства, абед, а пасьля абеду…

Штаб дывізіі, палітаддзел, музей баявой славы. У калідоры баявы сьцяг з ардэнамі. Пад сьцягам – вартавы з аўтаматам.

У музеі баявой славы зампаліт палка – індывідуальная праца з асабістым складам. Спачатку яму патрэбна мяне зацікавіць пытаннем. Але гэтага рабіць яму наогул няма патрэбы: у мяне і так вочы гараць, мне падрабязнасьці давай.

І ён даваў.

Самае цікавае ў жыцці для кожнага чалавека: арганізацыйная структура вайсковых частак і злучэнняў, сістэма нумарацыі. Узбраенне, тактыка і іншае – гэта ужо на другім месцы. Таму ў мяне самае першае пытанне: да атрымання гвардэйскага звання які нумар мела дывізія?

Адказ мяне збіў з ног: той жа самы, 35-ы. Дывізія адразу фармавалася як 35-я гвардэйская, не пабываўшы ў баях. Гвардэйскае званне і нумар у гвардэйскай нумарацыі яна атрымала авансам.

Гэта для мяне было адкрыццём. Я ведаў, што падраздзяленні ўстановак залпавага агню БМ-8, БМ-13, М-30 і БМ-31 фармаваліся адразу як гвардэйскія, атрымліваючы гэтае званне авансам. Цяжкія танкавыя палкі, у выпадку атрымання танкаў ІС-2, перафармоўваліся ў гвардэйскія цяжкія танкавыя палкі прарыву. Але злучэнні і часткі ўсіх астатніх радоў войска атрымлівалі гвардэйскае званне толькі ў бою. Так я лічыў. І раптам высвятляецца, што і стралковыя дывізіі часам атрымлівалі гэтае званне яшчэ да ўступлення ў бой.

Ды чаму ж? За якія заслугі? Ды вы працягвайце, таварыш падпалкоўнік, працягвайце.

І ён працягваў: за час вайны 21 ваяр 35-й гвардэйскай дывізіі быў ганараваны звання Героя Савецкага Звязу. Самым першым быў лейтэнант Рубэн Ібаруры.

– Нешта прозвішча, таварыш падпалкоўнік, не сібірскае нейкае.

– Гэта сын генеральнага сакратара камуністычнай партыі Гішпаніі таварыша Далорэс Ібаруры.

– Ах, вось яно як.

– Наогул гішпанцы – адважныя дзеці. Добра ваявалі.

– Якія гішпанцы?

– Дык наш жа паветрана-дэсантны корпус быў з гішпанскім ухілам, і гішпанскія таварышы ваявалі ў яго складзе… Сам Рубэн, праўда, пачаў вайну не ў нашым корпусе, мы ў другой хвалі, а ён меў жаданне вызначыцца пачынаючы з першых дзён, таму ён пад час першых дзён вайны быў у 7-м механізаваным корпусе.

– У Вінаградава?

– У Вінаградава. Там і сын Сталіна Якаў быў і іншыя… 7-ы мехкорпус вядома для якіх справаў рыхтавалі…

– Невядома, таварыш падпалкоўнік.

– Гэта мы не туды заехалі. Вернемся да нашых гішпанцаў.

– Дык быццам бы ж не супраць Гішпаніі вайна рыхтавалася, а супраць Няметчыны?

– Супраць Няметчыне першая хваля карпусоў, але мы ў другой хвалі былі! Разумець трэба.

І я спрабаваў зразумець. Але галаваломкі памнажаліся, а разуменне не прыходзіла.

Стажыраванне наступнага, 1965 года зноў было ў 35-й гвардэйскай мотастралковай дывізіі. За год я тэарэтычна падкаваўся і быў гатовы задаваць шмат пытанняў. Але задаваць не атрымалася. Замест адказаў – сяброўскае папярэджанне палкоўніка-франтавіка: калі будзеш цікавіцца, супастаўляць і думаць, то маеш магчымасць дадумацца да нядобрага.

Думаць ён мне не рэкамендаваў. А калі і думаць, так выгляду не падаваць, што думаеш. Так спакайней. Да вялікіх зорак, казаў ён мне з сумам, даслужыцца можна, калі ніхто ў табе, юнак, сапіенса не западозрыць.

# Глава XIX

# Колькі цяжкіх танкаў было ў Гітлера?

«Немцы са здзіўленнем выявілі, што спыніць танкі КВ амаль немагчыма».
«Роберт Горальскі (World War II Almanac. 1931-1945. London: «Hamish Hamilton», 1981. P. 164)

Усіх генералаў Другой сусьветнай вайны лёгка падзяліць на дрэнных і добрых. Для гэтага існуе вельмі надзейны метад. Калі генерал ролю танкаў у вайне разумеў, гэта азначае, яго чакаў поспех. А калі не разумеў, гэта азначае, быць яму бітым. Менавіта гэта аддзялала геніяў вайны ад тупых служак. Гэтае правіла – без выключэнняў, і сэнс яго ў тым, што самалёты, хай самыя хуткія, караблі, хай самыя магутныя, не могуць ні захапіць, ні ўтрымаць ніводнага квадратнага метру тэрыторыі. Разгром войска суперніка, захоп і ўтрыманне тэрыторый – гэта тое, да чаго, у канчатковым выніку, зводзілася ўся стратэгія, і гэтую працу рабілі танкі (зразумела, ва ўзаемадзеянні з пяхотай, артылерыяй, авіяцыяй і г.д.). Падчас вайны існавала магчымасць кожны нямецкі горад налётамі бамбавікоў сьцерці да самых падмуркаў, а падмуркі вывярнуць із зямлі. Але здаваўся нямецкі горад толькі тады, калі на яго разбураныя вуліцы прыходзілі танкі суперніка. Яшчэ горш – танкавыя злучэнні не лезлі ў крывавыя зацяжныя вулічныя баі, а абыходзілі горад бокам, робячы яго абарону не маючай сэнсу.

Не толькі нямецкія гарады скараліся танкам, але і гарады ўсіх краін, дзе ішла вайна: у Варшаву і Рым, у Вену і Прагу, у Будапешт і Белград, у Афіны і Рыгу, у Талін, Вільнюс, Брусель новыя гаспадары прыходзілі на танках. Парыж і Кіеў, Менск і Смаленск здаліся, таму што іх абыйшлі танкі. А вось шматпакутнаму гораду Хельсінкі дасталася ад авіяцыі, але танкі на вуліцах горада не з'явіліся, і горад выстаяў. І Лондану дасталася ад авіяцыі, і Маскве, але танкі суперніка на іхных вуліцах не бывалі, і таму гэтыя гарады не былі страчаны. А Пітару дасталася не толькі ад авіяцыі: шматлікія месяцы горад раздзірала цяжкая артылерыя, а пад яго дахамі лютаваў голад, але танкі не змаглі прарвацца на яго вуліцы, і горад не быў захоплены…

Танкі пад час мінулай вайны былі зброяй стратэгічнай. Той, хто ролі танкаў не разумеў, быў вырачаны. Таму разважаць пра прыгатаванасць да вайны немагчыма, не згадваючы пра танкі. Пачнём з цяжкіх, таму што цяжкі танк астатнім танкам нешта накшталт дыктатара. Ён сярод іх займае менавіта тое становішча, якое леў займае ў царстве звяроў. І зусім нездарма падчас вайны цяжкія танкі называлі імёнамі зубатых драпежнікаў і грозных дыктатараў.

Зараз ролю танкаў разумее кожны, але ў 1941 годзе толькі ў двух войсках сьвету была ўсьвядомлена патрэба мець цяжкія танкі. Гэта былі войска Няметчыны і ЗССР.

Загад пра пачатак працы над праектам першага германскага цяжкага танка быў аддадзены 26 траўня 1941 года. Праект меў назву VK4501: 45 тон, узор першы. Да 22 чэрвеня нямецкія канструктары паспелі накідаць першыя эскізы. Да эксперыментальных узораў у метале было яшчэ далёка, але спроба, хаця бы на паперы намаляваць цяжкі танк, была распачата.

Працы па стварэнню цяжкага танка ў Савецкам Звязе пачаліся раней – у 1930 годзе. У 1933 годзе першы савецкі цяжкі танк Т-35 быў пушчаны ў серыю і паступіў на ўзбраенне войска. Гэта быў пяцівежавы гігант вагой роўны 45 тон, экіпаж – 11 чалавек, узбраенне – тры гарматы і шэсць кулямётаў, браня 30 мм. Канструкцыя Т-35 увесь час удасканальвалася. Напрыклад, на мадэлі 1938 года

колькасць кулямётаў павялічана да сямі, а браняванне павялічана да 50 мм. Апошняя серыя Т-35 паступіла ў войска ў 1939 годзе. Але танк удасканальваўся і пасьля таго, як вытворчасць была завершана: пасьля вайны ў Фінляндыі ўсё Т-35 вярнулі на заводы і павялічылі бранявую абарону да 80 мм. Вага танка павялічылася да 50 тон.

У 1939 годзе ў баявых умовах прайшлі дзяржаўныя выпрабаванні тры тыпы навейшых савецкіх цяжкіх танкаў: КВ-1, СМК і Т-100. Гэтыя танкі выпрабоўваліся на «супрацьтанкавай» мясцовасьці, ва ўмовах, у якіх баявое ўжыванне танкаў нават тэарэтычна немагчыма. Цяжкія савецкія танкі вытрымалі экстрэмальныя нагрузкі вайны ў Фінляндыі: бездарожжа, нябачныя пад снегам валуны, непраходныя лясы, балоты, пагібельны агонь, неабсяжныя мінныя палі, супрацьтанкавыя равы, надаўбні, сталёвыя вожыкі, эскарпы і контрэскарпы, снег па самыя вежы, мароз, на якім крышыцца сталь.

Крывавым эксперыментам у Фінляндыі было даказана, што савецкія цяжкія танкі нават і ў такіх умовах могуць ваяваць, пры гэтым ваяваць паспяхова.

Із трох цяжкіх эксперыментальных танкаў лепшым быў прызнаны КВ-1. 19 снежня 1939 года ён быў прыняты на ўзбраенне Чырвонага Войска, а прамысловасць атрымала загад пра разгортванне серыйнай вытворчасьці.

У лютым 1940 года ў баявых умовах быў выпрабаваны цяжкі танк КВ-2 і таксама прыняты на ўзбраенне.

КВ-1 і КВ-2 важылі адпаведна 47 і 52 тоны. КВ – першы ў сьвеце танк з сапраўды супрацьснарадным браняваннем: лабавая браня – 100 мм з магчымасьцю далейшага ўзмацнення. Шырокія гусеніцы КВ дазвалялі ваяваць амаль на якой заўгодна мясцовасьці, у якіх заўгодна ўмовах надвор’я. Шырокія гусеніцы КВ у літаральным сэнсе перамаглі прыроду. Уявіце сітуацыю 1941 года: у брудзе і снягу нямецкія танкі грузнуць, экіпажы (і будучыя гісторыкі) клянуць бездарожжа і дрэннае надвор'е, а КВ прэ праз бруд і сьнег, заходзіць у фланг і тыл, абірае мэты, руйнуе іх і імкліва ідзе далей. І калі Гітлер вайну прайграў, то не бруд і мароз таму віной, а германскія канструктары, якія разлічвалі на лёгкія перамогі, якія стваралі танкі для аперэтачнай вайны, для цяплічных умоваў, для дзеянняў толькі падчас курортнага сезону, і то толькі там, дзе існуюць добрыя дарогі. А патрэбна было танкі ствараць не для парадаў, а для войны. І выпрабоўваць іх у Фінляндыі. Патрэбна было гусеніцы шырэй ставіць. І дызель.

КВ меў дызельны рухавік роўны 600 к.м. савецкі танкавы дызель, як мы ўжо ведаем, перавышаў усе замежныя танкавыя рухавікі па магутнасьці, надзейнасьці, эканамічнасьці, акрамя таго, карыстанне дызельным палівам рэзка зніжала верагоднасць узнікнення пажару. Такога, ці хаця б блізкага згодна з характарыстыкамі не мела ніводная краіна сьвету на пачатку вайны і не здолела стварыць да самага яе заканчэння.

На КВ-1 стаяла 76-мм даўгаствольная гармата. У той час роўнай ёй у сьвеце не было. Параўнаем: Няметчына мела шыкоўныя танкі, пакарыўшыя ўсю кантынентальную Яўропу. Самая магутная нямецкая танкавая гармата на момант пачатку вайны – 75мм караткаствольная на танку T-IV. Пачатковая хуткасць яе снарада – 385 м/сек. Гэта вельмі добрая гармата. Але на КВ-1 – пачатковая хуткасць снарада 662 м/сек. Розніца ў пачатковай хуткасьці – гэта не толькі розніца ў энергіі снарада, але і ў дакладнасьці стральбы.

КВ-2 меў узбраенне яшчэ больш магутнае. На ім стаяла 152-мм гаўбіца. Самы магутны нямецкі танкавы снарад таго часу – 6,8 кг. Гэта добры снарад, да

вельмі добрай гарматы. А КВ-2 страляў бетонабойнымі снарадамі вагой 39,9 кг (пачатковая хуткасць 529 м/сек) і аскепкава-фугаснымі – вагой 48,7 кг. тснуюць згадванні пра снарад вагой 50,8 кг. Кіраўнік Генеральнага штаба сухапутнага войска Няметчыны генерал-палкоўнік Франц Гальдар проста не паверыў, калі яму паведамілі пра гармату такога калібру на савецкім танку (гл. запіс у працоўным дзённіку ад 24 чэрвеня 1941 года).

Супернікі КВ – цяжкія танкі СМК (55 тон) і Т-100 (58 тон) таксама вытрымалі дзяржаўныя выпрабаванні і, калі б выбар упаў на кожны із іх, маглі быць запушчаны ў серыю. (Лепшым танкам быў СМК, у калоне эксперыментальных машын ён дзейнічаў першым, падарваўся на магутным фугасе і таму на апошнім этапе баявых выпрабаванняў удзел не браў. Сваім лідарствам СМК як бы адкрыў дарогу для серыйнага КВ.) Акрамя гэтых танкаў былі створаны і пададзены на дзяржаўныя выпрабаванні КВ-3 і КВ-220, ішлі працы па стварэнню КВ-4 вагой у 90 тон і КВ-5 – 100 тон (згодна з некаторымі паведамленнямі КВ-5 – 150 тон).

Такім чынам, Няметчына і ЗССР падзялілі два першыя месцы ў цяжкім танкабудаванні. А на трэццім месцы нікога не было: ва ўсіх астатніх краінах сьвету ў той момант генералам і канструктарам не прыходзіла нават у галаву намаляваць цяжкі танк на паперы.

І вось сітуацыя: у Няметчыны цяжкі танк – толькі на паперы, у астатніх краінах няма і таго. Савецкі Звяз – адзіная дзяржава ў сьвеце, якая ў 1941 годзе мае цяжкія танкі як у стадыі эксперыментальных узораў, так і ў серыйнай вытворчасьці. Чырвонае Войска – адзінае войска сьвету, якое мае цяжкія танкі на ўзбраенні. У гэтай вобласьці ў Савецкага Звяза – не проста першынство, а непадзельнае панаванне: усе астатнія дзяржавы сьвету ў лепшым выпадку маюць адважныя задумы і прыгожыя малюнкі.

А зараз уявім сябе на месцы нейкага савецкага вайсковага гісторыка-камуніста дзе-небудзь пад канец пяцідзясятых. Сітуацыя: у Цэнтральным Камітэце патрабуюць прыдумаць доказы непрыгатаванасьці Савецкага Звязу да вайны, патрабуюць якім заўгодна падманам, якімі заўгодна падробкамі давесьці, што мы дурні, а немцы – разумныя. У прыватнасьці, камуністы загадалі давесьці, што існуючы толькі на паперы, толькі ў выглядзе першых накідванняў германскі цяжкі танк – гэта нешта параўнальнае з рэальна існуючымі, праверанымі ў баях, серыйна вырабляемымі КВ. Камуністы загадалі так пісаць гісторыю, каб рашучую перавагу (больш дакладна – поўнае савецкае панаванне) у вобласьці цяжкага танкабудавання схаваць. Так патрэбна было пытанне замуціць, каб не кідалася ў вочы савецкая прыгатаванасць да вайны. Патрэбна было такія трукі прыдумаць, каб цяжкіх танкаў у статыстыцы наогул не было…

Трукі нашы гісторыкі прыдумалі. Ім зайздросьцяць лепшыя ілюзіяністы сьвету.

Першы трук: танк Т-35 абвясьцілі састарэлым і вырашылі ў статыстыцы не згадваць. І не згадваюць. А каб і нікому іншаму не прыйшло ў галаву Т-35 у статыстыку ўключыць, паведамленні пра іхную колькасць у Савецкім Звязе ніколі не публікаваліся. А тым часам ВА ЎСІМ АСТАТНІМ СЬВЕЦЕ НІЧОГА РОЎНАГА ТАНКУ Т-35 НА ТОЙ МОМАНТ НЕ БЫЛО.

Параўнаем. Самы магутны германскі танкавы рухавік на момант пачатку вайны гэта HL120TRM – 265 к.м. Гэта добры і вельмі магутны адпаведна з тым часам танкавы рухавік. А ў нас на «састарэлым» Т-35 – 500 к.м. На лепшым

германскім танку асноўная браня 30 мм і яшчэ 30 мм – дадатковая, разам – 60. Згодна з тым часам – гэта цалкам на ўзроўні сусьветных стандартаў і вышэй. А ў нас на «састарэлым» Т-35 – 80 мм. На лепшых германскіх танках – адна гармата і два кулямёта, на Т-35 – тры гарматы і шэсць-сем кулямётаў. Усё адносна: мы можам абвясьціць Т-35 састарэлым, але як жа тады паставіцца да УСІХ танкаў усіх астатніх краін сьвету? Т-35 перавышаў самае лепшае, што было ў іншых краінах па ўзбраенню, браняванню, па магутнасьці рухавіка, г.зн. па ўсіх галоўных характарыстыках. Акрамя усяго, Т-35, нягледзячы на свае памеры і вагу, меў меншы ўдзельны ціск на грунт, чым германскія танкі, г.зн. меў больш высокую праходнасць, не правальваўся ў снег, бруд і мяккі грунт, у тых месцах дзе правальваліся ўдвая і ўтрая больш лёгкія танкі іншых войскаў.

Калі Т-35 абвясьціць састарэлым, то і ўсе астатнія танкі сьвету таксама патрэбна абвясьціць састарэлымі і ў статыстыцы не ўлічваць.

Вось тут крамлёўскія гісторыкі са мной не згодны. У Няметчыне яны пералічылі ЎСЕ танкі. Усё да адзінага. Мала таго, пералічылі ўсе танкі ў хаўруснікаў Няметчыны. Румынскія, напрыклад. А ў Румыніі лепшы танк – куплены ў Францыі FT-17. 17 – гэта год вырабніцства 1917-ы. Апошнія FT выйшлі з завадзкіх варот у 1919 годзе. Два румынскія FT падчас Грамадзянскай вайны былі захоплены Чырвоным войскам, адрамантаваны, перафарбаваны і сталі першымі савецкімі танкамі – «Змагар за волю таварыш Ленін» і «Змагар за волю таварыш Троцкі». У 1941 годзе два першыя савецкія (г.зн. былыя румынскія, а больш дакладна – былыя французскія) танкі не захаваліся нават у музеях, а вось іхныя субраты – на ўзбраенні Румыніі. І вось іх мы састарэлымі не называем. Вось іх мы ўлічваем паштучна. Кожны камуністычны гісторык дакладна ведае, колькі ў Румыніі было танкаў. Гэта мы публікуем, гэта мы ведаць абавязаны: адна танкавая брыгада – 60 танкаў FT-17. А важаць яны па 6 тон, экіпаж – два чалавекі, браня – 16 мм, узбраенне – ці адзін кулямёт, ці адна караткаствольная гармата 37-мм, якая не прабівала наогул ніякую браню, нават супрацькулевую. Магутнасць рухавіка 39 к.м. Максімальная хуткасць 9 км/гадз. Вось і параўнаем са «састарэлым» Т-35. Наперадзе ў нас яшчэ цэлыя сямейства «састарэлых» савецкіх танкаў і самалётаў. Камуністы аддаюць перавагу пра іх забывацца і ў статыстыку не браць.

Цэнтральны орган Міністэрства абароны газета «Чырвоная зорка» ніводнага разу не назвала колькасць танкаў Т-35 у Чырвоным Войску на чэрвень 1941 года – гэта дзяржаўная таямніца. А вось бруду на савецкае танкавае войска «Чырвоная зорка» не шкадавала ніколі. Апошні прыклад: цэнтральны орган Міністэрства абароны называе танк Т-35 «непаваротлівым» (4 лістапада 1994 года).

«Чырвоная зорка» выкарыстоўвае неадбіваемы прыём. Гэтым прыёмам можна зняславіць якую заўгодна машыну-гігант. Існуе ў Расіі шыкоўны стратэгічны бамбавік Ту-160. Гэта лятучы шэдэўр. Стваральнікаў немагчыма папракнуць ні ў чым. Ім патрэбна было помнікі ставіць пры жыцці. Але з дапамогай метада «Чырвонай зоркі» гэты самалёт можна абылгаць, абвясьціўшы, што гэты самалёт-гігант непаваротлівы ў параўнанні з якім заўгодна зьнішчальнікам. А гэта ж сапраўды так. З дапамогай метада «Чырвонай зоркі» можна аблаяць якую заўгодна вялікую падводную лодку: сапраўды падвадная лодка серыі «К» (Крэйсер) непаваротлівая ў параўнанні з лодкай серыі «М» (Малютка). Можна зганіць які заўгодна буйны карабель, таму што лінейны карабель сапраўды непаваротлівы ў параўнанні з тарпедным катэрам, а атамны ракетны крэйсер непаваротлівы ў параўнанні з ракетным катэрам. Якая б то ні

было машына-гігант непаваротлівая ў параўнанні са звычайнай машынай. Т-35 – танк-гігант. У іншых краінах сьвету такіх танкаў проста не было. На кожную вялікую машыну можна павесіць цэтлік «непаваротлівая». Якое б то ні было дзіва тэхнікі можна затаўраваць такім спосабам. Гэтым дзеці із «Чырвонай зоркі» і займаюцца. Ім Расія за цяжкую працу грошы плоціць.

Дзіўна, але Міністэрства абароны Расіі і яго цэнтральны орган «Чырвоная зорка» карыстаюцца гэтым неаспрэчным метадам толькі ў дачыненні да Расіі. Яны ніколі не называлі «непаваротлівымі» сучасныя амерыканскія атамныя авіяносцы-гіганты, сучасныя брытанскія танкі «Чэленжэр», яны не называлі «непаваротлівымі» японскія лінкоры-гіганты часоў Другой Сусьветнай вайны. Абразлівыя эпітэты Міністэрства абароны і яго газета зберaглі толькі для Расіі і яе Ўзброенага Войска. А тым часам Т-35 хаця і быў гігантам, якіх не існавала ні ў адной із іншых краін сьвету, але згодна з ходавымі якасьцямі быў цалкам здольны параўнацца з некаторымі танкамі із арсенала Гітлера і яго хаўруснікаў. Параўнаем: максімальная хуткасць Т-35 – 30 км/гадз., а хуткасць румынскага FT-17 – 9 км/гадз.. На наш танк Міністэрства абароны вешае абразлівыя мянушкі. Таварышы із Міністэрства абароны даўно падзялілі ўсе танкі 1941 года на навейшыя цяжкія і састарэлыя лёгкія. Згодна з гэтай класіфікацыяй Т-35 вагой роўнай 50 тон, выраблены ў 1939 і мадэрнізаваны ў 1940 годзе, у 1941 годзе трапляе ў разрад лёгкіх і састарэлых. А румынскі танк вагой 6 тон, выраблены ў 1917 годзе, лічыцца навейшым і цяжкім.

Палкоўнік Віктар Аляксандравіч Анфілаў зрабіў вялізны ўнёсак у навуку. Ён вывеў формулу: два румыны з адным кулямётам пад бранёй роўнай 16 мм больш моцныя, чым 11 рускіх з трыма гарматамі і сямю кулямётамі пад бранёй роўнай 80 мм. У дадатак хуткасць у рускіх больш чым ўтрая вышэй. Нічога, сказаў Анфілаў, усё адно румыны больш магутныя. Вы толькі пачытайце яго кнігі: румынскія танкі палічаны ўсе, а нашых Т-35 няма ніводнага! Нашы Т-35 абвешчаны састарэлымі і выкінуты са статыстыкі, быццам бы іх там ніколі і не было.

І Анфілаў настаяў і дамогся свайго – двух румынаў з кулямётам лічыць магутнасьцю, а рускіх магутнасьцю не лічыць. Такім быў унёсак Анфілава ў навуку. З гэтай формулай ён прайшоў трыумфатарам праз усё жыццё. Удзячная Расія заможна пасыпала Анфілава ўшанаваннямі, званнямі, тытуламі, медалямі, ордэнамі, кватэрамі і лецішчамі. Як жа ў яго гэта атрымалася? Ды вельмі проста: ён выводзіў менавіта тыя формулы, якія ад яго чакалі і патрабавалі гаспадары ў Ідэалагічным аддзеле ЦК. Было пастаўлена заданне: давесьці непрыгатаванасць Савецкага Звязу да вайны. Давесьці якім заўгодна спосабам. Адказ быў загадзя зададзены ў ЦК, а заданне павінна было быць выканана living рознымі Анфілавымі. Так выканана, каб вынік падагнаць пад зададзены адказ: мы ні на што не здольныя. Ад Анфілава патрабавалася толькі знайсьці формулы, якія б прыводзілі да пажаданага адказу. Ён знайшоў. І вось акадэмік Анфілаў – ганаровы госць у высокіх навуковых установах, дзе даўно ўсталявана, што румыны непараўнальна перавышалі нас і ў якасьці баявой тэхнікі, і ва ўменні ваяваць. Палкоўнік Віктар Аляксандравіч Анфілаў, як, па-вашаму, румынскія палкоўнікі таксама перавышаюць нашых у разумовым развіцці?

Указанні Ідэалагічнага аддзела ЦК, дадзеныя некалі, свайго значэння не губляюць, яны няўхільна выконваюцца: «Вялізная перавага суперніка ў танках, матэрыяльнай частцы і авіяцыі… Ва ўсякім выпадку кардынальна нічога б не змянілася: маючы пяці-шасьціразовую перавагу, супернік усё роўна праламаў бы

слаба падрыхтаваную абарону нашага войска». Гэта «Чырвоная зорка» (6 снежня 1994 г.) апісвае 1941 год. Гэта зноў гучыць несьмяротны голас таварыша Сталіна са станцыі метро «Маякоўская»: але танкаў у іх у некалькі разоў больш… Не ў нас сяміразовая колькасная і абсалютная якасная перавага, а ў іх – пяці-шасьціразовая. Калі верыць Міністэрству абароны, то Гітлер выставіў супраць нас не 3350 танкаў, а ў 5-6 раз больш, чым было ў Сталіна, г.зн. 120 000-144 000 танкаў.

І звініць над сьветам: у нас танкаў было мала і яны былі настолькі горшымі чым румынскія, што ўлічваць іх смешна. І доказы… Далей усіх пайшоў «Вайскова-гістарычны часопіс», выдаваемы ўсё тым жа Міністэрствам абароны. У 1941 годзе ва ўсім сьвеце былі танкі, узброеныя адной гарматай, а то і проста кулямётамі: напрыклад, германскі танк Т-І гарматы наогул не меў. А ў нас на Т-35 было тры гарматы – адна 76-мм (за мяжой гармат такой магутнасьці на танках у той час не было) і дзьве 45-мм, прабіваўшыя браню якога заўгодна замежнага танка. Як жа схаваць нашу магутнасць? Як вылучыць на першае месца непрыгатаванасць да вайны і паказаць сябе дурнямі?

Выйсьце знойдзена. Таварышы із «Вайскова-гістарычнага часопіса» (1992. №10. с. 93) вырашылі 45-мм гарматы на танках Т-35 гарматамі не лічыць, а абвясьціць іх кулямётамі. Вось і ўсё. Было тры гарматы на кожным танку, засталася адна. Згодна з «Вайскова-гістарычным часопісам» атрымліваецца, што ў немцаў на танках 20-мм гарматы і 37-мм гарматы – яны да вайны прыгатаваны. А ў нас не гарматы, а 45-мм кулямёты – непрыгатаванасць ідавочнейшая. 45-мм гарматы ператварылі ў кулямёты, але 76-мм гармата ўсё ж засталася. Што ж з ёю рабіць? Ды забыцца пра яе – і кропка. Нямецкі танк Т-І, наогул не меўшы гарматы, улічваем у статыстыку, Т-ІІ з 20-мм гарматай улічваем, а Т-35 з 76-мм гарматай і дзвюма 45-мм «кулямётамі» прапускаем.

Хто з гэтым спрачацца будзе? Ніхто і не спрачаецца.

А можа, таварышы памыліліся? можа памылкова 45-мм гарматы кулямётамі абвясьцілі?

Усё магчыма. Толькі чамусьці ўсе памылкі заўсёды ў бок усхвалення суперніка і ў бок прыніжэння і замоўчвання нашых дасягненняў. Пагартаем «Чырвоную зорку», «Праўду», «ВГЖ» – прыклады сотнямі. Генерал-палкоўнік Г.Ф.Крывашэеў абвясьціў, напрыклад, што Т-34 пасьля таго, як замест 76-мм гарматы на ім пачалі ўсталёўваць больш магутную 85-мм гармату, «стаў здольным амаль на роўных супрацьстаяць нямецкаму танку Т-V, абсталяванаму 88-мм гарматай» (ВГЖ. 1991. N4. с. 38). Дзякуй генералу за спагадлівасць: «амаль на роўных». А да ведама Генеральнага штаба РФ, Галоўнага бранятанкавага кіравання і Інстытута вайсковай гісторыі давядзём: Т-V – гэта «Пантэра», яна была ўзброена 75-мм гарматай.

Генерал Крывашэеў не толькі ўвесь час завышае (гэта хранічная і нелякуемая хвароба камуністаў) характарыстыкі германскай баявой тэхнікі, але пераіначвае і тэрміны паступлення ўзораў баявой тэхнікі на ўзбраенне. «Каралеўскі тыгр» у Крывашэева з'явіўся ўжо ў 1943 годзе на Курскай дузе (с. 40). Гэта навуковае адкрыццё, за якое патрэбна узнагароджваць. Жалезным крыжом. Наш Генеральны штаб па ўзроўню ўсхвалення фашызму даўно перасягнуў доктара Гебельса і яго міністэрства прапаганды. Давайце пагартаем падшыўкі нямецкіх вайсковых часопісаў «Сігнал» і «Вермахт» за 1943 год. Усе яны – гімн германскай вайсковай магутнасьці. Але вось пра «Каралеўскі тыгр» – там ні слова. Таму што

першыя з іх паступілі на ўзбраенне баявых падраздзяленняў толькі ў чэрвені 1944 года.

А пра савецкую баявую тэхніку наша вайсковая прэса – заўсёды ў зневажальна-грэблівым тоне і тэрміны яе паступлення на ўзбраенне Чырвонага Войска заўсёды адтэрміноўваюцца. «Чырвоная зорка» 4 лістапада 1994 года ашаламіла сваіх чытачоў паведамленнем пра тое, што савецкі танк КВ-2 паступіў на ўзбраенне не да пачатку савецка-германскай вайны, а ужо падчас яе. Перапісваючы гісторыю, Міністэрства абароны Расіі штучна за вушы падцягвае стварэнне нямецкіх танкаў на год-паўтара наперад, а тэрміны стварэння савецкай баявой тэхнікі таксама штучна і хлусліва адсоўвае.

Павел Сяргеевіч Грачоў, паведамляю персанальна вам: КВ-2 ужо ў студзені 1940 года ваяваў у Фінляндыі і ваяваў паспяхова. Раней гэта прызнавала Міністэрства абароны ЗССР (ВГЖ, 1961. №9. с. 35). Генерал-маёр Д.І.Асадчы быў лейтэнантам і пачаў вайну на танках КВ-2 (ВГЖ, 1988. №6. с. 54.) Зараз усё гэта адмаўляецца. Наша вайсковая прэса заўсёды вяла інтэнсіўную кампанію паклёпу супраць Чырвонага Войска, але нейкім чынам прызначэнне Паўла Грачова на пасаду Міністра абароны Расіі па часе супала з яе рэзкім узмацненнем. Павел Сяргеевіч, гэта робіцца згодна з вашым загадам? Ці вы не ведаеце, чым займаецца падначаленая вам прэса?

І ці не пара разабрацца ў матывах паводзін Міністэрства абароны, яго цэнтральнага органа і асабіста міністра? У чым ваша зацікаўленасць, дарагія таварышы? На каго працуеце? На чый млын ваду ллеце? Хто вам грошы плоціць? За што?

Добра, хай камуністы называюць Т-35 састарэлым. Хай. Але КВ у састарэлыя ніяк не запішаш. Параўноўваць КВ з самымі лепшымі германскімі танкамі Т-ІІІ і Т-IV нават тэарэтычна немагчыма: КВ – цяжкі танк, а ў германскім войску гэтай вагавай катэгорыі ў 1941 годзе наогул не было. Выбітны германскі тэарэтык і практык танкавай вайны генерал-палкоўнік Гейнц Гудэрыян лічыў, што «…змаганне танкаў супраць танкаў нагадвае марскія бітвы. Там таксама бой вядуць толькі самыя моцныя…» (Успаміны жаўнера. М., 1957. с. 121). Вайна пачалася, Сталін выстаўляе танкі КВ-1 вагой 47 і КВ-2 вагой 52 тоны (і Т-35 вагой 50 тон), а ў Гітлера нічога падобнага няма, і ён вымушаны выстаўляць лепшае, што ў яго знайшлося – сярэднія Т-ІІІ і Т-IV вагой 20-21 тона. Я б не знайшоў патрэбным іх параўноўваць, калі б на ўзбраенні германскага войска існавала б нешта больш годнае. Але годнага не было. Нямеччына да вайны наогул ніяк не рыхтавалася. Таму вайна зводзіла савецкі КВ з тым, што было лепшага ў германскім войску. І вайна сама рабіла свае параўнанні.

Слова сведку. Генерал войска К.Н.Галіцкі апісвае бой аднаго савецкага цяжкага КВ з трыма сярэднімі германскімі танкамі Т-ІІІ: два стрэлы КВ – і два германскія танкі падбіты, а трэцці германскі танк вырашыў збегчы, але пры пераездзе праз роў яго рухавік заглох. КВ яго дагнаў, заехаў на яго, «скамячыў сваім цяжарам і раздавіў, як арэх» (Гады суровых выпрабаванняў. М.: Навука, 1973. с. 79). Тут жа генерал Галіцкі апісвае іншы выпадак: знойдзены падбіты савецкі КВ, а навакол – дзесяць знішчаных германскіх танкаў. У КВ патрапіла сарок тры снарады, із якіх сарок пакінулі ўвагнутасьці і толькі тры прабілі браню. Пакуль германскія танкі знішчалі адзін КВ, ён знішчыў дзесяць германскіх танкаў.

Генерал-палкоўнік А.І.Радзімцаў: «На працягу адзінаццаці месяцаў вайны мы не ведалі выпадкаў, каб нямецкая гармата прабіла браню гэтага танка. Бывала,

што танк КВ меў 90-100 увагнутасьцяў ад патрапіўшых варожых снарадаў, аднак працягваў хадзіць у бой» (Тваe, бацькаўшчына, сыны. Кіеў, 1982. с. 291).

У іншых савецкіх генералаў мы знойдзем нямала падобных прыкладаў.

Дык, магчыма, савецкія генералы, мякка кажучы, перабольшваюць сітуацыю? Не. У германскіх зводках таго часу – ціхая паніка: германскія танкісты прызвычаіліся да таго, што іхныя танкі лепшыя ў сьвеце, а тут раптам – КВ. Такога яны не чакалі. Нямецкія дакументы таго часу дастаткова добра вядомы. Іх я паўтараць не буду. Толькі агульная выснова за 1941 год: «КВ – самая жахлівая зброя з якой калі б там ні было давялося сустракацца жаўнеру ў бою. Супрацьтанкавыя гарматы нічога не здольныя з ім зрабіць».

Калі мы і германскім дакументам не верым, то паглядзім на працы сучасных заходніх гісторыкаў і знойдзем цікавыя штрыхі да партрэта КВ. Брытанскі вайсковы гісторык Р.Гаральскі апісвае бой аднаго КВ супраць згуртавання германскіх танкаў і супрацьтанкавых гармат: на працягу толькі аднаго бою КВ атрымаў СЕМДЗЕСЯТ прамых трапляньняў, усе снарады пакінулі ўвагнутасьці на брані, але ніводзін яе не прабіў. А мы ўявім сабе той бой. КВ таксама, напэўна што, агрызаўся, а аднаго яго снарада для кожнага нямецкага танка цалкам дастаткова. З лішкам.

Ці паслухаем амерыканскага гісторыка. Яго імя Стыфен Залога. Яго кнігі рэкамендую ўсім: у замежжы лепшага знаўцы савецкіх танкаў няма. Ён паведамляе прыклад, калі адзін КВ знішчыў восем германскіх танкаў, атрымаў із вельмі кароткай дыстанцыі трыццаць прамых трапляньняў, але ніводзін снарад браню не прабіў (Soviet Heavy Tanks. London: Osprey, 1981. P. 12-13). Тут жа другі прыклад, відаць, фенаменальны: адзін КВ давіць нямецкую супрацьтанкавую батарэю, з караткай дыстанцыі атрымлівае ДЗЬВЕ СОТНІ прамых трапляньняў супрацьтанкавымі снарадамі, заканчвае сваю справу і цэлым пакідае месца бою.

Але і гэта не ўсё. Залога яшчэ прыводзіць прыклад. Як вядома, германскае танкавае войска на пачатку вайны было падзелена на чатыры танкавыя згуртаванні, якія хутка быліператвораны ў чатыры танкавыя арміі. Дык вось: у чэрвені 1941 года, у Літве, у наваколлі горада Расеняй, адзін савецкі КВ на працягу сутак стрымліваў націск 4-ага нямецкага танкавага згуртавання.

Танкавае згуртаванне – гэта чацьвёртая частка ўсяго танкавага войска. Адзін савецкі танк супраць нямецкай танкавай арміі. Невядомы старэйшы сяржант супраць генерал-палкоўніка Гёпнэра. Але здзіўляцца тут няма чаму: старэйшы сяржант із таго войска якое рыхтавалася да вайны, у старэйшага сяржанта – адзін цяжкі КВ, а нямецкі генерал-палкоўнік рыхтаваўся да лёгкай перамогі ў аперэтачнай вайне, у нямецкага генерал-палкоўніка цяжкіх танкаў....

І вось зараз “Чырвоная зорка” нам паведамляе пра падаўляючае германскае перавышэнне.

# Глава XX

## Мільён. Ці больш?

«Мы ўсе марылі пра хуткую перамогу сусьветнай рэвалюцыі».
Галоўны маршал артылерыі Н.Н.Крумкачоў. На службе вайсковай. с. 27

Ішлі гады, з'яўляліся артыкулы і кнігі. Прыроду гвардэйскіх дзіваў я зразумеў. А потым збег. Ужо ў Брытаніі дастаў «Савецкую вайсковую

энцыклапедыю». Шмат у ёй цікавага, перадусім – радаводы нашых самых вядомых дывізій.

І прырода гвардэйскіх дзіваў падмацавалася.

Такім чынам, Савецкі Звяз да вайны рыхтаваўся. Толькі не да такой вайны.

На падпадрыхтоўку вайны была выдаткавана неспасьцігаемая колькасць грошай, часу, рэсурсаў, здароўя і маладых жыццяў. Сталін падрыхтаваў гіганцкую колькасць парашутыстаў. Колькі дакладна, мне ведаць не дадзена. Але не мае ніякіх сумневаў – больш аднаго мільёна чалавек. Мільён я назваў у «Ледаколе». Камуністычныя гісторыкі гэтую лічбу люта аспрэчваюць, але іншую не называюць.

Тым часам пра мільён парашутыстаў, падрыхтаваных у ЗССР, паведамляла газета «Праўда» 18 жніўня 1940 года. Ці можа «Праўда» хлусіць? Яна праўдзівасьцю ніколі не вызначалася.

Магчыма, і хлусіць, але толькі ў бок заніжэння. Вось сёе-тое больш вызначана: «Пачынаючы з красавіка 1934 года па люты 1936 года на Ўкраіне падрыхтавана 427 000 парашутыстаў». Гэта афіцыйная гісторыя Кіеўскай вайсковай акругі (Кіеўская чырвонасьцяжная. М., 1974. с. 122). Гэтыя паведамленні падмацоўваюцца спасылкай на Партыйны архіў Інстытута гісторыі партыі ЦК КП Украіны (Фонд 7. Вопіс 1. Справа 1330. Ліст 32).

427 000 парашутыстаў – не мільён, але ж іх рыхтавалі не на адной толькі Украіне! Украіна – наогул не галоўны раён іхнай падпадрыхтоўкі. Парашутыстаў рыхтавалі галоўным чынам у Маскве і Маскоўскай вобласьці, у Ленінградзе, Янаве, Горкім, Куйбышаве, на Урале, у Сібіры, на Паўночным Каўказе, у Крыму, які ў той час у склад Украіны не ўваходзіў.

427 000 парашутыстаў Украіна падрыхтавала на працягу няпоўных двух гадоў, але ж іхная падпадрыхтоўка не была спынена пасьля лютага 1936 года. Наадварот, 1936 год – гэты самы пачатак. Гэта нараджэнне. Колькі ж іх было падрыхтавана толькі Ўкраінай у 1937, 1938 гадах? У 1939, 1940, 1941-м?

Дзеля эканоміі сродкаў парашутыстаў рыхтавалі нібы-та як аматараў. Каб малады энтузіяст працаваў, а на парашутную справу выдаткаваў вольны час. Але рыхтаваліся і дэсантныя падраздзяленні, часткі і нават злучэнні: «Да канца 1933 года Чырвонае Войска мела адну паветрана-дэсантную брыгаду, чатыры авіямотаатрады, 29 асобных батальёнаў і некалькі рот і ўзводаў агульнай колькасьцю каля 10 тысяч чалавек (ВГЖ. 1982. №10. с. 75).

«У 1938 годзе на базе існаваўшых да таго часу авіядэсантных частак і злучэнняў ствараецца шэсць паветрана-дэсантных брыгад – 201, 202, 204, 211, 212, 214-я» (Намеснік камандуючага ПДВ генерал-лейтэнант К.Курачкін. ВГЖ. 1980. N8. с. 94.) Агульная колькасць шасьці брыгад – 18 000 чалавек (ВГЖ. 1975. №9. с. 81).

Утрымліваць больш баявых частак і злучэнняў – цяжка. Праз гэтыя часткі і злучэнні – прапусьціць толькі некаторых. Астатнія хай працуюць на палях і заводах. Калі будзе патрэбна – іх лёгка ў які заўгодна момант заклікаць пад сьцягі. Кожны з іх ужо падрыхтаваны…

І вось гэты момант наступіў. Вясной 1941 года ў Чырвоным Войску ствараюцца пяць паветрана-дэсантных карпусоў. Кожны корпус уключаў у свой склад кіраванне, штаб, падраздзяленні абслугоўвання, тры паветрана-дэсантныя брыгады, артылерыйскі дывізіён, асобны танкавы батальён (50 танкаў) і іншыя падраздзяленні. Колькасць кожнага корпуса – 10 419 чалавек.

Вось пералік паветрана-дэсантных брыгад (пдбр) у складзе паветрана-дэсантных карпусоў (пдк) на канец траўня 1941 года:

1-ы пдк – генерал-маёр М.А.Усенка – 1, 204, 211 пдбр, Кіеўская вайсковая акруга.

2-і пдк – генерал-маёр Ф.М.Харытонаў – 2, 3, 4 пдбр, Харкаўская вайсковая акруга.

3-і пдк – генерал-маёр В.А.Глазуноў – 5, 6, 212 пдбр, Адэса.

4-ы пдк – генерал-маёр А.с.Жадаў – 7, 8, 214 пдбр, Пухавічы.

5-ы пдк – генерал-маёр І.с.Бязвуглы – 9, 10, 201 пдбр, Даўгаўпілс.

Акрамя таго, 202-я паветрана-дэсантная брыгада заставалася асобнай.

Чытачоў «Ледакола» я пашкадаваў абцяжарваць гэтымі нумарамі, палічыў, хто ж супраць гэтага будзе спрачацца? Але знайшліся недаверлівыя палкоўнікі і генералы. Усумніліся.

А калі я назваў нумары, зноў не верацць: за нумарамі нічога не стаяла – пустышкі; корпусы, маўляў, не ўкамплектаваны.

Я спрачацца не буду. Афіцыйная гісторыя ПДВ за мяне сведчыць сама: «Укамплектаванне карпусоў асабістым складам да 1 чэрвеня 1941 года было закончана» (Савецкія паветрана-дэсантныя. М.: Ваенвыдат, 1986. с. 51).

А можна чытаць не сухую гісторыю ПДВ, а сведчанні ўдзельнікаў падзей. Сведчыць двойчы Герай Савецкага Звязу генерал-палкоўнік Аляксандр Ілліч Радзімцаў, які ў траўні 1941 года атрымаў прызначэнне на пасаду камандзіра 5-й паветрана-дэсантнай брыгады 3-га паветрана-дэсантнага корпуса. У той час Радзімцаў быў палкоўнікам, меў баявы досьвед, ваяваў у Гішпаніі, дзе атрымаў сваю першую Залатую зорку, а ў тыя часы без сур’ёзнай падставы геройскімі зоркамі не кідаліся. Радзімцаў піша: «Мне было наканавана служыць з выдатна падрыхтаванымі ваярамі, красой нашай савецкай моладзі… у асноўным, афіцэрскім, складзе былі майстэрскія парашутысты: кожны з іх меў на рахунку ад пяцідзесяці да сотні скокаў. Брыгада складалася із чатырох асобных парашутна-дэсантных батальёнаў, асобнага артылерыйскага дывізіёна, школы малодшага кірсаставу, асобнай выведваючай роты, асобнай зенітна-кулямётнай роты, асобнай роты сувязі. Узбраеннем, неабходнай матэрыяльнай часткай і парашутамі брыгада была цалкам забяспечана. Выдатны афіцэрскі калектыў, дысцыплінаваны і сяброўскі… Пазьней я пераканаўся – першае ўражанне не было памылковым: кожны із іх у бітвах за Радзіму выявіў высокую самаахвярнасць і адвагу… Брыгада планамерна і дзелавіта праводзіла вучэнні… Мяне цешыла працавітасць маіх парашутыстаў, іхная мужнасць і іхны валявы напал, які лёгка было адчуць у асяроддзі ўпэўненай у сабе моладзі… Увесь час быў заняты падпадрыхтоўкай да скокаў, самімі скокамі, заданнем дэсантавання падраздзяленняў…»

Побач з брыгадай Радзімцава рыхтуецца да баёў «ва ўмовах, найбольш набліжаных да баявых» 212-я паветрана-дэсантная брыгада, нядаўна таемна перакінутая із Далёкага Ўсходу. Радзімцаў паведамляе і пра яе: яе ваяры і камандзіры мелі на рахунку па 100 і нават па 200 скокаў з парашутам, а камандзір, палкоўнік І.І.Зацявахін, здзейсніў не менш 300 скокаў (Тваe, бацькаўшчына, сыны. с. 16-21).

Яшчэ сведчанне. Палкоўнік І.Г.Старчак. Кніга мае назву «З неба – у бой» (М.: Ваенвыдат. 1965). Рэкамендую.

А генерал войска А.С.Жадаў у 1941 годзе быўшы генерал-маёрам, напачатку чэрвеня атрымаў прызначэнне на пасаду камандзіра 4-га паветрана-дэсантнага

корпуса. Вось яго сьведчанне: «Усе брыгады і корпусныя падраздзяленні былі ўкамплектаваны добра падрыхтаванымі ваярамі, матэрыяльнай часткай і ўзбраеннем» (Чатыры гады вайны. М., 1978. с. 14).

Сведчанні пра тое, што ўсе пяць карпусоў знаходзіліся ў поўнай гатоўнасьці да дэсантавання, не пералічыць.

Ад звычайнай баявой падпадрыхтоўкі паветрана-дэсантныя корпусы хутка перайшлі да вельмі вызначанай падпадрыхтоўкі. Пасьля 13 чэрвеня 1941 года былі аддадзены адпаведныя загады і праведзены самыя-самыя апошнія прыгатаванні да выканання баявых заданняў, напрыклад, дзясяткі тысяч парашутаў ужо былі складзены ў раёнах аэрадромаў пагружэння…

Але Гітлер нанёс апярэджваючы ўдар, вызваленне сарвалася, і выкідванне паветраных дэсантаў у тыл суперніка не запатрабавалася. Для ўсіх дэсантных карпусоў стварылася сітуацыя: у абарончай вайне яны непатрэбны. Кіраўнік штаба Паўднёва-заходняга фронту генерал-лейтэнант М.А.Пуркаеў вельмі зразумела патлумачыў палкоўніку А.І.Радзімцаву: «Ды зараз такое становішча, таварыш Радзімцаў, што і без скокаў вельмі лёгка можна апынуцца ў тыле суперніка. Некаторыя нашы часткі і нават злучэнні ўжо знаходзяцца ў атачэнні. А вы збіраецеся скакаць…» (Твае, бацькаўшчына, сыны. с. 29).

Так; у абарончай вайне скакаць нікуды непатрэбна. Патрэбна варожыя танкі спыняць. На гэтую працу і кінуты ўсе пяць карпусоў. Але для дэсантавання (зараз ужо нікому не патрэбнага) усё было падрыхтавана. І парашуты ужо ў раёнах аэрадромаў пагружэння. І вось камандыр 4-га пдк генерал-маёр Жадаў кліча да сябе памочніка кіраўніка аператыўнага аддзела штаба корпуса капітана А.Я.Гарачава:

– Вы ведаеце, таварыш капітан, што такое золата?

Ён быў здзіўлены такім нечаканым пытаннем, але ўсё ж адказаў:

– Уяўляю, але золата ніколі не меў.

– Няпраўда, – кажу я яму, – за кожным чырвонаармейцам і камандырам быў замацаваны парашут. Вось гэта і ёсць наша дзяржаўнае золата. А дзе ляжаць некалькі тысяч парашутаў? У лесе, у адным кіламетры на ўсход ад ракі Бярэзіна. Арганізуйце вываз гэтай каштоўнай маёмасці ў тыл» (Чатыры гады вайны. с. 16).

Да 22 чэрвеня парашуты вывезлі ў лес, а зараз іх патрэбна ратаваць. Генерал войска Жадаў сведчыць, што капітан Гарачаў заданне выканаў – дастаў недзе аўтамашыны і пад кулямётным агнём надыходзячага суперніка вывез парашуты ў бяспечнае месца, за што і быў узнагароджаны ордэнам.

Разбярэм гэты прыклад.

Таварышы дэсантнікі, колькі парашутаў на аднаго чалавека прызначана? Правільна. А на паветрана-дэсантны корпус колькі? А ўлічваючы грузавыя? І ўсе яны перад нападам Гітлера чамусьці апынуліся ў лесе. Навошта?

Адкажуць: ды проста так. Узялі, вывезлі ў лес і там пакінулі.

Гэты адказ не прынімаецца. Калі камандыр дэсантнага батальёна проста так са склада забярэ парашуты і вывезе іх у лес, то яго запытаюць як вышэйшы камандыр, так і падначаленыя: ты гэта чаго?

Парашут – штука далікатная. Дэсантніку вельмі не падабаецца, калі з яго парашутам робяць розныя эксперыменты. Дожджык у лесе, вільготнасць, раса. Нават калі і брызентамі накрылі, усё адно – кандэнсацыя і рознае іншае. Дык вось, на камандыра такога батальёна ў той жа дзень пастуціць у асобны аддзел роўна

столькі даносаў, колькі ў батальёне народу. І камандыра такога батальёна пакараюць сьмерцю за шкодніцтва.

Тым больш такога не даруюць камандыру брыгады. На камандыра брыгады будзе больш даносаў, таму што ў брыгадзе чатыры батальёны, артылерыйскі дывізіён, выведваючая рота і інш. і інш. І ўсё данясуць.

А вывезьці парашуты ўсяго паветрана-дэсантнага корпуса ў лес? Ды ніхто вам гэтага не дазволіць без загаду із Масквы. І калі парашуты цэлага дэсантнага корпуса да пачатку вайны чамусьці апынуліся ў лесе, гэта азначае, на тое была воля Масквы.

А і ў Маскве не ўсё проста. Палічым, што самаму вялікаму дэсантнаму кіраўніку ў галаву стукнула і ён камандыру корпуса шыфраванне стукнуў: ану, Харытонаў (ці Бязвуглы, ці Жадаў), адвязі дваццаць пяць тысяч парашутаў у лес, патрымай іх там, а потым на склад вярні…

Дык не атрымаецца ж: дожджычкам парашуты трохі намочыць – дваццаць пяць тысяч сушыць і перакладаць… Гэта страта боегатоўнасьці. За такое самага вялікага кіраўніка – таксама да сьценачкі паставяць. На такога кіраўніка і камандыры карпусоў данясуць куды патрэбна, і пракуроры карпусоў, і асабісты, і стукачы, якіх у дэсантным войску мае быць больш чым у агульнапрызначаных выпадках… Ды і звычайныя жаўнерыкі прасігналізуюць: шкодніцтва ў наяўнасьці!

А калі парашуты пад небам паляжаць трохі больш прызначанага, то канчаткова сапсуюцца, – тут вышак канчатковы, абскарджанню не падлягаючы.

Ну дык гэта ж, напэўна што, вучэнне ладзілася! І вось перад вучэннямі ва ўсе пяць паветрана-дэсантных карпусоў і паступіў загад вывезьці парашуты ў лясы ў раёны аэрадромаў пагружэння!

І гэтая версія не пройдзе. Самы што ні ёсць, здавалася б, абарончы захад – акопы выкапаць, дык не ж, савецкаму войску ў памежных раёнах гэтага рабіць не загадалі. Зараз тлумачаць: каб Гітлера не справакаваць. Ну добра пагадзімся. А выкінуць на вучэннях непасрэдна каля германскай мяжы цэлы корпус (ці два, ці ўсе пяць) – гэта хіба не правакацыя! Вучэнні вучэннямі, а ў нямецкіх штабах паднімецца паніка: гэта да якой жа вайны рускія рыхтуюцца? І калі вучэнні, дык чаму ж іх у тых жа самых Гарахавецкіх лагерах калі ракі Волга не праводзіць? Гарахавецкія лагеры ці Звянігарад, Тоцкія лагеры за Волгай – гэта традыцыйныя месцы падпадрыхтоўкі савецкіх дэсантнікаў, чаму б там вучэнні не праводзіць? Яно і ад цікавячыхся вачэй далёка, і ад раёнаў, дзе правядзенне вучэнняў з дэсантаваннем цэлых карпусоў будзе выглядаць самай што ні на ёсць правакацыяй. Праводзіць вучэнні каля германскай і румынскай мяжы – гэта было б горш чым якая б то ні было правакацыя. Цікава, што акрамя германскай і румынскай мяжы існуе вялізнай працягласьці мяжа на Далёкім Усходзе, і там вораг – Японія. Але там ніякіх дэсантных карпусоў няма, і ніякіх вучэнняў там не ладзіцца, і парашуты ў тайгу не вывозяць.

А можа, дэсантнікі да абарончай вайны рыхтаваліся? Калі рыхтаваліся да абарончай вайны, то навошта такую каштоўную маёмасць у траўні 1941 года падвезлі туды, адкуль яе пад кулямётным агнём давялося вывозіць пад час першых дзён вайны? Ды і няма куды, як мы высьветлілі, у абарончай вайне скакаць.

А магчыма, рыхтавалася савецкае ўварванне, але на 1942 год?

Вельмі мудра: летам 1941-га вывезьці парашуты ў лясы, там патрымаць, дожджыкам папсаваць, а потым на склады вярнуць! Ці без складоў да 1942 года ў лесе трымаць вырашылі?

І дурасьцю не патлумачыш. У іншых карпусах – тое ж самае. Дэсантны корпус – арганізацыя сакрэтная. Не можа ведаць генерал-маёр Бязвуглы ў Даўгаўпілсе пра тое, што адбываецца ў Харытонава пад Харкавам і ў Глазунова пад Адэсай. І калі ўсе яны дурні, то ва ўсіх дурасць неяк раптам адначасна выявілася – пасьля Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года.

Дык вось яна – прыгатаванасць да вайны. Прыгатаванасць у самай апошняй стадыі.

Адну старонку із кнігі генерала войска А.С.Жадова можна было б выдраць і дадаць да падручніка пачынаючага шпіёна-аналітыка: дваццаць секунд прачытаць тэкст, дваццаць секунд – падумаць, яшчэ дваццаць – выдаць адзіна магчымую выснову. А яна такая: летам 1941 года Савецкі Звяз знаходзіўся ў самай апошняй стадыі прыгатавання перад нанясеннем раптоўнага ўдару.

Гэта адзіна магчымае тлумачэнне. Астатнія іншыя адразу адпадаюць.

Дык што ж, грунтуючыся на стане спраў у адным корпусе рабіць выснову пра ўсё Чырвонае войска?

Так. Менавіта так. 4-ы пдк да 22 чэрвеня відавочна рыхтаваўся да хуткага і непазбежнага дэсантавання, і не вучэбнага, а баявога. Але ці можна адзін паветрана-дэсантны корпус кінуць на Няметчыну, а ўсё Чырвонае войска на месцы пакінуць? Тым больш што не адзін корпус рыхтаваўся да дэсантавання, а адразу ўсе пяць.

Пяць карпусоў – гэта 52 тысячы дэсантнікаў. І адна асобная брыгада, ну 55 тысяч. А дзе ж той мільён?

Паведамляю. Пяць паветрана-дэсантных карпусоў – гэта пачатак. Гэта першая хваля, гэта для першага ўдару. Запланавана было пяць карпусоў разгарнуць вясной 1941 года, іх разгарнулі, і яшчэ пяць – другая хваля – з французскім і гішпанскім ухілам. Іх планавалася разгарнуць летам 1941 года.

Гітлер напаў, дэсантныя корпусы першай хвалі ў абарончай вайне не патрэбны, але механізм быў заведзены і дэсантныя карпусы другой хвалі ўсё адно разгарнулі. Дакладна адпаведна з планам – летам 1941 года.

Вось іх склад у жніўні 1941 года:

6-ы пдк – генерал-маёр А.І.Пастрэвіч – 11, 12, 13 пдбр, Маскоўская вобласць.

7-ы пдк – генерал-маёр І.І.Губарэвіч – 14,15,16 пдбр, Паволжа.

8-ы пдк – генерал-маёр В.А.Глазкоў – 17, 18, 19 пдбр, Маскоўская вобласць.

9-ы пдк – генерал-маёр М.І.Дзянісенка – 20, 21, 22 пдбр, Янаўская вобласць.

10-ы пдк – палкоўнік Н.П.Яноў – 23, 24, 25 пдбр, Паволжа, магчыма, Гарахавецкія лагеры.

Акрамя пяці карпусоў былі створаны пяць асобных манеўраных паветрана-дэсантных брыгад: 1, 2, 3, 4, 5-я.

Карпусы першай хвалі пайшлі пад танкі. Другой хвалі – часткова туды ж. 6-ы паветрана-дэсантны корпус, напрыклад, трымаў абарону пад Нара-Фамінскам у кастрычніку 1941-га (Радыё «Маяк». Масква. 22 снежня 1984 г. 15.50).

Ну, сто тысяч, скажаце. Ну, сто пяцьдзясят, калі палічыць асобныя брыгады і запасныя дэсантныя палкі. Дзе ж мільён?

А мільён мае бронь. Мільён пакуль працуе.

Дзесяць паветрана-дэсантных карпусоў былі прахаднымі дварамі.

Механізм працаваў так: дзясяткі і сотні тысяч людзей у дэсантных карпусах рыхтавалі да дэсантавання. Але наставаў новы крызіс. Патрэбны рэзервы. Сталін загадвае забраць із карпусоў некаторую колькасць дэсантнікаў, стварыць із іх

дывізіі, кінуць у бой, а на іхнае месца імгненна прыходзілі новыя, з якіх здымалі бронь і забіралі ў дэсантныя карпусы. І зноў усё паўтаралася спачатку.

Чырвонае Войска ўвесь час спрабавала наступаць. Немцы гэта ведалі: «Пастаяннае імкненне чаго б гэта ні каштавала наступаць мела наступствам паўтарэнні безперапынных не меўшых поспеху атак і вялікія страты» (Э.Мідэльдорф. Тактыка ў рускай кампаніі. с. 357).

Так было на ўсіх узроўнях, не выключаючы і стратэгічны. Крымскі фронт загінуў, таму што рыхтаваўся да наступлення, а не да абароны. Харкаўская катастрофа – гэта наступленне некалькіх армій. Іх адрэзалі ўдарам у фланг. 2-я ўдарная наступала – яе адрэзалі. 39-я наступала – яе адрэзалі. Разгром 1941 года мае толькі адно тлумачэнне – войска рыхтавалася да наступлення, а не да абароны.

І савецкае дэсантнае войска рыхтавалі толькі да наступлення, да дэсантавання, да дзеянняў у тыле суперніка. Але дзякуючы таму, што Чырвонае Войска ўвесь час спрабавала наступаць, яно несла вялізныя страты. Патрабаваліся рэзервы, і Сталін зноў аддаваў загад забраць тысячы, дзясяткі і сотні тысяч із дэсантнага войска, ператвараць іх у пехацінцаў і без якой бы то ні было падпадрыхтоўкі кінуць пад нямецкія танкі.

А дэсантныя карпусы зноў папаўняліся рэзервістамі, якіх падрыхтавалі яшчэ да вайны.

Калі Гітлер летам 1942 года накіраваў 4-ю танкавую армію на Каўказ, шлях яму загарадзілі два гвардэйскія карпусы. Пра іх афіцыйная гісторыя паведамляе: «Гераічна ваявалі жаўнеры паветрана-дэсантных брыгад, перакінутых на Каўказ летам 1942 года ў склад Паўночнакаўказскага фронту. Із паветрана-дэсантнага войска былі перакінуты 1, 2, 3, 4 і 5-я манеўраныя паветрана-дэсантныя брыгады і 4-ы запасны паветрана-дэсантны полк, якія былі ператвораны ў гвардэйскія стралковыя брыгады і перададзены ў склад 10-га і 11-га гвардэйскіх стралковых карпусоў» (Савецкія паветрана-дэсантныя. с. 180).

Вось яна, разгадка цудаў. Вось адкуль гэтыя корпусы ўзяліся – бралі дэсантнікаў, давалі авансам гвардэйскае званне і імі затыкалі дзіркі.

Генерал-лейтэнант І.Рослы быў генерал-маёрам, ён прыняў пад кіраванне 11-ы гвардэйскі стралковы корпус з загадам спыніць 4-е танкавае войска Клейста. Усё добра: народ – золата. Толькі… толькі абараняцца іх ніколі не вучылі, і цяжкай зброі дэсантнікам не належыць. Паветрана-дэсантнае войска – гэта лёгкая і вельмі гнуткая прылада вайны. Пуга. А танкавае войска – калун. Кідаць дэсантнікаў пад танкі з загадам іх спыніць – гэта спробы пугай абух перабіць. Але што рабіць, калі іншых сродкаў не засталося? Што рабіць, калі войска ёсць, і ў вялікай колькасьці, толькі не для такой вайны яно падрыхтавана?

Генерал-лейтэнант І.Рослы згадвае: «Нехапала артылерыі (зянітнай не было наогул), адсутнічалі танкі, нехапала супрацьтанкавых сродкаў… Я прасіў генерала І.І.Масленнікава ўзмацніць корпус супрацьтанкавымі сродкамі, у тым ліку хаця б адным танкавым батальёнам. На жаль, маё прашэнне было адхілена. Ваяваць патрэбна не колькасьцю, а майстэрствам, з некаторым раздражненнем адказаў ён і сеў у машыну. Я зразумеў, што яму проста не было чаго мне даць» (ВГЖ. 1972. №12. с. 79).

Супраць танкаў – гераічнасць. Супраць атак з паветра – яна ж.

І пад Сталінград пайшлі дзесяць гвардэйскіх стралковых дывізій. Гэта – 130 000 дэсантнікаў. І зноў – абароне не навучаныя, без цяжкай зброі, але – героі… Гэтыя не адыходзілі.

А там жа пад Сталінградам – застаўшыяся жывымі дэсантнікі із карпусоў першай хвалі. 3-і паветрана-дэсантны корпус даўно ператвораны ў 13-ю гвардэйскую стралковую дывізію палкоўніка Радзімцава (а пад Масквой створаны новы 3-і паветрана-дэсантны корпус, у яго набралі ўжо новых дэсантнікаў).

І вось 13-я гвардэйская трымае абарону, але марыць пра тую працу, да якой яе рыхтавалі:

Кожны дзень, кожную гадзіну дужэе мужнасць у нас,
У бой ідуць малайчыны-пехацінцы…
З чорнай свастыкай гад не вернецца назад,
Атрымаўшы із вінтоўкі гасьцінцы.
Калі будзе загад, усё прыгатавана ў нас – з неба смерць панясём акупантам,
Мы згадаем маладосць і парою начной ператворымся паветраным дэсантам.
Мы з адвагай сябруем, таму і моцныя. Мы жалезным знітаваннем ганарымся.
Нас вядзе за сабой камандыр і герой наш таварыш, палкоўнік Радзімцаў.

Марам дэсантнікаў не было наканавана спраўдзіцца. У якасьці паветраных дэсантнікаў у іх так і не атрымалася паваяваць. Іх кідалі пад танкі, пад танкі, пад танкі.

Пра 7-ы паветрана-дэсантны корпус існуюць успаміны генерал-лейтэнанта Н.Дзёміна (ВГЖ. 1978. №2, с. 85-90). Невясёлыя ўспаміны. Рыхтуюць корпус да дэсантавання, і раптам у снежні 1942 года загад вылучыць са складу корпуса некаторую колькасць тысяч дэсантнікаў, сфармаваць дывізію, авансам – гвардэйскае званне, і – наперад на Паўночна-заходні фронт. Заданне – фарсіраваць «Ловаць і рваць шматпалосную нямецкую абарону ў сумна вядомым „Рамушэўскім калідоры“. Ды не адну дывізію туды, а тры: дзьве іншыя са складу 8-га пдк (а корпус як гумовы, колькі заўгодна яго расьцягвай, колькі заўгодна із яго дывізій забірай, а іх усё не меншае).

У тых краях, пад Старой Русай, на Ловаці, ваяваў мой бацька ў 1-м гвардэйскім стралковым корпусе. Ён бачыў дэсантнікаў і распавядаў пра тое, як яны рвалі абарону. Але не будзем паглыбляцца ў сямейныя ўспаміны. Паспрабуем самі ўявіць, што із гэтай задумы магло атрымацца. Прарыў абароны – гэта праца, для якой патрабуюцца цяжкія гарматы: гаўбіцы калібрам пабольш, цяжкія танкі, шмат сапёраў са сваёй адмысловай тэхнікай – агнямётнымі танкамі і танкавымі траламі. Прарыў абароны – гэта шмат мінамётаў і прылад залпавага агню. Для прарыву абароны патрэбны майстэрскія артылерыйскія карэктоўшчыкі і шмат боепрыпасаў. Усё гэта якраз тое, чаго ў дэсантнікаў няма. У дэсантнікаў ёсць толькі адвага. Іх кідалі ў бой, як стаханаўцаў на будаўніцтва маскоўскага метрапалітэна, узбройваючы натхненнем…

А бяздонныя карпусы зноў папаўняліся самым лепшым чалавечым матэрыялам і рыхтаваліся да дэсантавання. І зноў загад, зноў – гвардэйскае званне авансам, і – прарываць абарону ці стрымліваць танкі.

Возьмем якую заўгодна сталінградзкую стралковую дывізію. Адкуль яны? 39-я гвардэйская – із 5-га паветрана-дэсантнага корпуса (Савецкія паветрана-дэсантныя. М., 1986. с. 156). 41-я гвардэйская – із 10-га пдк. 35-ю вы, спадзяюся, памятаеце. Праз шмат гадоў у 35-ай я ўпершыню з гвардэйскімі цудамі спрабаваў разабрацца. 35-я, калі памятаеце, із бяздоннага 8-га пдк.

Таварышы крытыкі, калі недастаткова, я вас падобнымі лічбамі завалю.

І на Курскай дузе пад танкі ішлі дэсантнікі-гвардэйцы. Там манументы стаяць з дакладным пазначэннем, якія гвардэйскія дэсантныя дывізіі стрымлівалі танкавыя кліны. (Зразумела, трымалі разам са штрафнікамі і іншым франтавым

людам). А вось пра 4-ю гвардэйскую армію: «4-я гвардэйская была створана із паўнакроўных паветрана-дэсантных частак» (Генерал войска М.І.Казакоў. Над мапай былых бітваў. М., 1971. с. 182).

Заплюшчым вочы і памяркуем, колькі патрэбна гэтых самых паўнакроўных частак, каб укамплектаваць адну гвардэйскую армію. А потым яе папаўняць. 4-я гвардэйская – на накірунку галоўнага ўдару. На тое яна і гвардэйская. Нездарма ж таварыш Сталін авансам званне гвардэйскае даваў. Ох, нездарма. Ведаў таварыш Сталін: дэсантнікі крывёй (на то яны і паўнакроўныя) аванс выплацяць.

5-й гвардэйскай арміяй кіраваў ужо вядомы нам А.С.Жадаў. Той, які напачатку войны кіраваў 4-м паветрана-дэсантным корпусам і ратаваў парашуты на Бярозіне. Толькі ён зараз у званні павышаны – генерал-лейтэнант. У 5-й гвардэйскай арміі былі не толькі гвардэйскія стралковыя дывізіі, перарobленыя із дэсантных (больш дакладна, проста перамяніўшыя назву), але і чыста паветрана-дэсантныя дывізіі, нават назву не перамяніўшыя. І пад танкі іх, пад танкі, і яшчэ раз – туды ж. Грунтоўная крыніца – «Савецкая вайсковая энцыклапедыя» (т. 2. с. 489): «2 ліпеня 1943 года танкавая дывізія „Адольф Гітлер“ 2-га танкавага корпуса СС здзейсніла ўдар у месца злучэння 95-й гвардэйскай стралковай і 9-й гвардэйскай паветрана-дэсантнай дывізій 33-га гвардэйскага стралковага корпуса…» Гэта цалкам іншая частка Курскай дугі, а гісторыя тая ж: немцы білі із двух накірункаў, дык вось, на другім накірунку галоўнага ўдару немцаў сустрэла зноў жа яна, маці – крылатая пяхота.

А потым – сустрэчная танкавая бітва пад Прахараўкай. З нашага боку – 5-я гвардэйскае танкавая армія Ротмістрава і 5-я гвардэйская армія Жадова. Дэсантнікі…

А чаго ж іх па простым прызначэнню?..

Таму, што «паспяховае выкарыстанне вялікіх дэсантаў немагчыма без поўнага панавання ў паветры ў палосе яго пралёту, у раёне дэсантавання і наступных баявых дзеянняў» (Камандуючы ПДВ генерал-палкоўнік Д.Сухарукаў. ВГЖ. 1981. №7. с. 71).

Гэта было вядома і перад вайной: для выкідвання вялікага дэсанта патрэбна мець не проста перавагу ў паветры і нават не панаванне, а поўнае панаванне, і не толькі над раёнамі пралёту і дэсантавання, але і над раёнам баявых дзеянняў дэсантнікаў. Іншымі словамі, гэтыя шыкоўныя, але ўзброеныя вельмі лёгкай зброяй часткі маглі ўжывацца ў адмысловых умовах. Напрыклад, у вайне, якую мы пачынаем раптоўным знішчальным ударам. Другая магчымасць (пры тым жа сцэнары): для захопу тэрыторый, якія слаба кантраляваліся германскай авіяцыяй – Румынія, Баўгарыя, Югаславія і г.д. Трэцяя магчымасць: ва ўмовах развалу Нямецкай імперыі для захопу вялізных нікім не кантралюемых тэрыторый Францыі, Бельгіі. Галандыі і г.д. Чацьвёртая магчымасць: захоп нікім не кіруемых калоній пераможаных еўрапейскіх метраполій і сяброўскай Брытаніі.

Спробы ж выкідвання корпуса падчас нармальнай вайны, калі ідзе шматгадовае змаганне на роўных з пераменным поспехам, завяршаліся катастрофамі: выкідванне 4-га паветрана-дэсантнага корпуса ў лютым 1942 года пад Вязьмай і Дняпроўскі дэсант 1943 года. Без абсалютнага панавання ў паветры выкідванне вялікіх дэсантаў вырачана на правал.

З гэтага боку гледжання выклікае здзіўленне поўная страта пільнасьці з боку савецкай цэнзуры, якая ў мемуарах маршала Жукава прапусьціла такі пасаж: «Сам характар магчымых баявых аперацый вызначыў патрэбу значнага павелічэння

паветрана-дэсантнага войска. У красавіку 1941 года пачынаецца фарміраванне пяці паветрана-дэсантных карпусоў…» (Успаміны і разважанні. с. 211).

У лютым 1941 года Жукаў быў прызначаны кіраўніком Генеральнага штаба, і пачалося не маючае прыкладаў стварэнне новых вайсковых фармаванняў. Акрамя іншага, у красавіку ствараюцца пяць карпусоў першай хвалі. Як мы зараз ведаем, гэта быў толькі пачатак. Жукаву патрэбна «значна павялічыць ПДВ, грунтуючыся на характары чакаемых баявых дзеянняў». Што ж гэта за магчымыя баявыя дзеянні? «Палявы статут Чырвонага Войска 1936 года» (ПС-36) цалкам выразна вызначаў, што выкарыстанне паветрана-дэсантнага войска магчыма толькі падчас наступальных аперацый і толькі ва ўзаемадзеянні з войскам, наступаючым з фронту (артыкул 7). Але да гэтага можна дадумацца і не зазіраючы ў статут. Дык якія ж магчымыя баявыя дзеянні мае на ўвазе Жукаў?

Калі б Сталін і Жукаў нанеслі раптоўны ўдар па Няметчыне, то з ужываннем ПДВ не было б праблем. Але Гітлер апярэдзіў, Гітлер секануў першым, таму ў Сталіна і Жукава проста няма магчымасьці выкарыстаць нашу дэсантную моц. Усю вайну Сталін чакаў моманту, калі германская авіяцыя будзе канчаткова задушана, і ён зможа кідаць сваіх дэсантнікаў для захопу некіруемых тэрыторый. Усю вайну дэсантныя корпусы атрымлівалі лепшых людзей, якіх яшчэ да вайны падабралі і падрыхтавалі да дэсантавання, але Гітлер гыркаў, і даводзілася зноў і зноў затыкаць дзіркі дэсантнікамі. Напрыклад, так: «36-я гвардэйская стралковая дывізія была сфармавана на базе 9-га паветрана-дэсантнага корпуса адпаведна з загадам Стаўкі ад 31 ліпеня 1942 года… 5 жніўня часткі пачалі пагружэнне ў чыгуначныя эшалоны, хаця фармаванне дывізіі да гэтага часу яшчэ не было завершана: адсутнічаў артылерыйскі полк, некаторыя асобныя падраздзяленні…» (К.В.Акімаў. Ад Волгі да Альп. Баявы шлях 36-й гвардэйскай стралковай Верхнедняпроўскай Чырванасьцяжнай ордэнаў Суворава і Кутузава дывізіі. М.: Ваенвыдат, 1987. с. 4-5).

Таварыш Сталін прынімаў рашэнні начамі. 31 ліпеня – гэта цалкам магло быць бліжэй да поўначы, а то – і за поўнач, г.зн. 1 жніўня. І ад кабінета таварыша Сталіна загад павінен быў прайсьці шмат інстанцый, перш чым патрапіць да камандыра корпуса. І ўжо – гружэнне… Без артылерыйскага палка… Нічога. Пераб'ецеся.

Карпусы вылучалі са свайго складу гвардэйскія дывізіі і зноў папаўняліся новымі людзьмі, рыхтавалі іх да дэсантавання, і зноў трывога, бягом, бягом, па вагонах! Наперад!

І ўсё паўтаралася зноў… У 1944 годзе ствараюцца тры новыя гвардэйскія паветрана-дэсантныя корпусы:

37-ы генерал-лейтэнанта П.В.Міронава; 38-ы генерал-лейтэнанта А.І.Уцьвенка; 39-ы генерал-лейтэнанта М.Ф.Ціханава.

Гэта незвычайныя карпусы. Яны складаюцца не із брыгад, а із дывізій – па тры гвардэйскія дэсантныя дывізіі ў кожным корпусе. У кастрычніку 1944-га карпусы былі аб'яднаны ў Асобную гвардэйскую паветрана-дэсантную армію (Савецкія паветрана-дэсантныя. с. 276).

Яўропа на парозе вызвалення. Таварыш Сталін падрыхтаваўся…

Але Гітлер пад Балатонам здзейсніў удар… І давялося Асобную гвардэйскую паветрана-дэсантную армію перазваць у 9-ю гвардэйскую армію, тры яе карпусы і дзевяць дывізій – у гвардэйскія стралковыя і стварыць апошні цуд вайны… «9-я гвардэйская армія была цалкам укамплектавана добра падрыхтаванымі кадрамі

афіцэрскага, сержанцкага і шэраговага складу, прайшоўшых курс навучання веданню баявых дзеянняў у тыле ворага» (Там жа. с. 277).

Выснова: самыя лепшыя ваяры Савецкага Звязу колькасьцю больш мільёна чалавек рыхтаваліся для аперацый асобнага роду, для дзеянняў у тыле суперніка. Замест гэтага на працягу ўсёй вайны іх раптам без якой бы то ні было падпадрыхтоўкі кідалі на выкананне заданняў, для вырашэння якіх яны не мелі ні адпаведных навыкаў, ні ўзбраення.

ЛЕПШЫ МІЛЬЁН ЗАГУБІЛІ ДАРЭМНА.

Аднак у іншых умовах, а менавіта – пры раптоўным удары нашага войска па германскіх аэрадромах, гэты загадзя адабраны і шыкоўна падрыхтаваны мільён ваяроў уяўляў із сябе самую лепшую прыладу захопніцкай вайны, калі-небудзь створаную чалавекам.

Але як выкінуць мільён ваяроў? Мае крытыкі прывялі жудасную статыстыку: амерыканцы ў 1944 годзе высаджвалі сваіх дэсантнікаў у Нармандыі, для гэтага ім запатрабавалася вялізная колькасць самалётаў і планераў.

Гэта так. Але не будзем параўноўваць. У нас цалкам іншы падыход да вайны. Амерыканцы фарсіравалі Рэйн, і ім запатрабавалася цалкам неверагодная колькасць дэсантна-перапраўляючых сродкаў. А Чырвонае Войска фарсіравала Дняпро «на падручных сродках»: патануў – гэта азначае, дрэнны жаўнер і для Чырвонага войска не прыдатны.

Ці можам мы ўявіць амерыканскае войска фарсіруючае Рэйн плывучы на гімнасцёрках, надутых пузыром? А загараджальныя атрады НКУС кулямётнымі чэргамі ў патыліцу падбадзёрваюць не ўмеючых плаваць…

Мы жылі ў іншым сьвеце. Паветраны дэсант пад Вязьмай у 1942 годзе – гэта 8, 9, 214-я пдбр 4-га пдк і 211-я пдбр 1-га пдк. За шэсць начэй у тыл суперніка было выкінута 7000 дэсантнікаў і 1500 мяккіх кантэйнераў з узбраеннем і баявымі грузамі. Для дэсантавання такой колькасьці дэсантнікаў амерыканцам запатрабавалася б шмат самалётаў. А нам хапіла… 64 самалёты ПС-84 і ТБ-3 (ВГЖ. 1975. №9. с. 82-83).

На працягу вызваленчай вайны ў Яўропе, Азіі і г.д. не ўсіх адразу дэсантнікаў збіраліся кідаць і зусім не на адну Няметчыну. Перад намі ляжалі вялізныя тэрыторыі ад Ціхага акіяна да Індыйскага і ад Індыйскага – да Атлантычнага. Гітлер знішчыў каланіяльныя метраполіі, і патрэбна было толькі прыбраць да рук нічыйныя калоніі. Адну за другой. Адпаведна з чаргой.

Задушыць Няметчыну – і пасьля гэтага ўся наша авіяцыя была б кінута на забеспячэнне высаджвання дэсантаў. Савецкія бамбавікі ДБ-3ф перад вайной адмыслова мадэрнізавалі, каб акрамя бомбаў маглі вазіць дэсантнікаў ці грузы для іх. Тое ж мае дачыненне і да вялізнага флоту бамбавікоў СБ. А савецкія бамбавікі ТБ-1 і ТБ-3 адмыслова ствараліся для падвойнага выкарыстання: і як бамбавікі, і як транспартна-дэсантныя самалёты – 32 чалавекі з парашутамі ці 50 – без. Перад германскім нападам у Сталіна было каля тысячы ТБ-1 і ТБ-3. Тысяча ТБ – гэта 32 000-50 000 чалавек адным рэйсам. Акрамя таго, у Савецкім Звязе былі самалёты Р-5 і У-2. Бралі яны мала парашутыстаў, але было гэтых самалётаў вельмі шмат. Да пачатку вайны Сталін атрымаў із Амерыкі лепшы ў сьвеце транспартна-дэсантны «Дуглас ДС-3» і наладзіў вытворчасць гэтага самалёта ў ЗССР. Яшчэ: пасьля разгрому Няметчыны (ці толькі раёнаў нафтаздабычы ў Плаешці) савецкая прамысловасць магла вырабляць дзясяткамі тысяч планёры канструктара

О.Антонава «Массавы-4» і самалёты ПС84 замест знішчальнікаў Якаўлева і штурмавікоў Іллюшына.

x x x

Аднойчы таварыш Сталін паставіў авіяканструктару А.Якаўлеву баявое заданне – стварыць новы, лепшы ў сьвеце знішчальнік. Тэрмін – тры месяца. Якаўлеў усміхнуўся і ветліва патлумачыў неразумеючаму Сталіну, што ў Амерыцы на стварэнне такога самалёта выдаткуецца два гады. Таварыш Сталін вельмі здзівіўся: «А хіба ж вы амерыканец?»

Шыкоўны знішчальнік быў створаны на працягу прызначанага тэрміна.

Тым, хто згадвае, колькі дэсантных самалётаў запатрабавалася амерыканцам, адказваю:

А хіба ж мы амерыканцы?

# Глава XXI

## Як турэмную пайку параўнаць з крамлёўскім пайком?

«Камуністычная ж ідэя па сваёй сутнасьці сьвятая і вечная».
«Чырвоная зорка». 18 студзеня 1995 г.

А зараз зноў уявім сабе становішча тых прапагандыстаў, якіх падкупілі камуністы і загадалі апаганіць гісторыю Расіі, выпінаючы «непрыгатаванасць». Купленым гісторыкам патрэбна было надрукаваць тысячы кніг, дзясяткі тысяч артыкулаў, але так надрукаваць, каб відавочную дзірку на германскім цяжкім танкабудаванні засланіць. Так патрэбна было табліцы і графікі складаць, каб у графе «Нямецкія цяжкія танкі» было б хоць нешта. Так патрэбна было лічбы размясьціць, каб круглы нуль чытача не бянтэжыў і не выклікаў бы непатрэбных пытанняў.

І камуністычныя гісторыкі выкарысталі другі трук: са статыстыкі 1941 года графу «Цяжкія танкі» прыбралі. Замест яе ва ўсіх даведніках, навуковых трактатах, артыкулах, табліцах і графіках з’явілася толькі графа «Цяжкія і сярэднія танкі». Вось і ўсё. І дзірку засланілі. Спрытнасць рук. Гнуткасць падыходу. У 1941 годзе цяжкіх танкаў у Нямеччыне не было, але статыстыка больш не нічога не паведамляе пра гэта. Наадварот: назва графы «Цяжкія і сярэднія танкі» дазваляе лічыць, што ў Гітлера існуюць як тыя, так і другія. Не трук, а знаходка. Падобным спосабам можна параўнаваць што заўгодна і давесьці, што загадаюць. Напрыклад, Нямеччына не мела барановых кажухоў для сваіх жаўнераў, але камуністы могуць статыстычным фокусам стварыць ілюзію, што кажухі былі. Для гэтага патрэбна лічыць кажухі (якіх не было) і шынялі не паасобна, а ў агульнай графе: «Кажухі і шынялі», і адразу ў статыстыцы з'явіцца шасьцізнакавая лічба. Не было ў нямецкім войску валёнак, а нашы камуністы могуць стварыць ілюзію, што былі: патрэбна ў статыстыцы валёнкі аб'яднаць з ботамі. А можна гэтым спосабам давесьці, што ў Гітлера было шмат золата (на вайне гэта не лішні прадукт), для гэтага «Здабычу золата» і «Вытворчасць сталі» патрэбна аб'яднаць у адну графу і пазначыць агульнай лічбай у мільёнах тон. Нафта – кроў вайны. І з нафтай у Гітлера было не вельмі. Дык вось, камуністычныя гісторыкі, калі запатрабуецца, могуць давесьці, што нафты ў Гітлера было ў дастатку. Для гэтага патрэбна графу «Здабыча нафты» аб’яднаць з графой «Здабыча вугалю». Калі вынік ўсё адно не задавальняе, можна сюды ж дадаць і торф.

Можна пры жаданні такой статыстыкай турэмную пайку зраўнаць з крамлёўскім пайком. Для гэтага ў адной графе аб'яднаць чарняжку і чорную ікру і напісаць: савецкі зэк у сталінскіх лагерах па асноўным рацыёне (гарантыйцы) атрымліваў кожны дзень 450 грамаў чорнай ікры і чарняжкі, 132 грамы вэнджанай асятрыны і рыбы цюлькі з вывернутымі вачамі, 500 грамаў ананасаў, апельсінаў, бананаў і марожанай бульбы са смярдзючай кіслай капустай. І не ўдакладняць пры гэтым, менавіта колькі было чорнай ікры, а колькі чарняжкі.

Я не жартую: за пяцьдзясят гадоў у Савецкам Звязе ніводнага разу не была апублікавана ніводная табліца, ніводзін графік, із якіх бы вынікала, што ў нас былі цяжкія танкі, а ў немцаў іх не было. Ніводны гісторык-камуніст не апублікаваў табліцу, у якой у графе «Цяжкія танкі» стаяла б трохзнакавая лічба для Савецкага Звязу і нуль для ўсіх астатніх краін сьвету.

Прыклад – твор вайсковага гісторыка А.Н.Мярцалава. У 1978 годзе ў кнізе «Заходнегерманская буржуазная гістарыяграфія другой сусьветнай вайны» ён паведаміў, што ў германскім войску цяжкіх і сярэдніх танкаў было ў паўтара разы больш, чым у Чырвоным Войску.

Андрэй Мікалаевіч, патлумачце, менавіта якія германскія цяжкія танкі вы маеце на ўвазе? Тыя, якія на малюначках намаляваны?

Да слова сказаць, Мярцалаў грунтуючыся на нейкіх мяркаваннях, тэрмін «другая сусьветная вайна» піша з малой літары. Як ні круці, імя ўласнае. А яшчэ – дзясяткі мільёнаў людзей па ўсяму сьвету загінулі на гэтай вайне. Чаму б у адзнаку павагі да гэтых мільёнаў не напісаць назву вайны з вялікай літары?

Пагартаем тварэнні генерала войска М.Герэева і абавязкова сустрэнем тыя ж лічбы – у Гітлера 22 чэрвеня 1941 года на Ўсходнім фронце 2800 цяжкіх і сярэдніх танкаў (Мужнасць. 1991. №5. с. 232).

Махмут Ахметавіч, ау, удакладніце тыпы цяжкіх танкаў, якімі меліся ў Няметчыны ў 1941 годзе. І яшчэ: із ліку цяжкіх і сярэдніх, колькі было тых і колькі другіх? Чаму б для цяжкіх танкаў не вылучыць асобны радок? Чаму б не падзяліць вэнджаную асятрыну і сьмярдзючую рыбінку?

А вось палкоўнік В.А.Анфілаў. Ён напісаў шмат кніг абараняючы бітых гітлераўскіх ваяк. Разгарнём якую заўгодна кніжку Анфілава і знойдзем 2800 цяжкіх і сярэдніх танкаў. Напрыклад, «Правал „Бліцкрыгу“ (с. 71).

Зараз паглядзім на Маршала Савецкага Звязу М.В.Агаркава: Мікалай Васільевіч, а ў чым ваша зацікаўленасць? Пад вашым кіраўніцтвам фашысцкая прапаганда ў Савецкім Звязе працавала мацней, чым пры Гебельсу. У вайсковых часопісах Няметчыне 1941 года нічога пра германскія цяжкія танкі не знойдзем. таму што іх не існавала. Яны былі на малюнках, а малюнкі былі сакрэтнымі. У матэрыялах фашысцкай прапаганды таго часу цяжкія танкі не фігуравалі. А ў нашай савецкай пасьляваеннай прапагандзе гэтыя няіснуючыя міфічныя гітлераўскія цяжкія танкі грукаюць і скрыгочуць. Вы каго запалохаць жадаеце, Мікалай Васільевіч? Вашы падначаленыя, таварыш Маршал Савецкага Звязу, малявалі гітлераўцаў больш моцнымі, чым тыя былі на самой справе, больш разумнымі, чым яны самі сябе лічылі.

Маршал Савецкага Звязу В.Р.Кулікоў, і ваша жыццё – служэнне пабітаму гітлерызму, узвышэнне яго і ўсхваленне. Гэта пад вашым мудрым кіраўніцтвам квітнелі прапагандысты надутай гітлераўскай магутнасьці. І вось зараз вы атрымліваеце пенсію ад Расійскай дзяржавы.

Віктар Рыгоравіч, а як вы сябе пры гэтым адчуваеце?

А яшчэ ў нас існуе Акадэмія бранятанкавага войска. І ў гэтай акадэміі 50 гадоў спадары афіцэры пакорліва паўтаралі анфілаўска-мерцалаўскія апавяданні: у Гітлера 2800 цяжкіх і сярэдніх… І кожны год – навуковая канферэнцыя, даклады, рэфераты, у прэзідыуме – высокія госьці.

Спадары афіцэры, на наступнай канферэнцыі хай жа знойдзецца сярод вас адважны, хай запусціць каменем у прэзідыум!

Асабіста ў мяне адвагі на гэта не хапіла. Таму збег. Няўжо ні ў кога із вас не ўзнікае жадання бегчы із гэтай краіны, дзе фашысцкія брахуны пачуваюць сябе больш прывольна, чым у ведамстве доктара Гебельса? Няўжо ні ў кога із вас не ўзнікае жаданне бегчы куды заўгодна, хоць да нячысьціка, і крычаць на ўвесь сьвет, што нас падманваюць.

Існуе і яшчэ адзін трук. Падступствам не саступае папярэднім. Вынайшлі яго савецкія гісторыкі-камуністы В.Рапапорт і Ю.Аляксееў. Яны хваляць: «Цяжкая машына КВ ва ўсякім разе не саступала нямецкім аналогам» (Здрада радзіме. Лондан: «ОРІ», 1989. с. 436).

Як быццам бы хваляць, а ўхвала горшая чым паклёп. Чытае гэтыя радкі чалавек далёкі ад вайсковай гісторыі і перад ім выява: нешта вырабляецца ў нас, нешта ў Няметчыне, існавалі ў нас у 1941 годзе цяжкія танкі, існавалі «нямецкія аналогі», і не асабліва мы адставалі, былі ва ўсякім разе на роўні, а магчыма, нават і трохі наперадзе. Таварышы гісторыкі, а не маглі б вы нам назваць гэтыя самыя «нямецкія аналагі» па імёнах? Ці сумленна параўноўваць серыйны КВ з нямецкім малюнкам? А ў метале не было ва ўсім сьвеце ніводнага аналога. Пра гэта і патрэбна сумленна чытачу сказаць. Першыя два ўзоры нямецкага эксперыментальнага цяжкага танка VK4501 планавалася паказаць Гітлеру пад час яго дня народзінаў – 20 красавіка 1942 года (Armoured Fighting Vehicles of Germany. Spain: «Profile», 1978. P. 119).

Цікава Гітлер да вайны рыхтаваўся: перамагчы Расію загадаў летам 1941-га і да восені не зацягваць, а першы досьледны ўзор цяжкага танка яму павінны паказаць вясной 1942 года. Атрымліваецца, што «нямецкі аналаг» для Расіі нават і не прызначаўся. Яго рыхтавалі супраць нейкіх будучых супернікаў. А Расію чым Гітлер знішчыць намерыўся? Шапкамі закідаць?

Вось і атрымліваецца, што «аналагі» КВ-1 і КВ-2 існавалі толькі ў Сталіна. Гэта былі эксперыментальныя Т100, СМК, КВ-3, КВ-220. У нечым яны саступалі КВ1 і КВ-2, у нечым пераўзыходзілі, але ў Сталіна было із чаго выбіраць. А Гітлер мог выбіраць толькі малюнкі. Скажу больш: калі б Гітлер у 1941 годзе загадаў вырабляць нешта падобнае нашаму «састарэламу», «непаваротліваму» Т-35, вытворчасць якога ў нас была ўжо завершана, то і гэта ў немцаў не атрымалася б. Для стварэння хай нават «састарэлага» Т-35 усё адно патрэбна пачынаць з малюнкаў і чарцяжоў, а потым будаваць досьледныя ўзоры і іх выпрабоўваць, а на гэта патрэбны месяцы і гады, якіх у Гітлера не было. Гісторыя, як вядома, яму адпусьціла занадта мала часу. Ды і адпушчаны час Гітлер выкарыстоўваў своеасабліва; у 1939 годзе пачаў вайну супраць усяго сьвету, а ў 1941 годзе вырашыў пачаць распрацоўку першага цяжкага танка. І гэта мы павінны называць прыгатаванасьцю да вайны?

І яшчэ існуе трук – прызнаць вартасьці КВ, але дадаць з уздыханнем: але было іх усяго толькі 636… І няма той кнігі пра вайну, няма таго навуковага трактата, няма таго папулярнага артыкула, у якіх не гучала б гаротнае ўздыханне гісторыка-камуніста: але было іх усяго толькі… Гэтае ўздыханне і ва ўсёй заходняй

гістарычнай літаратуры адазвалася шматразовым рэхам падзесяцяронай магутнасьці: але было іх усяго толькі… І такой ужо выяўляецца магутнасць друкаванага слова – чытачы шматмільённым уздыханнем адгукнуліся: але было іх усяго толькі…

Тут патрэбна сказаць, што чырвона-фашысцкая прапаганда і гэтым разам падманула. 636 танкаў КВ – гэта на 30 траўня 1941 года. А на 22 чэрвеня 1941 года танкаў КВ-1 і КВ-2 было выраблена 677. Але не будзем дробязнымі. Хай будзе так, як сцвярджаюць камуністычныя агітатары, хай будзе 636 КВ. Але, вымаўляючы гэтую лічбу, няма падставаў гаротна ўздыхаць: ва ўсім астатнім сьвеце ў той момант не існавала ніводнага танка нават аддалена нагадваючага КВ. Гэта па-першае. А па-другое, КВ – у серыі. На 22 чэрвеня ў Сталіна «ўсяго толькі» 636 КВ, але 23 чэрвеня савецкія заводы вырабяць яшчэ, а 24-га дададуць. За другое паўгоддзе 1941 года савецкая прамысловасць вырабіла 965 КВ у дадатак да тых, якія былі ў Чырвоным Войску на 22 чэрвеня, а германская прамысловасць да вытворчасьці цяжкага танка пакуль прыступіць не магла, таму што германскія канструктары працягваюць маляваць. Першыя германскія цяжкія танкі былі выпрабаваны ў баях толькі пад канец жніўня 1942 года. Добрыя былі танкі, магутныя. Згодна з шэрагам параметраў нямецкім канструктарам атрымалася дагнаць і нават перагнаць КВ. Але не па ўсіх. Толькі рух прыносіць перамогу, лічылі Сунь-цзы, Чынгісхан, Батый, Банапарт, Кутузаў, Брусілаў, Гудэрыян, Ватуцін і шматлікія з імі. Дык вось, згодна з тымі параметрамі, якія характарызуюць рухомасць танка: хуткасць па дарогах і па-за дарогамі, праходнасць, запас ходу, манеўранасць, – па ўсіх гэтых характарыстыках КВ дагнаць не атрымалася. Акрамя таго, на КВ дызельны рухавік – моцны, эканамічны, добра працуючы як на марозе, так і пад час спякоты, у дадатак не загараецца, як запалкі ў скрынцы. У Няметчыне, на радзіме Рудольфа Дызелі, такіх рухавікоў не было, даводзілася ставіць карбюратарныя… Да ўсяго гэтага патрэбна дадаць, што і савецкія канструктары не стаялі на месцы: яны ўдасканальвалі КВ і рыхтавалі да выпуску танкі ІС, якія згодна з ўсімі характарыстыкамі да самага заканчэння вайны засталіся недасягальнай марай для канструктараў і генералаў усіх астатніх краін.

Нямецкія канструктары, маючы захопленыя ў баях КВ і Т-34, не здолелі зразумець галоўны «сакрэт» савецкіх танкабудаўнікоў. Нямецкія канструктары, нават маючы перад сабой ўзоры, галоўнага не зразумелі. І памылку паўтарылі – рухавік на карме, а цягавая перадача ў пярэдняй частцы корпуса. Вынік: заказвалі танк роўны 45 тон, дакладна як наш КВ, а атрымаўся «Тыгр» вагой 57 тон.

Новая праблема – як такую вагу па бездарожжу перамяшчаць? Чым большы дыяметр апорных каткоў, тэм лягчэй яны ідуць праз перашкоды. Таму зацікаўленасць канструктара – зрабіць каткі дыяметрам пабольш. З другога боку, для павелічэння праходнасьці і хуткасьці на перасечанай мясцовасьці канструктар зацікаўлены ў тым, каб максімальна павялічыць колькасць кропак падвескі, прасьцей кажучы – дадаць пабольш каткоў. А для гэтага іх патрэбна рабіць дыяметрам паменш. Канструктар вымушаны шукаць сярэдзіну паміж двума процілеглымі вымогамі. Вялікіх каткоў з кожнага боку можна размясьціць 4-5. Калі б вага «Тыгра» была нармальнай, дык гэтага і хапіла б. А вага атрымалася ненармальнай. Патрэбны вялікія каткі і патрэбна іх шмат – 8. І тады нямецкія канструктары вырашылі з кожнага боку наладзіць па тры рады каткоў… Зрабілі каткі танюсенькімі, як талерачкі, і паставілі танк на рады «талерачак»,

размешчаных у шахматным парадку – тры рады з аднаго боку, тры з другога. Ваўкі цэлыя і авечкі сытыя. Атрымалася – у каткоў вялікі дыяметр, і пры руху ўдары аб грунт размяркоўваліся адразу на восем кропак падвескі з кожнага боку…

Толькі за ўсё патрэбна плаціць. Талерачкі псаваліся праз дзьве гадзіны руху па перасечанай мясцовасьці. «Пантэру» таксама на «талеркі» паставілі. І яны таксама псаваліся.

Заплюшчым вочы і ўявім: танкавы батальён здзейсніў двухгадзінны марш, спыніўся, батальёну гусеніцы зняць, каткі замяніць… Вунь колькі марокі. Добра на вучэннях, а як гэта рабіць у танкавай бітве пад Прохараўкай?

А гусеніцы ў «Тыгра» шырачэзныя, вельмі цяжкія. Канструктары не ўтрымалі вагу танка, пагэтаму гусеніцы спатрэбіліся вельмі шырокія. Каб ён, пракляты, у зямлю не правальваўся.

Яшчэ бяда – танк такой вагі рэдка які мост вытрымае. Наплаўныя масты ўсе пад імі правальваюцца, фарсіраваць раку «Тыгр» мог толькі па чыгуначнаму масту: патрэбна было адбіць у суперніка чыгуначны мост, а на тым баку – адбіць станцыю з высокай платформай, далей знайсьці на сваім баку станцыю з высокай платформай, падагнаць туды свае танкі, пагрузіць у эшалон, перавезьці праз раку і на другой станцыі з высокай платформай іх выгрузіць…

Проста?

Не, не ўсё так проста, як вам здаецца. Бяда ў тым, што на шырокіх гусеніцах «Тыгр» на чыгуначную платформу не памяшчаўся.

Таму рашэнне: для «Тыграў» прыдумалі шырокія гусеніцы і вузкія гусеніцы. Ходзіць ён на шырокіх, а вузкія за ім возяць. Вось як гэтыя танкі пад час бою перапраўлялі праз рэкі. Падганялі танк да станцыі з высокай платформай, туды ж падганялі цяжкі грузавік з вузкай гусенічнай стужкай. І яшчэ адзін грузавік – з другой гусенічнай стужкай. Яны хаця і вузкія, а дзьве стужкі ніводзін грузавік не павязе. А трэцці грузавік – з кранам: яны хаця і вузкія, ды рукамі іх з машыны не выгрузіць. Потым усё проста: з «Тыгра» шырокія гусеніцы здымалі, здымалі адзін рад «талерачак», апраналі вузкія гусеніцы і паволі заганялі танк на платформу, імкнучыся на мяккі грунт не выязджаць – на мяккім «Тыгр» на вузкіх гусеніцах праваліцца. Потым грузілі шырокія гусеніцы на грузавікі, заганялі іх на платформы, пераязджалі рэчку, гналі эшалон да іншай станцыі, якую германская пяхота вымушана адбіваць без падтрымкі танкаў. Пасьля гэтага танкі патрэбна разгрузіць, а вузкія гусеніцы замяніць на шырокія. Зноў «Тыгр» ваюе, а тры грузавікі з гусеніцамі і кранам – побач. Калі наперадзе выявіцца рачулка пяць метраў шырынёй, як яе пераехаць? Зноў жа дзьве станцыі патрэбна мець, мост чыгуначны, і ўсё паўтараць спачатку.

У 1941 годзе, зразумела, усёй гэтай дзіва-тэхнікі ў Гітлера яшчэ не было. Усё гэта было толькі ў сьмелых задумах. Выпрабаванні першых германскіх цяжкіх танкаў завяршыліся восенню 1942 года, і ў снежні першы батальён з'яўляецца на фронце.

Батальён прыбыў з лёгкім спазненнем: кола сталінградзкага атачэння ўжо замкнулася. За 1940-1941 гады савецкая прамысловасць вырабіла 1601 цяжкіх танкаў, германская – 0. За 1942 год савецкая прамысловасць вырабіла 2553 цяжкіх танка, германская – 89. Агульны рахунак пабудаваных цяжкіх танкаў на момант сталінградзкага пералому: 89 германскіх і 4154 савецкіх. Калі згадаць «састарэлы» Т-35, то савецкіх цяжкіх танкаў выявіцца нават больш.

Праўда, існавала фундаментальнае адрозненне ў выкарыстанні цяжкіх танкаў. Нямецкая вайсковая навука знаходзілася на вельмі высокім узроўні, германскія генералы разумелі галоўны прынцып стратэгіі – прынцып канцэнтрацыі, але на практыцы не заўсёды яго прытрымліваліся і таму былі вымушаны весьці вайну адразу на некалькіх франтах. Згодна з гэтым яны не маглі ўсе 89 цяжкіх танкаў кінуць на адзін фронт супраць аднаго суперніка: цяжкія танкі даводзілася раскідаць па розных франтах, да Туніса ўключна. А савецкая вайсковая навука не дапускала адступленняў ад прынцыпаў стратэгіі. Таму ўсе 4154 КВ, пабудаваныя да сталінградзкага пералому, былі выкарыстаны на савецка-германскім фронце і ўсе «састарэлыя» Т-35 таксама.

Тут мяне і пераб'юць: чаму ж савецкая перавага не выказалася ў чэрвені сарок першага?

Нагода простая: Чырвонае Войска рыхтавала агрэсію.

У гэтай нагоды шмат вынікаў, і кожны з іх вёў да катастрофы.

Чырвонае Войска рыхтавала агрэсію і таму танкі былі сабраны ордамі каля самай мяжы (дакладна так жа рабілі і немцы, толькі ў нас танкаў было больш). Пры раптоўным удары савецкіх танкістаў перастралялі яшчэ да таго, як яны дабеглі да сваіх танкаў, а танкі спалілі ці захапілі без экіпажаў. (Пры нашым раптоўным удары на тым баку эфект мог бы быць дакладна такім жа, з папраўкай на тое, што танкаў у германскім войску было ў сем разоў менш, чым у савецкім і таму заданне разгрому спрашчалася). Чырвонае Войска рыхтавала агрэсію і таму штабы і вузлы сувязі былі размешчаны каля мяжы. (На тым баку – тая ж выява). Раптоўны ўдар – і масы танкаў засталіся без кіравання.

Чырвонае Войска рыхтавала раптоўны ўдар на 6 ліпеня 1941 года і таму, як перад кожным грандыёзным пачынаннем, ішла ліхаманкавая падрыхтоўка. У танкавым войску гэта выглядае так: гусеніцы перамяняць ці перацягнуць, рухавікі адрэгуляваць, каробкі перадач перабраць, перамяніць каткі, разабраць зброю, а перад правядзеннем прац – боекамплект із танкаў выгрузіць, паліва і масла зліць. (Немцы гэты момант праскочылі ў сярэдзіне чэрвеня.) Раптоўны ўдар па якому б то ні было войску ў такой сітуацыі смяротны. Чырвонае Войска, праўда, было такім моцным і вялізным, што вытрымала нават і гэта. Здарылася вось што: перад тым, як біць звера ў яго ўласным бярлогу, нашы паляўнічыя разабралі зброю для ачышчэння, змазкі, апошняй праверкі, а звер у гэты момант уварваўся ў нашу сядзібу. Менавіта таму Сталін здолеў захапіць толькі палову Няметчыны…

Чырвонае Войска рыхтавала агрэсію, і таму дзясяткі тысяч тон запасных частак для танкаў, сотні тысяч тон танкавага паліва і боепрыпасаў былі назапашаны ў памежнай палосе (тое ж рабілі і немцы, але вядома, у непараўнальна больш сьціплых памерах). Раптоўны ўдар, савецкае войска адышло на некалькі кіламетраў, – і гэта канец: лепшыя ў сьвеце танкі засталіся без паліва, без боепрыпасаў, без запасных частак.

Чырвонае Войска рыхтавала агрэсію, і таму дадатковыя тысячы танкаў таемна перакідаліся чыгуначнымі эшалонамі да мяжы. Вайна заспела эшалоны ў дарозе. Калі перабіць адну рэйку і ваш эшалон спыніўся ў полі, пяхота павыскаквае з вагонаў і пайшла ваяваць, але як з платформы зняць КВ, важачы 47 тон?

Чырвонае Войска рыхтавала агрэсію, а да абароны не рыхтавалася. Савецкія лідары не верылі, што Няметчына здольная напасьці. І ў іх былі дастатковыя падставы так лічыць. Савецкая выведка паведамляла пра стан рэчаў у германскім танкабудаванні. Выснова напрошвалася простая і адзіная: Няметчына да вайны не

прыгатавана і пад час бліжэйшых годоў, пакуль не створыць цяжкіх танкаў, вайну не пачне. Але Няметчына пачала. (Што Гітлеру заставалася рабіць)? Нямецкая авіяцыя нанесла раптоўны ўдар па савецкіх аэрадромах, і гэта мела самыя жахлівыя наступствы. Нават без боепрыпасаў, нават без паліва і запасных частак, нават пасьля страты тысяч танкаў каля мяжы і ў эшалонах магутнасць савецкага танкавага войска была цыклапічнай. Але супернік пануе ў паветры. Савецкія выведніцкія самалёты не могуць узняцца ў неба. А калі і ўзнімаюцца, іх збіваюць. Нашаму савецкаму цыклопу выбілі вока. Без выведніцкіх самалётаў ён не бачыць нічога. Іншыя віды выведкі ў гэтай сітуацыі не дапамогуць: пакуль шпіёны перададуць свае мікраплёнкі… У хуткапрацякаючым танкавым баю патрэбна ведаць менавіта ў дадзены момант, што робіць супернік, куды павярнулі яго танкавыя кліны. Але наш цыклоп сляпы. Ён махае сталёвымі кулакамі і раве ў нямоглай лютасьці. У немцаў было ўзрушаюча мала танкаў, усе нямецкія танкі былі састарэлымі. Але яны былі відучымі, а мы сляпымі.

Ключ да разумення падзей 1941 года патрэбна шукаць і ў канструкцыі нашых цяжкіх танкаў. Вернемся да «састарэлага» танка Т-35. Ствараўся ён як «танк дадатковага якаснага ўзмацнення пры прарыве ўмацаваных палос». Маюцца на ўвазе доўгачасовыя фартыфікацыйныя палосы тыпу «Хейльсбергскага трохкутніка» ў раёне Кёнігсберга ці абарончай лініі па хордзе ізлучыны, утвараемай зліццём рэк Одэр і Варта. Заданне прарываць умацаваныя палосы суперніка планавалася на ліпень, але Гітлер стукнуў раней, і гэтае заданне адпала. Прылада ёсць, а працы, для якой яна створана, няма. Даводзіцца прыладу выкарыстоўваць не па прызначэнню. А вось для хуткапрацякаючага танкавага бою Т-35 не прызначаўся. Ён супраць умацаванняў суперніка, якія стаяць на месцы і нікуды не пойдуць. Ён для спакойнага, разважлівага прагрызання. А ў хуткабягучым баю Т-35 сапраўды непаваротлівы, нязграбны, высокі.

І КВ – гэта танк прарыву. Такую назву афіцыйна і меў. Асабліва яскрава наступальныя характарыстыкі выяўляюцца ў КВ-2. Гэта быў той жа КВ, толькі з вельмі магутным узбраеннем і, зразумела, з другой вежай, у якую гэтае ўзбраенне ўсталёўвалася. КВ-2 створаны на працягу рэкордна кароткага тэрміну (за адзін месяц) падчас «вызвольнай» вайны супраць Фінляндыі. КВ-2 паспеў паваяваць да таго, як гэтая кароткая вайна завяршылася. КВ-2 ствараўся на падставе досьведу прарыву магутных фартыфікацыйных ліній: жалезабетонныя доты скараліся толькі перад гарматамі вельмі вялікага калібру, ды і то, калі іх атрымоўвалася падцягнуць блізка і страляць ва ўпор. Але падцягнуць вельмі блізка гармату вялікай магутнасьці было практычна немагчыма: снайперы, кулямётчыкі, артылерысты суперніка знішчалі разлікі гармат і цягачоў да таго, як гармата паспявала стаць на агнявую пазіцыю. І нарадзілася ідэя паставіць нешта вельмі магутнае на шасі КВ, прыкрыўшы 100-мм бранёй, якая прызначалася для будаўніцтва савецкіх крэйсераў. Гэтую ідэю і ажыццявілі ў КВ-2, паставіўшы на яго самае магутнае, што толькі можна – 152-мм гаўбіцу. Гаўбіца – гэта зброя наступальная, адпаведна з ідэяй. У гаўбіцы крутая навясная траекторыя. Гэта добра, калі мы ідзём наперад, а супернік абараняецца, і нам патрэбна выкурыць яго із траншэй і бліндажоў. А калі мы самі абараняемся, то тады патрэбна спыняць тых, хто ідзе на вас у поўны рост. Для такой працы патрэбна не гаўбіца з навяснай траекторыяй, а гармата – з насьцільнай. 152-мм гаўбіца на КВ-2 – гэта для добрай працы па прарыву. Мэта – бетонны дот. Ён нерухомы. Спяшацца нам няма куды: зарадзілі сваю жахлівую гармату і стукнулі. А вось у абарончай вайне, ва ўмовах хуткаперамяняючагася

бою гаўбіца вялізнага калібру пераваг не мае: яе доўга зараджаць. І снарады на КВ-2 не тыя, што патрэбны ў абарончай вайне. Памятаеце іх: не бранябойныя, спыняць танкі агрэсара, а бетанабойныя. Але не існуе і не можа існаваць на нашай тэрыторыі нямецкіх бетонных пабудоваў. Каб сустрэць такія пабудовы, патрэбна перайсьці памежную раку. Патрэбна ўварвацца ва Ўсходнюю Прусію, там каля Кёнігсберга – жалезабетонныя абарончыя пабудовы суперніка, і на падходах да Берліна, на Зеелоўскіх вышынях. Дарэчы, усе КВ-2 у чэрвені 1941 года былі сабраны там, дзе ім і належала быць: у Літве, каля мяжы Ўсходняй Прусіі.

На сваёй зямлі бетанабойныя снарады цалкам непатрэбны, як і сама 152-мм гаўбіца на танку. Зразумела, пасьля 22 чэрвеня вытворчасць КВ-2 была неадкладна спынена. Не састарэў КВ-2, а проста ў абарончай вайне такой пачвары не знаходзілася працы: у абарончай вайне патрэбны гарматы іншага роду.

Некаторыя гісторыкі працягваюць даводзіць, што Чырвонае Войска не была прыгатавана да вайны. Паглядзіце, кажуць яны, у 1945 годзе савецкія танкі завяршылі вайну ў Берліне, Веню, Празе, Пхеньяне, Порт-Артуры. Ці гэта не сведчанне слабасьці? Спрэчак няма: Сталін завяршыў вайну з вельмі сціплымі вынікамі. Але немагчыма пагадзіцца з тым, што такое развіццё падзей было адзіна магчымым, што Чырвонаму Войску пры якім бы то ні было раскладзе было наканавана завяршыць вайну захопам Берліна і ніяк інакш. У гісторыі бясконцая шматлікасць варыянтаў развіцця, і нам выпаў горшы із іх. А Гітлеру пашанцавала так, як нікому ніколі не шанцавала. Адбылася дуэль без секундантаў, Гітлер стрэліў першым і нанёс Сталіну сьмяротную рану. Уся астатняя вайна – гэта спробы Гітлера дабіць сьмяротна параненага Сталіна. Але моцы ў Сталіна выявілася столькі, што дабіць яго, нават параненага, не атрымалася. Зразумела, што сцякаючы крывёй Сталін завяршыў вайну без асаблівага бляску. Але ў гісторыі існавалі і іншыя магчымыя варыянты: напрыклад, Гітлер адкладае свой удар яшчэ раз, і сам трапляе пад сталінскую сякеру. Таварышу Сталіну падабалася гэтак раптоўна – ледасекам па чарапку. Адзін удар па германскіх аэрадромах – і германскія танкавыя згуртаванні губляюць магчымасць назіраць за раёнамі бітваў. Гучыць парадаксальна, але гэта так: раптоўны ўдар па аэрадромах асляпляе танкавыя дывізіі. Далейшае развіццё падзей уявіць лёгка: удары германскага войска – гэта бой з выбітымі вачамі. У гэтай сітуацыі савецкая танкавая прамысловасць не была б страчана, і вытворчасць танкаў, уключаючы цяжкія, магла б быць невымяральна большай, чым яна была.

Нагадаем, Савецкі Звяз перад вайной меў тры цэнтры вытворчасьці танкаў – Ленінград, Сталінград, Харкаў. Кожны із іх паасобку перавышаў сумарную магутнасць усіх астатніх танкавых заводаў сьвету. Але мы зведалі раптоўны ўдар і страцілі на мяжы стратэгічныя запасы, авіяцыю, танкавае войска, артылерыю, а застаўшыся без іх – страцілі данецкі вугаль, запарожскі алюміній і сталь Днепрадзяржынска, страцілі амаль усю ваенную прамысловасць, уключаючы адзіны ў сьвеце завод танкавых дызеляў, які знаходзіўся ў Харкаве. Ужо ў ліпені 1941-га пастаўкі дызеляў із Харкава спыніліся. Піцер не быў страчаны, але блакаваны, а ў блакаваным горадзе, без сталі і энергіі, пра якую танкавую вытворчасць магчыма ісьці гаворка? Сталінград таксама не быў страчаны, але вакол адбываліся такія падзеі, якія не вельмі спрыялі рытмічнай працы «трактарнага» завода. Так што чатыры тысячы КВ, пабудаваныя да карэннага пералому вайны, – гэта чыстай вады імправізацыя. Гэта той самы мінімум, які прамысловасць дала ў стане самай жахлівай із усіх тэарэтычна магчымых сітуацый

пасьля спынення ці страты ЎСІХ танкавых заводаў, пасьля поўнага спынення вытворчасьці танкавых дызеляў. Чатыры тысячы КВ – гэта тое, што атрымалася пабудаваць пасьля перамяшчэння танкавай вытворчасьці на Урал і ў Сібір, дзе зборка КВ у лістападзе сарок першага ішла на марозе пад голым небам. Паспрабуйце перанесьці Дэтройт на Аляску і пачніце там вытворчасць. Давайце перанясём мартэнаўскую печку ці стан для пракаткі брані, скажам, на сто метраў налева ці направа і пасьля таго паспрабуем наладзіць вытворчасць. Так што чатыры тысячы КВ – гэта катастрафічны мінімум. Пры якім бы то ні было іншым раскладзе савецкіх цяжкіх танкаў было б больш.

А 89 германскіх цяжкіх танкаў, пабудаваных да сталінградскага пераломy, – гэта максімум, што немцы здолелі наладзіць пры самых спрыяльных абставінах, якія толькі можна ўявіць. У якой бы то ні было іншай сітуацыі, напрыклад пры страце энергетычных рэсурсаў Румыніі, германская вытворчасць была б меншай.

x x x

Такім чынам, вайна была кантынентальнай, г.зн. танкавай. Цяжкія танкі сярод іншых танкаў мелі тое становішча, якое баксёры цяжкавагавікі маюць сярод усіх астатніх баксёраў: калі цяжкавагавік на рынгу, баксёру якой бы то ні было іншай вагавай катэгорыі там рабіць няма чаго. Гітлер, без сумневаў, меў шыкоўнае войска і ўзбраенне. Але давайце прызнаемся хаця б самім сабе: у вырашаючай вобласьці – у цяжкім танкабудаванні – у Сталіна ступень прыгатаванасьці да вайны была трохі вышэй, чым у Гітлера.

Гісторыкі запэўніваюць нас, што Сталін не мог напасьці на Гітлера ў 1941 годзе, таму што ў яго яшчэ не ўсё было прыгатавана да вайны. Раней усяго «з мінімальнымі шанцамі на поспех» – у 1942 годзе. Пагадзімся. Але тады зразумеем і Сталіна, які бачыў германскую «прыгатаванасць» да вайны і таксама ніяк не хацеў верыць, што Гітлер здольны напасьці ў 1941 годзе. Яшчэ раз параўнаем лічбы і запытаем у гісторыкаў: а ў якім годзе Гітлер мог бы напасьці «з мінімальнымі шанцамі на поспех»? Вайсковая навука патрабуе, каб нападаючы меў мінімум трохразовую перавагу магутнасьці. У адваротным выпадку напад ператвараецца ў авантуру. У адваротным выпадку нападаючы рызыкуе закончыць тым, чым закончыў Адольф Гітлер. Запытаем гісторыкаў: у якім годзе Гітлер мог мець трохразовую перавагу ў вобласьці цяжкага танкабудавання?

Некаторыя гісторыкі папракаюць Сталіна ў блізарукасьці: хіба цяжка было здагадацца, што задумаў Гітлер? Калі ў траўні 1941 года германскія канструктары пачалі маляваць эскізы першага германскага цяжкага танка, гэта азначае, у чэрвені пачнецца ўварванне? Няўжо незразумела?

Але ў блізарукасьці патрэбна ўпікаць не Сталіна, а некаторых гісторыкаў: у Сталіна ў 1941 годзе цяжкія танкі ўжо намаляваны, створаны ў метале, выпрабаваны на палігонах і ў баях, пушчаны ў серыю, паступілі на ўзбраенне войска і начамі таемна перакідаюцца да германскай мяжы. Браты гісторыкі, хіба цяжка здагадацца, што задумаў Сталін?

# Глава XXII

## Якія танкі лічыць лёгкімі?

«Вясной 1941 года Гітлер аддаў загад паказаць савецкай вайсковай дэлегацыі нашы танкавыя заводы і навучальныя

цэнтры. Гітлер асобна падкрэсліў, што патрэбна паказваць,
нічога не хаваючы. Савецкія афіцэры, агледзеўшы ўсё,
катэгарычна адмовіліся верыць, што танк T-IV з'яўляецца
нашым самым цяжкім танкам. Яны ўвесь час паўтаралі, што
мы хаваем ад іх нашы найновыя танкі».
Генерал-палкоўнік Г.Гудэрыян (Panzer Leader. London:
«Futura», 1974. P. 143)

Галоўнае для гісторыка – факты. Для агітатара – інтанацыя.

Камуністычныя гісторыкі часта падалі з вышынь навуковага аналізу ў нізіны гарлапанства. Яны выказваліся пра «лёгкія і састарэлыя» савецкія танкі такім пагардлівым тонам, што ва ўсіх сфармавалася ўстойліва-грэблівае стаўленне да іх. А пра германскія танкі яны не паведамлялі нічога. Стваралася ўражанне: у Сталіна – лёгкія і састарэлыя, у Гітлера – цяжкія і навейшыя. Падобнага эфекту гарлахваты і дамагаліся.

Мы ўжо высьветлілі, што ў 1941 годзе ЎСЕ танкі Гітлера былі састарэлымі. Дадам: і ўсе былі лёгкімі. Мы з імі разбяромся. Зараз пакуль – пра лёгкія сталінскія танкі.

Сапраўды, у Сталіна сярод іншых было шмат лёгкіх танкаў. Але няма нічога ў тым дрэннага. Танк – прылада. Прылада для працы.

Кувадла больш цяжкая за малаток, хіба із гэтага вынікае, што яна лепшая?

Існавала праца, для якой лепш кувадла, а існавала – для якой лепш малаток.

Танк у дваццатым стагоддзі выконваў тую ж ролю, што і кавалерыя на працягу ўсіх папярэдніх стагоддзяў. Кавалерыя традыцыйна падзялялася на цяжкую і лёгкую. Здавалася б, цяжкая лепш чым лёгкая: вялізны звышчалавек, на вялізным кані, увесь у брані, і конь – у брані, у правай руцэ дзіда – траіх насадзіць можна, як конікаў на іголку, у левай – непрабіваемы шчыт…

А вось мангольскі коннік: маленькі конік, вершнік – не гігант, ніякай бранявой абароны, узбраенне – лук ды крывая шабелька.

Чынгісхан заваяваў неаглядныя абшары і пакарыў шматмільённыя народы толькі з дапамогай лёгкіх вершнікаў. Цяжкіх рыцараў у яго не было. Яны Чынгісхану былі не патрэбны. І вось чаму. У тактыцы мы перамагаем зброяй. Для бою нам патрабуюцца магутная зброя і цяжкая браня. А ў стратэгіі мы перамагаем манеўрам.

Але як мог мангольскі ваяр змагацца з гераічным рыцарам? Адказ: ён быў не такі дурны, каб змагацца. У яго перавага ў хуткасьці, манеўранасьці і, калі жадаеце, у запасе ходу. Ён мог за суткі прайсьці столькі, колькі ніводны рыцар не пройдзе. І таму коннік Чынгісхана мог манеўрам перамагчы каго заўгодна. Рыцары прыгатаваліся да бою, а лёгкія мангольскія вершнікі бой не прымалі, яны проста абыходзілі рыцараў бокам і рабавалі іхны абоз, спальвалі ззаду масты, гарады і вёскі. Маючы перавагу ў рухомасьці, мангольскія вершнікі мелі магчымасць у кожны момант стукнуць у фланг, у тыл, а ў выпадку паразы – проста адысьці, адарвацца. Мангольскія вершнікі маглі знаходзіцца каля суперніка, вымотваць яго, але заўсёды быць недасягальнымі. Як цыганчукі на кірмашы: маленькія, нахабныя, спрытныя, вёрткія, мурсачкі паказваюць, а паспрабуй хаця б аднаго злавіць.

Так дзейнічала мангольскія вершнікі каля моцнага суперніка: заўсёды побач, заўсёды недасягальныя, але яе наяўнасць вымотвала, як рой гнаявых мух. Рухомасць лёгкай конніцы азначала, што манголы вакол кожнага войска заўсёды маглі атруціць студні, спаліць стагі, спустошыць гарады і вёскі, самі ж заўсёды маглі хутка адысьці туды, дзе ёсць вада і харчаванне.

Лёгкі танк у бою супраць цяжкага танка – гэта як мангольскі вершнік супраць закутага ў браню рыцара. Лёгкаму не выгарыць. Але калі вы задумалі бліцкрыг, то галоўнае патрабаванне для танка – не звышмагутнае ўзбраенне і не цяжкая браня, а рухомасць, хуткасць, запас ходу. Цяжкая браня і магутнае ўзбраенне вам толькі будуць перашкаджаць.

Зараз разбяромся з вагой германскіх танкаў. Папярэджваю: нічога не зразумеем пакуль не высьветлім папярэдне, што з'яўляецца лёгкім танкам, сярэднім і цяжкім.

Адзінай міжнароднай класіфікацыі ніколі не існавала. Кожная краіна карысталася сваёй. Але нават і ў той жа самай краіне погляды перамяняліся, і тое, што ўчора лічылася цяжкім танкам, сёння магло лічыцца сярэднім і г.д.

Вось што із гэтага атрымалася: амерыканскі танк М24 – 18,3 тоны; германскі танк Т-IIIА – 15,4 тоны.

Амерыканскі танк лічыцца лёгкім, а маючы меншую вагу германскі – дапасуецца да разраду сярэдніх.

У 1941 годзе германскае войска сустрэла ў баю савецкія танкі КВ-1 вагой 47 тон. У германскіх дакументах гэты танк мае назву звышцяжкі. Праз два гады на ўзбраенне германскага войска паступіла «Пантэра» – 44,6 тоны. Вагавая розніца з КВ-1 невялікая. Адпаведна з логікай «Пантэра» таксама павінна атрымаць назву звышцяжкі танк. Але ніхто яе так не называе. У крайнім выпадку, яе варта было б назваць цяжкім танкам. Але камуністы настойваюць на тым, каб «Пантэру» лічыць за сярэдні танк.

Амерыканскі танк М26 (баявая вага 41,7 тоны) – цяжкі, а больш цяжкая за яго «Пантэра» цяжкім танкам не лічыцца.

Атрымалася, што ў германскім войску Т-IIIА вагой 15,4 і «Пантэра» вагой 44,8 (а самы масавы варыянт – 45,5 тон) патрапілі ў адну катэгорыю сярэдніх танкаў. Уявім: адзін баксёр важыць 50 кг, а яго супернік – 150 кг, утрая больш, але абодва лічацца ў адной вагавай катэгорыі.

Брытанскі эксперыментальны танк «Індэпендэнт» – 32 тоны, яго дапасуюць да разраду цяжкіх, французскі Б-1біс – 32 тоны, цяжкі. Наш Т-34-85 – 32 тоны, сярэдні.

У пытанні вагавых катэгорый ніхто парадку не навёў. Чырвоная прапаганда гэтым скарысталася.

Нам патрэбна стварыць агульную сістэму адліку. Не мае значэння, якую менавіта. Важна – адзіную. Найлепш – тую, якая існавала ў гады вайны ў Амерыцы. Мы разважаем пра савецкія і германскія танкі, таму амерыканскія стандарты як бы нейтральная сістэма – нікому не крыўдна. Брытанскую скарыстаць немагчыма – брытанскія танкі падзяляліся не адпаведна з вагой, а адпаведна з прызначэннем на пяхотныя, крэйсерскія і г.д. Іншыя краіны не выраблялі танкі ва ўсім спектры вагавых катэгорый, таму ўласных сістэм класіфікацыі не мелі. Выкарыстанне амерыканскай сістэмы больш зручна і дзякуючы таму, што яна была простай і лагічнай: усе танкі да 20 тон – лёгкія, да 40 – сярэднія, да 60 – цяжкія. Выкарыстанне Амерыкай метрычных тон для класіфікацыі сваіх танкаў было выклікана тым, што амерыканскім танкам было наканавана дзейнічаць галоўным чынам у Яўропе, дзе масты дзялілі на класы праз 20 тон. З амерыканскай сістэмай было прасьцей усяго працаваць: перад намі 40-тонавы мост – гэта азначае, па ім пройдуць усе танкі, акрамя цяжкіх. Амерыканская сістэма была зручнай для перавозкі танкаў на караблях, паромах, чыгуначных платформах: 20-тонавая

платформа – на ёй можна перавозіць усе лёгкія танкі, але ніякія больш… Выкарыстанне амерыканскай сістэмы вельмі спрашчала разлікі пры пракладанні вайсковых дарог, навядзенні перапраў, наплаўных мастоў і г.д.

Калі камусьці не падабаецца амерыканская сістэма, можна выкарыстаць якую заўгодна іншую, толькі, цур, для ўсіх адну.

Зараз паглядзім на танкі Гітлера. У 1941 годзе ў яго былі танкі чатырох тыпаў: T-I, T-II, T-III, T-IV.

T-I паступіў на ўзбраенне ў 1934 годзе. Баявая вага – 5,4 тоны. Экіпаж 2 чалавекі. Узбраенне – гармат няма, 2 кулямёты. Браня супрацькулевая – 13 мм. Рухавік – 100 к.м. Хуткасць – 40 км/гадз. Запас ходу 170 км.

T-II паступіў на ўзбраенне ў 1936 годзе. Баявая вага – 7,6 тон, на наступных узорах – да 10 тон. Экіпаж 3 чалавекі. Узбраенне – гармата 20-мм і адзін кулямёт. Рухавік – 140 к.м. Браня супрацькулевая, на першых узорах – 13 мм.

T-IIIA паступіў на ўзбраенне ў 1937 годзе. Баявая вага – 15,4 тоны. Узбраенне – гармата 37-мм і два кулямёты. Браня – 15 мм. Рухавік – 250 к.м. Хуткасць – 35 км/гадз. Запас ходу – 165 км.

T-IV паступіў на ўзбраенне ў 1937 годзе. Баявая вага – 18,4 тоны. Рухавік– 250 к.м. Браня – 15 мм. Хуткасць – 31 км/гадз. Запас ходу – 150 км. Узбраенне – 75-мм. караткаствольная гармата і два кулямёты.

Выснова: усе германскія танкі былі лёгкімі. Усе – вагой да 20 тон. А T-I і T-II – вельмі лёгкімі. Усе мелі супрацькулевую браню і слабое ўзбраенне. Ніводны із іх не мог быць выкарыстаны супраць танкаў суперніка. Здавалася б, T-IV добра ўзброены. Гэта не так – 75-мм гармата – мела кароткі ствол, такім чынам, нізкую пачатковую хуткасць снарада і высокую траекторыю. Для змагання з танкамі гэтая гармата не была прыдатнай, такой і не задумвалася – гэта для падаўлення кулямётаў і лёгкай артылерыі.

Вось з гэтымі танкамі Гітлер і пачаў Другую сусьветную вайну.

На 31 жніўня 1939 года танкавы парк Няметчыны змяшчаў некалькі соцень трафейных чэшскіх лёгкіх танкаў і 2977 танкаў германскай вытворчасьці. У тым ліку: 1445 танкаў T-I, 1223 – T-II, 98 – T-III, 211-T-IV.

Выснова: Няметчына пачала Другую сусьветную вайну, маючы смешную колькасць дрэнных танкаў.

Адпаведна з дзіўнай германскай класіфікацыяй танкі T-III і T-IV лічыліся сярэднімі. Гэта тыповая гітлераўская туфта. Ніякімі намаганнямі танкі вагой 15 тон з супрацькулевай бранёй і 37-мм гарматай у разрад сярэдніх не зацягнеш, як не зацягнуць туды і танк вагой 18 тон з караткаствольнай 75-мм гарматай. Але калі нават і назваць гэтыя танкі сярэднімі, то і тады выява вымалёўваецца дзікая, то і тады пачынанне Гітлерам Другой сусьветнай вайны немагчыма патлумачыць.

На 1 верасня 1939 года ў Гітлера: цяжкіх танкаў – 0; так званых «сярэдніх» танкаў – 309; вельмі лёгкіх танкаў – 2668.

Ну а трафейныя чэшскія?

Не спяшаецеся, дойдзем да іх і пасмяёмся.

І вось выступае Маршал Савецкага Звязу С.Ф.Ахрамееў (ВГЖ. 1991. №4. с. 31) і распавядае гісторыі пра тое, што Савецкі Звяз наогул ні да чаго не быў прыгатаваны і ў 1939 годзе быў вымушаны ратавацца з дапамогай дыпламатычнага манеўра – пакта Молатава-Рыбентропа: «Пры адсутнасьці гэтай дамовы Савецкі Звяз выявіўся б зацягнутым у вайну ў 1939 годзе ва ўмовах яшчэ больш няпрыдатных, чым у 1941 годзе».

Гэту пужалку нам гераічныя маршалы распавядалі на працягу 50 гадоў: калі б Молатаў 23 жніўня 1939 года не падпісаў пакт пра пачынанне Другой сусьветнай вайны, то Гітлер напаў бы на Польшчу, разграміў бы яе ў верасні і пайшоў бы далей без спынення да Менска, Смаленска, Масквы, Куйбышава і далей, і далей, і далей.

Жудасна.

Таму, хто не разумее.

Запярэчым. Па-першае, дакладна ўсталявана, што загад на распрацоўку плана нападу на Савецкі Звяз быў аддадзены Гітлерам 21 ліпеня 1940 года. Да гэтага тэрміну ніякіх планаў вайны супраць Савецкага Звязу і нават тэарэтычных распрацовак германскія генералы не мелі. Такім чынам, жахі Сталіна былі неабгрунтаванымі (калі такія наогул існавалі).

Па-другое, падпісаўшы са Сталіным пакт пад канец жніўня, Гітлер павінен быў выдаткаваць верасень на разгром Польшчы.

А потым напасьці на Савецкі Звяз у кастрычніку? Нападаць са смешнай колькасьцю танкаў, палова із якіх важылі па 5 тон і мелі толькі кулямётнае ўзбраенне? А другая палова была не нашмат лепшай за першую.

Нападаць у кастрычніку і па нашых дарогах перціся да Масквы на танках, пераважная колькасць якіх мае рухавікі магутнасьцю 100-140 к.м.? Ці далёка па нашаму бруду яны заедуць? А потым – лістапад. А за лістападам вядома што ідзе. І зноў паўстае пытанне пра зімовую змазку, пра танкавае паліва, якое не распадаецца на марозе, і зноў жа – пра барановыя кажухі. Але нават калі б Гітлер (не маючы планаў) адважыўся напасьці на Сталіна ў кастрычніку 1939 года, то зрабіць гэтага не мог: бліцкрыг у Польшчы азначаў практычна поўнае выдаткаванне мотарэсурсаў усіх германскіх танкаў. Падымем яшчэ раз мемуары германскіх танкавых генералаў: мотарэсурс быў вычарпаны, таму ЎСЕ германскія танкі вярнулі на заводы для капітальнага рамонту. Пачынаючы з кастрычніка 1939 года да лютага 1940 года германскае танкавае войска існавала, але… без танкаў.

Так што, зусім не сталінскім перапалохам дыктавалася падпісанне дамовы пра пачатак Другой сусьветнай вайны. Хай маршалы іншае тлумачэнне шукаюць.

Зараз згадаем, што ў 1939 годзе Чырвонае Войска мела 2595 бронеаўтамабіляў, вялікая частка із якіх была ўзброена 45-мм гарматамі, а гэтыя гарматы прабівалі які заўгодна германскі танк. Ўжо толькі гэтай магутнасьці было дастаткова, каб спыніць якое б то ні было германскае ўварванне.

Акрамя таго, Чырвонае Войска мела ў 1939 годзе каля 9000 танкаў Т-26 з такой жа супрацькулевай бранёй, як і ў германскіх танкаў, з такімі ж прыкладна хадавымі характарыстыкамі, але з больш высокай агнявой магутнасьцю – яны мелі 45-мм гарматы і 2-3 кулямёты. Калі бронеаўтамабілі не лічыць, то адных толькі танкаў Т-26 з гакам хапала, каб знішчыць германскую танкавую магутнасць, і дастаткова хутка.

98 гітлераўскіх 37-мм гармат на танках Т-III супраць 9000 сталінскіх 45-мм гармат на танках Т-26 – пагадзімся, сталінская Непрыгатаванасць да вайны выглядае неяк дзіўна на фоне гэтай арыфметыкі.

Але ў нямецкага Т-IV – 75-мм караткаствольная… Не забаімся і гэтага: існаваў адпаведны варыянт і ў нас, ён меў назву Т-26А – артылерыйскі. Ён быў узброены 76-мм караткаствольнай гарматай. На 1 міліметр у нас больш. Дробязь, але прыемна.

Дарэчы, у Сталіна таксама былі танкі, узброеныя толькі кулямётамі, – Т-37 і Т-38. Адрозненне толькі ў тым, што сталінскія кулямётныя танкі былі плаваючымі, гітлераўскія – не. Ва ўсім астатнім сьвеце ніводнага плаваючага танка ў той час не існавала. Адных толькі плаваючых кулямётных танкаў у Сталіна было ўтрая больш, чым у Гітлера не плавальных кулямётных.

Акрамя усяго, у Сталіна танкі БТ. Іх вытворчасць пачалася ў 1932 годзе. Гітлера яшчэ не было ва ўладзе. І ніякіх танкаў у Няметчыне наогул не існавала. Першы танк гэтай вартай ухвалы серыі – БТ-2. Ён важыў 10 тон, меў браню 13-мм, 37-мм гармату і 1-2 кулямёты. Адпаведна з гэтымі характарыстыкамі ён адпавядаў лепшаму, што меў Гітлер у 1939 годзе. А згодна з хадавымі характарыстыкамі ён рэзка перавышаў усё, што было ва ўсім астатнім сьвеце. Яго рухавік меў згодна з тым часам жахлівую магутнасць – 400 к.м. Гэтая магутнасць яшчэ больш падкрэслівалася малой вагой танка. А мы памятаем – не таму малая вага, што браня тонкая (у Гітлера – не лепш), а таму што рацыянальна размешчаны рухавік і цягавая перадача.

Накладанне моцы 400 к.м. на малую вагу давала ўдзельную магутнасць 40 конскіх магутнасьцей на кожную тону вагі. І калі паклёпнікі распавядаюць пра нашу дурасць і непрыгатаванасць да вайны, пярэчыць не будзем, а для сябе пазначым: НІВОДЗІН ТАНК У СЬВЕЦЕ НА ПРЫКАНЦЫ 20-ГА СТАГОДДЗЯ ДА ГЭТЫХ ПАКАЗЧЫКАЎ ПАКУЛЬ НЕ ДАЙШОЎ.

Створаная ў 1943 годзе хвалёная гітлераўская «Пантэра», якую некаторыя дзякуючы недасьведчанасьці называюць лепшым танкам Другой сусьветнай вайны, мела 700 к.м. на 45 тон вагі. Палічыце ўдзельную магутнасць. А «Каралеўскі тыгр» меў 700 к.м. на 68 тон вагі.

І калі чырвоная прапаганда пераконвае нас у тым, што танкі БТ мелі хуткасць усяго толькі 70 км/гадз., то я не спяшаюся з гэтым згаджацца. Мы да гэтага яшчэ вернемся.

У 1933 годзе замест БТ-2 пачалося вырабніцтва танка БТ-5. Удасканаленне: замест 37-мм гарматы – 45-мм. У 1939 годзе, прыйшоўшы на зямлю Польшчы, Гітлер яшчэ не меў такіх гармат, як на нашых Т-26 і БТ-5 напачатку трыццатых. Што да брані, то БТ-5 быў раўны з германскімі танкамі, а згодна з хадавымі якасьцямі перавышаў іх так, што ні Няметчына і ніводная краіна сьвету не здолелі з гэтымі характарыстыкамі зраўнацца тады, як не здолеюць зраўнацца і напачатку 21-га стагоддзя.

У 1935 годзе Савецкі Звяз пачынае вытворчасць БТ-7. Браня павялічана да 22 мм, вага павялічылася да 13,8 тоны, магутнасць рухавіка – да 450 к.м. Існаваў варыянт БТ-7А з 76-мм караткаствольнай гарматай.

Было выраблена каля 600 БТ-2, 1900 БТ-5 і 4600 БТ-7.

І гэта не ўсё. У Сталіна ў 1939 годзе існавалі не туфтовыя, як у Гітлера, а самыя сапраўдныя сярэднія танкі Т-28. Яны важылі 32 тоны, мелі рухавікі 500 к.м. – самыя магутныя ў сьвеце ў той час, браню 60 мм (пасьля вайны ў Фінляндыі – 80 мм), 76-мм гармату, але не караткаствольную, а сапраўдную, і гэта выводзіла Т-28 адпаведна з агнявой магутнасьцю на першае месца ў сьвеце. Гармат такой магутнасьці ні ў каго ў той час на танках не існавала. Як не было такой брані і такога рухавіка. Акрамя таго, Т-28 меў 5 кулямётаў. Гэтых танкаў было выраблена каля 600 штук. Толькі адны гэтыя танкі былі больш мацнымі за ўсё германскае танкавае войска. 600 Т-28 рэзка перавышалі гітлераўскія так званыя сярэднія танкі ва ўсім.

Далей, у Сталіна былі сапраўдныя цяжкія танкі Т-35, пра якія ўжо была гаворка раней. Т-35 меў пяць веж і як бы спалучаў у сабе агнявую магутнасць сярэдняга трохвежавага Т-28 і двух танкаў БТ-7.

Гэта не ўсё – у 1939 годзе Савецкі Звяз пачаў вырабляць танкі БТ-7М. Баявая вага – 14,65. Галоўнае паляпшэнне – дызельны рухавік магутнасцю 500 к.м. Хуткасць – 62 км/гадз. на гусеніцах, на колах – 86 км/гадз. (Гэта афіцыйныя лічбы. У другой частцы кнігі я выкажу асобную думку на гэты конт: хуткасць была вышэй.) Запас ходу 400 км, на колах – 900.

І ужо на самы канец – на прыканцы 1939 года быў прыняты на ўзбраенне КВ, а потым і Т-34.

Калі ў вас хопіць цярпення, то аднойчы мы дойдзем і да авіяцыі, і да падводных лодак, і да артылерыі, перавага ў якой у Сталіна была знішчаючай.

Нават калі не лічыць савецкіх цяжкіх гарматных бронеаўтамабіляў, то і тады ў 1939 годзе супраць 98 германскіх 37-мм танкавых гармат у Сталіна было 600 такіх жа гармат на БТ-2, 15 500 больш магутных 45-мм танкавых гармат на Т-26, БТ-5 і БТ-7. Супраць 211 караткаствольных 75-мм гітлераўскіх танкавых гармат у нас – 600 76-мм даўгаствольных на танках Т-28 і 60 – на Т-35 і, акрамя таго, невядомая, але вялізная колькасць 76-мм караткаствольных на Т-26А і БТ-7А.

Гэта на 1 верасня 1939 года. У верасні Няметчына ваявала ў Польшчы і несла страты, танкі зношваліся, нават калі і не траплялі пад агонь суперніка. Чырвонае Войска ў Польшчы практычна не ваявала. Чырвонае Войска здзейсніла толькі пераможны марш. Гітлер кінуў у Польшчу ўсе свае танкі, а таварыш Сталін – малую частку ад сваёй бязмежнай колькасьці. На 1 кастрычніка 1939 года ўсе танкі Гітлера патрабавалі рамонту і абслугоўвання, а танкі таварыша Сталіна – не патрабавалі.

Кожны, хто сам усё гэта палічыў, прыходзіць да адзінай і няўхільнай высновы: у 1939 годзе Сталін меў магчымасць задушыць Няметчыну.

Тады пытанне, чаму ж?…

Адказ: не для таго таварыш Сталін Гітлера гадаваў, каб яго душыць раней тэрміну.

Але лямант не сціхае: Сталін быў напалоханы германскай вайсковай магутнасьцю! Загіпнатызаваны! Сталін напасьці не мог! Сама раней – у 1942 годзе, з мінімальнымі шанцамі на поспех! Перавышаючая германская тэхнічная перавага! Мы не маглі ваяваць з Няметчынай, мы маглі абараніць сябе толькі дыпламатыяй! Аддаючы Польшчу на разарванне Гітлеру, мы ратавалі сябе! Нам нічога не заставалася рабіць, толькі прыкрыцца Польшчай!

На фоне гэтага маршальскага лямanту ўся танкавая статыстыка паварочваецца супраць нас. Маршал Ахрамееў даводзіў, што мы ваяваць у 1939 годзе былі не ў стане. Пры перавышаючай якаснай і 160-разовай колькаснай перавазе па асноўных танкавых ствалах мы (згодна з Ахрамеевым) баяліся ваяваць!

Самы час быў сказаць: ну гэты Ахрамееў і ваяка! (А з ім заадно – Кулікоў, Язаў, Агаркаў, Майсееў, Грачоў і іншыя.) Але так пра нашых паркетна-кабінетных ваякаў не выказваюцца. Кажуць пра ўсіх нас: ну гэтыя рускія і ваякі!

На фоне гэтай статыстыкі і заяваў Міністэрства абароны пра немагчымасць з такой магутнасьцю абараніць Савецкі Звяз непазбежна (нікуды нам ад гэтага не дзецца) узнікае пытанне пра разумовыя і фізічныя здольнасці нашага народа.

Пра паўнавартаснасць.

Пытанне ўзнікае, і на яго ўвесь час даюць адказ са зразумелай ухмылкай: чалавечы фактар, хіба маглі рускія супраць немцаў… Адзін немец з вінтоўкай мацнейшы чым сто рускіх з танкамі.

Нью-Ёрк, газета «НРС» ад 26 чэрвеня 1989 года. Пачынаецца артыкул з фатаздымка. Дакладна так, як у Альфрэда Розенберга – тэарэтыка расавай перавагі немцаў над славянамі: здымак – жаўнеры Чырвонага Войска з тупымі фізіяноміямі. Пагадзімся, пры жаданні із мільёна твараў можна выбраць адно тупое мурло. Сэнс каментара: ці здольны яны ваяваць? Далей у тэксце шмат усяго цікавага, напрыклад, пра нашы танкі: «БТ-7 быў узброены вартай жалю 45-мм гарматкай і двума кулямётамі таксама невялікага калібру – 7,62 мм».

Пачнём з кулямётаў: на германскіх танках на прыканцы XX-га стагоддзя – па два кулямёты калібру 7,62 мм. І гэтага пад канец стагоддзя ім дастаткова. Але калі больш 50 гадоў назад па два такіх кулямёта стаялі на савецкіх танках БТ, – гэта азначае (адпаведна з думкай «НРС»), танкі былі састарэлымі, а ўзбраенне недастаткова магутным.

Цікавая заява «НРС» пра 15,000 45-мм «вартых жалю гарматак» на савецкіх танках – у Гітлера і сотні 37-мм не набралася. Атрымліваецца, у Гітлера 37-мм – не вартыя жалю.

У Сталіна, акрамя 45-мм, існавалі даўгаствольныя 76-мм на Т-28 і Т-35 і ужо былі прыгатаваны ў серыю КВ і Т-34 з яшчэ больш доўгімі 76-мм стваламі, а ў Гітлера ў гэты час не было ні храна!

Гітлеру патрэбна было яшчэ паўтары года, каб аддаць загад канструктарам пачаць маляваць цяжкі танк.

Так мы і жывём, і над нашымі «вартымі жалю гарматкамі» смяюцца… і над нашымі жаўнерамі з тупымі мурсамі.

Спадары із газеты «НРС», нехта Альфрэд Розенберг з таго ж пачынаў – публікаваў мурсы палонных савецкіх жаўнераў і запытваў: ці здольны яны? Фашысты ўжывалі той жа прыём: із мільёнаў патрапіўшых у палон вышуквалі патрэбныя асобнікі. Самыя агідныя мурсы – публікавалі.

І ўсё ж, спадары, Альфрэд памыліўся.

І дрэнна скончыў.

Запярэчаць, ці варта звяртаць увагу на нейкую газетку ў Нью-Ёрку?

Варта. У гэтай газеткі – даўняе і чуллівае сяброўства з Міністэрствам абароны ЗССР і цэнтральным органам, з нашай роднай «Зорачкай». Галоўны рэдактар «НРС» нават выступаў на яе старонках. І ўвесь бруд, які з'яўляецца ў «НРС», потым няўхільна з'яўляецца і ў нашай шануемай вайсковай газеце: «старэнькі БТ-7М» («Чырвоная зорка» 4 лістапада 1994 г.). Танк, прыняты на ўзбраенне ў 1939 годзе і выраблены заводам у 1940 годзе, – у 1941 годзе ўжо старэнькі. А гітлераўскі Т-І выраблены ў 1934 годзе; ён прайшоў усю гітлераўскую перадваенную паказуху, усе парады і вучэнні, потым прайшоў Аўстрыю, Чэхаславакію, Польшчу, Нарвегію, Францыю, Югаславію, Грэцыю, – ён навенькі. У нас на БТ-7М дызельны рухавік магутнасцю 500 к.м., які да канца вайны так і застаўся марай для ўсіх танкавых камандыраў усіх краін, ён для «Чырвонай зоркі» – старэнькі. А гітлераўскі карбюратарны магутнасьцю ў пяць разоў менш для «Чырвонай зоркі» – навенькі. Т-І у статыстыцы яны ўлічваюць, а наш «старэнькі» выкрэсліваюць, а з ім разам Т-28, Т-35 і інш. і інш. і інш. І 4000 плаваючых савецкіх танкаў выкраслілі як старэнькія. Ва ўсім астатнім сьвеце ніводнага

плаваючага танка няма, вось іх наша Міністэрства абароны, мабыць, і лічыць новенькімі.

І тут жа (куды ад гэтага дзецца?) на старонках «Чырвонай зоркі» – пытанне пра нашу разумовую паўнавартаснасць. Не толькі пытанне, але і адказ. «Чырвоная зорка» 19 чэрвеня 1993 года пра Чырвонае войска напярэдадні вайны: «Кіраўніцтва войска складалася із неадукаваных і нават невуцкіх людзей… Вышэйшы кіруючы склад у якасным дачыненні непаўнавартасны… Афіцэрскі корпус можа быць у агульным ахарактарызаваны падобным жа чынам… жаўнер недастаткова знаходлівы і кемлівы…» і г.д. і г.д.

У нас наперадзе вялікая размова пра тое, ДЗЕ такога нахапаліся таварышы із «Чырвонай зоркі». (У дадзеным выпадку – крыніца проста скандальная: вайсковая выведка ЗША. Наша цэнтральная вайсковая газета пакорліва паўтарае кожную паскуднасць амерыканскай выведкі, падкрэсліваючы, што крыніца – самая што ні на есць годная даверу.) Зараз гэта паскудства публікуецца па ўсяму сьвету. Калі б гэтую брыдоту апублікавала сама амерыканская выведка ад свайго імя, то над дурной выведкай смяяўся б увесь сьвет, – кожны разумее, што амерыканская выведка ў дадзеным выпадку, мякка кажучы, памылілася. Але калі хутка гэты бруд апублікаваны не амерыканскай выведкай, а цэнтральным органам… то зараз гэта можна цытаваць у падручніках і дысертацыях. Са спасылкай ужо не на амерыканскую выведку, а на «Чырвоную зорку» – рускія самі такое сцвярджаюць!

Калі б такое паскудства з'явілася ў вайсковай газеце кожнай нармальнай краіны, то міністру абароны дэпутаты парламента набілі б пысу і выкінулі з сёмага паверха, натоўп спаліў бы рэдакцыю, а вайсковых журналістаў гэтай газеты патрыятычна наладжаныя грамадзяне вешалі б на ліхтарах.

А ў нас прабачылі.

Генералу войска Грачову: вы б, Павел Сяргеіч, часьцей – пра свае здольнасьці, больш толку было б, ды пра разумовыя здольнасьці тых задрапаваных пад рускіх афіцэраў разумнікаў із «Чырвонай зоркі», якія сваю краіну і свой народ лайном пэцкаюць.

Але мы, здаецца, адышлі ад галоўнага пытання.

Пра што мы?

Пра фашысцкія танкі.

У траўні 1940 года разгром Францыі быў здзейснены таксама галоўным чынам з дапамогай лёгкіх танкаў. Згодна са сведчаннямі генерал-палкоўніка Г.Гудэрыяна, у аперацыі бралі ўдзел 2574 танкаў. У тым ліку – 1908 лёгкіх і 666 сярэдніх. Але сярэднія зноў жа – гэта адпаведна з дзіўным нямецкім стандартам.

Танкі кожнага тыпу будаваліся серыямі. Ад серыі да серыі вага павялічвалася.

У траўні 1940 года T-IIIF важыў 19,8 тон. Ён меў усё тую ж 37-мм гармату. (Гэта толькі ў нас – вартыя жалю 45-мм гарматкі, а ў немцаў – грозныя гарматы.) Самым «цяжкім» пры разгроме Францыі быў T-IVD – роўна 20 тон. Ён усё так жа меў 75-мм караткаствольную гармату. Усе T-IV папярэдніх серый да 20 тон не дацягвалі.

На савецкую тэрыторыю 22 чэрвеня 1941 года германскае войска ўступіла, маючы 439 T-IV і 965 T-III (S.Zaloga & J. Grandsen. The T-34 Tank. London: «Osprey», 1980. P.5).

Астатнія былі лёгкімі.

Сярод Т-IV самымі цяжкімі на 22 чэрвеня 1941 года былі машыны серыі F – 22,3 тоны. Астатнія серыі танкаў гэтага тыпу важылі менш.

Сярод танкаў Т-III самымі цяжкімі былі машыны серыі J – 21,5 тоны.

Перад уварваннем вялікая частка танкаў Т-III была пераўзброена 50-мм гарматай, хаця заставаліся і танкі гэтага тыпу з 37-мм гарматай.

Ага! Радасна ўсклікнуць крытыкі, яны такі перавалілі праз мяжу 20 тон, і зараз іх можна лічыць сярэднімі?

Не спяшайцеся. Танкі былі народжаны лёгкімі; калі іх паступова давялі да мяжы сярэдніх, то із гэтага зусім не вынікае, што яны сталі лепшымі. На іх навешалі дадатковую браню, а за гэта патрэбна плаціць хуткасьцю, запасам ходу, праходнасьцю. Запас ходу быў відавочна незадавальняючым, дзякуючы гэтаму ззаду ім чаплялі бочку на колах з першагатункавым бензінам. Бочка цалкам ніяк не была абаронена. Калі цягнуць па нашай роднай савецкай дарозе бочку на колах, то ад гэтага хуткасць танка і яго праходнасць ніяк павысіцца не здольна. Зноў жа – выпадковыя кулі ў баю лётаюць, аскепкі… Такія фокусы праходзілі там, дзе супраціўлення не чакалася.

На большасьці Т-III паставілі 50-мм гарматы, вось зараз-та… Зноў не. Пачынаючы з 1939 года прайшоў час. Пакуль Гітлер павольна ўдасканальваў свае недасканалыя танкі, савецкія танкабудаўнікі вырабілі 700 «старэнькіх» БТ-7М і шмат іншых дзіўных машын, накшталт навейшага плаваючага Т-40, а акрамя усяго іншага – здзейснілі рэвалюцыю ў танкабудаванні, выпусьціўшы КВ і Т-34.

Ні 37-мм, ні 50-мм, ні, тым больш, 75-мм караткаствольная не прабівалі цяжкі КВ, як і сярэдні Т-34. Генерал-маёр Д.І.Асадчы ваяваў на КВ. Меркаванне франтавіка: «Без перабольшвання можна сказаць, што на долю кожнага КВ прыпадала па дзясятку і больш знішчаных варожых машын» (ВГЖ. 1988. №6. с. 54). Так што 677 сталінскіх КВ самі па сабе без чужой дапамогі цалкам перавышалі ўсё германскае танкавае войска.

Без розніцы – 37-мм гарматы на гітлераўскіх танках ці 50-мм, усё адно яны КВ не прабівалі. Я не згадваю пра розную спадарожнічаючу гітлераўскую кулямётную дробязь.

Акрамя таго, у Сталіна 22 чэрвеня было 1363 Т-34. Калі б не было нічога іншага, ні БТ, ні КВ, ні Т-26, то гэтыя танкі ўсё адно былі больш моцнымі за ўсе нямецкія танкі разам узятыя. Генерал-лейтэнант Д.Рабышаў: «40 танкаў суперніка бесперашкодна прарваліся ў раён кіруючага пункта 12-й танкавай дывізіі. Генерал Т.А.Мішанін накірваў супраць іх 3 КВ і 4 Т-34. На дапамогу ім я выправіў 3 КВ. Умела дзейнічалі экіпажы 10 танкаў, яны здолелі знішчыць усе 40 прарваўшыяся танкі. Самі страт не мелі дзякуючы таму, што танкавыя гарматы фашыстаў не прабівалі лабавую браню нашых цяжкіх і сярэдніх танкаў» (ВГЖ. 1978. №6. с. 72).

Сярэднія Т-34 маглі паспяхова дзейнічаць і без падтрымкі КВ.

Нямецкія генералы гэта падмацоўваюць. Генерал-лейтэнант Г. Блюментрыт: «37-мм і 50-мм гарматы… бездапаможныя супраць танкаў Т-34… Патрабавалася, на крайні выпадак, 75-мм гармата, але яе яшчэ толькі патрэбна было стварыць» (Фатальныя рашэнні. Зборнік. с.93).

Гэтая заўвага з'яўляецца цікавай вось чым: германскі генерал лічыць, што 75-мм танкавую гармату з нармальным ствалом яшчэ толькі патрэбна было стварыць, а 75-мм кароткаствольныя гарматы на танках Т-IV, з якімі германскае танкавае войска ўступіла на савецкую тэрыторыю, ён наогул гарматамі не лічыць.

Ён мае рацыю: калі із танкавай гарматы немагчыма страляць па танках суперніка, то што ж гэта за гарматы?

Так што гарматамі можна лічыць толькі 37-мм і 50-мм танкавыя гарматы. Дакладна такія ж ствалы меліся і на ўзбраенні германскіх супрацьтанкавых падраздзяленняў. Падпалкоўнік Э.Мідэльдорф: «Супрацьтанкавая абарона, без сумневаў, з'яўляецца самай сумнай часткай у гісторыі нямецкай пяхоты. Шлях пакут нямецкай пяхоты ў змаганні супраць рускіх Т-34 ідзе ад 37-мм супрацьтанкавай гарматы, празванай у войску „выбівачкай“, праз 50-мм да 75-мм супрацьтанкавай гарматы на механічнай цязе. Магчыма, так і застанецца да канца невядомым, чаму на працягу трох з паловай гадоў з моманту першага з'яўлення танка Т-34 не было створана адпаведнага супрацьтанкавага сродку пяхоты» (Тактыка ў рускай кампаніі. с. 23).

Такім чынам, існавалі 37-мм гарматы на германскіх «сярэдніх» танках, іх замянілі на 50-мм – ад гэтага нічога не змянілася.

У 1941 годзе ў Гітлера не было цяжкіх танкаў, але ў яго не было і сярэдніх. У Сталіна сярэдні танк Т-34, ён прабівае германскія «сярэднія» з якой заўгодна дыстанцыі, а германскія танкі цалкам не здольны змагацца з Т-34. Дык якія ж яны пасьля гэтага сярэднія і каму яны такія патрэбны?

Але T-III і T-IV усё ж такі перавысілі мяжу 20 тон, яны важаць 21 і 22 тоны, таму чыста фармальна мы можам палічыць іх сярэднімі?

Не, не магчыма. Я нездарма марнаваў паперу і час раней, каб патлумачыць простую рэч – іхная канструкцыя была нерацыянальнай, таму па некалькі тон яны на сабе цягалі проста дарэмна. Калі б іхная канструкцыя была больш рацыянальнай, то гэтыя лішнія тоны скінуліся б і яны на законнай падставе апусьціліся б туды, дзе ім і належала б быць, – у разрад лёгкіх танкаў.

Выснову паўтараю: на 22 чэрвеня 1941 года ўсе германскія танкі былі не толькі састарэлымі, але ўсе яны былі да таго ж і лёгкімі.

x x x

Чую падкалупваючае пярэчанне: а вось акадэмік Анфілаў піша, што гітлераўскі T-III важыў не 21 тону, а 38 тон.

Пярэчанне зразумеў.

Акадэміка высяку.

# Глава XXIII

## Пра 38-тонавыя танкі

«Як ні дзіўна, нягледзячы на знішчаючую паразу, у ФРГ менш бэсьцяць гітлераўскае кіраўніцтва і фашысцкае войска, чым у нашай краіне сваё войска-пераможцу».
Генерал войска М.Гарэеў «Мужнасць». 1991. №5. с. 276

Калі ў маіх супернікаў вычэрпваюцца аргументы, яны карыстаюцца апошнім і вырашаючым: ты ж не прафесійны гісторык, у цябе няма ступеняў, званняў і прэмій, а паглядзі на нас…

Шчыра кажучы, ёсць на што паглядзець. Пазіраю – зайздрошчу: ордэны, зіхацячыя пагоны, генеральскія паласатыя парткі… Адкрыю таямніцу: я так сама жадаю мець ордэны, званні і паласатыя парткі.

Суцяшаю сябе тым, што паласатыя парткі – не самае галоўнае ў навуцы. Суцяшаю сябе тым, што для мільёнаў чытачоў пытанне пра парткі, якія носіць

аўтар, не самае галоўнае. Суцяшаю сябе тым, што паласатыя парткі яшчэ не гарантыя таго, што іхны ўладальнік выяўляе дастаткова стараннасьці, угрызаючыся ў граніт вайсковых навук. Прыклад: генерал войска Махмут Ахметавіч Гарэеў, былы намесьнік кіраўніка Генеральнага штаба па навуковай працы, доктар вайсковых навук, прафесар, сапраўдны сябра Акадэміі прыродазнаўчых навук РФ, прэзідэнт Акадэміі вайсковых навук. Генерал войска М.А.Гарэеў скончыў Вайсковую акадэмію ім. Фрунзе з залатым медалём і Вайсковую акадэмію Генеральнага штаба – з залатым медалём, а на генеральскай шыі – вялізная зорка із золата і плаціны, абсыпаная дыяментамі. Генерал войска Герэеў быў самым высокім кіраўніком нашай вайсковай навукі і яе ўвасабленнем. Ён здзейсніў вялікі асабісты дадатак да яе развіцця. Галоўным чынам генерал войска Гарэеў распрацоўваў пытанні вайсковай гісторыі і, у прыватнасьці, – пачатковы перыяд савецка-германскай вайны.

Паглядзім жа на яго працы.

У якасьці прыкладу – праца М.Герэева «1941 год – пачатак войны» ў зборніку «Мужнасць», №5 за 1991 год.

Генерал войска Гарэеў адпаведна са сваім становішчам меў доступ да ўсіх вайсковых сакрэтаў. Становішча, якое ён займаў у нашай вайсковай іерархіі і вайсковай навуцы, тытулы, якія ён носіць, дазвалялі спадзявацца, што генерал войска напіша нешта вельмі незвычайнае.

І ён напісаў.

Не будзем звяртаць увагу на дробязі: генерал войска Гарэеў піша тэрмін «Звяз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік» у жаночым родзе: «…выступіць супраць ЗССР тады, калі яна будзе паслаблена ў германа-савецкай вайне». Гэта можа быць проста апіскай ці памылкай друкавання. Шкада, што ў генеральскім творы такія апіскі і памылкі друку – у багацці і з пераборам.

Але немагчыма палічыць за апіску згадванне пра 28 дывізій Другога стратэгічнага эшалона (с. 241), якія пад прырыццём Паведамлення ТАСЗ пачалі таемнае перамяшчэнне да заходняй мяжы. Дзесяцігоддзямі паведамленні пра 28 дывізій плавалі із аднаго выдання ў другое. Афіцыйныя гісторыкі проста перапісвалі лічбу адзін у аднаго да таго часу, пакуль яна не ператварылася ў абсалютную, неаспрэчваемую праўду. Ніхто проста не знайшоў часу самому палічыць гэтыя дывізіі. Дакладна тым жа шляхам пайшоў і генерал войска Гарэеў. У «Ледаколе» я давёў, што дывізій у Другім стратэгічным эшалоне было не 28, а 77. Зараз кідаю закліканне на бой. Але не бярэ генерал бою. Ухіляюцца.

Генерал войска Гарэеў вельмі памыліўся з дывізіямі. Ён прапусьціў 49 із 77. 49 – гэта ўтрая больш, чым у амерыканскім войску пад час самага піку «халоднай вайны». Але прабачым генералу дывізіі. Адна дывізія – 10-15 тысяч жаўнераў. Прапусьціў 49 дывізій – не будзем дробязнымі. Прабачым. Але генерал не знайшоў часу палічыць нават і карпусы. Прабачым і гэта.

Але ён не лічыў і арміі. Ён іх проста блытае. Яны для яго маюць аднолькавы выгляд: абмовіўшыся ці памылкова напісаўшы іншы нумар, ён гэтага не заўважае. Блытаць 16-ю армію з 10-й – гэта то ж самае, што блытаць Леніна з Гітлерам: згодзен, было шмат агульнага, але былі ж і некаторыя адрозненні!

На старонцы 255 генерал арміі Гарэеў паведамляе, што 16-я армія знаходзілася ў Беластоцкім выступе… Кожны, хто цікавіцца гісторыяй, ведае, што 16-я ніколі ў Беластоцкім выступе не ваявала. 16-я – гэта знакамітая штрафная армія. Першым яе камандуючым быў генерал-лейтэнант Міхал Фёдаравіч Лукін.

Гэтая армія была таемна створана ў 1940 годзе. У траўні 1941 года ў становішчы самай строгай сакрэтнасьці армію пагрузілі ў эшалоны і павязлі на Ўкраіну, у раён Шапятоўкі. Папярэджваючы германскі ўдар заспеў 16-ю армію, як і шматлікія іншыя арміі, карпусы і дывізіі, у чыгуначных эшалонах…

На 240-й старонцы генерал паведамляе, што ў складзе Другога стратэгічнага эшалона было чатыры арміі: 16, 19, 21 і 22-я. Атрымліваецца, што 16-я апынулася адначасова і ў Першым стратэгічным эшалоне ў Беластоцкім выступе, і ў Другім стратэгічным эшалоне. Назваўшы чатыры арміі ў Другім стратэгічным эшалоне, генерал з нейкай нагоды прапусьціў 20-ю армію. Зусім не патрэбна быць намесьнікам кіраўніка Генеральнага штаба і мець доступ да вельмі сакрэтных архіваў, каб прыгатаваць мапу для кожнай арміі і пазначаць там кожнае згадванне пра яе. Можна нават не апускацца на ўзровень генеральскіх мемуараў, можна лунаць на вышынях маршальскіх мемуараў: там пра кожную армію матэрыялаў у дастатку. Адсылаю прафесара Герэева да ўспамінаў маршала артылерыі В.І.Казакова, які ў 1941 годзе быў генерал-маёрам артылерыі, кіраўніком артылерыі 7-га мехкорпуса. Маршал артылерыі В.І.Казакоў у складзе кіраўніцтва свайго корпуса 26 чэрвеня 1941 года прыбыў у Смаленск: «У Смаленску нас сустрэлі камандуючы 20-ай арміяй генерал-лейтэнант Ф.Н.Рэмізаў, кіраўнік штаба генерал-маёр Т.Ф.Карнееў і кіраўнік артылерыі генерал-маёр артылерыі В.С.Бадроў. Штаб гэтай арміі быў створаны на базе былой Арлоўскай вайсковай акругі і прыбыў у Смаленск незадоўга да нас» (с. 7).

Праўда, цікава? Да Паведамлення ТАСЗ ад 13 чэрвеня 1941 года існавала Арлоўская вайсковая акруга, якой кіраваў генерал-лейтэнант Рэмізаў, кіраўніком штаба быў генерал-маёр Карнееў, а кіраўніком артылерыі акругі генерал-маёр артылерыі Бадроў. Але вось прагучала дзіўнае Паведамленне ТАСЗ пра тое, што мы на Нямеччыну нападаць не збіраемся, і раптам узнікае 20-я армія, якой раней не было, увесь кіруючы склад акругі перайшоў у склад гэтай арміі, пакінуўшы Арлоўскую вайсковую акругу без кіраўніцтва. Гітлер толькі напаў, а 20-я армія ўжо таемна створана, пагружана ў эшалоны, перакінута пад Смаленск і разгружаецца. У іншых вайсковых акругах адбываліся такія ж дзіўныя падзеі. Не меншае здзіўленне выклікае тое, што намеснік кіраўніка Генеральнага штаба генерал войска М.Гарэеў піша навуковую працу пра «непрыгатаванасць» Сталіна да вайны, але ў сваім апісанні прапускае не толькі дзясяткі карпусоў і дывізій, а цэлыя арміі. Ахвотна веру, што генерал войска М.Гарэеў генеральскіх мемуараў не чытаў. Але хоця б мемуары маршалаў вы, Махмут Ахметавіч, чыталі? Веру ў тое, што вы не гатавалі не толькі тэчачак, але нават і мапак на брыгады, дывізіі і карпусы, але на арміі вы павінны ж былі зрабіць! Дык жа не адну армію вы прапусьцілі ў сваім апісанні.

Вы з нейкай нагоды прапусьцілі 24-ю армію генерал-лейтэнанта Калініна і 28-ю армію генерал-лейтэнанта Качалава.

Вы забыліся патлумачыць, як на румынскай мяжы раптам з'явілася 18-я армія генерал-лейтэнанта Сьмірнова. Войска там згодна з Паведамленнем ТАСЗ не было, і генерал-лейтэнант Сьмірноў кіраваў унутранай вайсковай акругай – Харкаўскай.

Больш здзіўляе вось што: піша пра вайну генерал-палкоўнік Д.А.Ваўкагонаў і таксама прапускае дывізіі дзясяткамі, прапускае карпусы і цэлыя арміі. Пры гэтым прапускае тыя ж самыя арміі: артыкул Ваўкагонава ў газеце «Весткі» 16 студзеня 1993 г. – названы 16, 19, 21 і 22-я арміі, а 20, 24 і 28-я прапушчаны.

Зьміцер Антонавіч, як гэта вы тры арміі прымудрыліся страціць? І хто ў каго памылкі перадзіраў: вы ў Махмута Ахметавіча ці ён у вас?

А вось з'яўляецца ў Маскве «незалежны дасьледнік» Габрыэль Гарадзецкі і піша выкрываючую мяне кнігу. Прыгледзімся ж да яго працы. Разважанні вельмі цікавыя, але вось ён даходзіць да лічбаў і паведамляе, што ў Другім стратэгічным… Далей самі здагадаецеся: Гарадзецкі дывізіі прапускае дзясяткамі, прапускае карпусы і арміі. Чатыры арміі назваў, тры прапусьціў (с. 287). І прапусціў менавіта тыя самыя: 20, 24 і 28-ю.

«Незалежны дасьледчык» адзін да аднаго перапісаў у Герэева ці Ваўкагонава.

Дык, можа, і сапраўды не існавала наогул 20, 24 і 28-й армій напачатку вайны ў Другім стратэгічным эшалоне Чырвонага Войска? Як майму чытачу пра гэта даведацца? Магчыма, я тры арміі прыдумаў, а ў Гарэева-Гарадзецкага-Ваўкагонава ўсё правільна?

Ды ў тым і справа, што існавалі такія арміі ў Другім стратэгічным эшалоне, і 20-я там была, і 24-я, і 28-я. Жадаеце пераканацца? Для гэтага патрэбна разгарнуць кнігі тых жа аўтараў! Калі для навочнасьці яны тэкст дапаўняюць мапамі, то на мапах – усё правільна. Здарылася вось што: нехта некалі няправільна палічыў арміі, нехта некалі прапусьціў тры арміі, і пайшлі эксперты паўтараць. А нехта іншы маляваў мапу і намаляваў правільна. І пайшлі тыя ж эксперты правільную мапу капіяваць. Чытаеш нашых сьветачаў гістарычнай навукі і ў кожнага – чатыры арміі ў Другім стратэгічным эшалоне: 16, 19, 21 і 22-я. А калі навуковы муж тэкст суправаджае мапай, так на мапе заўсёды дадаюцца яшчэ 20, 24 і 28-я арміі.

І ў «незалежнага дасьледніка» менавіта так і атрымалася. Згодна з тэкстам на с. 287 – чатыры арміі, а на мапе (с. 296) – сем армій. Патрэбна прызнаць, мапа выканана па-майстэрску. (Кімсьці). І на той мапе 20-я армія – у раёнах Рагачова і Жлобіна. Малайчына, Габрыэль! Слушна паказаў месца размяшчэння 20-ай арміі. Вось і 24-я. У раёне Бранска. Там яна і была. А 28-я – у раёне Вязьмы.

Толькі ў тэксце пра гэта ні слова.

Габрыэль, мы з табой на старонках часопісаў пачынаючы з 1985 года грызёмся. Я для цябе – карміцель. Не будзь мяне, хто б цябе ў Крамлі наменклатурным харчам карміў? Прызнайся, будзь сябрам, чаму ў цябе на мапе ўсё слушна, а ў тэксце – глупства? Пры гэтым дакладна такое ж глупства, як і ў кнігах Анфілава, Мерцалава, Ваўкагонава, Гарэева…

Так у нас і было заведзена: піша Ваўкагонаў кнігу, арміі губляе, а на мапах – усё правільна. Ён ніколі свой тэкст з мапамі не параўноўваў. І Гарэеў таксама. А за імі – і «першаадкрывальнік».

Вось, спадары, наступствы калектыўнай творчасьці. Вось узровень нашай афіцыйнай навуковай думай. І калі мне кажуць, што Ваўкагонаў з Гарэевым карыстаюцца вельмі сакрэтнымі архівамі, а мне да тых архіваў доступу няма, тут я пагаджаюся цалкам. І па-добраму ім зайздрошчу. Будзе час, і мяне Расія ў свае архівы пусьціць. Нікуды нам ад гэтага не дзецца. А пакуль я вымушаны задавальняцца тым, што ляжыць на паверхні. Але існуе і ў мяне перавага перад прафесіяналамі. Я распрацаваў для сябе сістэму і гатовы перад тэлевізійнай камерай, перад мільёнамі гледачоў адказаць на пытанні тыпу: ану, хто быў размешчаны направа ад 3-га стралковага батальёна 142-га стралковага палка 5-й Віцебскай Чырванасьцяжнай імя Чэхаслвацкага пралетарыяту стралковай дывізіі 16-га стралковага корпуса 11-ай арміі?

Крыху падумаўшы, паспрабую адказаць: направа быў размешчаны 3-і стралковы батальён 328-га стралковага палка 48-й імя Калініна стралковай дывізіі 11-га стралковага корпуса 8-ай арміі.

І калі маючыя доступ да сакрэтных архіваў прафесіяналы, прапускаючыя і блытаючыя не толькі дывізіі і карпусы, але і цэлыя арміі, некалі адважацца са мной пазмагацца перад тэлекамерай, то я гатовы: патэлефануйце якому заўгодна выдаўцу маіх кніг, а мільёны тэлегледачоў – у нас будуць секундантамі. Выкрыйце мяне, таварышы прафесіяналы.

На старонцы 161 прафесіянал генерал войска Гарэеў цытуе Маршала Савецкага Звязу Б.М.Шапашнікава: «Мабілізацыя – опіум вайны».

Эх, Махмут Ахметавіч, усё б вам анаша ды гераін!

Вы чыталі кнігу Маршала Савецкага Звязу Шапашнікава «Мозг войска», але чыталі не вельмі ўважліва. Барыс Міхайлавіч Шапашнікаў нічога пра опіум не пісаў. Апошняя частка кнігі «Мозг войска» мае назву «Мабілізацыя – одыум вайны». Ва ўсіх вядомых мне выданнях кнігі Шапашнікава назва главы напісана вялікімі тлустымі літарамі, акрамя таго, ва ўсіх выданнях рэдактары палічылі патрэбным паставіць над мудрагелістым лацінскім тэрмінам лічбачку і тут жа ў нататцы патлумачыць значэнне гэтага слова. Вы, Махмут Ахметавіч, не зразумелі сэнсу кнігі Шапашнікава, не паглыбіліся ў змест, не зразумелі тэрміны і тлумачэнні сэнсу гэтых тэрмінаў прачытаць не знайшлі часу. Гэта даравальна – там дробнымі літаркамі напісана…

Вы блытаеце опіум з мабілізацыяй, ці разумееце вы адрозненне паміж какаінам і стратэгічным разгортваннем?

Не стаў бы сапраўднага сябра акадэміі ганьбіць, але ўжо калі ён і яго суаўтары завялі размову пра прафесіяналізм, то я вымушаны гыркаць. Гэта вам, Махмут Ахметавіч, і вашаму суаўтару Андрэю Мікалаевічу Мерцалаву накшталт контрудару ад мяне. Прыміце на памяць.

Не буду стамляць чытача шматлікімі дзікімі прыкладамі із навуковых прац акадэміка Гарэева, кожны із якіх годны публічнага абсмейвання, спынімся толькі на адным. На старонцы 229 сваёй навуковай працы генерал войска Гарэеў згадвае германскія 35-тонавыя танкі.

У нашай гістарычнай літаратуры вось ужо пяцьдзясят гадоў навуковыя мужы то тут, то там згадваюць 35- і 38-тонавыя германскія танкі.

Зразумела, што 35- і 38-тонавыя танкі адпаведна са сваімі характарыстыкамі перасягалі нашы танкі БТ – падобнае меркаванне нашы вайсковыя эксперты выказвалі на працягу шматлікіх дзесяцігоддзяў. Апошні раз – генерал-палкоўнік Г.Ф.Крывашэеў, які замяніў генерала войска М.Гарэева на пасадзе намесьніка кіраўніка Генеральнага штаба па навуковай працы. Генерал-палкоўнік Крывашэеў паведаміў, што гэтыя танкі былі лепшымі за БТ-7 (ВГЖ. 1991. №4. с. 36).

Сапраўды, простае параўнанне вагі на карысць нямецкіх танкаў: БТ-7 важыў 13,8 тоны, ці мог ён паспяхова ваяваць супраць германскіх 35-тонавых, тым больш – супраць 38-тонавых танкаў?

Нашы гісторыкі і генералы далучылі 35- і 38-тонавыя танкі да разраду сярэдніх. Некаторыя іх лічаць цяжкімі.

Цалкам зразумела, што крамлёўскія эксперты хваляць германскія 35-тонавыя і 38-тонавыя танкі і лічаць, што калі яны і не былі роўнымі адпаведна з характарыстыкай нашым Т-34 і КВ, то ўсе астатнія савецкія танкі відавочна

перавышалі. Такой з’яўляецца афіцыйная кропка погляду. Яна пануе ўжо на працягу пяцідзесяці гадоў. Нават неяк і нязручна параўноўваць.

Зразумела, афіцыйныя гісторыкі гэтыя характарыстыкі і не параўноўваюць. Усё відавочна і без параўнання.

Я таксама не сумняваўся ў тым, што 35-тонавыя і 38-тонавыя танкі лепш за нашых БТ. Да 13 гадоў.

А потым здарылася вось што. Прачытаў, што ў немцаў пад канец вайны з'явіліся супрацьтанкавыя кіруемыя ракеты, напрыклад, «Роткэпхен» – «Чырвоны капялюшык». Здзівіла такая назва – далікатная і пяшчотная. Нейкая невайсковая. Немцы наогул на прыгожыя назвы здатныя. Але чаму некаторым сваім танкам яны не прыдумалі назваў? Што гэта за 35-тонавы танк? Ці 38-тонавы? Хіба няма ў гэтых танкаў індэксаў? Мы ж не гаворым: 150-кілаграмовы генерал. Мы ж не гаворым: 180-кілаграмовы маршал. У шматлікіх генералаў і ў некаторых маршалаў існуе сваё імя, імя па бацьку, а часам – і прозвішча.

Але і ў кожнага ўзору ўзбраення існуе індэкс, а часам і некалькі індэксаў, акрамя таго – назва. А ўжо рамантычныя немцы паважалі сваёй зброі гучныя імёны даваць. Асабліва бранятанкавай тэхніцы: «Собаль», «Насарог», «Леў», «Слон», «Куніца», «Чмель», «Аса», «Шаравая маланка». Я ўжо не кажу пра «Пантэр» і «Тыграў».

Але што такое 35-тонавы танк? Ці 38-тонавы? Вуха рэжа. Нешта тут не так. Пакінуць два тыпы танкаў без індэксаў і назваў? На немцаў гэта не падобна. Ды і мы б так не зрабілі. І ніводнае войска сьвету не мела ніводнага ўзору ўзбраення без індэкса ці назвы.

Вучыўся я тады ў Варонежскай суворaўскай вайсковай вучэльні (пяць гадоў – у Варонежскай, два – у Калінінскай). Пайшоў у бібліятэку. Сабраў усё, што было пра нямецкія танкі, і выявіў, што сапраўды ў Няметчыне існавалі танкі, меўшыя назву 35(t) і 38(t).

Толькі адпаведна з выглядам яны ніяк на 35 ці 38 тон не цягнулі: дохленькія нейкія. Худыя. І незразумела, чаму літара «t» – у дужках? Магчыма, гэта зусім і не тоны?

Вырашыў разабрацца з сістэмай індэксаў германскай бранятанкавай тэхнікі. Разабраўся. Вось у германскім Вермахце танк Т-34(r). Што гэта азначае? Гэта наш родны Т-34 захоплены ў баях і пастаўлены на службу Няметчыне. Толькі яны да нашага індэкса прыпісалі з нейкай нагоды маленькую лацінскую літарку «r».

Ці вось германскія танкі БТ-7(r), КВ-1(r), КВ-2(r), Т-26(r). Усё гэта нашы рускія танкі і ўсім ім немцы, ставячы сабе на службу, прыпісвалі ў дужках малую лацінскую літарку «r». Што гэта літарка ў іх азначала.

Былі ў іх на службе і французскія трафейныя танкі, напрыклад S-35. Гэты танк у германскім войску атрымаў назву S-35(f). І кожны французскі танк на нямецкай службе захоўваў свой індэкс, толькі немцы дадавалі ў дужках літару «f». Наогул яны бралі на службу ўсё, што здолелі здабыць ў баях, і дадавалі да індэксаў амерыканскіх трафейных танкаў літару «a», польскіх «p». І зусім не патрэбна быць вялікім стратэгам, каб заўважыць логіку: да індэкса трафейнага танка дадаецца адна літара, якая азначае краіну-вытворцу. Калі на германскую службу траплялі італьянскія танкі, то да індэкса дадавалася літара «i», галандзкія – літара «h», брытанскія – «e» (english). А літарай «t» пазначаліся чэшскія трафейныя танкі – tschechisch. Так што літара «t» – гэта зусім не тона, а краіна, у якой танкі выраблены.

У Чэхаславакіі танк быў распрацаваны ў 1935 годзе, і яшчэ адзін – у 1938 годзе. Няметчына захапіла Чэхаславакію, а чэшскія танкі былі прыняты на ўзбраенне Вермахта. Танкі атрымалі індэксы 35(t) і 38(t) – што азначала «чэшскі танк 1935 года» і «чэшскі танк 1938 года».

Разбіраюся далей, і высвятляецца: «35-тонавы танк» важыў 10,5 тон, а «38-тонавы» важыў менш «35-тонавага» – 9,5 тон.

Гэтыя танкі – увасабленне тэхнічнай адсталасьці ў самым горшым выглядзе. Бачна гэта няўзброеным вокам: браня на іх не зварная, бранявыя лісты злучаны заклёпкамі. Гэта той жа дапатопны ўзровень, што і ў Амерыцы.

Параўноўваць «35-тонавыя» і «38-тонавыя» танкі з нашымі БТ проста немагчыма.

Але параўнаем, раз ужо генерал-палкоўнік Крывашэеў абвясьціў на ўвесь сьвет, што мы да вайны былі цалкам не прыгатаваны, а разумныя немцы былі прыгатаваны, што чэшскія танкі на ўзбраенні Вермахта перавышалі нашы. Паведамляю генерал-палкоўніку Крывашэеву і яго прамым начальнікам – кіраўніку Генеральнага штаба і Міністру абароны, паведамляю прафесійным гісторыкам із «Вайскова-гістарычнага часопіса», якія публікуюць творы генерала войска Гарэева і генерал-палкоўніка Крывашэева, што «35-тонавыя» танкі мелі бензінавыя рухавікі магутнасьцю 120, а «38-тонавыя» – 140 конскіх магутнасьцей. Рэкамендую Генеральнаму штабу параўнаць гэта з нашымі дызелямі Ў-2 магутнасцю 500 к.м., якія стаялі на БТ-7М. Нават нашы самыя горшыя, самыя старыя БТ-2 мелі 400 к.м.

«35-тонавыя» танкі мелі хуткасць 35 км/гадз. (Encyclopedia of Germa№Tanks of World War Two. London: «Arms and Armor Press», 1978. P. 41-47). А наш БТ-7М нават афіцыйна меў 86 км/гадз., на самай справе – больш.

«35-тонавы» танк меў запас ходу 190 км, а БТ-7М – 900 (І.П.Шмялёў. Танкі БТ. с. 24). Чэшскія танкі былі ўзброены 37-мм гарматамі, а БТ – 45-мм, некаторыя (БТ-7А) мелі 76-мм гармату.

БТ перавышалі чэшскія танкі па якасьці брані, мелі рацыянальную кампаноўку, непараўнальна лепшую форму корпуса і, зразумела, бранявыя лісты на танках БТ зварвалі, а не кляпалі.

«35-тонавыя» і «38-тонавыя» танкі былі такімі слабымі, што зімой за ноч прымярзалі да зямлі і самі ад яе адарвацца не былі ў стане. Таму кожная фатаграфія гэтых танкаў зімой: танк стаіць на бярвёнах ці на дошках. А то ж прымерзне. Як яго потым ад зямлі аддзіраць?

Праз адсутнасць лепшага, германскае войска было вымушана выкарыстоўваць нават такія танкі. Пад час вайны ў Францыі, калі не было супраціву, гэтыя танкі паказалі сябе нядрэнна. Якасць брытанскіх і французскіх танкаў таго часу вядома. Супраць іх з поспехам можна было ўжываць усё, што заўгодна. Нават «35-тонавыя» танкі. А ў Расіі з такімі танкамі рабіць было няма чаго. І іх на прыканцы 1941 года ўсе спісалі. І падарылі хаўруснікам.

Але і там ад іх толку было мала. Усе ўспаміны пра гэтыя танкі – мацерныя. Іх надзвычайная капрызнасць увайшла ў анекдоты і жарты.

А вось працы самага галоўнага эксперта па пачатковаму перыяду вайны акадэміка, доктара і інш. і інш. В.А.Анфілава. Ён напісаў шмат кніг, але ва ўсіх паўтараў адно і тое ж. Разгортваем, напрыклад, на ст. 72 у кнізе «Правал „Бліцкрыгу“. Анфілаў піша: „Із войска былі забраны… усе 35-тонавыя танкі, мінімальная вага танка – Т-III стала раўнай 38 тонам“.

Тут пераблытана ўсё. Анфілаў блытае нямецкія танкі з трафейнымі чэшскімі, ён не мае ніякага разумення пра характарыстыкі як германскіх, так і чэшскіх танкаў. Нямецкія танкі T-IIIJ, вырабніцства якіх пачалося ў сакавіку 1941 года, важылі 21,5 тоны (Encyclopedia of Germa№Tanks of World War Two. P. 58-67). Усе папярэднія мадыфікацыі важылі менш.

Анфілаў пераблытаў нямецкі танк T-III з чэшскім «38-тонавым», які, як мы зараз ведаем, важыў 9,5 тоны.

Кожнае згадванне ў нашай прэсе пра «35-тонавыя» і «38-тонавыя» танкі – наша нацыянальная ганьба. Як гэта яшчэ назваць? Другая сусьветная вайна ў Савецкам Звязе вывучалася вельмі дзіўна. Згуртаванні акадэмікаў рабілі выгляд, што вывучаюць вайну. Вынік відавочны. Няметчынскі бліцкрыг – гэта танкавая вайна. Каб зразумець 1941 год, патрэбна пачынаць з вывучэння германскіх танкаў. Летам 1941 года на ўзбраенні Вермахта існавала чатыры тыпы германскіх танкаў ад T-I да T-IV, а таксама замежныя трафейныя танкі, сярод якіх і чэшскія, так званыя «35-тонавыя» і «38-тонавыя» танкі. Але галоўны эксперт па бліцкрыгу, пішучы кнігу і ў назву выносячы гэтае слова, не мае пра прадмет дасьледавання ніякага разумення.

Вывучэнне бліцкрыгу – галоўная праца Анфілава. Гэтаму Анфілаў прысьвяціў жыццё. Пад Масквой, у Кубінцы, знаходзіцца самы вялікі танкавы музей сьвету. Добры Бавінгтон ў Брытаніі, але з Кубінкай не параўнаецца. У Кубінцы сабраны шыкоўныя калекцыі бранятанкавай тэхнікі. Для каго? Для чаго? Пэўна што, для тых, хто гэтыя самыя танкі прафесійна вывучае. Для тых, хто кнігі піша пра танкавы бліцкрыг. Для таварыша Анфілава. Для народа ўсё гэта было зачынена. Народ туды не пускалі, таму як для экспертаў зарэзервавана. Дык няўжо галоўны эксперт па гэтых самых танках не знайшоў у сваім жыцці аднаго дня для таго, каб наведаць гэты самы вялікі, адмыслова для яго створаны музей?

І зусім няма патрэбы аглядаць усё: толькі чатыры нямецкія танкі і два чэшскія. Толькі і справы – пераканацца, што былі чатыры нямецкія тыпы, а акрамя таго – трафейныя; што пабудаваныя ў Няметчыне танкі адрозніваліся ад трафейных; што трафейныя на 35, тым больш – на 38 тон нават на выгляд не цягнуць.

А потым музей у Кубінцы адчынілі для ўсіх. Вось бы зматацца на дзянёк. Калі службовага часу на гэта не выдаткавалі, дык хаця б туды ў якасьці цікавячагася аматара схадзіць. На адну гадзінку. Ды дзесяці хвілін бы хапіла: усё жыццё пісаў пра бліцкрыг і нямецкія танкі – дай жа пацікаўлюся, што ж гэта такое.

Але не. Не цікава гэта Анфілаву. Усё жыццё малоў абы што, як Ленін з браневіка, г.зн. із «38-тонавага» танка, і ніколі не пацікавіўся, што ж гэта за пастамент у яго пад нагамі.

І намеснік кіраўніка Генеральнага штаба па навуковай працы (адзін і другі і іхныя папярэднікі) разумення не мае пра тое, што за танкі былі на ўзбраенні ў Няметчыны.

Менавіта за дасьледаванне пытанняў пачатковага перыяду вайны генерал войска Гарэеў падняўся так высока. Менавіта пачатковы перыяд вайны – яго канёк, вобласць яго асаблівай зацікаўленасьці.

Пытанне: а як жа ён прымудрыўся скончыць дзьве вайсковыя акадэміі, ды яшчэ і з залатымі медалямі? Што гэта: стандартны ўзровень выпускнікоў Вайсковай акадэміі імя Фрунзе і Вайсковай акадэміі Генеральнага штаба? Ці,

магчыма, генерал войска Махмут Гарэеў проста купіў дыпломы, медалі, навуковыя ступені і званні, ваярскія званні і высокія пасады?

Гарэеў нестамляючыся паўтарае, што нашы танкі былі лёгкімі і састарэлымі. Але генерал не знайшоў часу для таго каб параўнаць нашы «лёгкія і састарэлыя» з танкамі Няметчыны.

Дзіўнае – побач: сам генерал войска Гарэеў у сваёй працы паведамляе пра тое, што ў Няметчыне выліта менш бруду на Гітлера і яго войска, чым у нашай краіне на наша войска. Генерал войска Гарэеў згадвае пра гэта з фальшывым абурэннем, згадвае так, нібы сам ён чысты, нібы ён сам бруд на сваю краіну і войска не выліваў. Існуюць, маўляў, нейкія цёмныя магутнасьці, якія нашу гісторыю брудам пэцкаюць. Махмут Ахметавіч, а хіба не вы асабіста гэтыя самыя магутнасьці ўзначальваеце? Ці не вы іх накіроўваеце?

І не вельмі зразумелай выглядае пазіцыя некаторых маіх крытыкаў. Я выступіў з кнігай, сутнасць якой у тым, што мы не дурней за іншых. На маю кнігу абрынуўся каменяпад крытыкі. А нашы афіцыйныя гісторыкі, на чале якіх быў і Махмут Гарэеў, усхваляюць гітлераўскае войска, якое нібы-та мела на ўзбраенні 35-тонавыя і 38-тонавыя танкі, і супраць гэтага ніхто не пратэстуе.

Таварышы дарагія, на чый млын ваду льеце?

І вось выступае палкоўнік Мярцалаў Андрэй Мікалаевіч, доктар гістарычных навук, прафесар, аўтар шматлікіх… і інш. і інш.

Андрэй Мікалаевіч абвінавачвае мяне ў тым, што я не з'яўляюся носьбітам высокіх званняў і гучных тытулаў. Сябе ён прыводзіць у прыклад: доктар гістарычных навук, прафесар, і дачка – доктар гістарычных навук і таксама прафесар, а піша прафесар Мярцалаў у суаўтарстве з самім Махмутам Гарэевым…

Андрэй Мікалаевіч, вам пытанне: а чаму вы не пратэставалі, калі ваш суаўтар М.Гарэеў пісаў пра 35-тонавыя танкі? Вы баяліся ці… таксама ніколі вайсковай гісторыяй не цікавіліся? Чаму вы маўчалі, калі прафесар Гарэеў вайсковыя тэрміны блытаў? Не было пажадана нападаць публічна, але можна было б па-сяброўску падказаць: Махмут Ахметавіч, тут нешта не зусім так…

Даравальна камусьці чагосьці не ведаць. Але ці даравальна доктару матэматычных навук не ведаць табліцы памнажэння? Ці даравальна вам, Андрэй Мікалаевіч, прафесару і доктару гістарычных навук, эксперту ў вобласьці пачатковага перыяду вайны, не ведаць, што за танкі былі ў немцаў пад час гэтага самага пачатковага перыяда? Вы выхваляецеся доступам да архіваў, але навошта вам архівы, калі вы не навучыліся працаваць нават з адкрытай літаратурай? Калі вы не знайшлі час у танкавы музей за ўсё сваё жыццё зазірнуць?

Савецкі Звяз рыхтаваў больш за ўсіх у сьвеце інжынераў, лекараў, настаўнікаў. І вось аднойчы ва Узбекістане быў праведзены раптоўны экзамен сярод студэнтаў-эканамістаў выпускнога курса. Было пастаўлена адно, але вельмі складанае заданне: ад двух трэцціх адняць адну другую. Зразумела, заданне цяжкае, але пагадзімся: эканамісту ў яго працы патрэбна валодаць не толькі марксісцка-ленінскай метадалогіяй. Разумеючы, што заданне ўяўляе складанасць, экзаменатары час на рашэнне не абмяжоўвалі: камусьці запатрабуецца ўсяго адна гадзіна, а камусьці і цэлы дзень – тут не пытанне часу, галоўнае – рашылі б. Хаця б праз дзень, хаця б праз два. Правільны адказ далі 23% апытаных. Можна б і парадавацца такому выніку. Бяда ў тым, што астатнія правільнага адказу не далі.

Што ж рабіць з такімі эканамістамі? Адказ просты: выпусьціць, выдаць дыпломы, каму – з залатым медалём, каму без яго. А ці было іншае рашэнне? Раней

такіх жа выпускалі. І пазьней. Чым жа гэтыя горш? Толькі тым, што іх зараз праверылі. А папярэднічаўшых не правяралі. І дыпломы выдалі. І пайшлі эканамісты ў вялікі сьвет з пуцёўкай у жыццё. І калі з нашай эканомікай не ўсё добра, дык за гэта патрэбна дзякаваць тых самых эканамістаў…

Не правожу паралеляў, але, Андрэй Мікалаевіч Мярцалаў, ці не здаецца вам, што спецыяліст па пачатковаму перыяду вайны, які ніколі сам не палічыў дывізій і карпусоў, які губляе цэлыя арміі, які не мае разумення пра тое; што за танкі былі на ўзбраенні змагаючыхся бакоў, падобны на эканаміста, не засвоіўшага элементарную арыфметыку. Наша афіцыйная гістарычная навука знаходзіцца ў тым жа становішчы, што і эканоміка. Гісторыкам перасталі верыць. За семдзесят гадоў зацятай працы мы дайшлі да таго, што няма падручніка гісторыі для звычайнай школы, якому можна было б верыць хаця б на адну чвэрць. Ці не ваша персанальная ў тым заслуга? Ці не вы ў суаўтарстве з Гарэевымі, Анфілавымі, Ваўкагонавымі і Крывашэевымі давялі навуку да стану поўнага ідыятызму? Вы – прафесійны гісторык, але ці варта гэтым ганарыцца на фоне дасягненняў нашай гістарычнай навукі? Вам здаецца вартым падазрэння ўзровень маіх ведаў у вайсковай гісторыі. Андрэй Мікалаевіч, я ведаю вельмі мала. Вам здаецца, што я ведаю шмат, але гэта толькі на фоне ведаў кіраўніка Генеральнага штаба і яго намесніка па навуковай працы. Здзіўляцца даводзіцца іхнаму ўзроўню. Яго варта лічыць падазроным.

І калі вы лічыце, што аматары ні на што не здольны, то я вам паспрабую давесьці адваротнае. У 1993 годзе ў Маскве выдавецтва «Хобі кніга» (адна назва чаго вартая!) выпусьціла пышную кнігу Ігара Паўлавіча Шмялёва пра савецкія танкі серыі БТ. У кнізе шмат новага і цікавага, напрыклад, упершыню паведамляюцца лічбы пра вытворчасць танкаў БТ, чаго ў «Вайскова-гістарычным часопісе» не знойдзеш. Аўтар правёў параўнальны аналіз танкаў БТ з іншымі замежнымі танкамі, у прыватнасьці, з танкамі 35(t) і 38(t) – чэшскімі танкамі, быўшымі на ўзбраенні Вермахта. Аўтар тэксту правільна назваў танкі, дакладна апісаў і сумленна параўнаў тэхнічныя характарыстыкі. Аўтар тэксту не генерал, не прафесар, не доктар навук. У яго перад вамі толькі адна перавага: ён прадметам свайго даследавання цікавіўся.

Вось бы каму навуковыя званні і ступені прысвойваць.

# Глава XXIV

## Сведка знойдзены!

«Ура! Кастрычнік ужо наступіў».
А.С.Пушкін (у выкладанні прафесара Г.Гарадзецкага. «Міф „Ледакола“. с. 25).

Савецкі Звяз быў прыгатаваны да вайны, як ніхто іншы.

Камуністам гэтую прыгатаванасць да вайны патрэбна замазаць брудам, каб ніхто яе не заўважыў. І яны працуюць.

Пэцкаюць.

Із-за кардона выпісалі «навуковага прафесара» Г.Гарадзецкага, і ён напісаў кнігу «Міф „Ледакола“. На першы пагляд кніга – супраць мяне аднаго, а на другі – не толькі супраць аднаго…

Прыемна, калі пра мяне кнігі пішуць. Шкада, што зразумець яе цяжка. Спрабаваў некалькі разоў, не атрымалася. Не цікава. І тады пачаў чытаць кнігу

наадварот, не пачынаючы з першай старонкі, а пачынаючы з апошняй. І адразу стала цікава.

Такім чынам, апошняя фраза апошняй часткі – урачысты фінал пра ўсіх нас, пра жыхароў былога Звязу і яго лідараў: «Усе былі ўпэўнены, што брытанскі флот на ўсіх парах ідзе па Балтыйскаму мору, каб супольна з Гітлерам напасьці на Ленінград і Кранштат» (с. 338).

Кніга Гарадзецкага – калі ахапіць яе адным паглядам – пра нашу агульнанародную баязлівасць. Баязлівасць, калі верыць Гарадзецкаму, – асноўная рыса нашага нацыянальнага характару. Гэтым ён кнігу пачынае, гэтым і завяршае. Пасьля занімаючага дзьве часткі ўступлення Гарадзецкі пачынае з галоўнага: «РАСІЯ Ў АБЛОЗЕ». Гэта пачатак трэццяй главы. Гарадзецкі паведамляе чуллівую гісторыю пра тое, што нас бедных, пачынаючы з 20-х гадоў атачылі ворагі з усіх бакоў і ўсе на нас толькі і жадалі напасьці – ад Фінляндыі і Эстоніі да Афганістана і Ірана. І ўся савецкая краіна вельмі гэтага баялася. Тэма баязні праходзіць праз усю кнігу. Самым запужаным быў, зразумела, Сталін: «Сталін загіпнатызаваны нямецкай вайсковай магутнасьцю…» (с. 345). І ўсе савецкія людзі былі запалоханы да такой ступені, што страцілі здольнасць разважаць і верылі, што брытанскі флот аб'яднаўся з германскім і «на ўсіх парах» прэ па Балтыцы, каб шмальнуць па Ленінграду… У Савецкім Звязе пра набліжэнне аб’яднанага флота Чэрчыля-Гітлера, калі верыць Гарадзецкаму, усе ведалі і чакалі ўдару з хвіліны на хвіліну. Тут жа Гарадзецкі апісвае і беднага Сталіна, які, з аднаго боку, напалоханы да сьмерці і «загіпнатызаваны магутнасьцю», а з другога – не загіпнатызаваны, нічога не баіцца, адмаўляецца верыць у магчымасць германскага нападу і пасылае да ўжо вядомай маці аўтара агентурнага паведамлення пра прыгатаванасць Няметчыны да нанясення ўдару (с. 323). І на фоне гэтага ўсеагульнага савецкага жаху і разгубленасьці дзейнічае самы мудры брытанскі амбасадар Крыпс, які спрабуе патлумачыць Сталіну, Молатаву і Вышынскаму самыя простыя рэчы, але разумення не знаходзіць…

Зараз згадаем факты.

Брытанія абвясьціла вайну Няметчыне 3 верасня 1939 года. Пачынаючы з гэтага моманту да ліпеня 1941 года германскія падводныя лодкі затапілі 2038 брытанскіх гандлёвых караблёў (гл. главу IX), паставіўшы Брытанію на мяжу паразы.

Вайна паміж Брытаніяй і Няметчынай была зусім не такой дзіўнай, як яе нам апісвалі камуністы. Ёсць пра што згадаць і брытанскаму народу, і нямецкаму, ды і нам не грэх: у кастрычніку 1939 года германская падвадная лодка «У-47» прабралася ў бухту галоўнай базы брытанскага флота Скапа Флоу, затапіла брытанскі лінкор «Роял Оўк» і непрыкметна прабралася ў адкрыты акіян. У снежні брытанскія крэйсеры ў Паўднёвай Атлантыцы падчас працяглага бою пашкодзілі і загналі ў нейтральны порт германскі «кішэнны лінкор» «Граф Шпее», дзе той быў затоплены экіпажам.

Пасьля разгрому брытанскага і французскага войска на кантыненце ў траўні 1940 года, Чэрчыль 4 чэрвеня выказвае сваю самую знакамітую прамову: «Мы ніколі не здадзімся». 30 чэрвеня германскае войска захапіла Нармандзкія выспы. На працягу тысячагадовай гісторыі Брытаніі гэта быў першы выпадак, калі супернік захапіў частку брытанскай тэрыторыі. Нямецкія падводныя лодкі пачалі самы сапраўдны тэрор супраць практычна безабароннага брытанскага гандлёвага флоту, а германская авіяцыя пачала паветранае наступленне, якое стала вядома як

